*Бібліятэка Грамадскага Трыбунала*

# ЭВАКУАЦЫЯ АПАЗІЦЫІ

*Апошні год дзейнасці Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га скліканне ў друку і ўспамінах дэпутатаў*

*Укладанне і агульная рэдакцыя кандыдата гістарычных навук*
***Яўгена Анішчанкі***

*Выданне трэццяе, дапрацаванае*

Мінск
Выдавецтва "Воля"
2014

УДК 323.28
ББК 63(4Беи)
Э11

Э11 **Эвакуацыя апазіцыі**: апошні год дзейн. Вярх. Савета Беларусі 12 склік. ў друку і ўспам. дэпутатаў: выд. 3-е, перапрац. / Укл. і агульн. рэд. Я. Анішчанкі.–Мінск: Воля, 2014.– 270 с.

Зборнік змяшчае споведзь дэпутатаў з апазіцыі Беларускага Народнага Фронту на чале з З. Пазняком у Вярхоўным Савеце 12-га склікання, якія высвятляюць скон дэмакратычнага Адраджэння і адначасовага звароту паліцэйскага сацыялізма на Беларусь разам з прыходам да самадзяржаўнай ўлады прэзідэнта А. Лукашэнкі.

Упершыню надрукавана: Эвакуацыя апазіцыі. Апошні год дзейнасці Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання ў друку і ўспамінах дэпутатаў. Уклад. і агул. рэд. Я. Анішчанкі. Мн., Воля, 2008. 410 с.

Вытрымкі надрукаваны: Народная Воля, 11.04.2008; Arche, 2006, № 9(49). С. 82-136 і на электронным рэсурсе: www.nmnby.eu/content/books.

# Змест

*Я самый большой в мире демократ, потому что я требую неукоснительного исполнения законов*

*А. Пiначэт*

*Я не диктатор, но порядок в стране наведу*

*А. Лукашэнка*

## Уводзіны

Падзеі, пра якія гаворацца ніжэй, адбыліся на хвалі знакамітай перабудовы, калі распаўся СССР і на месцы былых савецкіх рэспублік утварыліся суверэнныя дзяржавы.

Свой суверэнітэт Беларусь у 1991 г. набыла з рук Вярхоўнага Савета 12-га склікання, які ў большасці прадстаўлялі пракамуністычна настроеныя дэпутаты і сярод якіх адразу узнікла апазіцыя Беларускага народнага фронту на чале з прынцыповым антыкамуністам Зянонам Пазняком.

Аднак за хутка паваленымі кумірамі і атрыбутамі камандна-адміністрацыйнай сістэмы адкрылася павальная галеча, пустыя прылаўкі і галапіруючая інфляцыя. Большасць насельніцтва расчаравалася ва ўладах, а Вярхоўны Савет з гэтага не меў устойлівай папулярнасці сярод беларусаў. Гэта штурхала яго апазіцыю да радыкальных прапаноў аб перавыбарах ВС, а пракамуністычную большасць у заканадаўча-выканаўчай уладзе - да рэваншу, да звароту назад у камфортнае мінулае з дапамогай цвёрдай самаўладнай рукі.

Справіцца з пераходнымі цяжкасцямі эканомікі ВС даверыў створанаму ім жа самім у 1994 г. інстытуту прэзідэнтства. Аднак новаабраны прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ў пачатку 1995 г. запатрабаваў сабе неабдымных і самадзяржаўных паўнамоцтваў. Ён заявіў адкрыта, што прызваны народам пакласці канец разгулу

нацыяналістычных, эсктрэмісцкіх і мафіёзных элементаў, бо народ стаміўся ад бяздзейнасці ўлады, ад бясконцага спадзявання ў яе. 1 студзеня 1995 г. А. Лукашэнка запатрабаваў дзеючы Вярхоўны Савет зрабіць яго адзіным гарантам замацаваных у Канстытуцыі і міжнародных абавязацельствах дзяржавы правоў і свабод грамадзян Беларусі. А. Лукашэнка публічна заявіў, што мінулі часы, калі ўсе дзяржаўныя органы былі падкантрольныя ці падсправаздачныя Саветам народных дэпутатаў. Натуральна з гэтага вынікала і тое, што ўсеўладдзе ВС скончылася пасля таго, як гэты ж парламент увёў інстытут прэзідэнтства на Беларусі.

У прэзідэнцкім акружэнні паставілі мэты: - выдаліць з палітычнай сцэны існуючы парламент разам з уплывам БНФ, зрабіць сілавыя міністэрствы паслухмянымі інструментамі прэзідэнтскай волі і паралізаваць любое праяўленне грамадскай апазіцыі шляхам манапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі. У прэзідэнцкіх колах вырашылі распусціць ВС і ўвесці прамое прэзідэнтскае праўленне да пачатку работы парламента новага склікання, паколькі дзеючы ВС разглядаўся небяспечнай трыбунай галоснасці і публічным апірышчам супраць аўтарытарызму і канцэнтрацыі ўлады у адных руках.

15 сакавіка 1995 г. А. Лукашэнка падаў у тэлеэфіры сваю ідэю рэферэндуму па мовах, саюзу з Расіяй, нацыянальна-дзяржаўных сімвалах і адначасова прапанаваў ВС самараспусціцца. Ён даў дэпутатам 3 дні "без всяких там словопрений, словоблудий" добраахвотна скласці свае паўнамоцтвы і прыгожа разыйсціся, бо яны - "фактически ничего не делают и зря получают зарплату", а ВС увесь цалкам дык проста стаў тормазам пры пабудове "правільнай палітыкі" з Расіяй. У выпадку непакорнасці ён прыгразіў навесці такі парадак, якія прасіў не разглядаць як зварот "к бесправию тоталитарной эпохи". "Трэба дзейнічаць, адкінуць усе эмоцыі і сентыменты наконт дыктатуры" - крыху пазней дадасць ён. Прэзідэнт без хістанняў зваў да такога парадку, дзе тэлекампанія і Дом друку з'яўляюцца толькі "спецыфічным органам дзяржаўнага upраўлення". Ён марыў па прыкладу амерыканскага прэзідэнта Тэадора Рузвельта трымаць "в кулаке идеологию, не позволяя критиковать свой курс". Калі ж апазіцыя ў ВС супрацівілася падобнаму ціску і абвясціла 11 красавіка 1995 г. галадоўку у знак пратэсту, то А. Лукашэнка скажа, што ён патрабаваў усяго толькі эвакуіраваць пратэстантаў са свайго ўласнага дома і ўвогуле ён мае права патрабаваць парадку у сваёй рэзідэнцыі, паколькі гэта "рэжымная дзяржаўная установа".

На такім шляху сканаў ВС 12-га скліканння, які дэманстраваў адзінадушша і калі ўхваляў Дэкларацыю аб суверэнітэце Беларусі, і калі аздобіў яго новымі нацыянальнымі сімваламі, і калі сам забіваў цвік у труну СССР, і калі сам жа забараняў КПСС, і калі сам жа пераўтварыўся ў адначассе з ваяўнічых атэістаў і цвёрдакаменных ленінцаў у раўнівых прыхаджан і які сам жа узвёў на сапраўдны царскі пасад свайго хаўтуршчыка. Апазіцыя аказалася ў ім "запалам у іржавай гранаце", а сам парламент у фінале свайго існавання апынуўся самазгубцам пры выразнай абыякавасці да сваіх адчайных і адважных калег з апазіцыі.

Такое магло здарыцца толькі ў межах адной таталітарнай сістэмы, выключна ва ўнутранай барацьбе за неабмежаваную або абсалютную уладу паміж носьбітамі дырэктыўнай (камандна-адміністрацыйнай) сістэмы савецкага тыпу і яе дакрэтавай мадэлі ў выглядзе прэзідэнцкай вертыкалі. Такое магло здарыцца толькі з-за адсутнасці антыподу таталітарызму з боку грамадзянскай супольнасці на Беларусі, раздаўленай і вытраўленай папярэдне камуністычным рэжымам. Таму нядзіўны наступны ўстойлівы поспех новаабранага прэзідэнта ў яго барацьбе з ВС за поўную уладу, у лёгкасці выкаранення ўсякага пратэста і іншадумства на фоне абыякавасці і маўклівасці выбаршчыкаў. Яны вярнуліся ні то да казарменнага камунізма, ні то да паліцэйскага сацыялізма, да таго, ад чаго толькі-што з вялікім энтузіазмам і спадзяваннямі вызваляліся.

Усё пачалося з неўміручага жадання навесці парадак у абстаноўцы так званага хаоса і анархіі. Усе размовы аб рэформах і пераходзе ад кіравання коснымі чыноўнікамі да самакіравання і рэгулявання бесстаронні рынкам звяліся да банальнай змены асоб і рэцэптаў унутры адной мадэлі і аднаго сцэнарыя - стварыць чарговы ідэальны механізм паліцэйскага апякунства над "тварями дрожащими" у межах упадабанай казарменнай сістэмы, дзе без мудрага начальніцкага клопату хлеб не родзіцца і песня не спяваецца. Усё звялося да збітай мадэлі беспярэчнага паслушэнства суроваму дабрадзею і справядліваму бацьку, які перамагае прыроду, ворагаў унутраных і басурманаў знешніх, які дае неразумным халопам столькі галоснасці і для таго толькі, каб яны маглі скардзіцца на бюракратаў, якім дазваляецца сузіраць дэманстратыўныя поркі супастатаў для пацехі і захопленых крыкаў усенароднага адабрэння расправамі над тымі, хто перашкаджае правільна жыць.

Вось пра гэты пераходны працэс у найноўшай палітычнай гісторыі Беларусі і вёў я гаворку з дэпутатамі былога ВС 12-склікання.

Мае субяседнікі, акрамя старшыні ВС М. Грыба і міністра А. Саснова, якраз паходзяць з асяродку сяброў БНФ, на якіх іх праціўнікі даўно начапілі кляймо "экстрэмістаў, нацыяналістаў, фашыстаў, раскольнікаў, дэструктыўных сіл" і г. д. Пад такімі ж ярлыкамі вядзецца супраць тых жа небяспечных "адмарозкаў і адшчапенцаў" абарона і ўтрыманне цяперашняй улады. Таму аказалася важным зазірнуць у пачатак сучасных працэсаў вачыма ўдзельнікаў, а насамрэч актывістаў, творцаў і завадатаяў многіх устойлівых сучасных палітычных феноменаў і стэрэатыпаў. Для больш выразнага разумення падзей успамінам папярэднічае храналагічны агляд апошняга года дзейнасці ВС, складзены рэдактарам на падставе тагачаснага друку.

Маімі суразмоўцамі аказаліся не ўсе 26 чалавек сяброў фракцыі ці апазіцыі БНФ у ВС 12-склікання. Усе яны маглі шчыра адказваць на пытанні, якія я так жа старанна занатоўваў у выглядзе іх успамінаў і на той мове, на якой яны жадалі. Аднак па розных прычынах некаторыя адмовіліся ад удзелу у калектыўнай споведзі. Іншыя абмежаваліся, як відаць з тэкстаў, занадта сціплымі сведчаннямі, хаця ад іх патрабаваліся падрабязнасці падзей. Сведчанні нябошчыка Ігара Герменчука друкуюцца без выняткаў з бюлетэняў ВС. З вялікім сумам я запісваў абрыўкі памяці Барыса Гюнтэра, жыццё якога падрэзалі розныя абставіны. На вялікі жаль мне не ўдалося прывесці да нейкай сістэмы некалькі размоў з нечакана сканаўшым І. Бролішсам пра яго расследванне падзей 1995 г. Аднак ён некалькі разоў казаў мне цвёрда, што адразу пасля змены "сучаснага ўладыкі ўсё імгненна стане вядома", усе факты будуць абнародваны, а злачынцы абавязкова будуць і павінны быць пакараны.

Таму, зразумела, цяжка назваць прыводзімыя тэксты сапраўднымі мемуарамі. Гэта толькі штрыхі да каляровай мазаікі, якая напішацца высілкамі многіх. Дарэчы, адной з першых "жемжучин правды" пра ВС 12-га склікання стала з'яўленне ў 1998 г. публіцыстыкі Р. Ігнацішчава-старшыні адной камісіі гэтага ВС. Ён называе дэпутатаў ВС гордасцю беларускага народа і прафесіяналамі экстракласа, якім некалькі дзесяткаў дэструктыўных дэпутатаў перашкодзілі канструктыўна супрацоўнічаць з прэзідэнтам. Наіўны чытач мусіць і сапраўды думаць пра неверагодную моц гэтых дзесяткаў, якія, аказваецца, захапілі прэзідыум, "заполитизировали весь ВС и внедрили в его работу торжество партийно-фракционного диктата". Глядзіж ты, якія даверлівымі і нявопытнымі аказалася большасць "прафесіяналаў высокага класа", калі імі здолелі маніпуляваць некалькі дзесяткаў Дэмасфенаў, якія, аж страшна

падумаць, да ўсяго пераўтварылі ВС у "место экзекуции правительства и президента". В гэтых сентэнцыях аўтара праўда ў тым, што большасць выбірался ў ВС не для прафесійнай парламенцкай працы, а па традыцыі савецкай партыйна -гаспадарчай наменклатуры для закуліснага лаббіравання карпаратыўных інтарэсаў, якая сядзела ва ўсіх камісіях і прэзідыумах, але толкам нідзе не спраўлялася, якая збіралася на сесіі паміж пасяўнымі і ўборачнымі кампаніямі і таму разумела сутнасць законапраектаў па абрыўках ці па дырыжорскім узмахам павадыроў.

Вельмі хочацца, каб асабліва незадаволеныя дапоўнілі прыводзімыя сведчанні больш шчырымі і праўдзівымі ведамі, а не арудавалі для пераканання кісценем з-за вугла і бруднымі памыямі з адзінага прапагандыскага млына.

Першае выданне выпушчана ў 2008 г. самвыдатам. У дадзеным перавыданні зроблены наступныя змены. З першага выдання выкінуты нарыс М. Пліска пра гісторыка-прававы статус ВС у 1990-1995 гг. і ўспаміны А. Трусава (згодна з воляй апошняга). Нанава ўстаўлены споведзі Б. Гюнтара, Л. Дзейкі, А. Саснова, З. Пазняка, а таксама выступы ў ВС А. Лукашэнкі і М. Цесаўца. Таксама рэдактар і складальнік уставіў у заключэнні агляду дзейнасці ВС прававую ацэнку паводзін адказных дзяржаўных асоб і структур адносна факту збіцця апазіцыйных дэпутатаў у ноч з 11 на 12 красавіка 1995 г. Спробы перавыдаць падрыхтаваную ў такім выглядзе працу прадпрымаліся мной ў 2010 г. Аднак шмат асоб бралі самвыдацкія экземпляры для прэзентацыі і хутка забываліся пра свае абяцанні. Такім чынам, чытач глядзіць працу, завершаную ў 2010 г. і можа бачыць, наколькі час збанкруціў ці наадварот падцвердзіў аўтарскія ацэнкі і вывады.

*Анішчанка Яўген*

# Анішчанка Яўген

Пыл ля мікрафонаў

Храналогія апошняга года дзейнасці Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання. 1995 год

ВС 12 склікання быў выбраны ў два туры- паміж 4 сакавіка і 5 мая 1990 г. у складзе 279 дэпутатаў, а з улікам дадатковых давыбараў ён меў 347 дэпутатаў з неабходных 360 чал.. Першае яго пасяджэнне адбылося 14 мая 1990 г., а праз два дні былі падцверджаны паўнамоцтвы яго дэпутатаў. Па Канстытуцыі 1994 г. (арт. 91) гэтыя паўнамоцтвы дзейнічалі да першага пасяджэння ВС новага склікання. Выбары новага ВС 13-га склікання былі назначаны 23 снежня 1994 г. на 14 мая 1995 г.

Большасць ВС 12 склікання склалі прадстаўнікі камуністычнагаспадарчай наменклатуры, якім выпала роля павадыра беларусаў з тыповай краіны Саветаў у няясны для іх новы стан. Камуністы адракліся ад старога міра з прывычным для іх лозунгам "Отряхнем его прах с наших ног" пад акампанемент эканамічнага развалу ў выглядзе згортвання вытворчасці на большасці прамысловых прадпрыемстваў, роста неплацяжоў, галапіруючай інфляцыі, пастаянных страйкаў працоўных.

Большасць беларусаў, якіх раптоўна кінулі ў калаўрот непрадказальных і разбуральных змен, прагнулі вярнуцца ва ўпадабаны савецкі лад. Тагачасныя газеты падагравалі папулісцкія настроі і друкавалі лісты зняверaных і адчайных працоўных са словамі: "нам обещали 5 лет назад золотые горы, а подарили разруху и нищету. Под занавес 94 года (депутаты ВС) приняли закон о своем благополучии на долгие годы вперед. Это в то время, когда народ нищает, донашивает, доедает, доживает".

Згодна з сацыялагічнымі апытаннямі розных службаў, у студзені 1995 г. большасць беларусаў была расчаравана ўладамі: 24.4 % давярала новаабранаму прэзідэнту А. Лукашэнку і толькі 7, 1

%- ВС. У сакавіку 1995 г. гэтыя суадносіны мала памяняліся (64 % апытаных былі незадаволены Кабінетам Міністраў, 40 % - прэзідэнтам А. Лукашэнкам, 67,6%-ВС). Жадалі вяртання сацыялізма (46 %) пры тым, што за капіталізм выказвалася 30 %, а 68 % - за абноўлены СССР. Беларусы трымаліся тыпова левацкіх і ўраўняльных савецкіх стэрэатыпаў.

У 1992-1993 гг. Беларускі Народны Фронт дабіваўся датэрміновага роспуску ВС і сабраў паўмільёна подпісаў за правядзенне рэферэндума аб датэрміновых выбарах яго на аснове прапарцыянальна-мажарытарнай сістэмы (75 % мандатаў- па тэрытарыяльных акругах і 25 % - па партыйных спісах). Гэта дазваляла амбіцыёзным палітыкам без канкурэнтнай барацьбы гарантавана праходзіць у ВС па партыйных спісах. Аднак старую наменклатурную гвардыю палохала тое, што па новаму варыянту закона аб выбарах "бэнээфаўцы возьмуць 80 працэнтаў складу парламенту, а то і болей". Большасць дэпутатаў адмовілася самараспускацца і добраахвотна сыходзіць з палітычнай сцэны. За датэрміновыя выбары 29 кастрычніка 1992 г. прагаласавала 35 дэпутатаў, а супраць 213 чал. А. Лукашэнка, які ганьбіў ідэю БНФ пра датэрміновыя выбары, стаўшы ў 1994 г. прэзідэнтам краіны, скарыстаўся гэтай надта выгаднай спадчынай на сваім шляху да манапалізацыі ўлады і разбурэння процівагаў выканаўчай уладзе.

У сувязі з новымі выбарамі паўстала пытанне пра удзел дэпутатаў непапулярнага ВС у гэтых выбарах і скарыстанне яго трыбуны для кампраметацыі праціўнікаў. Новаабраны прэзідэнт А. Лукашэнка сам выходзіў з асяродку абрыдлага зараз парламента, а тэма карупцыі ці віны за рэзкае збядненне, эканамічны хаос, беспрацоў'е, галечу ў гэтым передвыбарчым процістаянні зноў аказалася выгаднай палітычнай картай і зброяй. 14-15 снежня 1994 г. А. Лукашэнка выступіў са сваім дакладам пра карупцыю, а адразу ж пасля назначэння дня выбараў член фракцыі БНФ у ВС Сяргей Антончык агучыў свой даклад пра карупцыю ў атачэнні прэзідэнта, які 20 снежня 1994 г. кіраўнік службы інфармацыі ў адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Фядута загадаў Беларускаму Дому Друку не друкаваць ў газетах згодна з уласным распараджэннем А. Лукашэнкі.

Тады антыкарупцыйны даклад С. Антончыка 27 снежня 1994 г. надрукавала апазіцыйная газета "Свабода" разам з паэмай Вядзьмака Лысагорскага "Лука Мудзішчаў прэзідэнт".

4 студзеня 1995 г. С. Антончык пачаў ствараць нацкамітет па падрыхтоўцы ў пачатку года агульнанацыянальнага сходу і правядзенні рэферэндума па даверы прэзідэнту. Яго зварот да бела-

русаў надрукавала тая ж "Свабода". Ён звярнуўся да ўсіх, "хто разумее ўсю глыбіню небяспекі, што насоўваецца на Беларусь,..- для таго, каб кансалідаваць грамадства і знайсці шляхі выхаду з крызіснай сітуацыі", бо ў прэзідэнта А. Лукашэнкі няма "волі да канструктыўнага супрацоўніцтва", бо ён праводзіць тую ж палітыку, што і Вячаслаў Кебіч, бо яны абодва прадстаўляюць "адну і тую ж партыйна-гаспадарчую наменклатуру" і кіруюцца валюнтарызмам, бо "ён разам з бальшынёю ВС санкцыянаваў дзеянні ўрада Кебіча, якія прывялі да развалу эканомікі і да карупцыі", бо Лукашэнка разам з дзеючым ВС выступіў супраць рэферэндума аб датэрміновых выбарах ВС (у 1992) і за гэта той зрабіў яго прэзідэнтам.

Генадзь Карпенка ў той жа газеце "Свабода" абвінаваціў Лукашэнку ў забыцці сваёй антыкрызіснай праграмы і перадвыбарчых абяцанняў, у страце даверу у палітычных сіл, бо ён "апусціўся да адкрытых пагрозаў усім палітычным лідэрам,..вядзе да канфрантацыі ў грамадстве", ў папулісцкіх мэтах патрабуе ад ВС прыняць бюджэт без усякіх праграм" і выдае абсурдныя ўказы пра...- невыкананне законаў.

Практычна гэты зварот С. Антончыка азнаменаваў пачатак новай кампаніі Беларускага Народнага Фронту па роспуску ВС і адхіленню А. Лукашэнка ад улады, што вельмі напалохала і сам ВС і каманду Лукашэнкі. Антончык адразу пачаў свае агітацыйныя паездкі з Віцебскай вобласці, паколькі яго выступ з выкрыццём карупцыі быў забаронены ў прэсе. За ім следам пацягнуліся дазорныя з праціўнага лагера. Адзін з іх памочнік прэзідэнта па асобных даручэннях Віктар Кучынскі ў Шклове хацеў перашкодзіць сустрэчы Антончыка з жыхарамі і гразіўся "прыкрыць гэтую дэмакратыю" , бо збіраўся з гранатамётам у руках бараніць свайго ідала.

С. Навумчык назваў скасаванне Домам друку дагавора выдання 8 газет  (газ. "Свабода", "Феміда", "Беларуская деловая газета", газ. Андрэя Клімава і інш.) крокам да "усталявання таталітарнага дыктатарскага рэжыму". Ён пачаў у ВС збор подпісаў у абарону прэсы з намерам прасіць Канстытуцыйны суд разгледзіць на адпаведнасць Канстытуцыі ўказаў Лукашэнкі № 19 ад 4 жніўня 1994 г. ў частцы перадачы Дома Друку ўпраўленню справамі прэзідэнта, а таксама другіх указаў, якія вядуць да манапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі і ўжыванню цэнзуры ў іх. (Маюцца на ўвазе так званыя белыя плямы ў газетах адносна даклада Антончыка, інфармагенцтва "Белінфарм" і інш.)

6 студзеня ўрад падпісаў з Расіяй пад час візіту Сяргея Козырава і Івана Рыбкіна пагадненні пра мытны саюз і сумесныя аб'яднаныя (кааліцыйныя) групіроўкі войскаў у выглядзе 16 артыкулаў, якія было намечана зацвердзіць 1 верасня на вышэйшым узроўні. Сярод дамоваў аб арэндзе ў суме каля 16-20 млн. даляраў штогод на працягу 25 год значыліся дзве расійскія ваенныя базы на Беларусі. Адна - радылакацыйная станцыя наземнага папярэджвання аб ракетным нападзенні "Волга" пад Ганцавічамі, што ў 48 км. ад Баранавіч. Яна і зараз слядзіць за балістычнымі ракетамі, касмічнымі аб'ектамі і падлодкамі НАТА на ўсёй тэрыторыі Еўропы і значнай экваторыі Атлантыкі. Гэты аб'ект замыкаецца на т. зв. ядзерны чамаданчык расійскага прэзідэнта. Другая база ўяўляе сабой радыётэхнічны цэнтр сувязі ВМФ РФ - занальная станцыя "Антэй" у 10 км. ад райцэнтра г. Вілейка- адкуль рэтрансліруюцца каманды на расійскія падлодкі практычна па ўсіх акіянах. Вузел сувязі "Вілейка" дае магчымасць нанясення стратэгічнымі сіламі Расіі ракетна-ядзернага ўдара па праціўніку і навядзення проціваракет у выпадку пагрозы нападу. Такім чынам, падпісаныя пагадненні прама рабілі беларускую зямлю заложніцай ваенна-палітычных і геапалітычных інтарэсаў Расіі.

Зянон Пазняк назваў падпісаныя з Масквой пагадненні пагрозай "знішчэння дзяржаўнасці нашай краіны", захопам маёмасці краіны, актам "нацыянальнай здрады". Члены ценявога кабінета ад апазіцыі падрыхтавалі 6 заключэнняў, у тым ліку і адносна стварэння сумесных фінансава - прамысловых груп, якія дэпутат ад апазіцыі Уладзімір Заблоцкі назваў парушэннем нейтралітэту і вяршынства беларускай улады на сваёй тэрыторыі. Міхаіл Чыгір, як кіраўнік урада, гаварыў, што гэтыя пагадненні не патрабуюць ратыфікацыі

9 студзеня Генеральная пракуратура вуснамі першага намесніка генпракурора Уладзіміра Кандрацьева абвясціла, што яна сама ўзбудзіла крымінальную справу на газету "Свабода" за публікацыю ў ёй паэмы "Лука Мудзішчаў-прэзідэнт" па факту публічнай абразы прадстаўніка ўлады, што пагражала годам турмы або штрафам да 200 мінімалак па арт. 188 крымінальнага кодэксу. Пераслед быў даручаны следчаму па асоба важных справах Генеральнай пракуратуры Валерыю Камароўскаму.

13 студзеня. Знамянальна-гэтым днём Лукашэнка падпісаў закон Вс "Аб друку і іншых сродках масавай инфармацыі", аднак яго абнародванне было адкладзена да 15 лютага 1995 г. для, так сказаць, наступных прэвентыўных мер.

15 студзеня кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта Леанід Сініцын разаслаў ва ўсе мясцовыя выканкамы загад пад № 07-53 з патрабаваннем "змяніць склад заснавальнікаў мясцовых дзяржаўных газет" і ўвесці туды дэпутатаў Саветаў або прадстаўнікоў выканкамаў. У гэты ж дзень ствараецца асабістая ўправа аховы прэзідэнта пад камандай былога начальніка барысаўскага райаддзела КДБ Вечаслава Георгіевіча Каралёва. Кандыдатуру таго прапанаваў Віктар Шэйман. Пад ахову забралі будынак штаба грамадзянскай абароны на вул. Бабруйская. Новая служба, як і КДБ, была поўнасцю выведзена з-пад кантролю ВС.

16 студзеня быў створаны перадвыбарчы блок у складзе БХрДП, БНФ, Беларускай сялянскай партыі, БСДГР для перамогі на прадстаячых выбарах. Хутка з'явіўся і выбарчы блок "Грамадзянская згода" ў складзе партыі "Народная Згода" (Г. Карпенка), "Аб'яднаная Дэмакратычная Партыя" (Аляксандр Дабравольскі) і "Грамадзянская партыя" (Уладзімір Шлындзікаў). Прагназавалася да 30 кандыдатаў на месца ў ВС. Нягледзячы на аб'яднанне ў дэмакратычны альянс гэтых сіл, Зянон Пазняк заявіў, што "лёзунгі з заклікамі аб'яднаць нацыю, захаваць грамадскі мір, кансалідаваць сілы і г.д...самы што ні на ёсць рэакцыйныя камуністычныя лёзунгі, накіраваныя супраць дэмакратыі". За дзень да гэтага Міністэрства юстыцыі папярэдзіла БНФ, што ліквідуе фронт за парушэнне дзеючага заканадаўства, а менавіта "за палітычную дзейнасць"- правядзенне гэтым грамадскім аб'яднаннем 18 студзеня мітынга.

18 студзеня ў ВС распаўсюджана "Заключэнне" генпракуратуры за подпісам яе кіраўніка Васіля Шаладонава адносна "белых плямаў" у газетах (або забароны публікацыі даклада Антончыка аб карупцыі). У ім гаварылася, што А. Фядута самастойна прыняў рашэнне пра забарону такой публікацыі і што кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта Леанід Сініцын нікому не даваў указанняў аб затрымцы выступлення С. Антончыка. В. Шаладонаў пісаў, што забарона публікацыі дакладу дэпутата Антончыка ў прэсе "мае прыкметы складу злачынства.., аднак гэтыя дзеянні не даюць дастаковых падстаў для ўзбуджэння крымінальнай справы, бо забарона на публікацыю...была накладзена толькі для праверкі дакладнасці пададзенай у ім інфармацыі". Праз два дні намеснік генпракурора У. Кандрацьеў заявіць, што 70 % інфармацыі С. Антончыка былі ўжо вядомы пракуратуры і што "пасля афіцыйнага стварэння адміністрацыі прэзідэнта яе прадстаўнікі ні ў якай карупцыі не замешаны". Ён паўтарыў, што даклад забаронена друкаваць

толькі часова, да высвятлення праўдзівасці выкладзенай у ім інфармацыі, а таму ён вывучае матэрыялы аб тым.

У гэты ж дзень -20 студзеня- Сяргей Навумчык перадаў старшыні Канстытуцыйнага Суда Валерыю Ціхіне зварот 84 дэпутатаў ВС з прапановай разгледзіць канстытуцыйнасць указа Лукашэнкі аб манапалізацыі СМІ і абмежаванні свабоды друку.

22 студзеня Лукашэнка сустрэўся з ветэранскімі арганізацыямі і заклікаў іх разам з ім "выиграть свою войну" супраць тых, хто акапаўся ў інвестыцыйных фондах і хто перашкажае яму вывесці народ да шчасця. Самай вялікай перашкодай у гэтай вайне ён назваў заканадаўчыя путы з боку ВС: "я обложен этими законами.., но я не посмотрю ни на законы, ни на что". Тут жа ён прапанаваў ідэю спалучыць рэферэндум разам з выбарамі.

У святле гэтай прагі да нестрыманага ніякімі законамі самадзяржаў'я, ён 30 студзеня на калегіі МУС назваў галоўнымі рычагамі навядзення парадку МУС і КДБ, бо калі "МУС будзе выконваць распараджэнні ў галіне эканомікі, то будзе зарабляць не горш, чым у лепшыя часы". Прэзідэнт абазначыў паліцэйскі фіск і пaборы ў якасці крыніц даходаў гэтых сілавых структур і прыгразіў неадкладна нацыяналізоўваць прыватную ўласнасць з дапамогай міліцыі. Больш таго, ён загадаў МУС і КДБ "вывучыць сітуацыю ў СМІ і паўплываць на яе". Ён назваў большасць дэпутатаў ВС прадажнымі карупцыянерамі, якія кормяцца са злачынства, бо "90 % дэпутатаў ВС кормяцца з камерцыйных структураў і злачыннасць ім на руку". Прэзідэнт, як відаць, наўпрост атаясаміў ВС з крымінальна-злачыннай арганізацыяй, распраўіцца з якой, натуральна, следвала па законах барацьбы з бандытскім мірам. І хаця ўсякія "накаты пад ідэю паліцэйскай дзяржавы не маюць пад сабою падставы", тым не меней ён шчыра заяўляў, што ў гэтай вайне "я сам гатовы надзець бронежылет".

28-30 студзеня 1995 г. кіраўнік адміністрацыі Лукашэнкі Л. Сініцын выразіўся аб завяршэнні паўнамоцтваў ВС у сакавіку (4-23 сакавіка)  і ў гэтым сэнсе абвінаваціў дэпутатаў у парушэнні Канстытуцыі пры назначэнні новых выбараў у маі месяцы. Прэсслужба ВС вуснамі прэссакратара старшыні ВС В. Лапіна тут жа заявіла, што пры назначэнні даты выбараў у новы ВС на май 1995 г., Канстытуцыя ні ў чым не парушана, што цяперашні ВС застанецца лігітымным да першага пасяджэння ВС новага склікання, а ўсе размовы пра сканчэнне ў сакавіку паўнамоцтваў ВС беспадстаўныя.

1 лютага 1995 г. Лукашэнка прапанаваў- і ВС адмовіў яму - выключыць з закона аб ВС артыкул аб тым, што "ВС з'яўляецца гарантам замацаваных у Канстытуцыі, законах і міжнародных абавязацельствах дзяржавы правоў і свабод грамадзян Беларусі, арганізоўвае кантроль за іх выкананнем". Лукашэнка прасіў таксама на сваю карысць скасаваць арт. 10 аб тым, што "ВС здзяйсняе паўнамоцтвы уласніка да ўласнасці РБ, а іншыя органы улады і кіравання толькі валодаюць, карыстаюцца і распараджаюцца маёмасцю" па закону. Пры галасаванні з 248 дэпутатаў 232 выказаліся "за" і толькі 10 супраць. Лукашэнка сказаў, што ён другі раз не падпісаў закон пра ВС, бо той парушае баланс улад і пярэчыць Канстытуцыі. Старшыня камісіі ВС Уладзімір Новікаў паведаміў пра выкананне даручэння ВС аб высвятленні фактаў карупцыі ў адміністрацыі Лукашэнкі па дакладу С. Антончыка. Было заяўлена, што вялікі аб'ём дакументаў не дазволіў яму усё праверыць у тэрмін і што большасць фактаў узята С. Антончыкам з розных рэвізій 1991-1993 гг., па якіх ужо прымаліся рашэнні. Гэта значыць яны праўдзівыя і мелі месца. Паколькі Антончыка не абверглі, то ён патрабаваў дазволу выступіць у ВС з другім дакладам аб карупцыі. Але спікер ВС Мечыслаў Грыб параіў "вначале разобраться еще с первым докладом".

4 лютага Лукашэнка падпісаў указ: у сувязі са спыненнем паўнамоцтваў Савета Міністраў перадаць адміністрацыі прэзідэнта правы заснавальніка газ. "Савецкая Беларусь". У "Звяздзе" з'явіўся каментарый старшыні камітэта па барацьбе з карупцыяй у органах дзяржаўнай улады і упраўлення адміністрацыі прэзідэнта Юрыя Малумава адносна ўказа Лукашэнкі ад 2 лютага "аб прадухіленні неабгрунтаванай прыватызацыі". Малумаў параіў усім выканкам правесці рэвізію адчужанай дзяржмаёмасці ў прыватныя рукі. Праз тры дні ён заявіў, што 95 % фактаў у дакладзе С. Антончыка яму асабіста былі добра вядомыя і ўжо правяраліся калісьці або былі ў полі зроку парламенцкай камісіі на чале з Лукашэнкам. Але Антончык нібыта перавярнуў іх "з ног на галаву", каб скампраметаваць Лукашэнка і яго акружэнне. Яго даклад-"чыстае палітыканства". Гэта хлусня, што міністр абароны Кастэнка атрымаў на 3 чал. пяціпакаёвую кватэру, што Іван Ціцянкоў атрымаў на 3 чал. 100 кв. метраў, што Л. Сініцын купіў карабін за 1431 руб. замест 13 тыс. руб. Таму па большасці выкладзеных Антончыкам фактаў "ніхто не будзе прыцягнуты ні да крымінальнай адказнасці", ні да дысцыплінарнай, ні да звальнення з пасад. Пракуратура таксама ведала ўсе гэтыя факты. Ён пашкадаваў, што па дак-

ладах Лукашэнкі аб карупцыі пракуратура асудзіла толькі "некалькі другарадных асоб", маўчала і "не жадала прымаць канкрэтных рашэнняў". Хаця для дакладаў Лукашэнкі аб карупцыі ў свой час "мы прыводзілі агульнавядомыя факты," аднак высвятляць, хто стаіць за гэтымі фактамі было ўжо другаснай справай. У дакладах Лукашэнкі "не было нападак на канкрэтных асоб", "не было выпадкаў, каб хтосьці з каманды прэзідэнта аказаўся непасрэдна замешаны ў нейкіх карупцыйных справах". У Лукашэнкі "няма фаварытаў", бо "усе рашэнні ён прымае самастойна". Зараз прапановы антыкарупцыйнага камітэта дзесьці па дарозе губляюцца ў ВС, а таму Малумаў выказаўся за стварэнне спецаддзела па кантролю за паступленнем "нашых дакументаў" у ВС. Больш таго, Саветы маюць вялікую ўладу і "мы сустракаемся з сабатажам чыноўнікаў". А паколькі мы сталі структурай паралельнай службе кантролю, зараз непатрэбнай, і менавіта "нам" варта правяраць кадры вертыкалі, то мы, сказаў ён, разаслалі ва ўсе кантрольныя і правахоўныя органы інструкцыі па збору інфармацыі на супрацоўнікаў выканаўчай улады на факты, "выкрываемыя ў працэсе іх штодённай дзейнасці. Што тут дрэннага? Нам яна трэба, каб не дапусціць памылак пры кадравых назначэннях". Вертыкаль пачала аплятаць сачэннем, данасіцельствам і кампраматам усе падуладнае чынавенства зверху уніз і наадварот.

7 лютага ў "Звяздзе" саветнік прэзідэнта Сяргей Посахаў выказаўся аб тым, што дэпутаты ВС "наўмысна" прадоўжылі свае паўнамоцтвы, што ў адміністрацыі Лукашэнкі выношваецца ідэя рэгулярных "собораў" або дарадчага органа пры прэзідэнце з чыноў, суддзяў, банкіраў, лідэраў партый дзеля "згоды" у карэнных пытаннях жыцця, распрацоўкі канцэпцый развіцця і правілаў палітычнай дзейнасці. У сувязі са стварэннем такога клапатлівага царадворскага сабора у адным са сваіх выступленняў 8 лютага 1995 г. Лукашэнка прама рэкамендаваў жыхарам не ўдзельнічаць у прадстаячых выбарах.

Каб збіць шумную хвалю папрокаў у прысваенні льгот і прывілеяў, 9 лютага ВС дэманстратыўна змяніў арт. 113 закона аб ВС, які забараніў наймальніку звальняць дэпутата на працягу 2 (замест 5) год па сканчэнні ім сваіх паўнамоцтваў, таксама выкрасліў артыкул пра захаванне за дэпутатам 50 % дэпутацкага заробку да пенсіі пры нyздольнасці працаўладкавання, скасаваў артыкул пра льготнае крэдыты для дэпутатаў пад жыллёвае будаўніцтва і дадатковым жыллі ў памеры 15 кв. метраў, і выкрасліў артыкул пра бясплатнае карыстанне службовым памяшканнем.

У гэты дзень дэпутаты апазіцыі БНФ - Зянон Пазняк, Леанід Дзейка і Валянцін Голубеў далі прэсканферэнцыю адносна здачы Расіі на 25 год аб'ектаў пад Баранавічамі (дакладней пад пасёлкам Азярэчча Слуцкага раёна, паблізу ад Ганцавіч) і Вілейкай. Яны сказалі, што сабралі 791 подпісаў жыхароў Ганцавіч з пратэстам, па словах Пазняка, на "незаконныя, нелігітымныя" дзеянні ўрада, якія Голубеў назваў "прававым бандытызмам", бо яны прайшлі без абмеркаванняў у камісіях ВС. Яны гразілі звярнуцца ў Канстытуцыйны суд. У дагаворы аб сумеснай ахове мяжы, мяжой называўся участак з Літвой, Латвіяй і Польшай, але не было гаворкі пра адпаведны кавалак з Расіяй і Украінай. Гэта парадзіла гаворкі пра намер Расіі паглынуць Беларусь. БНФ адразу ж пачаў рыхтаваць агульнацыянальны збор подпісаў (практычна рэферэндум) супраць выкарыстання тэрыторыі Беларусі і яе войскаў у мэтах замежных дзяржаў. Акцыю назвалі "народ супраць вайны". У падпісным лісце прапаноўвалася дэнансаваць пагадненні аб калектыўнай бяспецы СНД, дамовы з Расіяй ад 6 студзеня 1995 г. як нелігітымныя або прынятыя без ратыфікацыі парламентам, патрабавалася неадкладна вывесці расійскія войскі і яе ваенныя аб'екты з Беларусі. Галоўным стала пытанне - якім будзе новы ВС, з каго ён складзецца і ці прыме ён вынікі гэтага апытання. Зборшчыкам подпісаў і сустрэчам членаў БНФ з насельніцтвам сталі чыніць перашкоды на месцах.

10 лютага З. Пазняк, верны і паслядоўны антыкамуніст, сказаў, што ВС назначыў выбары на 14 мая "каб больш пасядзець" і каб "сарваць выбары.. У гэтым ён не адрозніваўся ад "ястрабаў" з прэзідэнцкай адміністрацыі. 14 лютага адбыўся з'езд "Партыі Народная Згода". Г. Карпенка крытыкаваў на ім А. Лукашэнку за ўціск свабоды слова, вяртанне ў вертыкаль скампраматаваных людзей. Будучы начальнік службы кантроля ў адміністрацыі прэзідэнта Васіль Даўгалёў парыраваў на гэта: маўляў, размовы пра замену Лукашэнкі вядуць да грамадзянскай вайны. У новай праграме партыі запісалі тэзы пра ўстанаўленне прамога кантроля ВС за дзейнасцю выканаўчай улады, пра прамыя выбары кіраўнікоў раёнаў і прыняцце новага закона аб прэзідэнце праз мясцовыя Саветы.

Канстытуцыйны суд узбудзіў справу аб адпаведнасці Канстытуцыі указаў Лукашэнкі ад 4 жніўня 1994 г. "Аб стварэнні Кіраўніцтва справамі" адносна перадачы гэтаму кіраўніцтву Дома друку, ад 5 жніўня 1994 г. аб стварэнні Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі і 28 верасня 1994 г. "Пытанні Нацтэлерадыёкампаніі", якія ў хадайніцтве 84 дэпутатаў ВС названы крокамі да манапалізацыі срод-

каў масавай інфармацыі. Аднак Канстытуцыйны суд адказаўся правяраць на адпаведнасць Канстытуцыі распараджэння намесніка ўпраўлення справамі прэзідэнта ад 2 студзеня 1995 г., які патрабаваў ад Дома друку разарваць дагаворы з шэрагам газет.

15 лютага Лукашэнка падпісаў указ № 64 "Аб забеспячэнні грамадзян Рэспублікі зямельнымі участкамі". З прывязкай на прадстаячы рэферэндум і з чыста папулісцкіх мэтаў з гэтай нагоды мясцовай вертыкалі было загадана да 10 мая прадаставіць жадаючым з фонду 1500 га зямельныя ўчасткі пад падсобныя гаспадаркі і 20 мая далажыць прэзідэнту аб выкананні.

17 лютага М. Грыб сказаў, інстытут прэзідэнтства ўведзены нядаўна і з ім парламент робіць першыя крокі ўзаемапаразумення. што ВС не павінны кідацца ў атаку на кожны чых А. Лукашэнкі, бо ВС хоча "уйти от конфронтации, не дать возможности ей возникнуть". Ён адхіліў абвінавачванні ВС у расцягванні на 2 месяцы паўнамоцтваў звыш назначанага ў Канстытуцыі тэрміна. Наша мэта -гаварыў спікер- дазволіць дэпутатам "спакойна, без нервовасці дапрацаваць установлены тэрмін" і уступіць свае крэслы новаабраным дэпутатам без "шуму, без вайны". Урад, маўляў, пасляшаўся з подпісам пагадненняў з Расіяй.

У гэты час выношвалася ідэя закрыць пасяджэнні ВС пасля 5 сакавіка 1995 г. (час вылучэння кандыдатаў у дэпутаты), каб ніхто не скарыстоўваў трыбуну ВС і яго мікрафон для адтрымання перавагі перад іншымі прэтэндэнтамі, бо ў ВС было шмат наменклатурных работнікаў. Забаранялася прыходзіць на пасяджэніі ВС са зброяй.

І. Ціцянкоў патрабаваў ад ВС арэндную плату у 5 млрд. руб. у год за будынкі ў Доме урада. Грыб сказаў, што калі павесяць на дзверах ВС замок, то мы "поставим на площади Независимости скамейки и будем там проводить заседания, будем голосовать путем поднятия рук, а не посредством электронной системы. Ничего трагического в этом не вижу".

22 лютага "Народная газета" надрукавала артыкул Аляксандра Майсені пра рэферэндум. Публіцыст пісаў, што ў прэзідэнцкім штабе ставяць мэты: 1. "первое-устранить с политической сцены нынешний парламент и нейтрализовать конституционный суд. Второе-жестко подчинить себе силовые министерства, превратив их в послушное орудие президентской воли и третье -парализовать любое проявление общественной оппозиции. Далеко не безобидная риторика президента и его помощников в отношении парламента наводит на мысль о том, что планы роспуска ВС и установ-

ления прямого президентского правления до начала работы парламента нового созыва самым серьезным образом рассматриваются в президентских кругах". Пачаліся перабегі "не отягощенных высокими принципами" дэпутатаў на салідныя пасты у прэзідэнцкай вертыкалі. Аўтар разлічваў, што ВС застанецца легітымным, нават калі ад яго застанецца толькі прэзідыум.

Апазіцыя пачала заўляць аб усё новых сімптомах таталітарызму і пра ўвядзенне фактычнага адзінаўладдзя Лукашэнкі і ягонай вертыкалі. Бо рабілася ўсё больш зразумелым, што Лукашэнка ўпікае депутатаў у тугадумстве і неабмежаваным ўладалюбстве таму, што ВС небяспечны яму як "трибуна гласности и защита от авторитаризма и тоталитаризма". Гэтымі днямі З. Пазняк заявіў, што А. Лукашэнка збіраецца ўвесці ваеннае становішча, каб настрашыць людзей, каб на будучых выбарах яны галасавалі так, як хочуць улады. На гэты раз ён заклікаў грамадзян да кансалідацыі, бо прапанаваны прэзідэнтам Лукашэнка рэферэндум па пытаннях мовы і сімвалаў дзяржавы можа раскалоць грамадства. Аднак ва ўмовах двух рэферэндумаў гэта выглядала менавіта так, і невядома хто больш раскольваў грамадства, тым больш, што БНФ ужо вёў агульнацыянальны збор подпісаў пад акцыяй "народ супраць вайны" і практычна займаўся падрыхтоўкай да выбараў пад час гэтай кампаніі.

Сярод галасоў супраць трансляцыі асобных выступленняў у ВС пад час выбарчай кампаніі, большасць яго складу усё ж-такі тады рашыла не ўмешвацца ў працу журналістаў. Гэтымі днямі на 13 сакавіка быў назначаны суд па іску Ціцянкова супраць Антончыка, Герменчука і газеты Клімава.

У рэчышчы наступу на незалежныя сродкі інфармацыі Лукашэнка выступіў перад калектывам НТРК, дзе сказаў, што журналістам недазвяляльна "за государственные деньги критиковать государственную политику". Гэта прагучала як заклік да ўсхвалення яго палітыкі дзяржаўнымі СМІ. Ён прызнаў, што зволіў рэдактара газеты "Рэспубліка" за публікацыю пісьма чытача, якое яму не спадабалася, а таму ён даручыў органам праверыць паходжанне матэрыялу. Органы устанавілі, што аўтару ліста "заплацілі бэнээфаўцы", якія самі ў сваю чаргу "с Запада получают бешеные деньги". Тут жа было сказана, што прэзідэнт атрымаў мяшкі пісем ад бацькоў, незадаволеных беларусізацыяй навучання.

6 сакавіка БНФ заявіў, што лідэры "Грамадзянскай згоды" - раскольнікі з былых дзячоў партнаменклатуры і назваў стварэнне блоку на чале са Згодай "свядомай спробай расколу адзінства дэмакратычных сілаў і заблытаць выбаршчыкаў". На справе "Зго-

ду" стварылі, каб дыстанцыявацца ад БНФ, што выключала праграмнае і арганізацыйнае адзінства. БНФ выставіў сваіх кандыдатаў у 131 акрузе і ў 23 акругах спрачаўся з саюзнікамі. Цэнтрвыбаркам выдзеліў кожнаму кандыдату па 30 секунд эфіра.

У Віцебскай вобласці ў вертыкалі засталося 30 % ранейшых чыноў, якія з большым імпэтам сталі праследваць тых, хто раней шукаў на іх управу за злоўжыванні і безгаспадарчасць. Вылучэнне адзіных кандыдатаў не прывяло да рэгістрацыі трох блокаў з існуючых партый -БНФ, БСДГР, БХДС, НДПБ, БСП, ПНЗ, АГП, ПК, РППС, АП і БСП.

11 сакавіка Цэнтвыбаркам заявіў, што разнагалоссі вакол падзелу акругаў настолькі агульныя, што выканаўчая ўлада тут жа скарыстала яго для скасавання Саветаў пярвічнага узроўня. Гэта стала прадметам разборак у Канстытуцыйным судзе.

15 сакавіка прэзідэнт у тэлеэфіры растлумачыў сваю ідэю рэферэндуму па мове, саюзу з Расіяй, сімвалах і прапанаваў ВС самараспусціцца, прыгразіўшы, што "ні закон аб прэзідэнце, ні закон аб ВС на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь дзейнічаць не будуць".

16 сакавіка прэзідыум ВС абмеркаваў гэты ультыматум Лукашэнкі з улікам паведамлення старшыні Цэнтрвыбаркама Аляксандра Абрамовіча пра адсутнасць грошай на выбары і існаванне пагрозы іх зрыву. На наступны дзень М. Грыб і А. Абрамовіч правялі сумесную канферэнцыю. Яны гаварылі, што выканаўчая ўлада не дала ні капейкі выбаркаму, а Вярхоўнаму Савету сродкі адпушчаны толькі на аплату дэпутатам і ні капейкі іх памочнікам, на тэлефоны, камунальныя паслугі, транспарт, камандзіроўкі, гатэлі з-за, маўляў, прадстаячых істотных расходах на пасяўную і пенсіі. Грыб меркаваў месяц не збіраць ВС, каб дэпутаты не выкарыстоўвалі мікрафоны для агітацыі ў перадвыбарчай барацьбе. Ім, маўляў, будзе дастаткова сабрацца толькі на дзень для вырашэння неадкладных праблем. Абрамовіч сказаў, што Канстытуцыя забараняе выносіць на рэферэндумы пытанні, пералічаныя ў законе аб рэферэндуме, але многае залежыць ад фармулёвак і што на рэферэндум выносяцца тыя пытанні, якія зацвярджае ВС. Ён назваў сумяшчэнне рэферэндума з выбарамі "памылкай", бо ўся агітацыя і палеміка тады засяродзіцца на рэферэндуме.

17 сакавіка Лукашэнка дакрэтам за № 113 зволіў Іосіфа Сярэдзіча з пасады рэдактара "Народнай Газеты" за публікацыю 10 сакавіка пісьма прэзідэнту, якое быццам бы заклікае да насілля і грамадзянскай вайны. Пры прэзідэнце быў створаны наглядальны савет аб дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі.

18 сакавіка ў "Звяздзе" і "Советской Белоруссии" надрукаваны адкрыты ліст да Лукашэнкі 74 дэпутатаў (Абухаў А., Авечкін А., Бабарыкіна Г., Бачароў Я., Борыс В., Вайцешык А., Віславухаў М., Герасімаў З., Гарэлік М., Гетц Б., Грынеў М., Гушаль М., Дземянцей М., Дубоўскі А., Даменікан М., Дамашкевіч М., Ізвалова Н., Жукоўскі М., Жук А., Кабушкін П., Канюшык М., Кічкайла А., Качан М., Копач М., Крышталевіч У., Кулакоў У., Кузмянкоў А., Камай А., Коваль М., Лакцюшын М., Малахоўскі А., Марозаў В., Мінчанка П., Новікаў А., Новікаў У., Нялюбік І., Пазюмка А., Папоў П., Паўлаў В., Піскуноў А., Прывалаў Л., Пянькова З., Пыцуха В., Радзецкі Я., Савіцкі Б., Саенка А., Сапранецкі М., Сарокін В., Самусевіч Р., Сасноўскі М., Скарабагацька П., Сіўчыкаў А., Сакалоў А., Скрыцкі У., Судас М., Скарынін М., Тамцэўнікаў Я., Траццякоў А., Трусаў І., Трафіменка В., Урэнюк У., Усціновіч А., Ціханаў І., Ціткоў С., Цітоў І., Цярэшка І., Чэх Г., Чырун В., Шукшын В., Шыдлавец А., Шылько Б., Шкурко В., Якубец М., Яскевіч Г.), якія папрасілі Лукашэнку ініцыяраваць рэферэндум адносна сімволікі 1991 г. з абавязковай прапрацоўкай новых сімвалаў, бо сімволіка "набывае асаблівую значнасць" перад 50-годдзем перамогі, бо "Пагоня" і бела-чырвона-белы сцяг былі зацверджаны гауляйтэрам Кубэ "для марыянетачнай беларускай Цэнтральнай рады, пад якімі прыслужнікі фашысцкіх акупантаў растрэльвалі і вешалі змагароў з вызваленне Беларусі", бо яны з'яўляюцца "польска- літоўскай сімволікай". Яны прасілі ўнесці ў рэферэндум пытанне аб наданні рускай мове статуса другой дзяржаўнай мовы. Нечакана асмялеўшыя толькі зараз яны вярнуліся да арт. 23-26 закона аб мовах, дзе гаворыцца аб свабодным выбары мовы выхавання і навучання, чаго няма ў рэчаіснасці. Зварот насіў прыкмет адрэпеціраванага заказу пад выбары.

21 сакавіка Лукашэнка выступіў на ВС з праграмнай прамовай, як ён сам сказаў, "магчыма ў апошні раз", пра сваю працу з ВС з часу сваёй інагурацыі ў жніўні 1994 г. Галоўным ў гэтых адносінах аказалася ўлада і яе паўнамоцтвы. Прэзідэнт пачаў гаворку з "дэфармацыі канстытуцыйнага балансу галін улады". Раней "усе дзяржаўныя органы былі падкантрольныя ці падсправаздачныя Саветам народных дэпутатаў". Гэта не ўпісваецца ў новую Канстытуцыю 1994 г., якая "устанавіла іншы парадак..узаемадзеяння паміж дзяржаўнымі органамі", якія зараз "самастойныя, стрымліваюць і ўраўнавжваюць адзін аднаго". Тым не меней, новую Канстытуцыю ВС прыняў не шляхам рэферэндума, а самадзейна, што спарадзіла ў дэпутатаў "адчуванне сваіх неабмежаваных магчы-

масцяў". ВС рыхтаваў Канстытуцыю пад аднаго кандыдата ў прэзідэнты (В. Кебіча), а атрымаў другога, г. зн. мяне, Лукашэнку. Той прэтэндэнт, "які быў запраграміраваны, большасцю цяперашняга саставу ВС не быў выбраны". Адсюль пагроза замаху на саму Канстытуцыю з боку цяперашняга ВС. Гэткім чынам Лукашэнка выказаў думку, што ён вельмі баіцца непрадказальных паводзін ВС на сваім шляху да неабмежаванай улады. Свае жаданні ён абгрунтоўваў патрабаваннем насельніцтва "канкрэтных дзеянняў, а прэзідэнт звязаны неканстытуцыйнымі законамі, пастановамі ВС, якія атрымалі сілу законаў". Ён назваў законы аб ВС, аб прэзідэнце, аб мясцовым кіраванні і самакіраванні парушэннем "баланса улад", абмежаваннем правоў выканаўчай улады, паўнамоцтваў прэзідэнта ў частцы выдання ім выратавальных для народа нарматыўных актаў. Ён абвініў ВС у "дзяржаўным суб'ектывізме," хваробе "дзяржаўным эгаізмам" - за назначэнне дэпутатамі сабе льгот і гарантый "невымерных" з гаротным станам народа. Пастаянная адсутнасць паловы дэпутатаў-аб'ектыўны паказчык маральнага патэнцыялу дэпутацкага корпусу ВС. Прэзідэнт абвініў дэпутатаў у забыцці кастрычніка 1993 г. або ўласнай заявы аб неабходнасці прыняць да канца 1993 г. Канстытуцыю, правесці ў сакавіку 1994 г. выбары у новы ВС, у невыкананні заявы прэзідыума ВС ад 11 лютага 1994 г. аб цвердай рашучасці выбраць новы ВС да канца 1994 г., а ў сакавіку 1995 г. правесці выбары ў мясцовыя Саветы.

Другімі прадметамі спрэчак Лукашэнка называў рэарганізацыю сістэмы уладаў на аснове новай Канстытуцыі і рэалізацыю ўласнай пажарнай праграмы па вываду эканомікі з крызісу. Да ўсяго, пры яго неймаверных намаганнях пабудовы "правільнай палітыкі" з Расіяй, ВС дэманструе "кан'юнктурны лабісцкі падыход" і стаў тормазам эканамічных пераўтварэнняў, звязаных з праграмай вываду з крызісу шляхам прэзідэнцкіх указаў. Уласна ВС стаў яму непатрэбны, бо Канстытуцыі 1978 і 1994 гг. не прадугледжваюць працяг паўнамоцтваў ВС, бо "вашы паўнамоцтвы пачаліся ў сакавіку (для некага ў красавіку-маі) 90-га года". Гэта значыць, выбары ВС 13 склікання павінны быць назначаны на сакавік 1995 г. Таму прашу вас "прыміце адпаведныя рашэнні аб складанні дэпутацкіх паўнамоцтваў самастойна, інакш мною будуць прыняты меры па забяспячэнню палітычнай і эканамічнай стабільнасці ў грамадстве" на аснове пункта 1 артыкула 100 Канстытуцыі. Лукашэнка пажадаў ад дэпутатаў "высокамаральнага ўчынку і добраахвотнага складання сваіх паўнамоцтваў у бліжэйшы час і на працягу тыдня разгледзіць беларуска-расійскі дагавор і з пачуццём

выкананага абавязку завершыць дзейнасць ВС". Ён раіў ім сама-распусціцца, бо не сумняваўся ў сваёй падтрымцы насельніцтвам у выпадку прымусовага роспуску ім ВС пры пратэстах ці супрацiўленні апазіцыі: "Я не хацеў бы спыняць дзейнасць ВС з-за амбіцый некаторых" дэпутатаў, якія пяройдуць "да адкрытай канфрантацыі".

Ён заявіў, што І. Сярэдзіча зволіў, бо "Народная Газета" абслугоўвала толькі БНФ, выйшла з-пад кантролю ВС, прапагандавала "нацыяналізм і русафобію", а ананімны аўтар зваў да крыві, насілля, грамадзянскай вайны і працістаяння. Лукашэнка заявіў, што меры супраць Сярэдзіча будуць распашчсюджаны "на ўсіх рэдактараў" газет, бо я "не дапушчу разгула паклёпу, шальмавання і інтрыганства на тэлебачанні, радыё і ў друку".

А. Лукашэнка прапанаваў Валерыя Ціхіню на пасаду старшыні Канстытуцыйнага суда пад апладысменты і на 14 мая - рэферэндум з пытаннямі аб стане рускай мовы, сімвалах, цеснай сувязі з Расіяй і "прадастаўленні прэзідэнту паўнамоцтваў, якімі валодае прэзідэнт". Апошняе дакладна азначала прадастаўленне яму права роспуску парламента.

Праект пастановы аб незаконным звальненні І. Сярэдзіча быў двойчы адхілены на ВС. Пры паіменным галасаванні за пастанову выказалася 94, супраць 8, а астатнія дэпутаты прамаўчалі.

Г. Карпенка ў выступленні ў ВС абвінаваціў КДБ у бяздумным выконванні загадаў "то добыть из квартиры депутата Антончика доклад о борьбе с корупцией, то ворошить свою биографию, то прослушивать телефон, то просто ехать по следу", словам, глядзець "в замочную скважину" за няўгоднымі як польскімі і турэцкімі шпіёнамі, асабліва якія не чапляюцца за дэпутацкія крэслы.

Некаторых дэпутатаў абуралі таргі вакол пасад віцэ-прэм'ераў, міністраў, паслоў у прэзідэнтскай вертыкалі за кулісамі ВС. В. Голубева здзіўляла, што з кіраўніцтва ВС "да канца з дэпутатамі," як і абяцаў, застаўся толькі старшыня, але і яго няма. У нечаканай хваробе Грыба ўбачылі ганебнае бегства ці здраду.

А. Абрамовіч тры разы выступаў на сесіі і гараваў на адсутнасць фінансавання выбарчай кампаніі, абураўся на раўнадушша адказнага чынавенства і нараканні на дарагавізну. Дэпутаты рашылі не плаціць давераным асобам і кандыдатам у мясцовыя дэпутаты дзеля эканоміі бюджэта. Яны зацвердзілі на пасаду старшыні Канстытуцыйнага суда В. Ціхіню: з 260 чал. за выказалася 220, супраць 2. У. Заблоцкі спытаў В. Ціхіню: вось Лукашэнка заяўляе, што "эти законы я буду выполнять, эти -не буду, эти статьи Конституции я буду выполнять, а эти -не буду и своими дей-

ствиями демонстрирует закононепослушание. Каким образом вы думаете всех поставить в одинаковые условия" ?. Ціхіня адказаў: "даже в наше время, в условиях правового нигилизма, в условиях неуважения к закону, я думаю, Конституционный суд может и должен сыграть стабилизирующую роль в утверждении прежде всего конституционной законности. Я считал и считаю, что самое дорогое в человеке -это совесть. И я этой своей совестью не поступлюсь ни при каких обстоятельствах".

23 сакавіка на сесіі прагучаў даклад старшыні КДБ Уладзіміра Ягорава аб безвыніковасці следства вакол лёзненскай справы. Па сутнасці ён нічога не сказаў. Гаварыў, што справа ўзбуджана 17 чэрвеня 1994 г. па заяве Івана Ціцянкова адразу на другі дзень пасля здарэння (16 чэрвеня). Тады даклад у ВС рабіў палкоўнік М. Удовікаў. Гучала 4 версіі, у т. л. пра замах з хуліганства, з-за неасцярожнасці акружэння Лукашэнкі, інсцыніроўкі з мэтай папулярызацыі яго аўтарытэта ў сувязі з выбарамі. У прэзідэнта стрэлілі з інамаркі пры абгоне са зброі калібра 7,65 мм. "какое используется при всех заказных убийствах. Найдена пуля, которая пригодна для идентификации, по которой можно вести соответствующую работу. Кроме прокуратуры этим делом никто не интересовался".

Г. Карпенка спытаў, чаму не дапытаны В. Кебіч, які заявіў, што "он знал, что Лукашенко будет инсцинировать попытку". Карпенка прывёў словы Дзмітрыя Булахава аб тым, што Кебіч "скрыл информацию о готовящемся убийстве. Я то же за месяц знал из уст Лукашенко о том, что им планируется инсцинировка. …Александр Григорьевич заявил…, что он попытается выстрелить в мягкую какую-нибудь часть тела и народ его на койке больничной вынесет в президенты. Я заявил Александру Григорьевичу-Александр Григорьевич, не промахнись, не попади в лоб только"  На гэты выпад У. Ягораў адказаў-"я многих материалов там не нахожу", яны кудысці зніклі.

Дэпутат Віктар Аламліеў прапанаваў спыніць абмеркаванне гэтай цьмянай справы, бо праўды мы ніколі не пачуем "и вряд ли услышите в течение пяти лет. А если президент обещал, что он будет десять лет, то в течение десяти лет вы ее не услышите. А то, что мы хотели бы услышать, мы не услышим."  Быўшы старшыня КДБ Генадзь Лавіцкі адзначыў, што ў следстве ўдзельнічалі таксама быўшы начальнік следчага ўпраўлення МУС, цяперашні міністр Юрый Захаранка. Уся лёзненская справа-чыстая "провокация в отношении Александра Григорьевича Лукашенко. Это не покушение. Я за свои слова отвечаю."

Далей выступаў А. Лукашэнка з мэтай "заявить, кто действительно болеет за Отечество..У меня действительно с Иваном Бамбизой состоялась встреча накануне пленарного заседания ВС в понедельник". Бамбіза прасіў не разганяць ВС. "Я ответил, что никогда себе не позволю того, что о нем думает часть депутатов. Силового решения по Верховному Совету президент..не допустит ," хаця "Верховный Совет превращают в арену провокаций против президента, исполнительной власти.., чтобы прорваться в новый Верховный Совет..на оголтелом противостоянии и критике..новой власти во главе с президентом". Бамбіза таксама прасіў уладкаваць на працу некаторых дэпутатаў. Лукашэнка абяцаў іх абараніць і пабудаваць дэпутатам парламенцкі дом замест таго, каб ім раздаваць гарадскія квартэры.

Па прапанове І. Бамбізы праект пастановы аб уключэнні ініцыятывы Лукашэнкі аб рэферэндуме ў павестку быў падтрыманы толькі 147 галасамі. Г. Карпенка прасіў Лукашэнку і яго акружэнне заняцца эканомікай, а не распальваць варожасць рэферэндумам, зменамі сцяга і пашпартоў. Дэпутат В. Савіцкі назваў зварот 74 дэпутатаў да Лукашэнкі "фальшыўкай", бо свайго подпісу ён не ставіў. Міністр гандлю Генадзь Казлоў выказаўся ў гэтым жа духу -я "в вертикали не состою, горизонтально не ложился, перпендикулярно не становился". Паўторнае паіменнае галасаванне прайшло з парушэннем рэгламента, аб чым казаў Станіслаў Шушкевіч, але паспяхова: з 266 дэпутатаў 171 выказалася за ўключэнне пытання аб рэферэндуме ў павестку дня, супраць 11, не галасавала 79 чал..

24 сакавіка на пасяджэнні ВС. В. І. Сушкевіч (Баранавіцкая цэнтральная выбарчая акруга 109) прапанаваў унесці ў бюлетэнь пункт пра давер БНФ наступага зместу-"ці лічыце Вы Беларускі народны фронт сапраўды народным? БНФ на працягу пяці гадоў ваяваў і ваюе з Вярхоўным саветам. Ён ваяваў супраць прыняцця Канстытуцыі. Ён зараз ваюе супраць прэзідэнта". Гэты выступ яскрава паказаў, што палітычны разлом палягае якраз у супрацьстаянні новаабранага прэзідэнта з апазіцыяй ВС, г. зн. уплывам і аўтарытэтам БНФ у грамадстве.

Алег Трусаў назваў рэферэндум нацэленым на тое, каб "у апошнія дні збіць з панталыку і Вярхоўны савет, які адмяніў нарэшце падатак на дабаўленую вартасць, прыняў да разгляду пастанову аб кампенсацыі грашовых укладаў і Жыллёвы кодэкс у другім чытанні". Аднак гэтыя пытанні паспяхова заблыталі, паколькі пытанні пра уклады і падатках былі схаваны Бамбізам і Кузняцовым пад сукно. Трусаў прапанаваў прысутным дэпутатам падтрымаць прэзідэнта і "сённяшні дзень аб'явіць апошнім днём пленарных па-

сяджэнняў". Новую беларускую сімволіку ён назваў творам "асабістай фантазіі" Лукашэнкі. Мы тут шукаем грошы на выбары, а ў бюджэт закладзена 35 млрд руб. на патрэбы кіраўніцтва справамі Лукашэнкі. Таму зразумела. што "пэўная катэгорыя новых беларусаў, якія ўтульна ўладкаваліся за шырокай спіной нашага прэзідэнта, вельмі баіцца вынікаў выбараў у новы ВС. Відаць, баіцца гэтага і прэзідэнт, бо, з аднаго боку, ён заяўляе , што ў яго "царская улада", што ён прыйшоў "усур'ёз і надоўга", як мінімум на 10 гадоў. А з другога боку разумее, што новы ВС не пацерпіць такіх яго заяў накшталт, як нядаўна на тэлебачанні гаварыў, што вось гэты закон, нават прыняты двума трэцямі галасоў, я выконваць не буду, і адразу адправіць яго у адстаўку. "Калі б у ЗША прэзідэнт зволіў рэдактара газеты, то яму б было забяспечаны імпічмэнт і псіхічнае лячэнне. Я прапаную не праводзіць рэферэндум і не злаваць людзей, якія хочуць ведаць, калі прэзідэнт верне ім абяцаныя тэлевізары і халадзільнікі, спыніць інфляцыю.Таму, каму карціць рэферэндум, раю сабраць 70 подпісаў з пытаннем-"ці патрэбны на Беларусі інстытут прэзідэнцкай улады наогул". Хіба вы не помніце як "за вушы" фракцыі Беларусь прэзідэнцкая улада была працягнута паіменным галасаваннем ?. Першым Канстытуцыю парушыў Лукашэнка, бо "з яго падачы ў гэтым залі ліквідавалі савецкую уладу" і разам з ім памылілася большасць.

Мікалай Крыжаноўскі гаварыў таксама пра дэструктыўную і раскольніцкую ролю рэферэндума, бо "са з'яўленнем на вышэйшай пасадзе Лукашэнкі..хілыя парасткі нацыянальнага адраджэння былі растаптаны. Як жа можна даць вам права вызначаць парушэнні Канстытуцыі" -рытарычна пытаўся ён у Лукашэнкі. Віталь Малашка заўважыў, што раней дэпутатам двойчы адмовілі ў праве на рэферэндум, а таму няма ніякіх падстаў дазваляць яго і зараз па ініцыятыве прэзідэнта. Тым болей, што рэферэндум прывядзе да канфрантацыі, у рэшце рэшт да надзвычайнага становішча і адмене выбараў. Ён прапанаваў злучыць рэферэндум з выбарамі ў мясцовыя Саветы, што падтрымаў дэпутат С. Савіцкі. С. Антончык назваў рэферэндум яскравым прыкладам "палітычнага шулерства" і ціску на ВС. Новы герб падобны на вянок, які "кладуць на магілу".. В. Ф. Какоўка (Новополоцкая індустрыяльная акруга № 176) паўтарыў словы В. Голубева пра тое, што дэпутатаў "гналі" з прыняццем Канстытуцыі і многія зараз кусаюць сабе локці. Барыс Гюнтэр раіў уключыць у рэферэндум пытанне аб даверы Лукашэнку. Аляксандр Шут (Лагойская акруга № 66) упікнуў Лукашэнку у цынізме, бо той у 1991 г. уносіў сцяг з апальнай зараз сімволікай у залу ВС з Кавалёнкам і Драбышэўскай. Рэфе-

рэндум задуманы, каб адцягнуць увагу ад эканамічных абяцанняў прэзідэнта. А. Шут назваў запальшчыкам варожасці Лукашэнку. С. Антончык, Барыс Гюнтэр і Віктар Алампіеў вінавацілі яго ў раскольніцтве грамадства.

Калі ж прадстаўнік ад ветэранаў В. Дз. Жукоўскі сказаў, што ў ВС не церпяць і агрэсіўна ўспрымаюць альтэрнатыўную думку, то Лукашэнка праявіў якраз нецярпімасць да далейшых дыскусій. Па яго словах, кожны можа выказвацца, але "нужно ли было высказывать это мнение в течение двух дней. Ведь Конституция для ВС отвела в этом вопоосе узкий правовой коридор...Вы не имеете права по Конституции обсуждать, не обсуждать, если вопросы законны…Конечный пункт в этом . Я готов снять четвертый вопрос", калі ВС станоўча аднясецца да першых трох. "Я сниму четвертый, чтобы у Зенона Позняка не было опастности в том, что Лукашенко установит завтра диктатуру"..

Ён гаварыў, што прапанаваных ім пытанняў на рэферэндум баяцца на выбарах, бо тыя, хто будзе супраць іх, "могут в парламент не попасть". Але ён гатовы зрабіць пытанне пра інтэграцыю з Расіяй кансультацыйным. Па ўсіх жа астатніх рэферэндум будзе абавязковым, хаця "я еще не принял решения". Праз гадзіну Лукашэнка заявіў, што "никаких вопросов я менять не намерен"  і паўтарыў гэта потым яшчэ праз гадзіну. Малашка, Холад, Какошка, Антончык, Баршчэўскі, Кржыжаноўскі, Пакош і Алампіеў падалі праект пастановы ад дэпутатаў, якія раілі прагаласаваць 10 красавіка. Лукашэнка такі ход назваў парушэннем закона, бо група праціўнікаў рэферэндума "вам законно вопросы поставит,… я требую принять дату голосования. . Ён супакоіў дэпутатаў абяцаннем, што "работать я буду и с вами". Васіль Шаладонаў і Аляксей Камай прапанавалі дату рэферэндума прызначыць прэзідыумам ВС, але за гэта прагаласавала ўсяго 105 чал. Пётр Садоўскі ад імя 70 дэпутатаў абяцаў звярнуцца за тлумачэннямі ў Канстытуцыйны суд, паколькі пытанні Лукашэнкі закранаюць Канстытуцыю. В. Алампіеў раіў уключыць у рэферэндум пытанні продажу зямлі і па транзітных зборах. З ім згаджаўся Віктар Какоўка. М. Ф. Грынеў паўтарыў словы Лукашэнкі пра боязь дэпутатаў сумяшчэння реферэндума з выбарамі, бо кандыдатам лягчэй прарвацца ў ВС без адказу на непрыемныя пытанні рэферэндума.. Гэтую таямніцу страху крыху прыадкрыў Пётр Пракаповіч, які гаварыў, што за 5 гадоў улады не спынілі эканамічны крызіс з-за грашова-крэдытнай палітыкі Нацбанка, а дакладней-яго старшыні. Пракаповічу прапанавалі працу "в администрации или в кабинете министров. И я сказал и заявляю официально, что на такую работу я переходить не буду"

У кулуарах ВС загаварылі пра магчымасць назначэння М. Грыба старшынёй Канстытуцыйнага суда. Паколькі ён хварэў, то Галіна Сямдзянава прапанавала замяніць яго новым старшынёй, а яго намеснікаў змясціць, бо яны не маюць моцы весці пасяджэнні, паколькі перайшлі на працу ў прэзідэнцкую вертыкаль. На прэсканферэнцыі Г. Карпенка і З. Пазняк гаварылі, што ўлада хоча сарваць выбары і збіраецца прыняць меры аж да "да фізічнай ліквідацыі" апанентаў.

25 сакавіка Дз. Булахаў у ВС нагадаў Канстытуцыю, якая забараняе ўносіць у яе тэкст змены ў апошнія паўгода паўнамоцтваў ВС і што Лукашэнка можа прапанаваць свае пытанні на рэферэндум толькі новаму ВС. Тады А. Лукашэнка абвініў Булахава ў правядзенні пасяджэння парламенцкай камісіі без кворума яе членаў і заявіў, што адхіленне яго ініцыятывы азначае парушэнне Канстытуцыі. Ён прапанаваў здзелку- ВС прымае тры яго першыя пытанні ўзамен за роспуск ВС і змену размяшчэння калосся ў вянку новага герба. Булахаў параўнаў адносіны Лукашэнкі да Канстытуцыі з маніпуляцыяй "меню у модным рэстаране". Старшыня камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву М. Казючыц, зыходзячы з "літары чалавечага закона", агітаваў за вельмі патрэбны рэферэндум. ВС адклаў абмеркаванне пытанняў рэферэндума да 10 красавіка, каб параіцца з выбаршчыкамі. Вось толькі плён ад такіх парад з народам быў нулявы, бо на сходы і сустрэчы прыходзілі, як правіла, не занятыя працай пенсіянеры.

У прэсе гучалі думкі аб тым, што калі дэпутаты ўладкуюцца ў вертыкалі, то прагаласуюць за рэферэндум, але загвоздка ў тым, што партфелі былі ўжо падзелены. Толькі зараз газеты надрукавалі закон аб ВС, прыняты 21 снежня 1994 г. Ягоны арт. 118 гаворыў: "Забараняецца якім бы то ні было асобам прысутнічаць на пленарных паседжаннях ВС з агнестрэльнай зброяй. Асобы і службачыя асобы, якія перашкаджаюць дэпутату ВС у ажыццяўленні ім сваіх паўнамоцтваў, робяць замах на яго як на прадстаўніка народа, на яго жыццё, здароўе, гонар і годнасць, нясуць адказнасць у адпаведнасці з законам".

29 сакавіка І. Сярэдзіч раскрыў імя ананіма артыкула, які пакрыўдзіў прэзідэнта. Аўтарам аказаўся зусім не аплочаны замежны агент, а настаўніца Плешчаніцкай школы Рэгіна Зімніцкая.

1 красавіка В. Даўгалёў, раней сябраваўшы з апазіцыяй, у "Звяздзе" назваў падпарадкаванне службы кантроля Лукашэнка правільным, бо яна стала надта "незалежнай"-я, маўляў, залежу зараз толькі ад прэзідэнта і кіраўніка яго адміністрыцыі. Ён заявіў, што ў вертыкалі сядзяць "не прэзідэнцкія людзі, а старая наменклатура"

і што Лукашэнка прымаў самы актыўны удзел у стварэнні Партыі народнай згоды.

Газета А. Клімава надрукавала тыражом у 40 тыс. экзэмпляраў даклад С. Антончыка. Суд абязаў Антончыка на сесіі ВС абвергнуць абвінавачванні акружэння Лукашэнкі ў карупцыі, а газеты "Свабода" і "Газету Клімава" на працягу месяца надрукаваць абвяржэнні.

3 красавіка Васіль Шаладонаў папрасіў ВС дазволу на арышт рэдактара газеты "Свабода" Ігара Герменчука за публікацыю вершаванай паэмы (27 снежня 1994 г. і 15 лютага 1995 г), якая зневажае Лукашэнку як прадстаўніка ўлады.

6 красавіка газеты паведамілі, што нейкі ананім званіў аб бомбе на Камароўскім рынку. Там была праведзена эвакуацыя. Здаецца, гэта была першая правакацыя такога роду.

5 красавіка прайшла нарада пад старшынствам М. Грыба старшынь камісій ВС і кіраўнікоў Мінгарсавета і абласных Саветаў, на якой абмеркаваны і ўхвалены 30 пунктаў павесткі дня ХУІ сесіі ВС, намечанай на 10 красавіка.

Павестка: аб дзяржаўных узнагародах;

-аб ратыфікацыі міжнародных дагавораў;

-аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндума і мерах па яго забеспячэнні;

-аб змяненнях у законе пра Канстытуцыйны суд;

-таксама ў законе аб падаткаабкладанні;

-таксама ў законе аб пракуратуры;

-пра пытанні адносна дзяржслужбы;

-таксама адносна выбараў дэпутатаў Саветаў,

-таксама адносна мясцовага кіравання і самакіравання.

8-10 красавіка быў арыштаваны дырэктар тэлеграфграм Бахціяр Бахціяраў за хабар у 590 даляраў. Парламенцкая камісія па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбе са злачынствам (старшыня А. Новікаў) мела намер абмеркаваць 10 красавіка канчатковыя вынікі разгляду фактаў па дакладу С. Антончыка.

8-9 красавіка з'езд БНФ рашыў звярнуцца да беларусаў наконт рэферэндума, які можа "перасварыць і раскалоць" народ і перашкодзіць нармальнай хадзе выбараў. Савет Беларускага саюза афіцэраў ухваліў рэферэндум і раіў дапоўніць пытанні на ім забаронай прыватнай уласнасці і пра двайное грамадзянства. Цэнтрвыбаркам даў кожнаму кандыдату у дэпутаты па 600 тыс. руб., што па курсу у 11500 руб. адпавядала каля 54-55 далярам ЗША.

У гэты дзень Канстытуцыйны суд адхіліў іск камісіі ВС па культуры, адукацыі і захаванню гістрычнай спадчыны аб адпаведнасці

Канстытуцыі прапановы прэзідэнта аб роўнасці моваў, якая паставіла "определенный вопрос, который не входит в компетенцию Конституционного суда". Было заяўлена, што пастанова ВС не ўключана ў пералік нарматыўных дакументаў, якія правамоцны разглядаць Канстытуцыйны суд.

10 красавіка на пачатку сваёй 16 сесіі ВС адразу спыніў паўнамоцтвы 8 дэпутатаў, у тым ліку В. Кузняцова, М. Грынёва. А. Герасіменка. В. Даўгалёва. В. Кучынскага і іншых дэпутатаў з групы т. зв. перабежчыкаў.

А. Лукашэнка выступіў з абідай, што іх убралі з ВС , бо "кому то не хотелось, чтобы эти 8 чел. поддержали предложения президента". "Мы люди государственные…ВС может думать.., не думать.., но два вопроса из четырех, предложенных мною для включения в бюллетени для народного голосования, предполагают некоторые уточнения конституционных положений". Хочаце вы ці не хочаце, але "необходимые изменения в Конституции в этом случае будут производиться Верховным Советом нового состава, а не этим Верховным Советом, то есть правомочным на это законодательным органом. Впрочем, если бы даже референдум состоялся до истечения срока полномочий нынешнего парламента, то в этом случае изменения в Конституции могли бы быть внесены и без утратившего на то право Верховного Совета, поскольку это решение народа." Дэпутаты са здзіўленнем пачулі, што іх раптам пазбавілі тытула "народных" прадстаўнікоў вышэйшай прадстаўнічай праваўладнай установы і голасам народа вяшчае толькі адзін правамоцны на гэта прэзідэнт. А гэты голас смела гаварыў, што саму Канстытуцыю ВС прыняў "без участия народа" , што "народ не менял символику, мы с вами меняли символику непонятно как". Лукашэнка дазволіў дэпутатам працаваць тры дні і потым прасіў разыйсціся: "давайте мы по человечески закончим эти три дня и примем мужественное решение…без всяких там словопрений, словоблудий и внесения дополнительно распечатанных бумаг". На законныя жаданні дэпутатаў унікнуць у пажарныя дзеянні выканаўчай улады, прагучала: "не ваше это дело на складе смотреть. Зачем вам на этих складах смотреть? У нас есть правительство, у вас есть президент. Они посмотрят и ответят, что сегодня лежит на складе и как это реализовать.".

У. М. Станкевіч папярэдзіў, што распусціць ВС можна толькі па заключэнні Канстытуцыйнага суда, бо інакш хто будзе рашаць, ці парушыў ВС Канстытуцыю, калі яго распусціць сам Лукашэнка ?. Гэты гвалт апынецца прававым тупіком, паколькі ў прэзідэнта няма права по Канстытуцыі назначаць выбары і паколькі рэспублі-

ка застанецца ўвогуле без парламента. Галіна Сямдзянава аддала М. Грыбу 70 подпісаў дэпутатаў для ўключэння ў рэферэндум яшчэ 3 пытанняў. А менавіта, 1. Прызнаць беларускую мову дзяржаўнай, а рускую мовай міжнацыянальных узаемаадносін. 2. Ці згодны вы з дзеючай дзяржаўнай сімволікай ?. 3. Ці задавальняе вас выконванне Лукашэнкам перадвыбарчай праграмы ў галіне эканомікі, сацыяльнай абароны грамадзян і барацьбы з карупцыяй?

Уладзімір Леўчык (Светлагорская акруга № 233, старшыня камісіі па дзяржбудаўніцтву) прапанаваў лічыць 1 і 4 пункты лукашэнкаўскіх пытанняў супярэчнымі Канстытуцыі. Д. Булахаў налягаў на тое, што толькі мы "орган, который должен заботиться о судьбе белорусского народа". Ён упікаў Лукашэнку ў ціску і гонцы, паколькі той толькі 2 гадзіны назад даў раздрукоўку сваіх прапаноў, а людзі з яго адміністрацыі, г. зн. Сініцын і Марыскін, маглі прыйсці ў ВС і "без истерик, без паники, без политической трескотни" выпрацаваць узгодненую пазіцыю з ВС. А. Лукашэнка тут жа заявіў, што ён адзывае "сегодня внесенные предложения" і прасіў вярнуцца да старога або першапачатковага праекта ад 22 сакавіка. "Я настаиваю на голосовании по этому проекту". А. Трусаў пачынаў падзеі з патрабавання сваёй фракцыі кампенсаваць уклады насельніцтва. Але прыйшоў прэзідэнт, "сарваў абмеркаванне і падкінуў нам рэферэндум" замест таго, каб расказаць, як ён прадасць заляжалую на складах прадукцыю.

М. Грыб паставіў на паіменнае галасаванне праект пастановы аб прыняцці рашэння пра референдум за аснову. "За" выказалася 159 чал. з 253 прысутных. Значыць, праект быў прыняты. В. Голубеў назваў працэдуру галасавання гвалтам: "ВС і зараз прымушаюць зрабіць яшчэ адну памылку" пад ультыматумам. Яго падтрымаў Д. Булахаў, які назваў усё "правовым безобразием", паколькі прапаноўвалася ледзь не 4 рэферэндумы правесці па розных праектах. Па яго ацэнцы ніякага рэферэндума не будзе, а будзе "просто интерпретация результатов"  Леўчык казаў, што надзяленне Лукашэнка правам роспуска парламента супярэчыць Канстытуцыі і вядзе да "узурпации государственной власти".

Пасля гэтага А. Лукашэнка пачаў элементарныя таргі: "я могу согласиться на консультативный характер только третьего вопроса и никаких других" , але потым заявіў-"пусть будут и третий и четвертый пункт носить консультативный характер ". Ён прасіў дэпутатаў прыняць першыя тры пытанні і тады " я сниму четвертый и не будем проводить реферэндум...и вообще не будет разговоров о референдуме". У такім выглядзе ён прызнаваўся, што галоўным пытаннем у рэферэндуме застаецца яго прага да самад-

зяржаў'я, дамаганне ад дзеючага ВС права яму самому самаўладна ўстанаўліваць правілы палітычнай гульні, на роспуск ім любога наступнага ВС, на прасторныя ўласныя дзеянні без заканадаўчых цугляў.

М. Грыб адмовіўся разглядаць альтэрнатыўныя праекты рэферэндума. Пры галасаванні даты рэферэндума (на 14 мая) "за" выказалася 157 дэпутатаў з 254 зарэгістраваных. Дата, такім чынам, была прынята. Я. Новікаў тут жа назваў гэта "поводом к гражданской войне".

11 красавіка сесія ВС адкрылася ў 9.30 у зборы 225 дэпутатаў з абвінавачанняў С. Антончыкам І. Ціцянкова ў карупцыі. Анатоль Вярцінскі (Ракасоўская акруга № 35 г. Мінска) пашкадаваў, што харызматычны прэзідэнт ідзе "на паваду тых па-экстрэмісцку настроеных рэакцыйных сіл, якія навогул не маюць права гаварыць ад імя народа, ва уяўленні якіх народ-гэта толькі насельніцтва, ды яшчэ рабсіла, для якой, маўляў, няважна, на якой мове гаварыць, якім сімвалам пакланяцца". Ён параіў Лукашэнку калі не адмяніць рэферэндум, то зрабіць яго кансультацыйным па ўсіх 4 пытаннях. Д. Булахаў агітаваў за сваю ініцыятыву дыялога дзеля міра і стабільнасці ў грамадстве ад імя партыі "Усебеларускага адзінства і згоды". С. Навумчык зачытаў наказ выбаршчыкаў да апазіцыі ад 9 сакавіка, патрабуючы прадухіліць ганебны для Беларусі рэферэндум, не ратыфікаваць пагадненняў з Расіяй, адстойваць канстытуцыйны лад, бо Лукашэнка "не выканаў сваіх абацанняў-не спыніў рост цэн, не запусціў заводы, не пачаў рэформы, не знішчыў карупцыю".

Юрый Беленькі ў прамове перадаў змест пагаднення, падпісанага год таму з Расіяй ("Аб пастаўцы расійскага прыроднага газу у Рэспубліку Беларусь і стварэння сістэмы транзітных газаправодаў на тэррыторыі Рэспубліка Беларусь"). У ім гаварылася, што пабудаваныя аб'екты будуць "уласнасцю расійскага акцыянернага таварыства Газпрам", а беларускі бок прымае далявы ўдзел у інвестыванні на канктрактнай аснове і мае долю ўласнасці "за кошт прадастаўлення зямель у валоданне, карыстанне, распараджэнне ці ўласнасць расійскаму акцыянернаму таварыству Газпрам". Газпрам вызваляўся ад мытных пошлін і атрылімаваў права набываць участкі зямлі на правах "суб'екта гаспадарання Беларусі". Аратар назваў падпісантаў злачынцамі, якіх чакае ў будучым суд за гэту дамову. Падобнае гразіла і прыхільнікам рэферэндума. "Вы будзеце судзіцца нашым народам і тэрмін даўнасці на вас не будзе распаўсюджвацца".

З. Пазняк абвясціў заяву аб пачатку галадоўкі ад імя апазіцыі. У сваім выступленні ён сказаў наступнае.

Спадары дэпутаты !

*Мінула амаль пяць гадоў дзейнасці Вярхоўнага Савета, у якім усё вызначала і вызначае былая камуністычна-наменклатурная большасць.*

*Які ж вынік вашай дзейнасці за пяць гадоў, спадары дэпутаты ? Што вы нарабілі, што натварылі ? Пяць гадоў таму у нас быў аднолькавы жыццёвы ўзровень, як у краінах Балтыі. Але краіны Балтыі пайшлі па шляху свабоды і эканамічных рэформаў і цяпер ужо пачынаюць карыстацца пладамі сваёй разумнай палітыкі. Беларусь жа, дзякуючы перш за ўсё вашай дзейнасці, пакаціліся ў жабрацтва, разбурэння эканомікі, інфляцыі. Ад рэформаў адмовіліся, краіну абрабавалі, народ абакралі, маёмасць "прыхватызавалі". У людзей забралі грашовыя ўклады і аблігацыі, не далі ні зямлі, ні працы, ні нармальнага сацыяльнага забеспячэння. На кожную душу павесілі велізарную дзяржаўную пазыку.*

*І што ж прапануеце вы цяпер разам з вашым прэзідэнтам, якога вы прыдумалі, спадары наменклатурныя дэпутаты? Што прапануеце вы цяпер, "пад заслону", у канцы вашай бясплённай, разбуральнай дзейнасці ?*

*Абрабаваўшы народ, вы, топчучы Канстытуцыю і закон, прапануеце яму рэферэндум аб яго святой беларускай мове, аб яго гістарычным сцягу і гербе ва ўмовах жабрацтва, бяспраўя, інфармацыйнай блакады і поўнага беззаконня. Абрабаваўшы народ, вы гатовы прадаць незалежнасць яго Бацькаўшчыны, кінуць яго пад эксплуатацыю і расправу сваёй і замежнай мафіі. Вось вынік вашай пяцігадовай дзейнасці.*

*Мы, дэпутаты апазіцыі Беларускага Народнага Фронту, пратэстуем супраць здзеку над нашым народам, над нашай Айчынай, над Канстытуцыяй і законамі Рэспублікі Беларусь. Вычарпаўшы ўсе магчымасці, у знак пратэсту супраць антызаконнасці і згубнасці вашых дзеянняў, мы аб'яўляем галадлўку тут, у цэнтры гэтай залы, пачынаем яе цяпер, з гэтай хвіліны.*

*Мы патрабуем выканання Канстытуцыі, законаў Рэспублікі беларусь, свабоды слова і ліквідацыі цэнзуры, спыніць рабаванне народа і Бацькаўшчыны.*

*Шаноўная Інэса Міхайлаўна ! Прашу вас прыслаць урача і зафіксаваць пачатак галадоўкі. Прадаўжайце, спадары дэпутаты, сесію.*

М. Грыб тут жа абвясціў перапынак да 10.00 і сабраў нараду прэзідыума на 11.30. Галадоўшчыкі перадалі М. Грыбу тры ультыматыўных патрабаванні: не прымаць прэзідэнцкую ініцыятыву аб рэферэндуме, адмяніць манаполію на СМІ ў руках прэзідэнцкай улады разам з цэнзурай, наказаць людзей з адміністрацыі прэзідэнта за карупцыю.

Пасля вяртання з сустрэчы з Лукашэнкам ён сказаў прысутным, што "ніякіх альтэрнатыўных прапаноў, ніякіх альтэрнатыўных праектаў мы не маем права разглядаць..,ніякіх, ні пісьмовых, ні вусных" , а можам толькі ўхваліць дату рэферэндума А. Трусаў патрабаваў ад А. Лукашэнкі адмяніць указ аб звальненні І. Сярэдзіча і ў знак пратэсту далучыўся да галадоўкі. С. Антончык запытаўся ў Лукашэнкі-ці ведаеце вы, што фірма Пушэ будуе Чыгіру катэдж, чаму не адхілены ад пасады Сініцын, сын якога бярэ ад розных фірм па 10 тысяч даляраў ?. Паколькі судзяць не тых, хто крадзе, а хто выступае супраць крадзяжу, то ён таксама далучыўся да галадоўкі і патрабаваў адстаўкі людзей, якія не маюць права кіраваць краінай.

А. Лукашэнка рашуча заявіў, што "я ни на йоту не отступлю от своих сегодняшних предложений. Не надо сегодня никаких обсуждений. Мечислав Иванович правильно сказал, что вы не имеете права изменить вопросы, которые внес президент". Уладзіміра Новіка, сакратара камісіі па прамысловасці, ён абвінаваціў у двурушніцтве: маўляў, то той кліча да грамадзянскай вайны, то потым ходзіць зусім "золотой и милый человек". Антончыку дасталося за скандалы на судзе з Ціцянковым. "С этой стороны был дебош" , бо 8 разоў "по 90-100 чел. приводили в суд и устраивали там страшную шумиху, так что судью довели до истерики и он просил меня там навести порядок". Г. Сямдзянава заўважыла, што ў павестку дня не ўключана пытанне аб правядзенні рэферэндума па ініцыятыве прэзідэнта. Увогуле, у гэтым парламенце "увесь час выкручвалі рукі дэпутатам" , а Лукашэнка на кожнае выступленне каго-небудзь з дэпутатаў віртуозна адказвае ўласным маналогам. Што гэта за гульня ў адны вароты, спыталася яна. Благаслаўленне рэферэндума Ніл Гілевіч, старшыня камісіі па гістарычнай спадчыне, назваў днем чорнай ганьбы. Уладзімір Сапронаў ахарактырызаваў падзеі ў ВС дамінаваннем палітыкі "над здравым смыслом норм закона", калі, як заўважыў Я. Глушкевіч ўсяго" одна кнопка сработает"  у той ці іншы бок пры адсутнасці дэпутата. У гэтым якраз улічаў Б. Гюнтер калегу С. Барсукова, які прагаласаваў за адсутнага М. Антоненка. Г. Карпенка назваў рэферэндум казырнай картай Лукашэнкі, які стараецца з яго дапамогай зак-

рыць эканамічны правал у сваёй папулісцкай палітыцы. Але гэта абвінавачванне роўным чынам адносілася і да дэпутацкага корпуса ВС. "Мы приняли програму чрезвычайных мер, она заканчивается в июне и из нее ничего не выполнено", а замест реформ "идет пересаживание одних людей, которые завалили реформы, завалили республику, в новые кресла, на новые должности". Ён заклікаў згодных з ім пакінуць зал і зрабіць галасаванне паіменным, каб захаваць прозвішчы адказных "в позоре экономики и политики нашей державы".

На гэты выпад Г. Карпенка А. Лукашэнка адказаў са здзекам, што той не пабудаваў "горад Сонца" ў падкантрольным яму г. Маладзечна і ўвогуле, навошта "эта пыль у микрофонов?". Ён кінуў усім прысутным дэпутатам -"вы нарушили Конституцию. Вы не имели права ставить на голосование мои вопросы. Не надо никаких усилий...не мучайтесь, не терзайтесь…Как бы вы не голосовали,..этот референдум пройдет, как бы тут кто-то не голодал и кто-то не хотел. Они сегодня хорошо поели и могут день голодать...У них нет других методов это провалить…Пусть поголодают, посидят.. Я же не ломлюсь...Я не буду настаивать на обязательном характере третьего и четвертого вопроса. Вот в чем шел вопрос... Два дня осталось. Вы должны быть первым гарантом Конституции ВС, который ее принял. Осталось красиво закончить срок ваших полномочий в Совете" .

Пры галасаванні першага пытання рэферэндума (пра наданне роўнага статуса мовам) з 238 дэпутатаў "за" выказалася 124, "супраць" 6, "устрымаліся" 11 чал. Усяго галасавала 141, не галасавала 97 чал.. Значыць, большасць правaліла першы пункт. Па другому пытанню (аб устанаўленні новых герба і сцяга) "за" галасавала 150, супраць 2, устрымалася 4 чал. Усяго прагаласавала 156. Другі пункт таксама быў адвергнуты. Па трэццяму пытанню (адносна інтэграцыі з Расіяй) за выказалася 180, супраць не было, адзін устрымаўся. Не галасавала 57 чал. Пункт быў прыняты. Па чацьвертаму пытанню (права прэзідэнта на роспуск парламента) за галасавала 86, супраць 10, устрымалася 26. Усяго галасавала 119 дэпутатаў, не галасавала 120. Прапанова не прайшла.

Пры абмеркаванні вынікаў галасавання Я. Новікаў назваў рэферэндум толькі повадам ці зачэпкай да іншага сцэнарыя падзей. Пакрыўджаны такім галасаваннем па рэферэндуму, Лукашэнка гаварыў дэпутатам, што "вы вообще можете не рассматривать его. Никакой крови не будет..Не хочет с вами народ советываться (ибо в воскресенье по вашаму призыву на площадь пришло всего 800 чел.) Единственное на что вы способны, это вот тут сесть,

возле этой трибуны, чтобы вас фотографы сфотографировали и завтра у мижнародную супольнасць направили эти снимки, чтоб еще раз Беларусь трепали, топтали, вытирали ноги. Не трэба им бацькаўшчына, не трэба ім Беларусь. Я-то это знаю. Вопрос ведь не в русском языке. Сегодня это вопрос не геополитики, это стратегия нашего государства...Или мы начинаем ломиться туда, куда нас не пустят, я в этом убедился уже, или мы окончательно сегодня воздадим должное и отдадим народу то, что мы здесь отняли у этого народа, в этом зале, с подачи вот этого деятеля, который там сидит тихонько в конце и улыбается …Вы меня просто толкаете...вот они, стоящие у второго микрофона, у первого… Они пошли накатом на президента, потому что кое-кого сильно прижали..,а здесь же всё повязано. А здесь выборы. А ведь вы знаете, кто туда рвется в эти депутатские кресла. К чему вы меня толкаете?.. К тому, чтобы я пошел на силовой вариант и приостановил подготовку к выборам и выборы в том числе?..Нет у меня никаких амбиций.., но я же не могу вам сказать всего того, что происходит. Нельзя сказать, поскольку завтра в Свободе, в радио Свобода передадут. Здесь, в Верховном Совете, вообще нельзя посерьезному сесть и поговорить. Какой был Верховный Совет раньше? Если надо было решать вопрос, собирались, закрывали дверь, определялись вместе с исполнительной властью, с правительством..,а сегодня я разве могу прийти в Верховный Совет что-то сказать? Збэсцяць, стопчуць, здраднікам обьявят. Аб каго? О главу государства, которого избрал народ. Разве вы Верховный Совет? Уважаемые депутаты. Если не будет соблюдена Конституция в эти последние дни, я говорю это совершенно осознанно, я приостановлю работу Верховного Совета ! Я гарант Конституции. Я не могу позволить вносить в республику раздрай".

А. Лукашэнка з відавочным цынізмам выказаў гэтак сваю настальгію да ўпадабанага непублічнага, негалоснага і закуліснага палітычнага гандлю ў рэчышчы свайго імкнення дзейнічаць на пасадзе прэзідэнта без прававых путаў ВС, разумеючы большасць парламентарыяў як простую машыну для паслухмянага галасавання, без аглядкі на апазіцыю, разглядаючы яе як перашкоду у сваёй пажарнай палітыцы грамадскага выратавальніка. А каб не было ў гэтым сумневу, ён кінуў у залу -"да не жалейте вы их. Вы не знаете их политику. Пусть они те мильярды, миллионы те отдадут, которые им дают кредитом под выборную кампанию. Я вам скоро доложу, что, пусть Сакович раскажет, фирма Ненси 30 или 20 миллионов,.. уточняем сумму.., без всякого разрешения захватывают помещения в Минске, монтируют там оборудование...Кто там это лоббирует ?. Вот они, сидящие здесь, из них"...

Галадоўшчыкі з апазіцыі, такім чынам, вуснамі прэзідэнта смела былі прывязаны да агентуры МВФ, які, аказваецца, патрабаваў да 1 красавіка ўвесці 100 працэнтную аплату камунальных паслуг узамен за другі транш фінансавай дапамогі.

Каб ачысціцца ад пагалоўных абвінавачванняў і прыменшыць галаслоўныя папрокі, А. Лукашэнка заявіў, што яму не па дарозе з тымі, хто пасадзіў ва ўладзе "людей с кривыми мозгами, которые сегодня творят что хотят в этом государстве". "Вся политика Верховного Совета, кроме вот этих,..направлена на дескридитацию власти, на дескридитацию нас, как государства. И вам сегодня неймется, почему Лукашенко, а не Карпенко, не Шушкевіч, не Позняк. Ну уймитесь вы. Ведь тут один человек будет сидеть все равно. Я еще раз подчеркиваю-всеми своими действиями Верховный Совет идет в фарватере вот этих людей. Если Верховный Совет сегодня нарушит Конситуцию.., я приму решение о приостановлении деятельности Верховного Совета. Ваш час тоже прошел, а вы никак не можете это понять...Я не накрал.., я ничего не взял у этого народа…Мы с вами виноваты в том, что происходит. Мы разрушили страну, мы же были как единый комплекс. Сегодня на Беларусь смотрят как на центр славянского мира, откуда может пойти возрождение этого славянства.. Мы дожны спасти эту славянскую цивилизацию вместе в руским, украинским народами. Я к вам не могу прийти посоветоваться и попросить помощи, потому что вы никогда мне не поможете.. Вы назначили дату референдума. Больше Конституция от вас ничего не требует. Все остальное сделает сам президент. Ни на какие больше уступки, ни на какие больше соглашения с Верховным Советом я не пойду. Не сочтите, что я вам спину тут показал. Может я кого-то обидел и по должности и по трудоустройству,". бо ўчора Бамбіза даў мне вялікі спіс депутатаў, якія "готовы сегодня работать с президентом и его поддерживать. Я обещаю вам, что все люди, ни один депутат, который работал на постоянной основе, ни один, каких бы он политических убеждений не придерживался, не останется за бортом нашей жизни... Вам осталось работать два дня. Спасибо вам большое за сотрудничество. Сегодняшнее ваше решение...это досадная ошибка Верховного Совета. Но, уважаемые депутаты, вы потеряли шанс, последний шанс перед собственным народом сделать то, что хочет народ, что требует народ от вас. Вы этот шанс упустили. Всего вам доброго". На гэтым прэзідэнт развітаўся, пакідаючы часу доказы сваіх абяцанняў і непрыхаваных пагроз. У пасяджэнні ВС быў абвешчаны перапынак да 12 гадзін.

Пры галасаванні пастановы ВС аб парушэнні Лукашэнкам Канстытуцыі пры звальненні сваім указам ад 17 сакавіка І. Сярэдзіча, з 233 дэпутатаў выказалася за 120, супраць не было, устрымалася 5 асоб. Не галасавала 108 чал.. Пастанова не прайшла і далей не абмяркоўвалася. У наступным дэпутаты абмеркавалі акты прыватызацыі, адтэрмінавалі тэрмін набыцця чэкаў да 1 студзеняі 1996 г. і вызначылі іх пагашэнне ў 2000 г. Яны хацелі зняць налог на дабаўленую вартасць, што некаторыя (к прыкладу Ю. Беленькі, В Голубеў і Цялежнікаў) ацанілі як знішчальны падкоп пад экспартны патэнцыял краіны.

У адказ на крытыку уласных прывілеяў, ВС запісаў у арт. 114 закона аб ВС, што пры датэрміновым спыненні дэпутатам сваіх паўнамоцтваў у любы час, нават пры назначэнні на пасаду па асабістай заяве, ён захоўвае права на дэпутатскую пенсію, а не пасля сканчэння тэрміну паўнамоцтва ВС адпаведнага склікання. Дэпутаты маглі атрымліваць пенсіі на 8-10 гадоў раней агульнапрынятага узроста, прычым у павялічаным памеры.

У 16.00. галадоўшчыкі даведаліся і перадалі М. Грыбу сваю заяву аб тым, што "з боку спецслужбаў, прэзідэнцкай адміністрацыі і сілавых утварэнняў ноччу магчымыя дзеянні, якія пярэчаць нашаму канстытуцыйнаму праву на свабоднае волевыяўленне і парушаюць дэпутацкую недатыкальнасць. Просім забяспечыць нашу ахову і выкананне законаў і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь."

У 21.30 да іх прыйшоў начальнік аховы будынкаў Дома урада Міхаіл Цесавец і начальнік аховы прэзідэнта Вечаслаў Каралёў. Яны паведамілі пра ананімны званок аб міне і папрасілі галадоўшчыкаў ачысціць залу. У 23.30 яны узнавілі спробу і ў суправаджэнні 20 чал. са спецслужбаў хацелі сілай вывалакчы Б. Гюнтэра. Журналістка Алена Радкевіч сядзела ў гэты момант за сталом прэзідыума ВС каля настольнай лямпы і рабіла рэпартаж. У яе выцягнулі касету з дыктафона і вывелі, як гаворыць С. Навумчык, у 23.00. Калі яе выводзілі з залы і спыталіся, чым яна займалася тут, яна адказала, што лячыла душы. З гэтага ў пратаколе запісалі: "Прадставілася медыцынскім работнікам". Сам Навумчык у 24.30. даваў інтэрв'ю праз цэнтральныя дзверы журналістам і пабачыў лукашэнкаўскі мерсэдэс. Тое ж бачыў і А. Трусаў. Кожнае з'яўленне Цесаўца суправаджалася здымкай на 2 відэакамеры. Сапёры мін не знайшлі, аб чым падпісалі пратакол з галадоўшчыкамі. Аднак пасля невялікіх прыгатаванняў у залу уварваўся спецназ і пачаў збіццё заснуўшых дэпутатаў. Далейшыя падзеі красамоўна, з невялікімі адрозненнямі, паказваюць сведчанні пацярпелых дэпутатаў.

12 красавіка сесія адкрылася з аповяду М. Грыба пра тое, што яму раніцай расказалі самі галадоўшчыкі пра начныя падзеі, прынамсі пра тое, што сапёры працавалі да гадзіны начы, а ў 3.30 галадаючых дэпутатаў вайскоўцы вывелі прымусам. У 8.00 раніцы Л. Сініцын папярэдзіў М. Грыба, што сапёры яшчэ не скончылі агляд будынка ВС і будуць працаваць там да 12.00. Грыб пазваніў Лукашэнку і пачуў у адказ, што ў 12.00. пошукі міны завершацца і ўсё будзе падрыхтавана для працы ВС.

Пацярпелыя дэпутаты С. Навумчык і Б. Гюнтэр паспрабавалі наладзіць прэс-канферэнцыю ў Мінскім Гарсавеце, куды ім удалося прайсці з трыма журналістамі. Затым яны рашылі зрабіць гэта ў ВС, каб прадэманстраваць пабоі для пераканаўчасці. Аднак у Дом Урада пускалі толькі праз яго правае крыло і па спісках паставых. Абураны Мікалай Маркевіч амаль пратараніў кардон і следам за ім у залу пасяджэнняў "з боем" прарваліся астатнія дэпутаты апазіцыі.

І. Пырх рашуча заявіў, што за начным здарэннем "однозначно встал вопрос об импичменте" Лукашэнка. Уладзімір Сапронаў (Салігорска-Ленінская акруга № 89) з гневам крыкнуў: "моей ноги тут не будет и я уезжаю". Грыб схадзіў да Лукашэнкі і перадаў таму пра настроі ў залі - той дазволіў дэпутатам працу, сказаў, што не даваў каманды не пускаць іх у залу пасяджэнняў, што ён будзе прымаць меры пры парушэнні парадку і абяцаў паказаць дэпутатам здымкі відэкамеры. Ён прасіў паслухаць начальніка аховы будынкаў М. Цесаўца і міністра абароны Анатоля Кастэнка.

А. Кастэнка гаварыў, што ў 20.10. аператыўны дзяжурны штаба міністэрства абароны атрымаў звонок з МУС пра міну у будынку кабінета міністраў. Туды праз 2 гадзіны прыбылі на 3 машынах 2 групы сапераў-адна ад 120 мотастралковай дывізіі і адна ад брыгады грамадзянскай абароны, што ў Ваколіцы, з 3 афіцэрамі. Следам прыбыў начальнік інжынерных войск МА, які разам з Кастэнка знаходзіўся ў правым крыле Дома ўраду. Па словах міністра, вайскоўцы не маглі нармальна працаваць, бо ім каля будынка перашкаджалі 2 групы карэспандэнтаў (10 чал.) з камерамі, а менавіта тым, што тыя ўсё фатаграфавалі і здымалі "в надежде на то, что здесь будут приняты какие-то серьезные провокационные действия, насильственные действия". Таму вайскоўцы шукалі міну візуальна, без спецпрыбораў і "мы настаивали на том, чтобы здание было освобождено". Да 4 гадзін раніцы ім удалося праверыць толькі падвал і гарышча. Паколькі такая праверка была неякаснай, Кастэнка даў каманду паўтарыць яе "и тот первичный акт был мной аннулирован". Было вырашана праверыць

кожнае крэсла і на дзіва "под креслом спикера мы нашли корреспондента". Сапёры завершылі пошукі да 23.00 і па выніках агляду быў састаўлены акт. Пад час іх рэвізіі "президент находился у себя в резиденции. Здесь никого не было, кроме милиции" , а ў 22.30. "тут никого не было".

Гэтыя сцвярджэнні сустрэлі пратэсты. Г. Сямдзянава заявіла, што ў гадзіну начы тут быў Лукашэнка разам з Ціцянковым і Сініцыным, быццам бы мела надта істотнае значэнне адкуль канкрэтна праводзілася вайсковая аперацыя. А. Трусаў падзякаваў двум палкоўнкам, якія праверылі залу з 22.35 да 00.41 начы, пасля чаго быў падпісаны акт усімі, у тым ліку ім, Трусавым, і Б. Гюнтэрам. Па словах Трусава, Цесавец забраў гэтыя акты і сказаў - "усё нармальна, спіце спакойна". . В. Алампіеў (Пінска-паўночная акруга № 134) ацаніў пачутае як "первый шаг фашизма" , з чым пагадзіўся і В. Голубеў. С. Навумчык апавядаў, што ён з І. Герменчуком у калідоры у 22.00. бачыў стэнаграфістак, якіх "ніхто не эвакуіраваў", а ў 1.20. каля прэзідэнцкага пад'езда заўважыў прэзідэнцкі мерседэс са сцяжком у чахле, другі мерседэс прыкрыцця і 2 машыны ДАІ, з чаго ён заключае, што Лукашэнка быў у гэтай рэзідэнцыі і ўласна кіраваў ачысткай дэпутацкай залі. Кастэнка шпарка выгукнуў з месца: -не, не было ніякіх мерсэдэсаў.

М. Цесавец гаварыў, што ў камендатуру Дома урада пазваніў дзяжурны УУС Мінгарвыканкама пра тое, што ў 20.09. ён атрымаў ананімны званок пра міну у Доме урада. У 20.35. Цесавец патэлефанаваў М. Грыбу, які "рекомендовал мне эвакуировать весь персонал.., в том числе и депутатов". Цесавец павёў дарэмныя дыскусіі з галадоўшчыкамі. У 22.17. прыбылі саперы на чале з намеснікам камандзіра в/ч № 3310 палкоўнікам Хасіевым Валерыем Заборавічам і намеснікам начальніка управы грамадзянскай абароны палкоўнікам Міцкевічам Уладзімірам Сяргеевічам. Каля 23.00. Цесавец звязаўся з Лукашэнка, пра што ён далажыў і депутатам. Падпісаных Трусавым актаў "я в глаза не видел и в руки не брал". Галадоўшчыкі ж "угрожали кровопролитием". У 23.30 у будынак праз яго правае крыло ўварваліся 15 чел. на чале з дэпутатам Какоўка Віктарам Фёдаравічам і яго братам Васілём, намеснікам дырэктара акцыянернага таварыства. Вялі сябе яны не як дзёрскія вызваліцелі, бо былі затрыманы "в пьяном виде", а Васіль з лаянкай пагражаў расправіцца з міліцыяй , пра што быў складзены акт. Затым у 2. 40 сіламі спецпадраздяленняў МУС депутаты былі адпраўлены у машыны і дастаўлены "в указанные ими места в центре города.. Работы были закончены к 12 часам". Цесавец дадаў яшчэ, што з 18.00. да 23.00 у зале, пад мяшкамі ў

прэзідыуме, хавалася журналістка радыё "Свабода" Радкевіч Алена. Яна была "выдворена в очень культурной форме".

Затым прагучалі выступы В. Голубева, падрабязны расказ І. Герменчука і дэманстрацыя А. Шутом збітай спіны. У 16.00 З. Пазняк заявіў, што ўначы адбылося "злачынства. Гэта-Уругвай" і прапанаваў праект пастановы пра замах на депутацкую недатыкальнасць. Ён сказаў, што апазіцыянеры пакідаюць парламент і працягнуць галадоўку у іншым месцы.

А. Лукашэнка сказаў, што ён "знал что происходило и каждые 30 минут был информирован министром обороны". Аказваецца, "никто тут не голодал..", аднак потым прагучала, што галадоўшчыкі ўсё ж такі "опозорили этот Верховный Совет, которому осталось два дня работать". Пра міну Лукашэнка даведаўся ад Л. Сініцына "и я обещал ему приехать"непасрэдна на месца. Затым з рытмічнай паслядоўнасцю паўтараецца самаабвяржэнне: "я ни на каких мерседесах сюда не ехал". Лукашэнка загадаў нікога з дэпутатаў з залы не выпушчаць, а таму "они просто физически не могли куда-то пройти, выйти ", каб нешта пабачыць звонку. Лукашэнка загадаў Цесаўцу "постоянно информировать спикера нашего парламента о том, что здесь происходит. Я абсолютно не препятствовал никаким действиям МВД, спецпадрозделениям, которые эвакуировали отсюда людей. Я просил..- ни в коем случае не царапните этого человека, поскольку будет гвалту на весь свет.., проводите их спокойно..,может образумятся, сами выйдут... Бегало 4 групы журналистов во дворе и двое хотели прорваться. Нужна была эта заварушка, чтобы показать всему миру-вось, глядзице, дыктатура ў цэнтры Еўропы…Когда их пришли эвакуировать, они все уже были одеты. Их препровождали по три человека в машину. Я говорю, больше машин пригоните. Отвезите домой. Это же режимное государственное учреждение.. Кто дал право сюда эту женщину затащить и спрятать под кресло Мечислава Івановича Гриба и этими мешками прикрыть?... Ну, жиманули где-то.., чего вы плачете? Мы это покажем всему народу. Мне Тесовец со слезами на глазах позвонил около 12 часов ночи и сказал, Александр Григорьевич,, не получается по-хорошему, повынимали ножи, достали лезвия. Первое, говорят, вскрываем вены. Отрезаем себе головы и вас повырезаем, кровью зальем здесь все. Мы покажем народу пленочку по митингу в воскресенье, когда (они) вывели людей, не спросив разрешения, собрав их у Верховного Совета. Это единицы здесь. Я имею право требовать порядка в своей резиденции. Если хотите, в своем доме. Некоторые по-

зволяют себе в креслах закусывать. Почему вы их не осудили ? Я убедительно прошу генерального прокурора возбудить уголовное дело по этому вопросу и в рамках уголовного дела рассмотреть все эти деяния.. Вы получите от президента полную поддержку.. Президент знал об этой операции и спасал этих голодающих людей.. Мною не движет желание установить какую-то диктатуру, но...зачем мы избрали президента? Вы же помните чем мы мотивировали эту главу нашей Конституции, что пора заканчивать этот раздрай. Я не просто должен демонстрировать меры. Я должен демонстрировать власть. Я обязан... вам об этом сказать в последние эти дни. Я им больше не позволю здесь голодать.., в государственных учреждениях голодовок и нарушений порядка не будет"..

Затым Лукашэнка заявіў, што знятая відэаплёнка "приводится в соотвествие с тем, что мы должны вам показать ее на телевидении. Мы вам ее покажем" разам з прокурорам, "если он рискнет возбудить уголовное дело". Дэпутаты зноў пачулі, што ім засталося працаваць два дні , хаця "у меня совершенно иной был план окончания этой работы.. Мы позавчера с Леонидом Георгиевичем обсуждали его. Верховный Совет все равно должен быть. А вдруг какое несчастье. А вдруг чрезвычайное положение?. Вы думаете, что президент бы вас куда-то выкинул и никогда сюда не пригласил?. Да я первым бы вас сюда пригласил и собрал. Такой был план. Не разгонять, не выгонять". Папрасіўшы расійскіх журналістаў сабрацца і хуценька выдаліцца ў Маскву, каб не "нагнетать ситуацию", Лукашэнка вельмі папрасіў дэпутатаў-"не надо уже никаких законов, каких-то актов нормотворческих. Я прошу вас ратифицировать договор с Российской Федерацией. Это не НДС. Мне стыдно сегодня. Проголосуйте этот договор. Дайте мне этот правовой коридор…Они все равно уже введены в действие, никто не будет спекулировать, что тут уклон какой-то на Восток..Не надо от меня тут требовать и пальцем трясти.. Я не могу более широко сказать…Мы узлы начали вязать давно и не я в этом виноват. Давайте сядем вместе, обсудим. Вы не сели за стол со мной.. У меня есть полное право 14 мая заявить..- в марте заканчиваются ваши полномочия. Я не знаю, какой будет новый Верховный Совет и будет ли он вообще.., а вдруг чрезвычайные какие-то обстоятельства". Завяршалася гэта рванае жангліраванне дыхтоміямі пранікнёнай парадай дэпутатам аб тым, "чтоб они дрожали, заходя в этот зал, но не от страха, а потому, что заходят в святое место…" У канцы дэпутатам было прапанавана раз'ехацца "па людску".

Пасля такой апрацоўкі за дагавор з РФ з 222 прысутных дэпутатаў "за" прагаласавала 197, адзін выказаўся супраць і 4 устрымалася. За ратыфікацыю дагавора выказалася 207 чал., не галасавала 16 чал..

13 красавіка Савет прафсаюзаў адкрыта падтрымаў апазіцыю. У 8 гадзін раніцы невядомая кінулася на станцыі плошча Перамогі пад поезд. Яна засталася жывой, але без нагі. У 16.00 у другую апаратную тэлебачання ананімы пазванілі пра чарговую бомбу. Эвакуацыя праводзілася там без спынення эфіру.

Газеты, к прыкладу "СБ", афармілі перадавіцы і падавалі сесію ВС як апошнюю. Там змясцілі здымак пра ўрачыстае фатаграфаванне прэзідэнта з ВС, што адбылося ў 12.00 пряма ў залі, і паведамлялася пра развітальны прыём у буфеце , куды Лукашэнка запрасіў на банкет, па яго ўласных словах, "весь зал за счет государства".

Дэпутаты пачулі ад прэзідэнта чарговае абвяржэнне папрокаў, "что я тут опять диктатура" з папраўкай на тое, што ён прымусіць працаваць таго, хто не хоча , што апазіцыянеры спынілі галадоўку з-за прадчування, што "в новом парламенте от этой опозиции БНФ вообще ни одного не останется". Паколькі небяспечны вораг выгнаны, то "я думаю вы поддержите и в любое время соберетесь..-,поддержите президента в проведении жестких мер по отношению к тем, которые сегодня пытаются эти страсти накалить". Затым дэпутаты прагаласавалі за сумесную ахову мяжы з РФ: з 232 "за" выказалася 187 чал., 4 устрымаліся, не галасавала 41 асоба. Уладзімір Грыбанаў паставіў пад сумнеў права Расіі на бясплатнае карыстанне небам Беларусі, аэрадромаў і атрымання навігацыйнай інфармацыі. Лукашэнка парыраваў на гэта тым, што Расія дасць вялізныя грошы на абсталяванне мяжы і паліўныя рэсурсы па сваіх унутраных цэнах. Гэта ўразіла. Лукашэнка папрасіў ратыфікаваць дагавор з Расіяй і праз 5 мінут яго ратыфікавалі: 197 чал. выказалася "за". Адкрыта супраць гэтага гаварылі С. Шушкевіч і Міхаіл Коган. Іван Герасюк прапанаваў прыцягнуць да крымінальнай адказнасці ўсіх дэпутатаў, прагаласаваўшых за рэферэндум, калі на ім узнікне братазбойчае грамадскае процістаянне. М. Дземянцей пасумаваў па зыходзе Вярхоўнага Савета ў гісторыю з яго палітыкамі "широкого профиля", якіх "сегодня уже на семечках поймать нельзя, на каких, как говорят, воробьев ловят ". Г. Карпенка сказаў дэпутатам "грешникам..- здесь не молебенный дом.. Вон к отцу Виталию в Витебскую область со свечкой, отмаливайте свои грехи 1990 и 1991 годов вместе со своим лидером Михаилом Сергеевичем Горбачевым". У заканчэнне ВС ух-

валіў дзень 7 лістапада як свята, прыняў амністыю прыкладна 13 тыс. зняволеных у гонар 50 год перамогі.

У пастанове ВС ад 13 красавіка аб правядзенні рэферэндума (14 мая) і мерах па яго забеспячэнню фігуравалі 4 пытанні:

1. Ці згодны вы з наданнем рускай мове роўнага статуса з беларускай.

2. Ці падтрымліваеце вы устанаўленне новага сцяга і герба.

3. Ці падтрымлівеце вы дзеянні прэзідэнта, накіраваныя на цесную інтэграцыю з Расіяй.

4. Ці згодны вы з унясеннем змен у Канстытуцыю, якія прадугледжваюць датэрміновае спыненне прэзідэнтам паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета ў выпадку сістэматычнага або грубага парушэння ім Канстытуцыі.

Першыя тры пазіцыі насілі абавязковы характар, а 4 пункт быў абвешчаны рэкамендацыйным.

У гэты ж дзень Канстытуцыйны суд пачаў слухаць указы Лукашэнкі аб стварэнні Кіраўніцтва справамі прэзідэнта ў частцы, дзе гаварылася пра перадачу яму Дома друку, пра стварэнне Дзяржнацтэлерадыёкампаніі і пытанні Нацдзяржэлерадкампаніі па іску 84 дэпутатаў (у тым ліку С. Навумчыка, А. Трусава. В. Малашкі, М. Кржыжаноўскага і П. Садоўскага), якія назвалі новую кампанію парушэннем Канстытуцыі, якая забараняе цэнзуру і манапалізацыю сродкаў інфармацыі. Дакладваў Міхаіл Пастухоў. Спрэчкі вяліся з начальнікам дзяржаўна-прававога упраўлення адміністрацыі прэзідэнта Аляксандрам Марыскіным і старшынёй телекампаніі Рыгорам Кісялём. Марыскін казаў, што тэлекампанія і Дом друку з'яўляюцца сродкам не масавай інфармацыі, а толькі "спецыфічным органам дзяржаўнага упраўлення".

Адзін з прапрэзідэнцкіх рупараў - газета "Советская Белоруссия"- адразу апраўдала жорсткія меры прэзідэнцкіх сілавікоў ў Авальнай зале ВС, паколькі гэтае месца зусім не гасцініца, бо апазіцыянеры галадавалі "на рабочым месцы ўрада і прэзідэнта" і да ўсяго менавіта іх галадоўкай Беларусь прадстала перад светам "как некая банановая республика". Апазіцыйная "Свабода" рэзка адрэгавала на мінулы гвалт грымучымі артыкуламі: найперш публікацыяй выступу З. Пазняка перад галадоўкай і публіцыстычным роздумам Васіля Быкава. В. Быкаў акрэсліў падзеі красамоўнай назвай- "Краінай закіруе прэзідэнцкая хунта", якая дзейнічае па сцэнарыю "фашысцкага перавароту", бо "кішэнны, па сутнасці паслухмяны, ВС стаў..перашкодай..да устанаўлення асобнай дыктатуры. Ужо відаць, што на Беларусі не будзе парламенту, ня будзе выбараў, знікнуць рэшткі вольнай прэсы".

І. Герменчук у гэтым жа нумары апавядаў пра выдаленне галадаючых з ВС наступным чынам.

"21.00. У залу парламенту заявіўся начальнік аховы Дома ўраду палкоўнік М. Цесавец разам з начальнікам прэзідэнцкай службы аховы В. Каралёвым, які паводзіў сябе вельмі нахабна, заяўляючы дэпутатам, што "после 14 мая мы с вами разберемся". Палкоўнік Цесавец пачаў тлумачыць мэту візіту; " На пульт міліцыі ў 20.11 паступіў ананімны званок, што Дом урада замініраваны. Мы эвакуявалі ўжо ўвесь персанал, засталіся толькі дэпутаты. Але і вы таксама павінны пакінуць будынак. На вуліцы стаяць аўтобусы, якія завязуць вас дадому. Мы вымушаныя эвакуяваць усіх дэпутатаў. Я гаварыў з Грыбам, ён згадзіўся".

Дэпутаты катэгарычна адмовіліся пакідаць залу, бо ўсе выдатна разумелі, хто "замініраваў" будынак і дзеля чаго. І зноў пачалася байка пра міну: "Прэзідэнт загадаў, каб дэпутаты вызвалілі памяшканне, бо знаходзіцца тут небяспечна", - сказаў Цесавец і яшчэ некалькі разоў падкрэсліў, што ён усё адно вымушаны будзе "выканаць загад прэзідэнта". Дэпутаты заявілі, што калі сапэры хочуць праверыць памяшканне, яны могуць гэта зрабіць, ім ніхто не збіраецца перашкаджаць. А Цесавец сваё: "Усё адно вызвалім памяшканне". На тым і развіталіся.

Але ўсе мы разумелі, што ў хуткім часе яны зноў вернуцца.

Істотная дэталь: як тольк з залу увайходзіў Цесавец, на балконах адразу ж заяўляліся два тыпы зъ відэакамерамі, якія фіксавалі ўсё, што адбывалася тут. А тым часам Цесавец спецыяльна паводзіў сябе так, каб справакаваць дэпутатаў хоць на нейкія сілавыя дзеяньні супраць яго.

23.00. Дэпутаты пачалі разварочваць спальныя мяхі, коўдры, каб класьціся спаць. Вырашылі, што дзяжурыць будзем па чарзе. На гэты момант мы не толькі здагадваліся, але ўжо нават мелі інфармацыю, што яны абавязкова будуць спрабаваць выселіць нас з дапамогаю сілы.

23.20. У парламенцкую залу завалілі прыкладна 10 міліцыянтаў (ад падпалкоўніка і ніжэй) і чалавек 15-20 маладых хлопцаў у скураных куртках. На чале былі ўсё тыя ж Цесавец і Каралёў. Усе дэпутаты селі ў крэслы. Цесавец заявіў, што цяпер ён прыйшоў, каб выводзіць нас сілай. Двое ягоных людзей схапілі за рукі дэпутата Гюнтэра і пачалі цягнуць, але калегі, якія сядзелі побач, не далі. Хлопцы адступілі. Тады да Гюнтэра кінуліся Цесавец і Каралёў і пачалі зноў цягнуць яго. Было бачна, што ўласным удзелам у акцыі яны хацелі падняць баявы дух сваіх падначаленых. Мы зноў паўтарылі ім: памяшканне не пакінем, любое ўжыванне

сілы супраць нас- гэта беззаконне, сапэры могуць свабодна шукаць "вашую міну".

Два войсковыя палкоўнікі, якія прывялі сваіх сапэраў, сказалі, што могуць праверыць залу і ў прысутнасці дэпутатаў. Па выніках праверкі яны склалі акт, які падпісалі самі (усе салдаты і афіцэры), а таксама папрасілі падпісацца некалькі дэпутатаў. Гэта было ў 0. 41. Як толькі "госьці" пакінулі залу, адразу патухла святло.

Недзе пасьля першай гадзіны начы нам патэлефанавалі журналісты, якія знаходзіліся каля Дому ураду, і паведамілі, што яны бачылі, як прыехалі Лукашэнка, Сініцын, Ціцянкоў і ў кабінэце прэзідэнта запалілася святло.

Дэпутат Дзейка заняў месца дзяжурнага (у крэсле Грыба), астатнія паклаліся спаць.

2. 35. Дэпутат Голубеў пачуў як па лесьвіцах за залаю і ў фае шоргаюць боты, потым данеслася лязганне зброі. Ён прыадчыніў дзьверы і пабачыў поўнае фае ўзброеных людзей і "чорныя маскі". "Салдаты са зброяй" - крыкнуў Голубеў, і ў гэты момант у залі запалілася святло. М ы хуценька апрануліся і селі разам у левы сектар прэзідыуму.

2.48. У залю увайшлі Цесавец, Каралёў і з імі невядомы чалавек у паўвайсковым адзенні: "Вам даецца пяць хвілін, каб пакінуць памяшканне. Не губляйце час"- заявіў Цесавец. Ад нас яны пачулі ранейшы адказ. Каралёў нахабна кінуў: "у вас засталіся тры хвіліны." Пасьля гэтага яны развярнуліся і пайшлі на выхад.

2. 51. Цесавец даў каманду і ў момант расчыніліся ўсе дзьверы, у залю уварваліся прыкладна 200 чалавек: першымі да нас беглі грамілы ў чорных масках і цёмных камбінэзонах, за імі спецназаўцы у шлемах, рэсьпіратарах з дубінкамі і аўтаматамі (за сьпіною), а па пэрыметры залы сталі аўтаматчыкі. Накінуліся з усіх бакоў. Выцягвалі спачатку тых, хто сядзеў з краю. На Пазьняка адразу ўскочылі трое, пачалі душыць, круціць галаву, упіўшыся пальцамі ў вочы. Пакуль дацягнуліся да мяне, удалося сарваць некалькі масак. Але потым - удар у спіну, схапілі і пацягнулі (за рукі, за ногі). У нейкі момант удалося вырваць адну нагу. Тады схапілі ўжо чалавек шэсьць. Нейкі падонак пачаў біць кулаком у твар. Адчуў, што палілася кроў...

Усіх дэпутатаў выцягвалі ў двор, але праз розныя выхады. На ўсіх лесьвіцах плячо ў плячо стаялі міліцыянты. І ў фае заставалася яшчэ безьліч спецназаўцаў.

Мяне кінулі ў жоўты міліцэйскі "ўазік" уперад нагамі. Бразнулі дзьверы і машына выехала ў горад. Нас было пяцёра: Садоўскі, Трусаў, Баршчэўскі, Шут і я. "Хто дзе жыве" ? - запытаўся чала-

век у скуранцы, які сядзеў побач з кіроўцам. Мы заявілі, каб вёз у Пракуратуру Рэспублікі. Такі варыянт яму, безумоўна, не падабаўся, але ў рэшце рэшт мы ўсё ж пад'ехалі да пракуратуры. Выклікалі дзяжурнага пракурора. Прыехала хуткая дапамога.

Астатніх 13 дэпутатаў павыкідвалі каго дзе. Прыкладна а палове пятай раніцы мы ўсе сабраліся ў гатэлі "Кастрычніцкі". Адтуль пайшлі ў прэзідэнцкую "лечкамісію" здымаць пабоі.

Праз некалькі гадзін правялі прэсканферэнцыю, матар'лы зъ якой, як вядома, практычна не патрапілі ў беларускую прэсу.

Цяпер, напэўна, гэтая хранікальнасць падзеяў ужо не зьяўляецца надта актуальнай. Аднак яе трэба было выкласьці хацяб таму, што ніводная беларуская газэта гэтага не зрабіла.

Нашая прэса не паведаміла таксама, як раніцай 12 красавіка сілы амону і міліцыі разганялі людзей, якія дачуўшыся пра начныя падзеі, сабраліся паблізу пляца Незалежнасці пад бел-чырвона-белымі сьцягамі. Амон таптаў нагамі жанчын, старых людзей...

Ясна, што на гэтым Лукашэнка ня спыніцца. Ён са сваёю бандай ужо перайшоў тую мяжу, перад якой яшчэ можна было спыніцца".

18 красавіка у Канстытуцыйным судзе Рыгор Кісель спавядаў, што атрымаў відэаплёнку начных падзей у ВС і перагнаў яе для паказу на сваю апаратуру, што запісу было мінут на 20-30, якую "здымалі бытавой камерай, не прафесійнай" дзеля таго, каб потым "не гаварылі, што некага ўдарылі, парэзалі ці пабілі". Гэтыя сцвярджэнні пярэчылі паказанням саміх збітых дэпутатаў і быццам бы сведчылі пра лагодны план іх першапачатковай "эвакуацыі", які нібыта парушылі выканаўцы, што і прымусіла схаваць кампраметуючы відэазапіс або сфальшаваць яго. Відаць, прадставіць стужку у прывабным духу не ўдавалася з-за наяўнасці ўжо агалошаных сведчанняў. Валянцін Жданько са "Звязды" гаварыў з тымі, хто бачыў у апаратнай відэаплёнку.

19 красавіка Лукашэнка даў інтэрв'ю карэспандэнту "Независимой газеты" М. Петрыкееву у якім ён, як гэта характэрна для яго не першы раз у падобных імправізацыях, прагаварыўся пра матывы і мэты сваіх бягучых дзеянняў наступным чынам: "мы должны создать нормальное человеческое общество, свободное от всяких идеологических и националистических нагромождений и юридических пут". Хаця якраз нармальнае грамадства не свободна ад падобных пут, Лукашэнка называў дарэмнымі спробамі разглядаць "мои меры по наведению порядка как возврат к бесправию тоталитарной эпохи... Напоминаю, что по моему настоянию в Беларуси была введена мажоритарная избирательная сис-

тема в чистом виде", г. зн. без выбараў по партыйных спісах. Ён абвінаваціў дэпутатаў ВС за тое, што яны прысвоілі месца КПСС і што дзякуючы манапольнаму становішчу яны дазволілі самі сабе "даже до пенсии не работать и получать при этом 60 % своей нынешней зарплаты", паклапаціўшыся пра ўласную недатыкальнасць на працягу пяці гадоў пасля выхаду са складу ВС. Ён паганарыўся ўласнымі высілкамі па скарачэнню гэтых льгот да двух гадоў, бо цяпер "без президента у нас ни одно решение особо не принимается".

У гэты ж дзень З. Пазняк, В. Голубеў, А. Трусаў, С. Навумчык правялі прэсканферэнцыю. Пазняк патлумачыў мінулыя падзеі ў начной залі ВС жаданнем Лукашэнкі застрашыць дэпутатаў ВС, каб "працягнуць праз парламент усе свае авантуры, якія пазбаўляюць нашу краіну суверэнітэту," каб сарваць выбары і давесці краіну да стану грамадзянскай вайны. Ён назваў прыдворную каманду Лукашэнкі людзьмі, якія "здольныя праліць кроў, здольныя забіваць". Журналіст Сяргей Дубавец дык увогуле мяркаваў, што рэферэндум спатрэбіўся Лукашэнку, каб далучыць Беларусь да Расіі на правах губерні і праз год выставіць там сваю кандыдатуру на прэзідэнцкіх выбарах. Гэтая тэза затым прывабіла палітолагаў.

Сярод аналітычных каментарыяў пра лёс ВС 12 склікання В. Цыганкоў называў яго панаваннем шэрасці, бо грамадскасці вядомыя толькі дэпутаты з апазіцыі і начальнікі папулістаў. Астатняя агрэсіўна-паслухмяная большасць уяўляла "мора шэрых касцюмаў і самазахопленых твараў", галоўным правілам паводзін якіх быў прынцып "не высовывайся", якія націскалі кнопкі галасавання з аглядкай на суседа, якія без абмеркаванняў штампавалі патрэбныя наверсе рашэнні і якія марылі, каб ніхто не перашкаджаў іх дружнаму галасаванню "дэструктыўнымі пытаннямі і непатрэбнымі папраўкамі". Гэтая камуністычная "угодніцкі-бяздумная шэрасць" адмецілася беспрынцыпнасцю, бо яна забараніла сваю ж Кампартыю і потым яе аднавіла, у эйфарыі ратыфікавала Белавежскія пагадненні, а потым раз'юшана кляйміла падпісантаў, з энтузіязмам развіталася з адной уласнасцю, але ганьбіла затым прыватызацыю. Галоўны матыў падобных хістанняў- "невычэрпная прага ўгодніцтва перад выканаўчай уладай". С. Станкевіч лічыў пытанне рэферэндума пра інтэграцыю з Расіяй не галоўным і чыста фармальным, бо Беларусь заўсёды была і ёсць інтэгрыраванай з Расіяй. "Чым далей, тым больш выразнай робіцца сітуацыя: Беларусі патрэбна моцная рашучая рука - або Лукашэнкі або Пазняка". А. Сяржан назаве падзеі 12 красавіка "дзяржаўным пераваротам..., крокам да тыраніі", усталявання манархіі. З. Пазняк бачыў

трагедыю беларускага грамадства ў тым, што яму і апазіцыі "не хватило сил поменять парламент, сформированный еще во времена правления комммунистической партии, ибо мы были втянуты в водоворот распада СССР". На яго думку, большасць дэпутатаў ВС аб'яднаў страх перад сілай. Ён быў упэўнены ў тым, што новы парламент не прызнае рэферэндум і баяўся аднаго- шырокіх магчымасцяў выканаўчай улады "манипулировать общественным мнением, чтоб оправдать любые свои действия."

22 красавіка Лукашэнка выдаў указ у якім "па ўзгадненню з дэпутатамі ВС і членамі прэзідыума ВС" загадаў упраўляючаму уласнымі справамі да 5 мая размясціць прафесійных дэпутатаў і сакратарыят ВС у правым крыле Дома ўраду на правах арэнды памяшканняў, размясціць уласную рэзідэнцыю на вул. К. Маркса 38 і на працягу месяца разабрацца з уласнасцю ВС. Ён гаварыў, што выбары невядома калі завершацца і "может они до конца года не состоятся". Лукашэнка даваў выразна зразумець, што яму патрэбны паслухмяны ВС  ці які ВС, дзе не будзе апазіцыі БНФ.

28 красавіка. На гэты дзень зарэгістравана кандыдатамі ў дэпутаты ВС 2348 чал., або 9 прэтэндэнтаў на кожнае з 260 месцаў. Палову кандыдатаў выставілі партыі, а 603 асоб ішлі самавылучэннем праз збор подпісаў. Шмат скампраметаваных асоб хавалася ў партыйных спісах: былыя камуністы ў прызваітай мімікрыі запісаліся беспартыйнымі і загучалі абвяржэнні чутак пра ценявы кабінет ад партыі "За дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць", у які былі быццам бы задзейнічаны Кебіч, Малафееў, Карпенка, Чыкін, В. Кучынскі, П. Казлоўскі. В. Кебіч дасць 11 мая інтэрв'ю "Звяздзе", дзе скажа, што "я і Лукашэнка ніколі не былі палітычнымі антыподамі".

Для кампраметацыі праціўнікаў у газеце "СБ" за 29 красавіка быў надрукаваны спіс дэпутатаў ВС, галасаваўшых па рэферэндуму. "Народная газета" ў гэтых жа мэтах надрукавала 4 мая спіс 311 дэпутатаў пры паіменным галасаванні вакол рэферэндума. У такіх умовах партыі дамовіліся выстаўляць супольных кандыдатаў. Назначаны начальнікам упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі у адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Замяталін выгнаў з тэлеэфіру праграму "Праспект" Паўла Шэрамета, каб там больш не чапалі тэму рэферэндума. У яўна папулісцкіх мэтах улада правяла да 15 мая татальную праверку абставін затрымання выплаты пенсій.

4 мая С. Антончык прайграў у судзе іск І. Ціцянкову, а "Звяздза" на наступны дзень надрукавала ўрывак з заключэння эксперызы Акадэміі навук на публікацыю паэмы "Лука Мудзішчаў" у "Сва-

бодзе". Эксперты патлумачылі, што прававое рашэнне пракуратуры не вынікае з іх заключэння, якое яны далі 29 сакавіка па пастанове следчага па асоба важных справах генпракуратуры ад 21 лютага, старшага саветніка юстыцыі В. Камароўскага, што свае вывады яны не лічаць "паўнамоцнымі пры юрыдычным вызначэнні ступені этычнай віны аўтара ці аўтараў памфлета", бо ён апраўданы з антычных часоў у палітычнай барацьбе, бо яны пісалі чыста пра літаратурны густ паэмы.

10 мая тэлебачанне паказала фільм "Дзеці хлусні" з яўнай кампраметацыяй БНФ у якасці прафашысцкага ахвосця і намерам такім шляхам праваліць БНФ на выбарах.

13 мая Пазняк выйграў у судзе справу з Лукашэнкам, які абвінаваціў яго ў закліках беларусаў ехаць ваяваць у Чачню яшчэ на мітынгу 18 снежня 1994 г. Рэгіна Зімніцкая звярнулася ў суд Маскоўскага раёна г. Мінска з іскам да Лукашэнкі на 100 тыс. руб. за паклёп - што яна быццам бы надрукавала свой артыкул у "Народнай Газеце" за даляры.

14 мая адбыліся выбары, а славуты рэферэндум праведзены 16 мая па мажырытарнай сістэме. Рэферэндум прынёс сакрушальную перамогу А. Лукашэнку. Па першаму пытанню "за" выказалася 83,3 % апытаных, "супраць" - 12 %. Па другому пытанню "за" было 75 %, - "супраць"- 20 %. Па трэццяму пытанню "за" аказалася 83.3 %, - "супраць" - 12.5 %. Чацьвертае пытанне падтрымала 77.6 %, супраць выказалася 17 %. Новы парламент прэзідэнт мог тасаваць прасцей чым шпалеры на сценах.

Афіцыйна ў выбарах па 260 акругах удзельнічала 4, 8 млн. жыхароў, або 64.8 %. У 216 акругах быў назначаны другі тур, паколькі трэць выбаршчыкаў праігнавалі першы тур і рэферэндум. Палова выбаршчыкаў затым праігнавала і другі тур. У выніку не было абарана і паловы ВС. Балатавалася 36 партый і 1024 беспартыйных. Каля 20 % або 479 кандыдатаў выступала ад "чырвоных"-Партыі камуністаў Беларусі, Аграрнай партыі, Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці, сабора "Белая Русь", партыі "Надзея", Беларускай сацыялістычнай партыі, Беларускай партыі працы. Дэмакраты выстаўлялі ці не 189 чал. або 12 % ад усіх балатаваных асоб. З. Пазняк атрымаў 42% галасоў у сваёй акрузе, Юрый Хадыка 27, А. Трусаў 37, В. Голубеў 16 %. Гэтыя персанальныя ацэнкі сведчылі пра паразу БНФ на выбарах. Увогуле, рамантыкі цярпелі знявагу перад тымі, хто ставіў прагматматычную мэту захопа і ўтрымання неабмежнай улады любой цаной. У газетах замільгалі паведамленні пра тое, што эрудыты і інтэлектуалы не змаглі пераканаць выбаршчыкаў , што ў парламент ізноў

праціснуліся кіраўнікі гаспадарак, хаця парламент гэта не месца дзе абменьваюцца перадавым вопытам гападарання, а сядалішча Цыцэронаў і ўдумлівых законатворцаў, што "у нас не прывыклі выбіраць аднаго з многіх". Ананім у "Свабодзе" прарочыў зваротам у таталітарныя савецкія часы з культам асобы Лукашэнкі, які "постепенно сосредоточит в своих руках абсолютную диктаторскую власть, а потом займется расправами с неугодными ему людьми". Гэтак жа хутка з'явіліся скептыкі, якія рашылі, што няяўка выбаршчыкаў азначае іх карт-бланш старому парламенту або дазвол працягваць працу ВС 12 склікання. .

Сярод каментарыяў прагучалі і галасы пра тое, што беларусы ўласнай згодай палажылі канец спробам нацыянальнага адраджэння, бо мова будзе выцеснена на абочыну грамадскага жыцця, у выміраючыя вёскі, у вузкае кола нацыянальна дэмакратычнай творчай інтэлігенцыі, бо рэферэндум засведчыў адсутнасць у беларусаў інстынкта самазахавання нацыянальнай супольнасці, бо іх найперш вабіць вянок з жыта і льну пад чырвонай зоркай, танная каўбаса, бясплатнае жыллё, стабільная і гарантаваная праца.

16 мая на гмаху былога ЦК КПБ І. Ціцянкоў вывесіў новы сцяг. Аблвыканкамы пайшлі следам рэзка мяняць сцягі на сваіх дахах і ганках, дэманструючы паслухмянасць і элементарны боязь не патрапіць у апалу з-за прамаруджвання. У Доме ўрада амаль ва ўсіх кабінетах вынеслі мэблю, адключылі тэлефоны, дзверы пазачынялі на замкі і з іх знялі таблічкі. В. Ціхіня ў прадінфарктным стане быў змешчаны ў першую клініку. А. Лукашэнка на днях зволіў Васіля Шаладонава з пасады генпракурора быццам бы за прыватызацыю двух кватэр і патуранне бескантрольнаму усынаўленню беларускіх дзяцей. Яго пераемнікам стаў Васіль Капітан, які ўпэўнена лічыў, што паспяхова давядзе следства вакол галадоўкі апазіцыі ў ВС без відэаплёнкі, паколькі падзеі можна аднавіць на падставе сведчанняў непасрэдных удзельнікаў.

Гэтымі днямі следчы Генпракуратуры Іосіф Бролішс падзяліўся папярэднімі вынікамі свайго расследвання падзей у Авальнай зале 11-12 красавіка. Следства было ўзбуджана згодна са зваротам у Генпракуратуру пацярпелых і затым прэзідэнта Лукашэнкі "па факце злоснага хуліганства, якім з'яўляецца званок зламысніка, а таксама па факце перавышэння ўлады работнікамі праваахоўных органаў у адносінах да групы дэпутатаў Вярхоўнага Савету". Па яго словах, 19 дэпутатаў праводзілі палітычную галадоўку прама ў залі пасяджэнняў згодна з "неафіцыйнай згодай" на гэта старшыні ВС, якога яны ў наступным пісьмова папярэдзілі

пра пагрозу іх прымусовага выдалення, у сувязі з чым яны прасілі забяспечыць ім ахову.

"Нібыта ратуючы жыццё дэпутатаў", непасрэдную акцыю па пошуку міны і выдаленню галадаючых з залі пасяджэнняў праводзілі начальнік управы аховы дзяржаўных установ М. Цесавец і начальнік управы аховы прэзідэнта В. Каралёў на працягу гадзіны ў атачэнні прыкладна 15-20 чал. у міліцэйскай і цывільнай форме. Дарэмныя пошукі міны завершыліся падпісаннем акта, што засведчылі і саперы і два дэпутаты. Прымусовую эвакуацыю дэпутатаў каля трэцяй гадзіны начы праводзіла каля сотні людзей у міліцэйскай, камуфляжнай і "нейкай спецыяльнай форме (чорныя аблягаючыя касцюмы і маскі на тварах). Бальшыня з іх былі ўзброеныя аўтаматамі і дубінкамі. Гэтыя людзі сталі насільна эвакуяваць дэпутатаў, наносячы пры гэтым удары не толькі кулакамі , але і нагамі, прыкладамі зброі, дубінкамі". 9 дэпутатаў прайшлі медыцынскае абследванне і зафіксавалі цялесныя пашкоджанні ў клініцы, якая абслугоўвае кіраўніцтва краіны.

Генпракуратура не атрымала відэазапісу падзей, нягледзячы на свой запыт ва ўсе магчымыя інстанцыі (КДБ, Мінабароны, МУС, Упраўленне аховы прэзідэнта, Адміністрацыю прэзідэнта), што мае абавязковы характар для выканання. Тым не меней устаноўлена, што здымкі рабілі два аператары: эксперт Маскоўскага раённага аддзела унутраных спраў і супрацоўнік Управы аховы дзяржаўных установ, якую ўзначальвае М. Цесавец. Яны на словах падцердзілі інфармацыю, атрыманую ад саміх дэпутатаў і паведамілі, што праводзілі здымкі "ўсякі раз, калі ў залу пасяджэнняў да галадоўшчыкаў заходзілі для перамоваў прадстаўнікі спецслужбаў. Аператары расказалі, што пасля заканчэння ўсіх падзеяў іх запрасілі ў прыёмную прэзідэнта, дзе чалавек, які назваўся кіраўніком адміністрацыі прэзідэнта, прапанаваў пакінуць відэазапіс з усім адзнятым матэрыялам на стале, што яны і зрабілі. Праз некалькі дзён эксперт з Маскоўскага РАУС атрымаў касету назад. Яна аказалася размагнічанай. Аператар са службы М. Цесаўца паведаміў, што яму відэакасету ніхто не вяртаў. Пошукі відэазапісу на рэспубліканскім тэлебачанні таксама не далі ніякіх вынікаў. Старшыня тэлерадыйкампаніі Г. Кісель адказаў, што відэакасеты з запісамі сапраўды некаторы час знаходзіліся ў рабочых мантажных кампаніі, дзе былі перапісаныя на прафесійнай апаратуры і тэхнічна падрыхтаваныя для паказу на тэлебачанні,...аднак касеты-арыгіналы разам з перазапісам былі вернутыя ў Адміністрацыю прэзідэнта". Паўторны зварот туды не даў плёну, як няма

адказу і на звароты следчага у сілавыя міністэрствы адносна высвятлення складу падраздзяленняў, якія займаліся начной эвакуацыяй. Бролішс атрымаў ад афіцэраў сапёраў сістэмы Грамадзянскай абароны акт іх заключэння пра адсутнасць выбуховага прыстасавання ў залі з галадоўшчыкамі. "У гэтым выпадку у мяне...-ўзнікае пытанне: навошта выкідваць людзей з бяспечнага месца, ды яшчэ прымяняючы сілу супраць асобаў, якія маюць дэпутацкую недатыкальнасць ?". У любым выпадку, казаў следчы, некалькі дзесяткаў спецыяльна натрэніраваных здаровых хлопцаў, маглі без асаблівых намаганняў вынесці галадоўшчыкаў з замініраванага памяшкання на чыстае паветра.

Канкрэтна, пракуратура ўзбудзіла справу па артыкулах арт. 167 і ч. 2 арт. 201 Крымінальнага кодэксу (тады ў рэдакцыіі 1961 г.). Першы артыкул прадугледжваў 3 гады пазбаўлення волі і вызваленне ад пасады за перавышэнне ўлады. Гэты ж артыкул удваяда 7 год-павялічваў турэмнае зняволянне за ўжыванне гвалту і зняважанне чалавечай годнасці пацярпелых, што цалкам мела месца ў рэальнасці. Няведама чаму, але з групы дзяржаўных злачынстваў адносна фактаў збіцця Генпракуратура не прымяніла арт. 166 таго ж кодэкса, які гаварыў пра свядомае злоўжыванне ўладай і службовым становішчам на шкоду законным інтарэсам пацярпелай асобы, з пакараннем за гэты бандытызм 3 гадамі зняволення. Нарэшце, арт. 210 прыцягваў да 5 гадовага зняволення асобу за заведама хлусліваe паведамленне аб падрыхтоўцы выбуху. Пракуратура павяла следства менавіта па крымінальнай каляіне, а не палітычнай, бо ў пастанове і прамове генпракурора не фігуравала парушэнне дэпутацкай недатыкальнасці.

19 мая Дзярждума Расіі па прапанове Сяргея Бабурына большасцю ў 249 галасоў (супраць толькі 1 чал.) прагаласавала за рэферэндум аб "воссоединении" РФ і Беларусі ў адзіную дзяржаву. М. Грыб у звароце да выбаршчыкаў пазваў іх актыўна прыйсці на другі тур галасавання, бо краіна не можа пражыць без парламента. Ён патлумачыў, што ранейшы ВС "практычна спыніў сваю заканатворчую дзейнасць.., але калі 28 мая выбары у новы ВС не адбудуцца, то ВС 12 склікання будзе вымушаны прадоўжыць сваю дзейнасць".

24 мая каля будынка новай рэзідэнцыі прэзідэнта 200 чал. моладзі хадзілі па кругу з рукамі за галавой у знак пратэсту за змену бела-чырвона-белага сцяга. Каля 40 удзельнікаў былі збіты міліцыяй і 33 схоплены ў варанкі. Ціцянкоў патрабаваў з Антончыка ў судзе Ленінскага раёна г. Мінска 100 млн. руб. на Валожынскі інтэрнат і 100 млн. на Асіповіцкі дзіцячы дом.

29-30 мая адбыўся другі тур выбараў. У Мінску прыйшло на ўчасткі ўсяго 38 % рэгістрантаў. Афіцыйна ўдзельнічала 3,4 млн. чал. або 56.6. % выбаршчыкаў. У 315 акругах з 35974 прэтэндэнтаў у дэпутаты трапіла 23239 чал. Выбары не адбыліся ў 141 акругах, што азначала паўтарэнне іх там восенню. Усяго было выбрана 102 дэпутаты, г. зн. менш паловы ВС. Палову склалі беспартыйцы (45.8 %). Разам з першым турам было абрана ўсяго 120 чал. З БНФ ніхто не трапіў у ВС. З гэтага сталі ізноў пісаць, што выбаршчыкамі кіравала туга па савецкім часе, злосць на цяжкае жыццё, на ўлады, хаця выбралі ў асноўным якраз з начальства. І. Герменчук сказаў, што правакацыйны фільм "Дзеці хлусні" амаль "выкасіў кандыдатаў ад БНФ". С. Навумчык прыраўнаваў вынікі майскіх выбараў 1995 г. нават да катастрофы і канца нацыянальнага Адраджэння. Старшыня выбарчай камісіі А. Абрамовіч адзначыў рэваншысцкія настроі выбаршчыкаў, якія галасавалі за "мінулае жыццё" і ўразіўся кандыдатамі, якія прасілі яго дапісаць ім 474 галасоў. Па яго словах, ім сонца галаву напякло. Абранне толькі паловы ВС стварыла прававы тупік і развязвала рукі прэзідэнту, бо ўся паўната ўлады фактычна на неакрэслены час аказалася ў яго руках. ВС быў "кастрыраваны" на выбарах або абраны без апазіцыі БНФ. Такую паразу апазіцыі нават прывіталі, бо з ёй ВС быў "очагом разрушительной агрессии" , "разнузданного і беспредельного" безуладдзя ў краіне , а без яе, маўляў, "без гэтага вечнага грамаатвода, Лукашэнка сам народзіць і выгадуе сабе пагібель".

Ён сказаў у гэты момант, што новы парламент будзе патрабаваць сабе "кавалак улады" і не будзе яму лаяльны. Лукашэнка папрасіў былых дэпутатаў пакончыць з сумяшчэннем сваіх абавязкаў з прафесійнымі заняткамі, якое спрые "дзікаму лабіраванню" ў парламенце. На семінары ў Гродзенскім раёне (2 чэрвеня) ён прызнаўся, што даручыў міністрам "не давіць народ" наконт мовы, але патрабаваў вярнуцца да школьных праграм 1985-1986 гг. "Улада сёння ў нашых руках абсалютная. Такой улады пры камуністах не мелі ні партыя, ні Саветы. Трэба дзейнічаць, адкінуць усе эмоцыі і сентыменты наконт дыктатуры". Ён загаварыў пра спад вытворчасці, банкруцтва прадпрыемстваў, надзвычайнай эканамічнай сітуацыі, якія патрабуюць ад яго самых крайніх надзвычайных і жорсткіх мер. Кіраўнікам аблвыканкамаў было сказана, што калі яны не здольныя навесці парадак, то павінны добраахвотна аддаць уладу наверх, цэнтральным органам. На месцах пачалі паваеннаму шчоўкаць абцасамі. У апазіцыйнай прэсе прагучалі сцвярджэнні, што Лукашэнка блізка падышоў да ўсталявання "ты-

раніі царскага тыпу" , што без парламента ў краіне парушыцца баланс улад і мы скоцімся "да аўтарытарызма з усімі яго атрыбутамі-згортваннем дэмакратыі, бяспраўем і самаўладствам" з пагрозай пераўтварыць выбары у "бясконцы балаган". А. Майсеня таксама канстатаваў, што прэзідэнт сканцэнтраваў у сваіх руках усю ўладу, а таму усцешліва спадзяваўся, што менталітэт беларусаў не дазволіць усталявацца ў краіне "заурядной деспотии", а замест азіятчыны мы пабачым асветніцкі аўтарытарызм.

30 мая М. Грыб пасля кансультацый з Лукашэнкам склікаў пазачарговую 17 сесію ВС на 14 чэрвеня. Для правамоцнасці пасядджэнняў ВС ён раіў запоўніць камісіі да запаўнення іх поўнага складу праз змену квоты абрання і нормаў назначэння. Ён прапаноўваў унесці ў закон аб выбарах ВС нормы, якія паменьшаць ВС да 2/5 яго складу і тым самым палегчаць выбары астатніх дэпутатаў. Гэта азначала дастатковым мець для легальнага адкрыцця першай установачнай сесіі новага ВС не 174, а 104 дэпутаты. Але тады атрымлівалася, што адных дэпутатаў выбралі па адных нормах, а другіх па больш лёгкіх, калі яўка ці планка зніжалася напалову. Апаненты Грыба ўхапіліся за гэту прыкмету няроўнасці. Хаця Цэнтрвыбаркам перадаў у пракуратуру матэрыялы пра парушэнне выбарчага заканадаўства 5 кандыдатамі, У. Замяталін назваў выбары цалкам адпаведнымі заканадаўству і запэўніваў, што ўсім кандыдатам былі прадастаўлены роўныя магчымасці выказацца ў сродках масавай інфармацыі.

11 чэрвеня прайшлі выбары ў мясцовыя Саветы. На 6698 участкі выбіраць 35 тыс. прэтэндэнтаў прыйшло менш паловы (47.6 %) выбаршчыкаў. Паўстала рэальная пагроза бясконцасці выбараў па старых нормах і патрэбы адпаведных змен, чаго нельга было зрабіць у сваю чаргу без поўнавартага ВС. На вёсцы сітуацыю разумелі адно як тую, калі "бацька" - прэзідэнт клапоціцца пра народ, а яму мяшаюць розныя супастаты.

12 чэрвеня М. Грыбу удалося сабраць 119 дэпутатаў на неафіцыйную пажарную нараду дэпутатаў старога і новага ВС. З новых было 45 дэпутатаў. Пры адкрыцці пасяджэння Грыб параіў 3 варыянты выхаду. 1. Большасць прэзідыума лічыла правамоцным ВС пры наяўнасці паловы дэпутатаў-130, а давыбары у ВС раіла правесці 4 кастрычніка. 2. Паменшыць кворум з 2/3 да 2/5 або да 104 чал., але Канстытуцыю для гэтага не трэба мяняць. 3. ВС самараспусціць і пакінуць адзін сакратарыят. Прапановы не былі падтрыманы з-за несумяшчальнасці пазіцый. Гучалі галасы нават аб нежаданні працаваць з непапулярнымі калегамі.

Сярод хаўтурных настрояў М. Грыб заявіў 14 чэрвеня, што прыйшоў на нечарговую сесію ВС "не з апушчанай уніз галавой, не звяртаючы увагі на саматужных крытыкаў і розных прарокаў". Вынік выбараў выглядаў сумна -з патрэбных 260 дэпутатаў мелася ўсяго 199 чал. і для правамоцнасці новага ВС не мелася належнага кворума. Прэзідыум тройчы разглядаў розныя варыянты. Прапаноўвалася змены ў заканадаўстве аб выбарах зрабіць новаму складу ВС. Старому ВС дазвалялася працаваць да першай сесіі новага Вс ці самараспусціцца. Грыба падтрымала каля 60 чал. прысутных, а 70 дэпутатаў падалі Лукашэнку заявы аб сваім жаданні працаваць у яго вертыкалі. Паўставала законнае пытанне - дзеля чаго збіраліся гэтыя раскольнікі, бо ў Канстытуцыі ясна гаварылася, што ВС дзейнічае да ўстановачнай сесіі ВС новага фарміравання, тым больш, што аднойчы ВС не збіраўся паўгода і быў на канікулах .

15 чэрвеня на надзвычайнай сесіі выступаў А. Лукашэнка і гаварыў, што ВС сябе вычарпаў і не лігітымны , бо тэрмін ягоных паўнамоцтваў скончыўся ў сакавіку. Хаця мы ў тупіку, гаварыў ён, але не трэба шукаць вінаватых. Выхад у парламентарыяў адзін -паменшыць кворум да 2/5 складу і "прыгожа" самараспусціцца. Лукашэнка не намячаў ім ніякіх прыгожых і прыстойных абыходжанняў у перспектыве, бо "ВС ніколі не будзе прэзідэнцкім. Я буду працаваць толькі з новымі дэпутатамі". Тым не меней, ён не адважваўся разганяць дзеючых дэпутатаў, бо "это будет плохо выглядеть на Западе".

Вечарам сабраўся сход новаабраных дэпутатаў. Паўлу Знаўцу, агітатару за змены ў выбарчым заканадаўстве шляхам зніжэння планкі прадстаўніцтва, не далі нават дагаварыць. Яго папярэдзілі, што стварэнне паралельнага парламента прывядзе да канфрантацыі. Сярод прысутных абазначылася прапрэзідэнцкая плеяда, якая вуснамі Івана Каратчэні клікала да восеньскіх давыбараў даць Лукашэнку дадатковыя паўнамоцтвы ў рэчышчы надзвычайных выратавальных мер па навядзенню парадку у эканоміцы і краіне. Пасля гэтага прэзідэнт з палёгкай забраў у ВС 60 машын і пакінуў з гэтай раскошы толькі 8. "Мы здалі адзін аднаму будынкі у арэнду" - з сумнай іроніяй канстатаваў страту маёмасці ВС яго старшыня.

І. Бролішс передаў у прэсу заяву пра патрэбу яшчэ на два месяцы прадоўжыць следства па факту збіення дэпутатаў апазіцыі. Ён растлумачыў гэта няяснасцю розных акалічнасцяў. Яму, к прыкладу, дасюль невядома куды згубіліся сляды відэакасет, бо 15 мая

У. Замяталін даў у тэлестудыю касету без эпізода з выдаленнем дэпутатаў. Бролішс назваў цынічным паводзіны адміністрацыі прэзідэнта, адкуль яму далі зусім іншы відэазапіс падзей з яўным намерам увесці следства ў зман і дзе нехта хацеў знішчыць сапраўдную відэастужку. Следчы не даведаўся таксама, якія фарміраванні ачышчалі залу ВС. На яго зварот у Міністэрства абароны, Унутраных спраў, КДБ і упраўленне аховы прэзідэнта, адрэгавала толькі МУС, адкуль паведамілі, што эвакуацыю выканаў атрад АМАН і людзі з аховы будынка. Следчы атрымаў іх спісы і толькі дазнаўся, што частка спецвойскаў была ў масках, а іншыя ў камуфляжы. Падазроныя вайскоўцы адказвалі на пытанні, што яны зусім не ўдзельнічалі ў гвалтоўнай акцыі, стаялі ў ачапленні, а атрад АМАН увогуле быў у рэзерве. Следчы лічыў, што ад яго наўмысна хаваюць праўду у МУС, бо "інакш у нас існуюць нейкія узброеныя атрады, пра якія не ведае ні КДБ, ні МУС - ніхто" М. Цесавец адпіраўся ад адказнасці за дзейнасць міліцыі ў тую ноч і не ведаў, якія сілы праводзілі аперацыю " у адпаведнасці з загадам прэзідэнта...і не ведае, што гэта за трэцяя асоба заходзіла разам з ім і Каралёвым" у дэпутацкую залу. Тым не меней, пракурорскі работнік не адчуваў ціску на сябе і крыўдзіўся на выканаўчую уладу, дзе "парушаюць закон" .

21 чэрвеня Лукашэнка падпісаў указ пра захаванне паўнамоцтваў мясцовых Саветаў да часу адкрыцця першай сесіі дэпутатаў новага склікання. Пра вышэйшы заканадаўчы орган у ім нічога не гаварылася, але гэтым актам ён выразна гаварыў, хто зараз піша і прадпісвае законы. На наступны дзень прэзідэнт даў прэсканферэнцыю, дзе зноў назваў ВС не лігітымным, з чаго следвала - я "не магу і не буду прызнаваць рашэнні гэтага парламента". Ён абвясціў пра спыненне выплат дэпутатам і пра свой намер з 1 ліпеня плаціць толькі спікеру, яго намесніку, старшыні камісіі па заканадаўству і 25 дэпутатам новага складу, якія будуць напрацоўваць базу новаму ВС. У прэсе папаўзлі чуткі пра намер А. Лукашэнка ліквідаваць льготы ад кіраўніка дзяржавы да інваліда ўключна. З 10 млн. грамадзян краіны тымі ці іншымі льготамі карысталася палова ці 5 млн. 600 тыс.чал. Прэзідэнт падліў потым масла ў агонь, заявіўшы у Салігорску: "Я не диктатор, но порядак в стране наведу".

27 чэрвеня М. Грыб сустрэўся з 60 дэпутатамі па ініцыятыве Сапронава і П. Садоўскага. Старшыня патлумачыў ім, што ён бязсільны сустрэцца з прэзідэнтам, каб вярнуць пакрыўджаным затрыманыя ім дэпутацкія выплаты. В. Піскароў заўважыў, што дэпутаты самі вінаватыя, бо яны самі прагаласавалі за інстытут

прэзідэнтства і зараз пажынаюць сумны плён уласнага рашэння. 39 чал. прынялі заяву, у якой назвалі адзіным канстытуцыйным выйсцем з пагрозы знішчэння прадстаўнічай улады на Беларусі паўторныя выбары ў ВС, а пакуль яго не выберуць, "мы будзем в полном обьеме осуществлять депутатские полномочия. Всякие заявления о нелигитимности ВС 12 созыва считаем безответственными и крайне опасными, подрывающими основы государственного строя". Яны заявілі, што восенню патрабуюць ад прэзідэнта справаздачы аб выкананні бюджэта і спытаюць Лукашэнку аб механізме фінансавання яго адміністрацыі, у тым ліку утрымання спартыўных кортаў, аэрадрома, арэндзе будынкаў , і г. д.

Канстытуцыйны суд другі раз спыніў справу па іску старшыні ВС аб незаконнасці ўказа Лукашэнкі ад 4 жніўня 1994 г. пра стварэнне кіраўніцтва справамі прэзідэнта ў частцы перадачы яму маёмасці і будынкаў ВС, Вярхоўнага суда і іншых устаноў на той падставе, што адказы можа дасць разгляд на самім ВС праектаў законаў аб ВС і прэзідэнце. У тлумачэнні суда гаварылася, што 26 чэрвеня бягучага года прэзідэнт паведаміў суду пра адмену свойго указа № 235 ад 4 жніўня 1994 г. (аб стварэнні упраўлення ўласнымі справамі) як страціўшымі сілу з-за "змянення правога рэжыма аб'ектаў гаспадарання". Канстытуцыйны суд адмаўляўся ад прэтэнзій да бакоў, паколькі тыя, так сказаць, памірыліся без яго пасрэдніцтва пры такіх сумніцельных аднабаковых прававых умовах.

28 чэрвеня з выразнай самаўпэненасцю і крывадушнасцю намеснік начальніка ўпраўлення агульнага нагляду Генеральнай пракуратуры Г. Шостак дапісаў пра зняцце І. Ціцянковым 16 мая сцяга з даху будынка па вул. К. Маркса 38, які быў "утилизирован на крыше путем разрыва на лоскуты на основании действующего положения по бухгалтерскому учету малозначительных и быстроизнашиваемых предметов" от 18 кастрычніка 1979 г. У допісу гаварылася, што ў Ціцянкова "не имелось умысла надругательства над государственным флагом, вследствие чего отсутствует состав преступления", а хаця такімі дзеяннямі парушаны арт. 38 закона аб рэферэндуме і новы сцяг " поднят преждевременно до вступления в силу итогов референдума, но они не образуют состава уголовного преступления". Адказчык прасіў лічыць авантурызм звычайнай дысцыплінарнай шаласцю. Гэтымі днямі на телебачанні забаранілі паказваць інтэрв'ю з Бролішсам і дэманстрацыю зняцця сцяга з даха рэзідэнцыі прэзідэнта.

30 чэрвеня М. Грыб паспрабаваў знайсці згоду з А. Лукашэнкам і артыкулам у "Звяздзе" прасіў прызнаць легітымным ВС пры выбранні 2/5 дэпутатаў з усіх 260 чал. з умовай, што яны не кра-

нуцца Канстытуцыі разам з пастановай аб датэрміновым звальненні прэзідэнта і спынення паўнамоцтаў ВС. Аднак многія дэпутаты назвалі такія прапановы неправамернымі, бо ў такім разе такі парламент будзе "залежны і несамастойны ў рашэннях". Былі парады замацаваць правамоцную норму у 3/5 або паловы дэпутатаў ад іх агульнай колькасці, а таксама ўнесці ў закон аб выбарах планку яўкі 35 % выбаршчыкаў. Аднак у дзеянне ўступіла так называемая згода ў выглядзе кансультацый з удзелам Канстытуцыйнага суда, Цэнтрвыбаркама і Лукашэнка. У перспектыве замаячыў круглы стол уладных структур з партыямі ўзамен за фарсіраванне самароспуску ВС. Прэзідыум апошняга назначыў чарговую 18-ю сесію на 5 верасня.

А. Лукашэнка, паводле яго ўласных слоў, "пришел просто в шок" ад склікання сесіі ВС у верасні з павесткай у 63 пытанняў, паколькі гэта пярэчыла неафіцыйнай дамове аб тым, што "старый Верховный совет может быть созван только в случае чрезвычайной ситуации, в случае, если потребуется утвердить какое-либо решение президента". На думку прэзідэнта, такая самадзейнасць трэба толькі "членам президиума" і дэпутатам на пастаяннай аснове, якія "фактически ничего не делают и зря получают зарплату", паколькі ён ужо паабяцаў уладкаваць 75 дэпутатаў, паколькі ў старым ВС "незаконно разогнали возглавяемую мной антикоррупционную комисию". А раз "страна получила нелигитимный старый парламент и неполноценный новый, фактически в стране не существует законодательной власти и они не хотят и не спешат сотрудничать со мной", значыць ў краіне самадзяржаўна валадарыць толькі прэзідэнт, а вось "некому хочется взбунтовать спокой и мир в нашей республике - то, что пробует сохранить президент и его правительство. Такия люди получат от меня политический отпор" грозна папярэдзіў А. Лукашэнка, які лічыў "сябе дзяржаўным чалавекам", які перамог "не верай выбаршчыкаў у стварэнне эканамічнага цуда, а верай сумленнага чалавека".

У чарговым інтэрв'ю газеце "Звязда " 11 ліпеня ён паабяцаў адолець карупцыю, якая, па яго словах, "узаконена" законамі аб рынку. Для гэтага ён узяў пад уласны кантроль, а дакладней "людзей, якім я давяраю" у Савеце Бяспекі, усе ліцэнзіі на стратэгічную сыравіну і тавары (лес, угнаенні, зброю). Такую упэўненасць натхняла тое, што "мы уладу з бруду узнялі, стварылі жорсткую вертыкаль", хутка скароцім Саветы, абы толькі абышлося без залішняй канфрантацыі. Аднак прапанаваны ім 16 жніўня круглы стол з удзелам партый і грамадскіх рухаў для дасягнення згоды і стабільнасці аказаўся з кволымі ножкамі. Ён не устаяў найперш перад

страйкам 17-21 жніўня работнікаў мінскага метрапалітэна і тралейбуснага дэпо, які 23 жніўня судом Цэнтральнага раёна быў прызнаны незаконным. Лідэраў страйка пратрымалі 10-15 сутак пад арыштам, а удзельнікаў акцыі ў метро звolілі з працы. Такі прысуд выглядаў вельмі красамоўным на фоне забароны гэтымі ж днямі расійскай "Камсамольскай праўды" на Беларусі за калаж А. Лукашэнка ў шапцы Манамаха, бо У. Замяталін заявіў, што "у суд мы не збіраемся звяртацца, бо цудоўна ведаем вынікі судовых працэсаў, звязаных тут у нас са сродкамі масавай інфармацыі".

29 жніўня адбыўся кансультацыйны савет ВС у прысутнасці 50 дэпутатаў. Існавала пагроза няяўкі астатніх на верасnёўскую сесію з-за чутак пра прэзідэнцкі ўказ аб пазбаўленні дэпутатаў асабістай недатыкальнасці, падпісаны ім 22 жніўня. Намеснік генеральнага пракурора раіў яму разгледзіць гэта пытанне на сесіі. Грыб не знайшоў дакументаў, па якіх дэпутатам з мая не плоцяць заробку.

Прэзідэнт спраўдзіў неверагодныя чуткі і 1 верасня выдаў указ № 336, дзе "у імя стабільнасці" і прадухілення незаконных забастовок, спыніў дзейнасць Свабоднага прафсаюза Беларусі, прафсаюза Мінскага метрапалітэна, прафсаюзаў чыгуначнікаў і транспарта. Лукашэнка прыгразіў спыніць дзейнасць палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў і прафсаюзаў за удзел у страйках на прадпрыемствах, зацверджаных Камітэтам Міністраў 28 сакавіка 1995 г. Указ спыняў дзейнасць часткі 3.5. артыкула 37 закона аб статусе дэпутата ВС, частак 1 і 3 артыкула 37 закона аб дэпутатах мясцовых Саветаў, а таксама часткі 2 артыкула 110 закона аб ВС у частцы недатыкальнасці дэпутатаў ВС на працягу 2 гадоў пасля заканчэння іх паўнамоцтваў.

Ліквідацыя дэпутацкага імунітэта афармлялася разам са скасаваннем некаторых льгот пенсіянерам і таму не выглядала нейкім выключэннем у барацьбе прэзідэнта з тымі, хто дарма сядзіць на шыі ў народа. Адпаведныя дырэктывы (указ № 349 "Об упорядочении некоторых льгот для отдельных категорий граждан" і № 350 "О некоторых вопросах регулирования трудовой деятельности и пенсионного обеспечения граждан") з'явіліся ў друку 1 верасня, якраз напрыканцы сесіі ВС, які збіраўся разгледзіць 30 жыццёва важных пытанняў.

5 верасня пачалася 18-я сесія ВС. На ёй было зарэгістравана 202 дэпутаты і існаваў правамоцны кворум. Відаць, пагэтаму Лукашэнка адазваў усе свае 10 законаў (у тым ліку закон аб уласнасці, прадпрымальніцтве, падатках, банкруцтве) і тым самым

выразна абазначыў намер сарваць сесію непрызнанага ім парламента. На наступны дзень на ўрачыстым пасяджэнні Сельскагаспадарчай акадэміі ён аднёс да палітычных правакатараў "закостенелых бюрократов, мастеров кабинетного произвола, административных вельмож". Ён заклікаў "всеми силами обрушится на "чиновничье-барский произвол по отношению к человеку труда, инвалиду, матери и подростку", агітуючы не даравацъ "равнодушие, черствость, беззаконие". З выступлення прэзідэнта было няясна, ці збіраўся ён усур'ёз шырока сеяць хунвэнбінскія настроі супраць чынавенства, куды аўтаматычна трапляла і выпеставаная ім "вертыкаль".

Сабраныя на сесію дэпутаты П. Садоўскі, У. Станкевіч, С. Навумчык, А. Трусаў і У. Сапронаў канстатавалі, што зараз у краіне дзейнічае толькі прэзідэнцкая ўлада, якая ігнаруе ВС і Канстытуцыйны суд. В. Піскароў прапанаваў прыняць заяву ВС пра стан канстытуцыйнай законнасці і спыніць сесію. М. Грыб дадаў у капілку прэзідэнцкага гвалту тое, што Лукашэнка насуперак Канстытуцыі спыняе законы, не раіцца з ВС і што дыпламатычныя пашпарты будуць даваць толькі старшыням і намеснікам ВС. 170 чал. прысутных дэпутатаў выказаліся за прыняцце такой заявы. У. Сапронаў налічыў у краіне тры бюджэты-дзяржаўны, ценявы і прэзідэнцкі, які назваў "царскай казной" і незаконным.. Наяўнасць ценявога бюджэта, нежаданне прэзідэнта быць падкантрольным і забарону ім свайму ураду даваць справаздачу аб выкананні бюджэта за бягучы год дэпутат назваў крокам да дзяржавы, блізкай "да абсалютнай манархіі". З ім пагадзіўся Яўген Глушкевіч, які заявіў, што "в этой абсурдной ситуации дискредитации парламентаризма Верховному Совету остается одно - сказать всему миру, что Беларусь перешла к авторитарному режиму". Былы сакратар Савета Міністраў Генадзь Данілаў назваў ліквідацыю дэпутацкай недатыкальнасці і забарону Свабоднага прафсаюза поўным самавольствам і заклікаў сабраць надзвычайную сесію ВС і паставіць "усіх на месца, нават да ліквідацыі прэзідэнцкай пасады".

ВС у прынятай заяве назваў непавагай сябе, як вышэйшага дзяржаўнага органа ўлады, адмову прэзідэнта ад справаздачы аб выкананні бюджэта за 1995 г. Дзейнасць Лукашэнкі са жніўня 1994 г. называлася перавышэннем даверанай яму уласнай каммпетэнцыі, за прыняцце больш 10 указаў, "якія супярэчаць Канстытуцыі і ўшчамляюць палітычныя і эканамічныя правы мільёнаў грамадзян. Такая сітуацыя небяспечная тым, што насельніцтва Рэспублікі пазбаўлена магчымасці кантраляваць дзеянні выканаўчай улады. Строгае выкананне Канстытуцыі і законаў ператвараецца ў аба-

вязак толькі простых грамадзян". ВС пры адным устрымаўшымся і двух пратэстуючых дэпутатах патрабаваў ад Лукашэнкі строга выконваць Канстытуцыю і законы і "рашуча адвяргае неканстытуцыйнае ўумяшанне кіраўнікоў выканаўчай улады у сферу кампетэнцыі іншых галін улады". Амаль адзінагалосна сесія ўнесла папраўку у выбарчае заканадаўства адносна 25 % выбаршчыкаў, неабходных для прызнання выбараў легітымнымі.

Прысутны на сесіі кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта Л. Сініцын назваў прынятыя рашэнні расколам новага парламента на тых, каго ўжо выбралі па адных, і каго выберуць па новых нормах. Ён увогуле выказаўся пра незаконнаць пасяджэння, якое магло адбыцца толькі з абвяшчэння прэзідэнтам надзвычайнага становішча ў краіне. Сесію ён назваў палітычным сходам і заклікаў здаровамыслячых дэпутатаў на сустрэчу з Лукашэнкам у іншым прыдатным месцы. "Здаровыя сілы" паслухалі інфармацыю Д. Булахава наконт працэдуры узбуджэння адстаўкі прэзідэнта і адмовіліся разглядаць пытанне аб яго імпічманце.

Канстытуцыйны суд 7 верасня ўзбудзіў справу аб канстытуцыйнасці выдадзенага ўказа Лукашэнкі № 336 "Аб некаторых мерах па забеспячэнню стабільнасці і правапарадку у РБ". Праз тыдзень там жа М. Грыб узбудзіў справу аб законнасці ўказаў Лукашэнкі, у тым ліку адносна ліквідацыі льгот (1 верасня). Усяго называлася 18 законаў, напрыклад, аб праве кандыдата ў дэпутаты на бясплатны праезд, права міліцыі на бясплатны праезд і 50 %-ю скідку на аплату жылля, стыпендыі за задавальняючыя ацэнкі, заробак дэпутату на ўвесь час працаўладкавання, немагчымасці звальнення дэпутата на працягу 2 год і г. д.

11 верасня прэзідыум Вярхоўнага суда па пратэсту старшыні У. Каравая адхіліў уласнае рашэнне ад 11 мая аб задавальненні іска З. Пазняка ў абарону уласнага гонару у сувязі з прыпісваннем яму прэзідэнтам заклікаў да ўдзелу у чачэнскай вайне. Гэта рашэнне аказалася нечаканасцю для Пазняка, якому не далі нават тэкста. Суд, па ягоных словах, стаў "аддзелам выканаўчай структуры прэзідэнцкай улады". Лідэр апальнага БНФ мог суцешыцца хіба што з пастановы суда Першамайскага раёна г. Мінска, які 21 верасня задаволіў яго іск на Юрыя Азаронка за фільм "Дзеці хлусні", названы " фальшыўкай", матэрыялы якога былі прызнаны "не адпавядаючымі рэальнасці, зневажаючымі гонар і годнасць Зянона Пазянка".

Старшыня ВС заявіў 23 верасня, што выбары ў лістападзе пройдуць па новаму закону аб выбарах, г. зн., калі на іх прыдуць толькі 25 % выбаршчыкаў, паколькі прэзідэнт своечасова не апрэтаста-

ваў прыняты ВС адпаведны закон. Спікер спасылаўся таксама на тое, што ВС і дагэтуль быў няроўна прадстаўлены, бо акрамя выбраных па мажырытарнай сістэме частка дэпутатаў ішла па спісах ад грамадскіх арганізацый. У ВС патрабавалася давыбраць 141 чал., і 4878 - у мясцовыя Саветы.

26 верасня Лукашэнка вярнуў у ВС усе прынятыя там законы з прыпіскай-"існуе пытанне аб правамоцнасці гэтага ВС" , аўтарытарна дэманструючы свой нігілізм да заканадаўчых манеўраў абраннікаў народа. Сакратарыят ВС пачаў рыхтаваць прынятыя законы да публікацыі, бо прэзідэнт прапусціў 10-дзённы тэрмін на іх апратэставанне і яны ўступалі ў сваю законную сілу. На наступны дзень Галоўнае ўпраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі адміністрацыі Лукашэнка распаўсюдзіла заяву аб тым, што прэзідэнт не падпісаў прынятыя ВС папраўкі ў закон аб выбарах, бо яны не маюць прававой моцы і яны не будуць выконвацца. Лукашэнка прама сказаў, што "ніякіх законаў нелігітымнага Вярхоўнага Савета 12-га склікання пасля заканчэння тэрміну яго паўнамоцтваў я не падпісваў і падпісваць не збіраюся", паколькі некаторыя дэпутаты галасуюць адзін за аднаго, каб забяспечыць кворум, у тым ліку зарэгістравалі Бамбізу прысутным (ВС адвергнуў гэта як паклёп). Лукашэнка зноў абвінаваціў ВС у распальванні грамадскага процістаяння.

28 верасня ў Канстытуцыйны суд паступіла заява ад выконваючага абавязкі Генеральнага пракурора (В. Капітан), Вярхоўнага (У. Каравай) і Вышэйшага гаспадарчага суда (У. Бойка), якія прасілі разгледзіць канстытуцыйнасць закона ВС адносна дэпутацкай недатыкальнасці на працягу 2 год пасля сканчэння іх паўнамоцтваў, а таксама палажэння часовага рэгламента ВС, які дазваляў лічыць большасць ВС не ад штатнага складу (360 чал.), а па колькасці рэальна абраных дэпутатаў. В. Капітан патлумачыў зварот тым, што змянілася арганізацыя ўсёй праваахоўнай сістэмы. Следам у пракуратуру, нібы па камандзе ці сплanаванаму сцэнарыю, звярнулася 8 дэпутатаў (Л. Сечка, У. Башарымаў, П. Жушма, М. Дубавік, Я. Мікалуцкі, якія ўжо працавалі ў службе кантролю прэзідэнта, В. Ліпкін і А. Разанаў, як сельгаспадарчыя кіраўнікі і В. Герасіменка, член Сялянскай партыі), якія прасілі чамусьці Лукашэнку абараніць "канстытуцыйны лад" і вінавацілі Цэнтрвыбаркам за тое, што той не сабраў іх на першае пасяджэнне.

30 верасня саветнік Лукашэнка С. Посахаў адхіліў палітычныя партыі ад удзелу у круглым стале з прэзідэнтам і прапанаваў запрасіць на яго грамадскія арганізацыі. Ён абвясціў, што за сталом пытанне аб падзеле ўлад не будзе абмяркоўвацца, відаць, з-за не-

жадання прэзідэнта дзяліцца заваяванай манаполіяй на ўладу. У знак свайго адзінаўладдзя Лукашэнка тут жа скасаваў раённыя Саветы у гарадах з іх органамі (выканкамамі), а на іх месцах стварыў мясцовыя адміністрацыі, якім і былі даручаны арганізацыя і кантроль за выбарчымі камісіямі. На перадачу функцый было адведзена 2 месяцы.

Сам прэзідэнт прыдаў выразны накірунак гэтай рэарганізацыі ўлады пад сябе. 2 кастрычніка ў 2-гадзінным выступленні па тэлеэфіры ён прызваў "нелигитимный" ВС больш не збірацца на пасяджэнні, даручыў Л. Сініцыну звязацца са старшынямі аблвыканкамаў і "провести работу со старыми депутатами". Ён абвясціў, што Канстытуцыйны і Вярхоўны суды зараз падсправаздачны яму, а не ВС, што папраўкі ВС аб 25 % квоце для выбараў не будуць дзейнічаць, што ён адмовіў ураду рабіць справаздачу аб выкананні бюджэта за 1995 г.

Апальныя і ганімыя рэшткі ВС прынялі вызаў. 3 кастрычніка на пасяджэнні прэзідыума ВС М. Грыб заявіў, што паколькі А. Лукашэнка не апратэставаў папраўкі закона аб выбарах у 10 дзённы тэрмін, то яны ўступаюць у сілу. Прысутныя В. Капітан, У. Каравай і У. Бойка маглі толькі браць прыклад з мужнасці спікера, які іх дакараў у нявернасці правапарадку. Капітан апраўдваўся тым, што галоўныя ахоўнікі закона ў краіне самі аказаліся паміж молатам і кавалдай і не разумелі, чые указы і якія законы выконваць.

Па ягонай логіцы ВС быў правамоцны пры 241 дэпутатах (па Канстытуцыі гэта 2/3 дэпутатаў з 360 чал.). Аднак такой колькасці даўно няма, бо 5 верасня на сесію сабралася 204 чал. Таму мы не можам выконваць законы ВС як неправамоцныя з-за адсутнасці кворуму. Абрамовіч, як старшыня Цэнтральнага камітэта па выбарах, назваў спамянуты зварот 8 дэпутатаў незаконным, бо з усіх 260 дэпутатаў у першым туры было выбрана 119 чал. і ВС аказваўся правамоцным пры выбранні 2/3 ад усіх дэпутатаў. "У сувязі з невыбраннем у першым туры выбараў неабходнай колькасці дэпутатаў, яны не маглі прыняць ніякіх рашэнняў, бо ўсе прынятыя рашэнні былі б прыняты органам у неправамоцным складзе і не мелі б юрыдычнай сілы". Сесія ВС не сабралася - да наяўных 170 не хапіла 30 чал. Вынік мэтанакіраванай апрацоўкі дэпутатаў на месцах і простай траўлі іх быў наліцо.

Больш таго, прэзідэнт на аб'яднанай нарадзе з Камітэтам міністраў і Саветам бяспекі 4 кастрычніка безапеляцыйна заявіў, што кіраўнікі або не ўмеюць працаваць або гуляюць у палітыку. Ён абяцаў да канца года разабрацца з кожным органам выканаўчай улады і з кожным кіраўніком асабіста. Ён сказаў (7 кастрыч-

ніка), што не падпіша закон ВС аб змяншэнні планкі ўдзелу грамадзян у галасаванні, бо гэта "стварае негатыўны прэцэндэнт і частка дэпутатаў выбрана летам па аднаму закону, а другая частка будзе цяпер выбірацца па іншаму". Проста гэта - "бомба запаволенага дзеяння". Ён адклаў нараду за круглым сталом на няпэўны час, тым больш, што яго праціўнікі ўсё яшчэ адмываліся ад вылітага на іх бруду і тузаліся ў рознагалоссях і амбіцыях лідэраў. Ён не жадаў бачыць у новым ВС згуртаваных фракцый.

5-6 кастрычніка Канстытуцыйны суд разгледзіў легітымнасць указа Лукашэнкі № 267 ад 12 ліпеня 1995 г. (аб удакладненні бюджэта на 1995 г.), з пазіцыі таго, што ўрад быццам бы не меў часу на карэкціроўку яго ў ВС. Эксперты - В. Шуклін і С. Дрэйзенштак - абазначылі неадпаведнасць указа Канстытуцыі тым, што прэзідэнт прысвойвае прарэгатывы ВС, бо ім падрыхтаваны "зусім новы бюджэт", у тым ліку выраслі непрапарцыянальныя расходы на ўтрыманне Галоўнага ўпраўлення, дзяржаўную ахову, на службу аховы прэзідэнта, на прэзідэнцкі рэзервовы фонд, уведзены бюджэтныя пазыкі, зняты датацыі на дзіцячае харчаванне, на бясплататнае навучанне ў вячэрніх школах. Суд прызнаў незаконнаць указа, бо замест заканадаўчай ініцыятывы ці звароту у ВС, прэзідэнт уласнай воляй перакроіў бюджэт. Дзік апраўдваўся тым, што калі б так не зрабілі, то бюджэтнікі засталіся б без заробку і паколькі ў ліпені не было парламенцкай сесіі. Суд прызнаў незаконнымі толькі змену бюджэта па датацыях, па устанаўленні новых акцызаў, па адмене льгот ваенным і адмене платы за навучанне ў вячэрніх школах.

11 кастрычніка Канстытуцыйны суд прыняў рашэнне аб легітымнасці ВС 12-га склікання да часу адкрыцця першай або установачнай сесіі новага ВС  па звароту Бойкі, Капітана і Каравая. Яны дакладна паяснілі, што кворум для прыняцця рашэння ВС залежыць не ад колькасці ўсіх дэпутатаў, а ад выбраных, бо мінімальная колькасць выбраных, пры якім рашэнне лічыцца правамоцным і правільным, у Канстытуцыі не ўстаноўлена. Яны заявілі, што ВС 12-га склікання "у адпаведнасці з Канстытуцыяй і законамі Рэспублікі Беларусь мае права ажыццяўляць свае паўнамоцтвы у якасці вышэйшага прадстаўнічага пастаянна дзеючага і адзінага заканадаўчага органа ў поўным аб'ёме да першага пасяджэння ВС РБ 13-га склікання". У асобнай думцы Г. Васілевіча гучала тое, што ВС сам не выконвае ў поўным аб'ёме ўласных законаў, што выбары належала правесці ў лютым 1995 г., што паўнамоцтвы ВС вядуцца з першага пасяджэння (14 мая), а не да запаўнення яго 2/3 складу, што для пачатку працы новага ВС трэба 174 дэпу-

таты. Але Канстытуцыя не вызначала, што такое агульная колкасць дэпутатаў, а ВС быў правамоцны пры зборы не менш чым 240 прадстаўнікоў (2/3 ад 360 чал.).

Рашэнне Канстытуцыйнага суда журналіст В. Жданко назваў "цвердым і катэгарычным адпорам усім спробам узурпацыі улады", хаця не існавала ніякай надзеі і гарантыі, што яно будзе выконвацца і не праігнаруецца. Гэта мужны крок суддзяў мог стаць "магутнай зброяй супраць тых сіл, якія захочуць спіхнуць дзяржаву са шляху дэмакратыі і аб'явіць законам уласнае уяўленне аб мэтазгоднасці і карысці". Добрыя словы адрасаваліся купцы людзей, на якіх выпаў лёс адказнасці за будучае беларускай прававой дзяржавы, паколькі згодна з данымі ад 12 кастрычніка сацыялагічнай службы "Грамадская думка", 37 % апытаных ёй абыякава ставіліся да шматпартыйнасці, а цалкам адмоўна да гэтага аднеслася 29 % рэспандэнтаў. Таму не дзіўна, што Замяталін 11 кастрычніка даручыў Дому друку скасаваць дамову з газетамі "Народная Воля", "Белорусской деловой газетой", як было сказана, "по техническим причинам". Аблвыканканам было загадана спыніць выданне ўсіх недзяржаўных сродкаў да часу іх перарэгістрацыі.

Рашучая пазіцыя Канстытуцыйнага суда падбадзёрыла групу дэпутатаў ад апазіцыі БНФ у ВС (З. Пазняк, Г. Сямдзянава, С. Навумчык, В. Голубеў, Б. Папкоў, І. Герменчук, Л. Баршчэўскі, А. Шут, А. Трусаў) 10 кастрычніка агалосіць сваю заяву. У ёй гаварылася, што "на Беларусі ўстаноўлены аўтарытарны рэжым карпаратыўнага зместу.., таму што тут фактычна ліквідаваны падзел уладаў,..абмежаваная свабода друку. Улада у краіне узурпавана прэзідэнтам і ягонымі саўдзельнікамі. Імі знішчаецца парламентарызм і мясцовае самакіраванне, не выконваюцца Канстытуцыя і законы, захоплены і раскрадаецца бюджэт".. Заява канстатавала, што Лукашэнка імкнецца ліквідаваць існуючы парламент, бо ён нехоча, каб той кантраляваў бюджэт і "злачыннае свавольства выканаўчай улады,.. каб пазбегнуць адказнасці за параліч эканомікі, фінансаў, раскраданне бюджэту, захоп дзяржаўнай маёмасці".

Лукашэнка на з'ездзе федэрацыі прафсаюзаў гаварыў, што ён ніколі не імкнуўся да дыктатуры, а ўсе інтрыгі ВС і Канстытуцыйнага суда пачаліся са скарачэння ім аплаты дзяржорганаў, дакладней дэпутатаў і суддзяў, якія "заеліся, зажраліся" і бралі заробку больш за яго, прэзідэнта. Ён гаварыў, што разгляд ягоных указаў у ВС толькі дэстабілізіруе абстаноўку у Беларусі.

16 кастрычніка Канстытуцыйны суд разгледзіў пратэст Лукашэнка на змены ВС некаторых артыкулаў закона аб прэзідэнце, у

якіх гаворылася аб яго праве ініцыіраваць рэферэндум. Суд адхіліў разгляд справы аб льготах і рашыў паміж 3-4 лістапада правесці нараду старога і новага ВС з удзелам прэзідэнта, г. зн, вузкім колам, амаль па-сямейнаму, без партый. Адміністрацыя Лукашэнкі брала расходы на такую сустрэчу, але хутка адклала круглы стол да невядомага часу, бо не пажадала гаварыць з абанкруціўшыміся палітыкамі, з 50 дэпутатамі, якія "закусілі цуглі". А партыі, маўляў, няхай спачатку заваююць давер у народа.

19 кастрычніка Лукашэнка тры гадзіны абкатваў ідэю адзінага палітдня на сустрэчы з ветэранамі. Ён гаварыў ім, што эканоміка працуе з перабоямі, бо цэлыя "кланы проникли своими шупальцами в органы власти и управления. Люди, которые даводят предприятия до ручки, чтобы обьявить эти предприятия банкротами и прихватить бесплатно". Затым, аднак, вораг аказваецца ў выглядзе "самавольства мясцовай адміністрацыі, органаў унутраных спраў, судовых інстанцый..І я вымушаны прымаць жорсткія меры, каб спыніць скочванне Рэспублікі ў бездань,..бо я не мог уступіць у канфрантацыю з сіламі, што хацелі выкарыстоўваць беларускі народ у сваіх палітычных гульнях.. хто хоча на спінах прадстаўнікоў народа уехаць у прывілеяваны рай". "Гэтыя людзі заеліся і хаця я іх прывёў да улады, яны не выканалі галоўныя мае патрабаванні - павярнуцца тварам да гэтага няшчаснага народа..,занялiся дзяльбой кватэр пад сябе, забеспячэннем сваякоў, звязаліся з камерцыйнымі структурамі". ВС аказваецца спавітым мафіёзнымі сувязямі, а таму, наіўна пытаецца Лукашэнка, каму патрэбны такі парламент, які не можа сабраць уласных 200 дэпутатаў і дзе адзін галасуе за семярых? "Трэба гэтаму бязладдзю пакласці канец". А менавіта, гразіўся прэзідэнт, калі 29 лістапада не будзе выбрана дастаткова дэпутатаў, то ён увядзе прамое прэзідэнцкае праўленне, "каб захаваць дзяржаву". Бо, аказваецца, "ўсеуладдзе гэтага парламента скончылася пасля таго, як гэты ж парламент прыняў новую Канстытуцыю і устанавіў інстытут прэзідэнтства, заявіўшы аб раздзяленні уладаў і паўнамоцтваў розных галін улады." "Я не супраць роўнасці, але ў грамадстве павінен быць стрыжань, ствол, ад якога растуць гэтыя галіны. І гэты ствол-кіраўнік дзяржавы".

Згодна з апошнімі апытаннямі, 31 % рэспандэнтаў сапраўды тады верылі ў пагрозу дыктатуры з-за магчымасці зрыву выбараў пры тым, што яны павінны адбыцца пры старой норме яўкі выбаршчыкаў у 50 %. У ВС усяго было вылучана па 141 акрузе 935 прэтэндэнтаў.

У сувязі з гэтым, 25 кастрычніка прэзідыум ВС прыняў заяву, дзе выказванні Лукашэнкі аб нежаданні яго выконваць Канстытуцыю, знявагу у адрас дэпутатаў, пагрозы ўвесці прамое прэзідэнцкае праўленне назваў пачаткам "працэса разбурэння асноў прававой і грамадзянскай стабільнасці", аднабаковым захопам паўнамоцтваў "іншых самастойных галін улады,..што прэзідэнт паслядоўна знішчае любыя праявы іншадумства і крытыкі у свой адрас". Праявамі падобнага называлася адмова прэзідэнта прадставіць справаздачу аб выкананні бюджэта, пагрозы і ціск на дэпутатаў, зрыў сесіі ВС, умяшанне ў дзейнасць КС, забарона тэлевыступу старшыні ВС, забарона друку "Беларускай дзелавой газеты, Народнай Волі, Імя". Лукашэнка быў пакліканы да "разумнага кампрамісу".

Той 28 кастрычніка адказаў, што ў ВС рвуцца людзі, якіх "блізка нельга дапускаць да ўлады". Ён прызваў не галасаваць за былых дэпутатаў-"не трэба цягнуць былых" у ВС. "Часы ўсеуладдзя Саветаў прайшлі. Кожная галіна ўлады павінна дзейнічаць на сваім полі". Ён зноў прыгразіў увядзеннем уласнага самадзяржаўя без прававых абмежаванняў: "ніякай абсалютнай улады мне б не хацелася, але я вымушаны прымаць адпаведныя меры".

30 кастрычніка Канстытуцыйны суд прызнаў правамоцнымі змяньшэнне ВС яўкі 25 % выбаршчыкаў для прызнання легітымнымі ўсіх выбараў. Сюды звярнуўся Д. Булахаў з просьбай разгледзіць пратэст прэзідэнта і ягоны указ аб недапушчальнасці прынятай квоты і забеспячэнні роўных магчымасцяў пры правядзенні выбараў.

Генпракуратура 4 лістапада спыніла следства аб збіцці дэпутатаў ад апазіцыі ў сувязі з немагчымасцю ўстанавіць асоб, якія падлягаюць прыцягванню да судовай адказнасці. Пастанова гаварыла пра перапыненне крымінальнай справы наступным чынам.

"Ст. следователь по особо важным делам при Генеральном прокуроре Республики Беларусь ст. советник юстиции Бролишс Я. Я., рассмотрев дело о событиях в Доме правительства, возбужденное 12.04.95 г. по ч. 2 ст. 201 и ч. 2 ст. 167 УК РБ, установил:

11 апреля 1995 года депутаты Верховного Совета республики Беларусь Аксамит Н. В., Борщевский Л. П., Крижановский Н. К., Наумчик С. Н., Позняк З. С., Шут А., Трусов О. А. и другие - всего 19 человек объявили акцию политического протеста в виде голодовки и в связи с этим в вечернее и ночное время остались в зале заседаний Верховного Совета, расположенном в Доме правительства в городе Минске.

В 20 часов 09 минут 11 апреля в дежурную часть Управления внутренних дел горисполкома поступил анонимный телефонный звонок о том, что Дом правительства заминирован и возможен взрыв. Обследованием первого и второго этажей Дома правительства, в том числе и зала заседаний, произведенным саперами, взрывных устройств не обнаружено, о чем в 0 часов 30 минут 12 апреля составлен акт. Вместе с тем, с ссылкой на сообщение о минировании и возможности взрыва, в 2 часа 50 минут депутаты против их воли насильно выдворены из зала и здания и групами по 2-5 человек вывезены в различные места города. После выдворения депутатов произведен досмотр их личных вещей, оставшихся в зале заседаний.

Депутаты показали, что в их удалении из Дома правительства участвовало значительное количество служащих милиции, армии и неопознанных ими формирований, действовавших беспричинно грубо, наносивших им удары кулаками, ногами и резиновыми палками. По заключению судебномедицинской экспертизы у семи прошедших освидетельствование депутатов имелись легкие, не повлекшие расстройство здоровья телесные повреждения в виде множественных кровоподтеков, причинение которых возможно при обстоятельствах, указанных пострадавшими. Аналогичные телесные повреждения имелись у трех депутатов, не обращавшихся в бюро экспертизы.

Установлено, что в Доме правительства были военнослужащие внутренних войск первой роты войсковой части 3214 в количестве 37 человек, первой роты войсковой части 5448 в количестве 43 человек, отряд милиции особого назначения МВД в составе 86 человек, 24 служащих Главного управления охраны МВД. Эти военнослужащие и работники милиции допрошены и показали. что насилия к депутатам не применяли. Кроме вышеназванных в Доме правительства были и совершали активные действия в отношении депутатов подразделения, ведомственная принадлежность и личный состав которых седствием не установлены. Имеющиеся в деле данные об участии в расследуемых событиях военнизированного формирования органов госбезопастности по борьбе с терроризмом руководство КГБ не подтвердило. Причастность армии к происшествию в Доме правительства Министерство обороны отрицает.

Управлением охраны при Президенте республики неоднократные запросы прокуратуры оставлены без реагирования. Кассеты видеозаписи, выполненной в зале заседаний Верховного Совета, Администрация Президента следствию не передает. Содержимое

кассет имеет существенное значение для определения круга участников расследуемых событий, установления их личности, степени участия и возможной вины и, таким образом, установления истины по делу.

Собранные доказательства свидетельствуют о том, что десяти народным депутатам Верховного Совета республики Беларусь, на которых распространяется положение ст. 37 о депутатской неприкосновенности Закона "О статусе народного депутата", действиями представителей власти причинены телесные повреждения. Однако установить конкретные лица и обстоятельства причинения телесных повреждений по настоящее время не представилось возможным. Также не представилось возможным установить личность гражданина, передавшего ложное сообщение о минировании Дома правительства и о возможности взрыва.

Учитывая, что по делу исчерпаны все возможности для собирания дополнительных доказательств следственным путем, руководствуясь п. 3 ст. 194 УПК РБ, постановил:

Предварительное следствие по делу приостановить за неустановлением лиц, подлежащих привлечению в качестве обвиняемых.

Ст. следователь, ст. советник юстиции Я. Я. Бролишс"

Такім чынам, генпракурор не спыніў, а прыпыніў папярэдняе следства, аднак ён не абазначыў рамкі і акалічнасці яго працягу. Па-другое, неверагодным гучыць прававая падстава спынення ім расьледавання  вычарпанасць магчымасцяў з-за сабатажу адказных асоб вышэйшых дзяржаўных установ. Генпракурор пры гэтай канстатацыі не паставіў лагічнае пытанне адносна прыцягнення да адпаведнай адказнасці кіраўнікоў дзяржаўных інстытутаў. У прыватнасці, ч. 1 арт. 166 таго ж Крымінальнага кодэксу дазваляла наказаць 3 гадамі зняволення за свядомае невыкананне службовых абавязкаў або пазбаўленне пасады да 5 гадоў за бяздзейнасць. Арт. 171 у ч. 2 таго ж Кодэксу дазваляў адхіліць ад пасады любую службовую асобу за свядомае ўтойванне або адказ ад прад'яўлення належных афіцыйных дакументаў па патрабаванні. А гэтыя катэгорыі злачынстваў мелі месца па факце збіцця дэпутатаў. Нарэшце, у справаздачы Бролішса не спаміналіся элементарныя артыкулы 110 (свядомае нанясенне пабояў) і 111 (сістэматычнае нанясенне пабояў), якія разам цягнулі 4 гады турмы па групе злачынстваў супраць жыцця і здароў'я грамадзян.

Адміністрацыя Лукашэнкі адмовілася прадстаўляць відэазапіс эвакуацыі галадоўшчыкаў, заяўляючы, што такой у яе няма. С. Навумчык назваў спыненне следства вынікам таго, што "перад самадурствам і прававым бязмежжам прэзідэнцкай улады сістэ-

ма пракратуры вартае гэтулькі ж, колькі Канстытуцыя і парламент і свабода слова". Ён не выключаў у сувязі з гэтым і "палітычнага забойства афіцыйных лідэраў" , што аказалася на дзіўна прароцкім. Сярод асоб, якія павінны панесці крымінальную адказнасць за злачынствы супраць дэпутатаў у Авальнай зале ВС у ноч з 11 на 12 красавіка 1995 г., С. Навумчык называе камандзіра "Альфы" Юрыя Randзіча, начальніка службы аховы прэзідэнта Вячаслава Каралёва, камандуючага ўнутранымі войскамі Валянціна Агальца, намесніка старшыні КДБ Валерыя Кеза, міністра абароны Анатоля Кастэнка, кіраўніка справамі прэзыдэнта Івана Ціцянкова, кіраўніка адміністрацыі прэзыдэнта Леаніда Сініцына і, канешне, самога Аляксандра Лукашэнку. Пракуратура ўсяго толькі перапыніла крымінальнае следства, а гэта азначае, што адплата за ўчынкі па азначанай справе немінучая, у тым ліку і што тычыцца звужэння ці пашырэння кола адказных людзей. Такі суд і грамадскі трыбунал стануць выпрабавальным тэстам на дэмакратызм для новай улады, якая павінна не на словах, а на справе пакончыць з недасягальнасцю ад кары камарыллі, якая сфарміравалася ў касту беспакараных з рою ліслівых халуёў, якія ў небяспечны для сябе момант гатовы заявіць, што яны ні пры чым, што яны толькі выканаўцы, што яны проста ахвяры часу, абставін і прымусу.

3-4 лістапада адбылася сустрэча дэпутатаў ВС 12 склікання з Лукашэнкам. У апраўданне сваіх дзеянняў Лукашэнка гаварыў, што Канстытуцыя мае нормы, дазваляючыя дваякае тлумачэнне і правапрымяненне, у тым ліку адносна тэрміну паўнамоцтваў ВС (арт. 81 і арт. 91). Артыкул 82 Канстытуцыі (пра скліканне першага пасядэжэння ВС на працягу 30 дзён пасля выбараў) не агаворваў мінімальную колькасць депутатаў (кворум), а арт. 7 закона аб ВС устанаўліваў правомоцнасць ВС пры абранні ў яго 2/3 депутатаў. Гэта дазваляла больш чым у 100 акругах пасля выбараў працаваць адначасова двум старым і новым дэпутатам, што пярэчыла ашчадным адносінам прэзідэнта да казённых ці народных грошай. Выхад, на яго думку, заключаўся ў карэкціроўцы Канстытуцыі, нормы якой сталі "причиной парламентского кризиса". Таму, гаварыў Лукашэнка, гэта мана быццам я супраць парламента. Наадварот, гэта ідэя "вечной националистической оппозиции". Над гэтым пахавальным намерам "на фоне общей пассивности неустанно трудилась опозиция". Лукашэнка адхіліў рашэнне Канстытуцыйнага суда аб прахадной квоце выбаршчыкаў у 25 %, "інакш я адмяжуюся ад усякага роду выбараў". Затым ён гаварыў пра сваю падтрымку дэпутатаў ВС новага 13 склікання. Уся сутнасць бягучага палітычнага моманта, па яго сцвярджэнню, заключала-

ся ў пераходзе ад "парламентской республики, основанной на всевластии Советов", да прэзідэнцкай рэспублікі з уласным самадзяржаў'ем, у сувязі з чым ён заклікаў прывесці ў парадак прававое поле, гэта значыць "аддаваць пад суд начальнікаў-злодзеяў". Ён раіў выконваць свае ўказы, інакш пагражаў, што "службовыя асобы любога узроўня будуць неадкладна звolены з работы" за непаслухмянасць. М. Грыб тут жа выразіў занепакоенасць тым, што калі ВС самараспусціцца, тады выканаўчая ўлада, або прэзідэнт, увядзе "прамое ці крывое праўленне" аднымі сваімі ўказамі. Заставалася гадаць, у што выльецца прамое праўленне і прага да ўсякіх надзвычайных паўнамоцтваў. Выбарчыя камісіі, к прыкладу, да самага апошняга дня падліку галасоў нервавалі няпэўныя квоты у 50 ці 25 %.

У гэтай сітуацыі Канстытуцыйны Суд, які вагаўся паміж правам і палітыкай, схіляўся да ўтрымання балансу паміж веткамі ўлады і захавання сітуацыі ў прававых рамках, які заставаўся апошняй прававой перашкодай праізволу, 8 лістапада прызнаў, што Лукашэнка перавысіў уласныя паўнамоцтвы пры забароне "Свабоднага прафсаюза" і ліквідацыі дэпутацкай недатыкальнасці.

Прэзідэнт падліў масла ў агонь сваім адміністрацыйным свербам і падаў чарговы урок сваёй выратавальнай педагогікі. 20 лістапада ён даў інтэрв'ю нямецкай газеце "Хандэльсблат" , пасля чаго пайшоў шум пра яго ўхваленне нацыстскага парадку пры Гітлеру як узорнай мадэлі для пераймання. Прэзідэнту давялося абвяргаць абвінавачванні ў яго сімпатыях да фашызма, якія, як ён заявіў, прыдуманы журналістамі і спланаваны "у інтарэсах нацыяналістычных сіл, якія пацярпелі паразу на майскіх выбарах, імкнуліся сарваць усенародны рэферэндум і стварыць у Беларусі сітуацыю нестабільнасці і хаоса". Новых выбараў не будзе, заявіў ён з дыктатарскай рашучасцю: "гэта апошнія парламенцкія выбары у Беларусі на бліжэйшыя пяць гадоў, бо я не буду выкідваць мільярды на бесталковыя выбары, на якія народ не ходзіць". Расія застаецца адзінай дружалюбнай нам краінай, але "пакуль я з'яўляюся прэзідэнтам, аб'яднанне дзяржаў не адбудзецца". . А. Лукашэнка катэгарычна заявіў, што выбары пройдуць па старым нормам роўнага прадстаўніцтва для ўсіх без выключэння кандыдатаў і што ён не дапусціць, каб "9 членов Конституционного суда, не избранные народом, решали судьбу всего государства".

І хаця на чарговай нарадзе ў прэзідэнта 20 лістапада нават Сяргей Лінг гаварыў, што "мы стварылі сістэму, якая ўсякія рэформы душыць на карані", А. Лукашэнка ўпарта ішоў на канфрантацыю з упэўненасці ў сваю выключнасць, безумоўнае права на

лідэрства і беспакараную неміласэрнасць да неслухаў і непакорных. Бо гэта не ён, а "радыкальна-нацыяналістычная апазіцыя пры падтрымцы ценявых мафіозных структур..імкнецца да бязмежнай дыктатуры, ускормленыя на брудныя грошы, палітолагі...нагнятаюць масавы псіхоз, нацкоўваюць насельніцтва на дзяржаўныя структуры, на прэзідэнта. Усе іх разважанні аб свабодзе друку, вяршынстве закона - не больш чым прапагандысцкае прыкрыццё адкрытай прагі рэваншу за знішчальнае паражэнне...апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах, на першым этапе выбараў у парламент..Усе аб'ядналіся ў барацьбе супраць прэзідэнта. Таварышы кіраўнікі. Не жывіце ілюзіямі. Калі нацыяналістычная суполка "спадароў" установіць сваю дыктатуру, для многіх з вас і вашых сем'яў адразу ж паўстане пытанне аб асабістай бяспецы. Галоўная задача нацыяналістычнай дыктатуры-усталяваць уладу крымінальнай мафіі, каб канчаткова разрабаваць і вывезці ў чужыя банкі народны набытак. У мяне моцныя нервы. У полымі агрэсіўнай балбатні згараць перш за усё..амбіцыі і дамаганні на антынацыянальную і антынародную дыктатуру". Лукашэнка клікаў чыноўнікаў не сядзець склаўшы рукі, адкінуць ваганні, перагледзіць падыходы і рашуча пакласці канец " разгулу эсктрэмісцкіх мафіёзных элементаў", бо народ стаміўся ад бяздзейнасці улады, ад дарэмнага спадзявання на яе. "Ліміт даверу да прэзідэнцкай вертыкалі таксама не бязмежны". Лукашэнка адкрыта заявіў, што не збіраецца супрацоўнічаць са "старым, неправамоцным і недзеяздольным ВС" які заахвочвае нераўнапраўныя выбары, бо ўведзеная ім норма ў 25 % дазваляе прарвацца ў парламент чамусьці "дэструктурным, экстрэмісцкім сілам", вядзе да канфлікту паміж дэпутатамі, выбраных на першых і паўторных выбарах. Калі КС не прыме адзіна правільнага рашэння, то такое рашэнне "прыме кіраўнік дзяржавы. Выбары пройдуць пры яўцы не менш як 50 % выбаршчыкаў. Гэта маё вам распараджэнне".

Лістападаўскія давыбары праходзілі сярод 865 кандыдатаў, сярод якіх пераважалі начальнікі розных узроўняў і якім прадстаяла вынімаць з пісанай торбы цуды дабрабыту. З прэзідэнцкай вертыкалі балатавалася 41 асоб, ад "былых" дэпутатаў ВС ішло 37, ад БНФ - 69, ад камуністаў 121 асоба. Увогуле ў другі раз балатавалася практычна палова (426) кандыдатаў у дэпутаты. Тэлебачанне круціла забаўляльныя праграмы і савецкія фільмы пад акампанемент прапаганды пра моцную руку, якую беларусы удоваль паспыталі пры Сталіну і пад час гітлераўскай акупацыі з нямецкім або нацысцкім парадкам, які, аказваецца, па словах прэзідэнта, вельмі падыходзіць для кіравання Беларуссю, які адпавядае ідэа-

лу прэзідэнта, які здольны у патрэбны момант навесці правільны парадак і ўзняць краіну з руінаў.

Праўда прэзідэнт хутка (1 снежня) заявіў, што ён нічога такога не гаварыў, а журналісты сказілі яго выказванні адносна прамога або аўтарытарнага праўлення накшталт фашысцкага. У адказ на сцвярджэнні пра "небяспеку адзінаўладдзя" ён сказаў, "Улада валяецца ў гразі.., мне не трэба абсалютнай улады. ВС прызначаны не для галадовак, а для стварэння законаў.. Я часта вымушаны займацца тым, чым не павінен, гэта значыць, раблю даручэнні, каб сілай улады выправіць становішча. Навошта мы надзімаем шчокі". Мінаваць канцэнтрацыі ўсёй улады у сваіх руках яму не выпадала, бо міжволі даводзілася ўмешвацца ў дробязі. А па-другое, гаварыў ён, калі "абсалютная ўлада-гэта абсалютная адказнасць, тоя я гатовы да абсалютнай адказнасці". Мінаваць абсалютызму у яго ніяк "не атрымліваецца". У любым выпадку ён асабіста не збіраўся галасаваць "за бывших..,кто довел страну до развала". А што да выдалення апазіцыі з Авальнай залы, то навошта "с ними церемониться,..мы их чуть ли не на руках уносим с тех мест, где они нарушают законы".

Першыя афіцыйна вынікі выбараў былі абвешчаны 1 снежня, з якіх вынікала, што ў першым туры галасавала 52 % , а ў наступным 61 % грамадзян. У першым туры яны выбралі 18 дэпутатаў ВС, у другім - 59 чал., а разам у двух турах - 198 дэпутатаў ад 16 партый. Гэтага было дастаткова для пачатку працы новага ВС 13 склікання. Не было выбрана 62 чал., а ў 19 гарадах не былі выбраны мясцовыя Саветы. Другая афіцыйная ацэнка выбараў прагучала 22 снежня, калі было заяўлена, што ўсяго галасавала 53 % выбаршчыкаў, якія выбралі 58 дэпутатаў, аднак вакантнымі засталося 62 месцы народных абраннікаў. БНФ не правёў у ВС сваіх 69 кандыдатаў, а лідэр фронта З. Пазняк 20 снежня растлумачыў іх паразу недасканаласцю выбарчай сістэмы і недэмакратычнасцю ўмоў галасавання. Амаль палову месцаў у ВС (95) занялі т. зв. беспартыйныя, у якіх не без падстаў бачылі замаскіраваных "чырвоных". Такі блок намячаўся з улікам таго, што камуністы занялі 42 месцы (21 %), а наменклатурныя аграрыі - 48 або 24 %. Вялікі ўдзел камуністаў у выбарах прывёў да росквіту настальгіі па былым СССР. Яны вярнулі выбаршчыкаў у мінулае і сваёй перамогай спраўдзілі іх ілюзіі ў лёгкасць хуткіх рашэнняў пры дакрэтава-лагернай мадэлі жыцця.

Лукашэнка перамог у гэтым процістаянні, бо 14 снежня КС прызнаў не адпаведнымі Канстытуцыі 14 артыкулаў закона ВС аб ВС. Прэзідэнт перамог тактыкай раскола, шляхам закрытых пе-

рамоў з будучымі фракцыямі новага ВС дзеля атрымання паслухмянага і абачлівага парламента. Першым на іх пайшоў будучы спікер Сямён Шарэцкі. Першае пасяджэнне ВС 13 склікання было назначана на 9 студзеня 1996 г.

Выбары 1995 г. сталі "вынікам пасіўнасці і абыякавасці" выбаршчыкаў". Яны адлюстравалі татальнае расчараванне электарата ва ўладах, яго недавер да ўсяго новага, традыцыйна навязанага яму зверху і нечакана, які не ведаў, як можна жыць інакш без страчаных камфортных сацыяльных гарантый  і які нястрымна жадаў вярнуцца ва ўпадабаны савецкі лад, дзе любую праяву сваёй нацыянальнай адметнасці адмяталі, сціралі, як нешта брыдкае і заганнае , дзе панавалі нецярпімасць да іншадумства, дагматызм, абогатварэнне павадыроў, катаў і нянавісць да іх ахвяр, да тых нораваў агрэсіўнага натоўпа, якія недабразычліўцы хацелі адабраць у яго і да якіх заўжды апелявалі народныя заступнікі ў безупыннай барацьбе з рознымі ворагамі. Лукашэнка ў поўнай меры спраўдзіў гэтую рэваншыстскую і пракамуністычную настальгію.

Уласна ВС 12 склікання не вылучаўся ні наватарствам, ні экстрэмізмам. У сваёй большасці ён даўно быў паслухмяным піяніна для галасавання і яму заставалася толькі спакойна дапрацаваць адведзены тэрмін. Аднак ён заставаўся трыбунай галоснасці для кансалідараванай апазіцыі і ў гэтай якасці ўяўляў сабой значную перашкоду супраць узрастаючага самадзяржаў'я прэзідэнта. Таму новы гарант Канстытуцыі, які ўяўляў сябе нясучым ствалом валадарнага дрэва, узмахнуў сякерай, каб смела адсекчы ад яго высахлую або сбанкручаную заканадаўчую галіну. На працягу 1995 года акружэнне А. Лукашэнкі па вопыту Расіі 1993 года прагнула пазбавіцца ад прадстаўнічай улады і апазіцыі у ёй, бо тая спрабавала "стоять на страже конституционного строя, законности в стране..на пути установления президентской диктатуры, президентской вседозволенности и произвола". Прэзідэнцкае атачэнне скарысталася бяздзейнасцю і абыякавасцю грамадства, каб нейтралізаваць сваіх палітычных апанентаў , каб ачысціць палітычнае поле ад актыўнага супраціву, а прадстаўнічую ўладу ад усякай апазіцыі, каб мець яе выключна падкантрольнай і лаяльнай дэкарацыяй. Па вобразнаму назіранню А. Лябедзькі, на месцы шматгалінова дрэва ўлады застаўся адзін аружэйны ствол. Улада аказалася пераразмеркаванай "на карысць адной асобы з яе шчырай верай у выратавальную для народа місію такога тыпу улады". Манапалізацыя выканаўчай улады ў руках прэзідэнцкай адміністрацыі залажыла "асновы аўтарытарытарнай дзяржавы"  дзе не трэба абцяжарваць галаву клопатам па захаванні законнай працэдуры

ўзгадненняў, неад'емнай валакіты пры калектыўным прыняцці рашэнняў у парламенцкіх сесіях, абавязковых пры захаванні іншадумства розных адшчапенцаў, якія не хочуць якраз адзінадушнай кансалідацыі вакол адзінаўладнага кіраўніка валюнтарысцкага тыпу.

На места самаўладнай КПСС А. Лукашэнка паставіў падкантрольную толькі ўласна яму выканаўчую адміністрацыю (вертыкаль) з яе спакусай кіраваць таксама непадзельна і бескантрольна, а парламент мець як нямоглы прыдатак і квазідэмакратычную шырму для заспакаення ўніклівых замежных назіральнікаў.

Манапалізацыя ўлады з парушэннем баланса уладаў заўжды асуджае грамадства на валюнтарызм і аўтарытарызм. Непадкантрольных грамадству правіцеляў заўжды адольвае манія вялікасці і ўсёдазволенасці. Прагне стаць беспакаранай і падтрымліваючая іх чэлядзь. Аднак больш за ўсё яны баяцца суда і адказнасці.

Што да збіцця дэпутатаў з апазіцыі, то нават і без уліку фактару дэпутацкай недатыкальнасці, папярэдняе следства Генпракуратуры дазваляе гаварыць пра наступнае.

1. Афіцыйна вялося папярэдняе расследаванне, якое не спынена, а перапынена па агучаных самім генпракурорам абставінах.

2. Гэтае следства не завершана з-за сабатажу у прадастаўленні належнай службовай інфармацыі кіраўнікамі вышэйшых дзяржаўных інстанцый-КДБ, Мінабароны, Службы аховы і Адміністрацыі прэзідэнта. А гэта значыць, што спынена гэтае следства неправамерна, бо яно не дайшло да ўстанаўлення ісціны ў справе менавіта з-за ўтойвання адказнымі чынамі дакументаў, фальсіфікацыі відэазапісаў і г.д. Такім чынам, перапыненае следства лагічна перацякае ў крымінальны праслед асоб, якія перашкодзілі дзеянням самой Генпракуратуры.

3. Вярхоўны Савет не адрэгаваў на бязсільнасць Генпракуратуры і не стварыў уласнай, як гэта натуральна ў прававых краінах, следчай камісіі.

З улікам згаданых акалічнасцяў, крымінальнае следства па факту гвалтоўнага збіцця дэпутатаў ад апазіцыі ніяк немагчыма лічыць завершаным. Яно павінна быць адноўлена і праведзена сапраўды для канчатковага высвятлення ісціны ў справе і пакарання адказных за тое асоб.

# Антончык Сяргей

*Мы задыхнуліся глытком свабоды*

Я трапіў у Вярхоўны Савет 12 склікання як адзін з прадстаўнікоў Беларускага Народнага Фронту. Тады была першасная перабудоўчая хваля, бо потым з'явіліся сілы адраджэння. Лічу, што аказаўся ў ВС дастаткова лёгка. Тады на выбарах я праходзіў кандыдатам ад мясцовасці, ад Паўночнага Захаду (раёна у Мінску), дзе жыву. Сход прайшоў тут у школе, дзе я і быў вылучаны. Адначасова мяне вылучылі яшчэ на заводзе ад цэха кандыдатам у дэпутаты Мінгарсавета і я стаў адначасова дэпутатам Гарсавета і ВС.

У ВС я увайшоў у створаную дэпутацкую групу апазіцыі БНФ таму, што ужо быў прадстаўніком БНФ. Тады не было прапарцыянальнай сістэмы з яе спісамі ад партый, як у Расіі. У Фронце жа была дастаткова сур'ёзная дысцыпліна. Таму усе прадстаўнікі БНФ, якія былі дэпутатамі, увайшлі ў склад апазіцыі ў ВС на чале з Зянонам Пазняком. Гэта была самая арганізаваная, самая дысцыплінаваная фракцыя дэпутатаў, што звязана ў першую чаргу з асобай Пазняка. Па-першае, у яго не было палітыкі з выхаднымі і ён прымусіў усіх нас гэтак жа так працаваць у ВС. Сабраныя ім аднадумцы ператвараліся ў сур'ёзных палітыкаў, якіх аб'ядноўвала ідэя нацыяналаьнага адраджэння. Мы не былі адарваныя ад масаў дэпутаты, бо за намі стаяла вялікая арганізацыя - БНФ. Вось на гэты трыумвіратмоцную ідэю, моцную арганізацыю і моцнага лідэра мы трывала і абапіраліся. У апазіцыі ВС я быў шараговым сябрам і ў склад яе кіраўніцтва не ўваходзіў. Гэта нікольki не пагарджала мой статус, таму што мне трэба было шмат вучыцца, каб дайсці да таго узроўня, які патрабаваўся, бо я быў адзін з нямногіх дэпутатаў - рабочых. Я больш удзельнічаў у рабочым руху у яго страйках, быў адным з кіраўнікоў страйкама г. Мінска, які з'яўляўся рэспубліканскай структурай, і займаўся ўтварэннем першых незалежных прафсаюзаў на Беларусі. Можна сказаць, што ў БНФ было сваё рабочае крыло накшталт польскай

Салідарнасці. але я быў толькі адзін з такіх, як Собаль Міхась, Віктар Івашкевіч, Георгій Мухін, Генадзь Юыкаў ?????. Другім накірункам маёй дзейнасці стала цікавасць да карупцыі, у сувязі з чым я вельмі сур'ёзна займаўся рознымі расследваннямі. Мае першыя публікацыі былі ў "Арументах і Фактах", у гэтай першай перабудоўчай газеце, якую разам з вядомым часопісам "Огонек" усе чыталі. Потым гэта тэма стала каньком, які выкарыстаў А. Лукашэнка, але гэта ўжо іншая справа.

У ВС было 360 дэпутацкіх месцаў, з якіх 27 ці 30 займала фракцыя БНФ. Пры такіх суадносінах мы не маглі праводзіць сваіх рашэнняў. Іншымі словамі, мы былі меншасцю у ВС і нам трэба было працаваць з большасцю. А большасць на ВС была якраз наменклатурай, прычым партгаспадарчай наменклатурай. Беларуская наменклатура ніколі не мела сваёй волі, а складалася з людзей, якія былі заўжды прышпіленыя, прышчэпленыя ці прывязаныя да Масквы. Яны як манкурты заўжды азіраліся на Маскву і ім пастаянна патрабаваўся нейкі павадыр. Для іх у ВС мы з самога пачатку сталі чужародным элементам. Наменклатура баялася ўступаць у апазіцыю БНФ і кантактаваць з намі, хаця ведала, што мы распрацоўваем сур'ёзныя эканамічныя і палітычныя праекты. Таму трэба было ўтварыць нейкую аморфную палітычную арганізацыю, дзе можна было б праводзіць дыскусіі, выходзіць на іншых кандыдатаў і г. д. Так была створана аморфная структура пад назвай Дэмакратычны клуб дэпутатаў. Я дакладна ведаю, што ініцыятыва яго стварэння паходзіла з фракцыі БНФ, бо многія дэпутаты неаднаразова казалі пра тое, што трэба стварыць больш шырокае аб'яднанне.

Утварэнне Дэмклуба было нашым жаданнем для таго, каб выйсці на больш шырокія кантакты у ВС. З другога боку, гэта было і імкненнем той часткі дэпутатаў, якія знаходзіліся па-за межамі апазіцыі БНФ і якія хацелі растварыць апазіцыю БНФ у шырокім дэпутацкім корпусе. Частка дэпутатаў уваходзіла ў Дэмклуб з мэтай дэзавуіраваць рашэнні апазіцыі ў ВС, каб праз вялікую структуру сказаць, што апазіцыя ёсць крайнія нацыяналісты, а вось гэты Дэмклуб - зусім іншае.

У апазіцыі БНФ не думалі карыстацца наменклатурай для лабіравання сваіх інтарэсаў. Апазіцыя была дастаткова жорсткай нацыяналістычнай арганізацыяй. У Дэмклубе ж сабралася тая частка дэпутатаў, якая хацела ўздзейнічаць на палітычны працэс у новай якасці, каб выглядаць дэмакратамі, але пры гэтым пакінуць усё як было. Я магу нагадаць сярод такіх фігур, к прыкладу, А. Лукашэнку, В. Ганчара, якія ўваходзілі ў Дэмклуб, але не ўваходзілі

ў апазіцыю БНФ. Ім хацелася быць дэмакратамі, але толькі ва ўладзе. У апазіцыі БНФ не было ілюзій наконт гэтага.

Рашэнне аб утварэнні Дэмклуба было прынята і апублікавана дзесці ў канцы 1990 ці напачатку 1991 г., але гэта была чыста дэкляратыўная заява. Сабралася ў ім каля 100 чал., якія ніякіх калектыўных рашэнняў не прымалі. Гэта не ўдавалася ім таму, што большасць дэпутатаў кожны раз мяняла свае погляды. Вазьміце таго ж А. Лукашэнку. То ён стаіць на платформе КПБ, то потым кажа -я за нацыянальнае пытанне. Ён заўжды быў такі вяртлявы. Таму прымаць нейкія ўзгодненыя рашэнні ў такой абстаноўцы не было мажліва.

Наплыў дэпутатаў у Дэмклуб адбываўся паступова, таму што большасць ВС, дзе панавала наменклатура, чакала, чыя возьме. Але палітычная сітуацыя мянялася. Правал "ГКЧП" прывёў да вельмі рэзкага размежавання ў ВС.

Апазіцыя БНФ у ВС была генератарам самых перадавых ідэй. Нагадаю, што ў Беларусі на хвалі перабудовы не было ўвогуле свайго нацыянальнага заканадаўства, нават самых элементарных законаў. Было чыста савецкае заканадаўства. Таму апазіцыя падрыхтавала стос законаў, якія тычыліся палітычных, эканамічных і сацыяльных рэформ. Другая справа, што яны прымаліся згодна з інтэлектам наменклатуры, бо што яны маглі аддаць, яны нам аддавалі. Што для іх было сур'ёзным адступленнем, яне не здавалі.

Па-першае, у апазіцыі БНФ былі ўтвораны моцныя галіновыя камісіі, у якіх працавалі відныя эканамісты. З іх удзелам быў створаны ценявы урад, які меў праекты сваіх грошай. Гэтыя праекты ужо былі апрабіраваны і тэхналагічна правераны у Эстоніі, ў Прыбалтыцы. Былі кантакты з вядомымі эканамістамі за межамі Беларусі. Усё рыхтавалася ў БНФ прафесійна. К прыкладу, сёння кажуць пра Балта-Чарнаморскі саюз. А мы казалі пра яго тады, бо распрацоўвалі цэлую сістэма забеспячэння Беларусі рознымі альтэрнатыўнымі сродкамі паліва, накшталт Балта-Чарнаморскага нафтавага калектара. Мы планавалі ў першую чаргу эканамічную бяспеку Беларусі і адносна сваіх грошай і правядзення прыватызацыі зямлі. Л. Зданевіч узначаліў камісію з групай талковых людзей, якая падрыхтавала праект прыватызацыі зямлі і правядзення рэформ у сельскай гааспадарцы. Ю. Беленькі распрацаваў праект грашова-крэдытнай рэформы. Ён адказваў тады у БНФ за фінансава-крэдытную сістэму увогуле. На нас працавалі такія акадэмікі, як Лыч, або доктар сельскагаспадарчых навук Нікітчанка, ды увогуле Акадэмія навук дапамагала. Таму падрыхтаваныя намі законапраекты не былі нейкімі летуценнямі, а ўсе яны былі наву-

кова апрабаваны. Наша задача, як палітыкаў, заключалася ў тым, каб правесці гэта ў жыццё, заставіць ВС пайсці на гэтыя змяненні.

Асабістая заслуга З. Пазняка была ў тым, што ён стварыў такую атмасферу, якая дазваляла расці яго паплечнікам побач з ім. Гэта можна сказаць пра Валянціна Голубева, які прыйшоў простым выкладчыкам, але ў канцы стаў займацца міжнароднымі справамі. Ён моцна выступаў і моцна ўздзейнічаў на людзей сваім красамоўствам. Ігар Герменчук, як журналіст, выдатна разумеў нутро падзей. Вельмі шкада, што яго зараз ўжо няма. Юрась Беленькі мог бы узначаліць Нацыянальны банк. Уладзімір Заблоцкі па-свайму сістэмнаму падыходу да эканомікі мог бы узначаліць ва ўрадзе блок рэформ. Прасцей кажучы, у апазіцыі з'явілася цэлая плеяда маладых рэфарматараў. Пазняк сярод іх быў найбольш актыўнейшы. Ён сістэмна падыходзіў да ўсіх рэчаў. Ён быў аддааны нацыянальнай ідэі і на справе з'яўляўся лідэрам нацыі, яе адраджэння. Увогуле, кожны чалавек у апазіцыі БНФ тады Пятро Садоўскі, і Мікалай Маркевіч, і Барыс Гюнтэр, і Алег Трусаўгэта, на мой погляд, у пэўным сэнсе зоркі.

Ідэю галадоўкі прапанаваў я разам з Мікалаем Маркевічам з Гродна. Справа ў тым, што галадоўка тады была дастаткова частай з'явай. Быў такі рабочы лідэр Быкаў, які сам галадаваў у палатцы на плошчы Леніна. Галадавалі таксама парыкмахеры сістэмы "Усход", гарнякі ў Салігорску. Галадоўкагэта крайняя форма пратэсту, калі вычарпаны усе магчымасці. Мы сказалі пра гэтую ідэю Валянціну Голубеву і пасля абмеркавання вырашылі сказаць пра яе Пазняку. Спачатку мы паехалі на маю кватэру на праспекце Праўды, а потым перабраліся на кватэру Голубева на вул. Лібегава. Вось там, на кватэры Голубева, і было прынята канчатковае рашэнне аб правядзенні галадоўкі ў сценах ВС. Трэба сказаць, што нашу прапанову Пазняк адразу успрыняў скептычна. Можа я памыляюся, але ён глядзеў на галадоўку, як на ахлакратыю. Ён не баяўся страт, але паразважаўшы хвілін 15-20 хутка выказаў сваю згоду. Гэта значыць, што Пазняк з самога пачатку паставіўся пазітыўна да галадоўкі. Ён выказваўся адносна яе скептычна ў тым сэнсе, што гэта не парламенцкі стыль работы, бо мы у ВС праводзілі ўсё легітымна, без істэрык. Мы вучыліся разам з ВС.

Ідэя галадоўкі з'явілася таму, што для беларускай незалежнасці настаў вельмі крытычны час. Калі мы гаворым пра Лукашэнку, то мы не ўзгадваем галоўнае, а менавіта тое, што не ў Лукашэнку насамрэч справа, а ў тым, што мы родам з СССР. На тэрыторыі былага Саюза заставаўся ваена-прамысловы комплекс. Існавала маса рэваншысцкіх сіл, якія хацелі павярнуць нас назад у страча-

нае мінулае. У БНФ было прынята рашэнне аб правядзенні рэферэндума і было сабрана больш 400 тыс.подпісаў, але большасць ВС нашу ініцыятыву заблакіравала. Бо мы прывыклі да таго, што не ўсё нам удалося. Тым не меней, мы былі рады, што пад нашым даўленнем была прынята дэкляярацыя пра суверэнітэт, што у нас ёсць краіна і мы мы атрымалі дзяржаву, якую хацелі. Аднак рэваншысцкія прарасійскія сілы падняліі галаву і па звычайнай імперскай прывычцы сталі "наязджаць" у ВС на новыя сімвалы незалежнасці  мову, сцяг і г.д. На пленарным пасяджэнні пад час рэйтынгавага галасавання ВС прыняў рашэнне ўвесці гэта ў склад пытанняў рэферэндума. Глядзець на тое, як знішчаюць асновы нашай краіны, нашых здабыткаў не хацелася, а значыць, у нас не заставалася іншага непрымусовага метада акрамя як галадоўка.

З гэтай нагоды сабралася дэпутацкая група апазіцыі БНФ. Не памятаю калі, але, здаецца, мы дамаўляліся ўвечары, перад самой акцыяй. Мы не ведалі, якое рашэнне прыме сам ВС. А можа яны адмовяць у правядзенні самога рэферэндума, супраць якога мы выступалі, можа адумаюцца? Былі распрацаваны усе ролі  хто будзе выступаць, хто што будзе казаць, з кім размаўляць. Дарэчы пра Дэмклуб. Калі б ён захацеў, то любое рашэнне не было б прынята, бо у ім было больш за 100 дэпутатаў. Супраць галасавала ці не 90 чал.

Пра галадоўку мы папярэдзілі усіх членаў апазіцыі. У фракцыі знайшліся людзі, якія папрасілі дазволу не ўдзельнічаць у галадоўцы. Я б не хацеў называць заўчасна тут прозвішчы. Ну хаця б Холад Павел Ігнацьевічужо стары, за 90 год чалавек, для якога, як пеў Віктар Цой, гэта была справа маладых. Або як Слабчанка, які адмовіўся.

Пасля некалькі галасаванняў мы убачылі, што ВС не падтрымлівае нашу ініцыятыву, паколькі ў ім дзейнічала прарасійская дэпутацкая група, а тым, хто яшчэ вагаўся, А. Лукашэнка прапанаваў пасады. Вы паглядзіце- амаль усе міністры, амаль уся яго выканаўчая улада, большасць ягоных чыноўнікаў, тыпу Дамашкевіча, паходзіць з тых, хто тады сядзеў у кустах і кім кіравалі, як марыянеткамі. Лукашэнка ім паабяцаў нешта узамен, каб яны пайшлі на здраду. Як толькі мы убачылі, што не можам прымусціць ВС адмовіцца ад рэферэндума, пасля гэтага Пазняк выступіў ад імя фракцыі БНФ і зрабіў заяву, што мы, дэпутаты, будзем галадаваць прама ў зале, таму што гэта наш адчайны крок. Мы прапанавалі другім дэпутатам падтрымаць нас у гэтай акцыі. Ужо не хапала часу падрыхтавацца да гэтага грунтоўна, хаця мы патрабавалі, каб за намі сачыў абавязкова ўрач.

Сітуацыя мянялася як у калейдаскопе. Мы вельмі хацелі выкарастаць раптоўнасць і нам гэта ўдалося. Як толькі было заяўлена аб правядзенні галадоўкі, то мы усе па папярэдняй дамове выйшлі ў сярэдзіну залі ВС, акупіравалі трыбуну і пачалі сваю акцыю на месцы, бо галадоўкі могуць праводзіцца на рабочых месцах. Для многіх дэпутатаў, якія удзельнічалі ў галадоўцы, гэта быў шок. Я бачыў па іх вачах, што многія не вельмі хацелі пайсці на яе. Але у нас была дысцыпліна, а іншае ніхто прапанаваць не мог.

Калі мы першы раз абвясцілі галадоўку, то, здаецца, ў сярэдзіне дня некаторыя дэпутаты казалі - давайце будзем галадаць на вуліцы. Я, здаецца, Голубеў, і некаторыя іншыя былі за гэта. Нехта прапаноўваў галадаць у Дварцы прафсаюзаў. Але З. Пазняк жорстка сказаў, што галадаць будзем тут, у зале ВС, а не ў кабінетах, бо калі мы зыдзем з ВС, то мы не зможам на яго ўздзейнічаць. На справе аказалася, што калі мы аб'явілі галадоўку, то першае галасаванне па рэферэндуму было правалена. Такім чынам, мы дамагліся шокавай сітуацыі, бо была паралізавана дзейнасць па здрадзе ВС.

Потым М. Грыб і вядучыя пад рознымі фармулёўкамі змянілі рэгламент. Я думаю нас і выкінулі потым з ВС, таму што людзі, якія кантралявалі сітуацыю ў ВС, - а гэта былі спецслужбы Расіі, расійскія кансультанты, разам з Лукашэнка - убачылі, што галадоўка гэта вельмі сур'ёзная акцыя, якая на справе не дазволіць правесці рэферэндум. Таму рэакцыя ВС ішла па нарастаючай.

Спачатку былі смешкі. Як толькі мы селі каля трыбуны, з боку дэпутатаў прагучала  ну вось, яны наеліся, а зараз будуць галадаць. Але калі яны убачылі, што мы настроены рашуча, калі стала прыязджаць маса журналістаў з усяго свету і інфармацыя пра нашу акцыю прайшла па ўсіх міравых каналах, тады, канешне, А. Лукашэнка і яго кансультанты зразумелі ўсё.

Мы селі проста каля трыбуны. Я сеў справа ад яе. Побач сядзелі, здаецца, Барыс Гюнтэр, Валянцін Голубеў і Ігар Герменчук, былы кіраўнік газеты "Свабода". Пад смешкі залы нехта з старшынствуючых у прэзідыуме вельмі актыўна раіў нам сесці на сваe месцы, гаворачы, што гэта парламент, а не базар ці завод. Словам, прымянялі звычайны псіхалагічны ціск. Памятаю, выступаў І. Сярэдзіч, рэдактар "Народнай Волі", які эмацыянальна падтрымліваў нас, але агітаваў нас разыйсціся. Аднак, у гэты ж дзень на першым галасаванні рашэнне аб правядзенні рэферэндума не было прынята. Гэта самае галоўнае  свайго выніка мы дамагліся, бо ВС разгубіўся, убачыўшы нашу рашучасць.

Спачатку ніхто нас не спрабаваў выдаліць. Прыйшлі некалькі чалавек у форме пажарных і сказалі, што па іхніх дадзеных уся зала замініравана. Яны патрабавалі, каб мы пакінулі залу, а яны яе правераць. Было іх чалавек 5 ці 6, а потым падыйшло яшчэ 2 ці 3 чал. з нейкім афіцэрам. Мы ім сказалі  шукайце, а мы не будзем выходзіць. Яны пахадзілі па праходах. Думаю, што яны шукалі не міны, а шукалі сярод нас нейкія выбуховыя прыстасаванні або кінакамеры. Відаць, Лукашэнкам было прынята рашэнне выкінуць нас адтуль і яны ўжо рыхтаваліся. Потым недзе гадзіны пра дзве да нас прыйшлі ўжо міліцыянты, якія сказалі, што калі мы не выйдзем самі, то яны прыменяць супраць нас сілу. На чале іх быў ні то падпалкоўнік, ні то маёр з групы Цесаўца, начальніка аховы дзяржаўных будынкаў, дэпутата ВС. І вось тут адбыўся цікавы момант, які ўрэзаўся мне ў памяць.

Калі Пазняк і іншыя вялі перамовы з гэтымі афіцэрамі, у гэты час Л. Зданевіч, які добра маляваў, стаў хутка накідваць карандашом іх партрэты. Ён намаляваў аднаго афіцэра і кажа яму  давайце я вам падарую накід. Той, як убачыў, то разгубіўся. Можа гэта не ўздзейнічала на тактыку паводзін Лукашэнкі і тых, хто выкідаў нас з залы, але гэты момант напужаў іх. Зданевіч сказаў ім, -вось я вас і так запомніў, але калі вы прыменіце сілу супраць нас, то вашы партрэты будуць усюды.

Потым падыйшлі яшчэ некалькі чалавек і сказалі нам: "Мы вас будем вытаскивать". Мы адказалі спакойна і лагічна,  "Ну, выцягвайце, вы будзеце злачынцамі, бо мы дэпутаты, у нас ёсць недатыкальнасць, мы прадстаўнікі вышэйшай улады". У кожнага з іх была вайсковая рацыя, па якой яны размаўлялі пад час сваіх пошукаў. Вечарам, можа у 9, а можа у 11 гадзін, зайшоў М. Цесавец з нейкім тыпам. Потым заходзіў кіраўнік аховы прэзідэнта, здаецца, Каралёў, які таксама прапаноўваў нам пакінуць зал. Мы сядзелі да 12 гадзін начы, размаўлялі, а потым падрыхтаваліся да сну. Да гэтага моманту камусці з нас з дому прынеслі спальныя мяшкі. Астатнім такія мяшкі прывезлі з прафсаюза пасля звароту да Генадзя Быкава. Быў назначаны дзяжурны, які сядзеў за сталом. Памятаю, што адным з іх па чарзе быў ні то Крыжаноўскі, ні то Гюнтэр.

Я ляжаў побач з В. Голубевым і адразу не заснуў, бо не ў стане засынаць у такіх умовах. Я убачыў, што зверху з балкона звесіўся нейкі чалавек у цёмным і паглядзеў уніз на нас. Я паказаў Голубеву на гэта. І ён таго таксама заўважыў. Я бачыў, што нас здымаюць на ручную камеру. Я не спаў і чакаў, што нешта адбудзецца. Тут мне здалося, што паветра нібы дыхае, калі па сціснутай прас-

пасаду сп. Ярмошына. Але дэпутаты цудоўна ведалі аб выніках нядаўняй праверкі дзейнасці гарвыканкама прэзідэнцкай камісіяй на чале з В. Кучынскім. Вынікі праверкі сведчылі, што ў жыллёвай сферы, якой кіраваў намеснік старшыні гарвыканкама спадар Ярмошын, дапушчаны грубейшыя парушэнні закона і матэрыялы праверкі неабходна перадаваць у пракуратуру. І калі А. Лукашенка прапанаваў яго кандыдатуру на пасаду старшыні, то дэпутаты былі проста ў шоку. Яны патрабавалі тлумачэнняў. Было сказана, што калі Ярмошын не вінаваты, то прэзідэнт павінен перад імі павініцца. Лукашенка жа сказаў, што маўляў, вы спачатку прагаласуйце, а потым я павінюся. Але калі тыя прагаласавалі, ён дэманстратыўна устаў і, не папрасіўшы прабачэння, выйшаў. І гэта першая асоба нацыі.

ВС праглынуў як салодкую пілюлю ўказ прэзідэнта аб зняцці з пасады галоўнага рэдактара "Народной газеты" дэпутата ВС Іосіфа Сярэдзіча, насуперак Канстытуцыі прыняў да абмеркавання пытанне аб рэферэндуме, у прыватнасці пытанне аб наданні рускай мове статуса дзяржаўнай. Але спадар Лукашэнка і яго паплечнікі ў ВС цудоўна ведалі, што згодна нашай Канстытуцыі дзяржаўнай у нас з'яўляецца беларуская мова, а руская - мовай міжнацыянальных зносін і дзяржава гарантавала яе поўнакроўнае функцыянаванне.

Нам стала ясна, што ідучы на яўнае і грубае парушэнне Канстытуцці ў сваім навязванні рэферэндума Лукашенка імкнецца адцягнуць увагу грамадскасці ад поўнага краху сваёй эканамічнай палітыкі. А ён жа ішоў на выбары з лозунгамі, якімі абяцаў спыніць рост цэн, запусціць заводы, узняць узровень жыцця людзей. На практыцы ж усё выйшла наадварот. Да таго ж усе памятаюць, якім яркім барацьбітом з карупцыяй быў народны дэпутат А. Лукашенка. Але даклад С. Антончыка паказаў, што ў адміністрацыі прэзідэнта і кабінеце міністраў як раз і сабраліся самыя зарваўшыяся карупцыянеры. Бо ніводны факт з даклада дагэтуль не абвергнуты. Ніякай барацьбы з мафіяй не было, усё гэта спектакль. Усё гэта, ды і многае другое, прымусіла нас перайсці да гэтак крайняй меры, як галадоўка. Паўтару яшчэ раз, галоўнай яе мэтай было імкненне прыцягнуць увагу нашай грамадскасці да прававога бязмежжа, які рабіў прэзідэнт А. Лукашенка.

Пра галадоўку была загадзя гаворка. Зянон Пазьняк заўжды вёў нашыя пасяджэнні, але тады, калі аб галадоўцы была гаворка, гэта не было звычайнае пасяджэнне. Мы ведалі упэўнена, што усё праслухоўваецца, а таму проста выйшлі з будынка на вуліцу і абмяркоўвалі, што рабіць, калі ідзе страшны наступ. Гэта было не

тое, што нейкае спецыяльна падабранае вузкае кола так рашыла. Гэта было так, што хто быў, той быў. Трэба было прымаць нейкае тэрміновае рашэнне. Сабралася, ці то 7 ці то 10 чал. Мы прынялі рашэнне пайсці на галадоўку і вырашылі перадаць інфармацыю аб гэтым рашэнні непасрэдна сябрам апазіцыі, што так і так, ідзем на такі крок. У апазіцыі БНФ было каля 30 чал., а ў галадоўцы удзельнічалі 19 чал. Калі мы выйшлі на галадоўку, гэта для ВС была поўная нечаканасць, як, дарэчы і для некаторых нашых калег. Потым некаторыя крыўдвалі, што мы не сказалі ім пра галадоўку.

У той памятны дзень 11 красавіка, калі мы пачалі сваю акцыю і засталіся адны, прыкладна ў 21.00 в Авальную залу явіўся кіраўнік аховы прэзідэнта дэпутат ВС Міхаіл Цесавец у суправаджэнні чалавека, якога мы не ведалі. Потым мы даведаліся, што гэта быў кіраўнік падраздзялення аховы прэзідэнта спадар Вечаслаў Кавалёў.

Цесавец паводзіў сябе падкрэслена нахабна, трымаў рукі ў кішэнях плашча, як інтылігент такі прыблатнёны. На нашы просьбы прадставіць дакументы, ён реагаваў цынічна. Ён казаў - пачакайце да 14-га траўня, "после 14-го мы а с вами со всеми разберемся". Яны абодва патрабавалі ад нас, каб мы пакінулі памяшканне, паколькі тут закладзена міна. Гэта выклікала ў нас шчыры смех. Справа ў тым, што ў дзяжурнага міліцыянера зафіксаваны нумар тэлефона, з якога быў зроблены гэты ананімны званок пра закладзеную мінную прыладу. Аказалася, што гэты тэлефон засакрэчаны. Такія нумары маюць толькі спецыяльныя службы КДБ і міліцыі. Таму тое, што гэты званок мог паступіць ад апазіцыі, цалкам выключана. Аб гэтым потым было заяўлена і на сесіі. Відавочна, яны рабілі ўсё па плану. Відавочна і тое, што для іх нечаканай была вось гэта галадоўка. Яна відаць зрывала паступовы іх план і таму такая была іх рэакцыя. Што вось штосьці пайшло не так, бо мы ж сарвалі першае галасаванне па гэтым незаконным рэферэндуме.

Цесавец заходзіў не адзін і некалькі разоў. Калі Цесавец з Каралёвым зайшлі яшчэ раз, то разам з імі былі каротка пастрыжаныя хлопцы у скураных куртках. Мы уступілі з імі у размову і гэтаму Каралёву казалі: "Спадар, Вы зайшлі у будынак Вярхоўнага савета, пакіньце яго, Вы не маеце права, Вы парушаеце закон". Каралёў быў папярэджаны пра тое, што ідзе парушэнне закона і што за гэта наступіць адказнасць. І я упэўнены, што яна наступіць без тэрміна даўнасці. Цесавец быў таксама папярэджаны і ён, як міліцыянер і як дэпутат, ведаў заканадаўства, што ён таксама пераступае закон. Ён пры гэтым звяртаўся да усіх дрыжачым голасам.

Мы растлумачылі ім, што карыстаемся дэпутацкай недатыкальнасцю, знаходзімся ў зале пасяджэнняў ВС, і калі яны прыменяць сілу, то парушаць закон. А гэтыя людзі, якія былі быццам бы афіцэры КДБ, як нам сказалі потым, не дапамагалі пры гэтым Цесаўцу і не сталі нас чапаць. Тады Цесавец і Каралёў рашылі паказаць прыклад. Цесавец спачатку спрабаваў цягнуць Барыса Гюнтэра, які сядзеў побач са мной. Мы сядзелі счапіўшыся рукамі. Гюнтэр зусім маленькі, а Цесавец здаровы дзядзька. Ён учапіўся за Гюнтэра і цягнуў яго, але не мог вырваць. Яны адмовіліся нас круціць, не сталі рабіць гэта незаконнае дзеянне. То есць Цесавец адзін рабіў гэтую брудную справу. У яго нічога не атрымалася і ён нават пад смех проста мусіў пакінуць залу. Тады у яго голас дрыжэў.

Крыху пазней прыйшлі сапёры. Старэйшымі сярод іх былі два палкоўнікі. Мы дамовіліся, што пакуль яны будуць абследваць адну частку зала, мы будзем знаходзіцца у другой, а потым памяняемся месцамі. На працягу двух гадзін яны сваю працу закончылі, склалі акт аб тым, што мін у зале няма. Акт падпісалі афіцэры, салдаты і дэпутаты Трусаў і Гюнтэр. Мы падзякавалі іх за добрасумленную работу, яны пажадалі нам усяго найлепшага і выйшлі. Увесь гэты час на балконе стаялі людзі з відэакамерамі і здымалі падзеі. Мне здаецца, што здымалі два аператары у вялікія камеры, не такія як цяпер, маленькія, а прафесійныя, я думаю стацыянарныя. Потым кавалачак запісу у пракуратуры пракруціў мне следчы Бролішс. Ён паказаў дзе мы сядзелі: побач са мной быў Б. Гюнтэр

Мы ляглі спаць, будучы упэўненымі, што ўсё мінула. Усе заснулі, акрамя В. Голубева. Нечакана ён пачуў бразгат аўтаматных затвораў і убачыў, як па балкону забегалі нейкія людзі. У зале было цёмна, гарела толькі некалькі лямпачак. Голубеў падышоў да дзвярэй, адчыніў іх і убачыў салдат, стаяўшых з аўтаматамі, з рэспіратарамі на тварах, у вялікіх спецыяльных масках. Ён убег у залу і крыкнуў: "Аўтаматчыкі, пад'ём".

Хаця мы былі вельмі стомленыя, бо тады было гадзіны 3 начы, але мы адразу ускачылі і сталі спрытна апранацца. Адразу запалілася святло, адчыніліся дзверы і мы убачылі узброеных аўтаматчыкаў-салдат. Яны стаялі ва усіх дзвярах ужо з надзетымі рэспіратарамі. Пасля зноў увайшлі Цесавец з Каралёвым і заявілі, што калі праз пяць хвілін мы не пакінем зал, яны прыменяць сілу. І ўсё. Пры гэтым у Цесаўца калаціліся рукі. Не знаю, як яго і якім чынам накачалі.

Я быў упэўнены, што яны хацелі пусціць газ. Я помню, калі быў НордОст, то Лукашэнка сказаў, што калі б спыталі яго, то ён ведаў бы, што трэба зрабіць. І праз дзень там ужылі газы. Я думаю, ну вось, напэўна гэта і ёсць спосаб. У мяне проста асацыяцыі былі, было адчуванне падобнага паўтарэння, калі мы там знаходзіліся. Мы таксама фактычна былі заложнікамі

Назаўтра, пасьля збіцця, Лукашэнка гаварыў, што мы былі з жанчынамі п'яныя. Верагодна, ён быў упэўнены, што ягоны план ажыццёўлены; газы пусцілі, да атручаных дэпутатаў падкінулі бутэлькі з гарэлкай, што крымінальная справа узбуджана супраць дэпутатаў. А крымінальная справа рэальна была узбуджана пракуратурай па факту збіцця дэпутатаў ВС.

Мы цесна прытуліліся адзін да аднаго і працягвалі сядзець на сваіх месцах. Літаральна праз тры мінуты зноў рэзка расчыніліся усе дзверы і ў залу з дзікімі крыкамі уварваліся узброеныя людзі. Спачатку у залу ускочыла група ў чорным трыко, а не ў масхалатах. Другім эшалонам беглі апранутыя у чорнае трыко, але ужо у чорных куртках. Замыкалі рады атакуючых аўтаматчыкі спецназа. Яны з фальсэтнымі крыкамі, як у баевіках паказваюць - "я, я, дзя" - наскочылі адразу першымі на З. Пазняка. Першы з атакуючых з разбегу наскокам ударыў двума нагамі З. Пазняка, вочы яму ціснулі. Астатнія "герои" з усіх бакоў накінуліся на нас. Ігар Гермянчук з аднаго маску сарваў і той упаў уніз тварам. А міліцыя, якая павінна была нас ахоўваць, была прыціснута па перыметру вакол авальнай залы унутры. Гэты спецназ іх прыціснуў, які павінен быў міліцыю нейтралізаваць. Бачна было, што яны напалоханы., Кажуць, быў батальён. Аўтаматчыкі былі ужо без рэспіратараў, відаць, рашылі газ не прымяняць.

Дэпутатаў потым каго неслі, а каго цягнулі. Я дакладна памятаю, на меня ззаду наляцелі, схапілі за горла і так сціснулі, што я стаў крычаць ад болю. Потым заламалі левую руку вельмі моцна, і сталі вывалокваць з зала тварам ледзь не да зямлі. Проста заламалі рукі і выцягвалі. У гэты момант дэпутатаў ВС сталі збіваць дубінкамі і ў Авальнай зале, як гімн прэзідэнту, упершыню за гісторыю гэтай залы, прагучаў працяглы мат і пачалася крывавая оргія. Вакол пастаянна чуўся мат. Да крыві разбілі твар Лявону Баршчэўскаму, Валянціну Голубеву. Моцныя пабоі былі нанесены Шуту, Садоўскаму. Я дагэтуль не магу зразумець, адкуль у іх такая звярыная жорсткасць. Калі валаклі дэпутата Крыжаноўскага, то гэты пасівелы чалавек спрабаваў гаварыць ім: "Хлопцы, вы же мне в сыны годитесь, вы же белорусы". Пасля слова "беларусы" яны яшчэ больш люта сагнулі яго долу і павалаклі на вуліцу.

Мяне, калі цягнулі, то пару разоў спрабавалі даць нагамі, але неяк па мяккім тканкам папалі і па плашчы некалькі разоў. А калі закідвалі у "газон", то той, што мяне круціў і цягнуў, то проста кулаком ударыў па патыліцы. Каля міліцэйскага "газона" стаялі міліцыянеры. Чалавек у цывільным, адзін з тых, што заламвалі рукі, скамандаваў ім: "З разгону закідвайце". Але яны гэтага не зрабілі. Мяне проста закінулі без разгону.

У двары, куды нас выцягнулі, стаялі маладыя салдаты з аўтаматамі. Мяне зноў некалькі разоў спрабавалі ударыць. Памятаю, што мяне закінулі ў міліцэйскі "газік". Журналісты казалі, што там стаяла ваенная тэхніка.

Наздзекаваўшыся, "пераможцы" адвезлі нас у цэнтр горада і выкінулі. Мяне і яшчэ двух дэпутатаў адвезлі на вуліцу Першамайскую і выкінулі на скрыжаванні з вул. Захарава. Мы адразу рушылі на штаб-кватэру БНФ на Варвашэні 8, а як толькі там сабраліся, то адразу па нечай разумнай парадзе сталі падымаць генпракурора В. Шаладонава. Той па тэлефоне сабраў калегію. Адразу ж узбудзілі крымінальную справу. Гэта паламала лукашэнкаўскія планы, бо ён нас хацеў нейтралізаваць праз такую вось акцыю.

Быў відавочна дакладны план, бо В. Каралёў жа сказаў, што пасля 14-га траўня мы з усімі вамі разбярэмся. Відавочна, што гэты план быў зроблены у Маскве, а яны яго рэалізоўвалі тут. Да медкамісіі я не звяртаўся і шкадую аб гэтым. Мне следчы сказаў, навошта Вы прамаўчалі ?. Ну, балела трохі тут і там, але гэта не тое. Ну, парвалі мне плашчоўку, паліто, гузікі паразрывалі.

Раніцой нас нават не пускалі у залу Вярхоўнага савета. Калі я ішоў у сваю залу, перада мной якраз ішоў В. Шаладонаў і яму шлях загарадзіў нейкі міліцэйскі маёр. Маёр ды астатнія ў форме і ў цывільным паводзілі сябе, як той Каралёў. Адпускалі рэплікі такія, рукі у кішэнях зняважліва, інтанацыя прыблатнёная. Проста так стаяць і не пускаюць нахабна. Яны былі пастаўлены загадзя. Відавочна, ім было загадана так рабіць. Яны патрабавалі дэпутацкае пасведчанне і Шаладонаў пайшоў на іх проста корпусам. Якое, кажа, дэпутацкае пасведчанне, чаму не пускаеце у парламент. Прадушыў корпусам таго маёра, адхіліў яго і мы тады за Шаладонавым прайшлі у залу. Гэта былі тыя ж збітыя людзі. Я памятаю, што А. Шут быў. Гэта сітуацыя нагадвала проста адносіны да ворагаў.

Калі мы прайшлі у залу, то адбывалася пленарнае паседжанне. Як толькі мы там з'явіліся, як тут паяўляецца М. Цесавец з нейкімі сваімі людзьмі. На яго кінулася адразу група дэпутатаў. Памя-

таю, першым падскочыў, здаеццца, Лявонцій Зданевіч. Ён падляцеў да Цесаўца і выкрыкнуў: "Ідзі адсюль", мразь ці падонак, не помню словы. І той так напалоханы задам-задам. Гэтыя людзі, што былі з Цесаўцом, не заступіліся за яго. Цесавец адступаў як пабіты сабака і мусіў пакінуць залу. Пасля гэтага ён больш не паяўляўся ў зале пасяджэнняў да канца працы ВС.

Я паглядзеў, што ўся гэтая большасць на ВС проста была напалохана. Яны не маглі страх на тварах схаваць. Прычым уся гэта наменклатура, усе гэтыя ветэраны, героі заслужаныя, усе у страху сядзелі. Калі Мікалаю Дземянцею далі слова, то ў мяне такое уражанне было, што ён сам са страхам крычаў. Калі мы прайшлі у залу, то сітуацыя была адразу схілена да абмеркавання гэтага пытання начнога здарэння.

Памятаю, што праз пару месяцаў пасля нашага збіцця увесь ВС на чале з Грыбам і Лукашэнкам учынілі банкет. Яны усе разам адзначалі завяршэнне працы ВС 12-га склікання, атрымалі гадзіннікі імянныя і фатаграфаваліся разам з Лукашэнкам. Ёсць у газетах фота, на якім стаіць Лукашэнка разам з Грыбам ды дэпутатамі. Мне нейкія нягоднікі званілі некалькі разоў, каб я атрымаў імянны гадзіннік. Натуральна, я па яго не пайшоў.

Якая магла быць урачыстасць пасля таго, што адбылося ? Быў захоплены войскамі парламент, па-бандысцку збіты дэпутаты. Страх быў у вачах астатніх дэпутатаў. Без нас яныператварыліся ў нейкую запалоханую масу. Я гэта бачыў. Парадокс жыцця - колькі зняважлівых рэплік у свой час мы пачулі ад іх. Калі мы з'явіліся у зале, некаторыя з іх з нейкім аблягчэннем уздыхнулі, бо мы так бралі агонь на сябе. Так, яны баяліся. Гэтая псіхалогія наменклатурнай бальшыні, асабліва тыя старых, якія памяталі Сталіна. Яны проста калаціліся тады на другі дзень пасля збіцця, калі мы першы раз з'явіліся ў залі. На некалькіх пасяджэннях яны сядзелі як на пахаваннях. Пасля нашага збіцця страх зьявіўся ў іх на тварах, ён іх проста паралізаваў. Як толькі нас у ВС не стала, так з ВС можна было рабіць што заўгодна. Пасля нашага збіцця ён стаў бязвольнай, аморфнай масай. Аб дэпутатаў проста выцiралі ногі. Павыкідвалі ВС з будынка на К. Маркса, які забралі пад рэзідэнцыю прэзідэнта. Атмасфера навогул стала зняважлівай.

Маё уражанне, што Лукашэнка не ведаў, што адбылося ў рэальнасці ў тую ноч. Мяркую, ён быў упэўнены, што адбылося па ягоным плане, па ягому павінны былі пусціць газ, атруціць нас, падкінуць бутэлькі з гарэлкай, закуску, а потым нас судзіць. Па ўсіх гэтых знешніх прыкметах ён быў у гэтым упэўнены. Ён ведаў, што генеральным пракурорам В. Шаладонавым узбуджана кры-

мінальная справа. Толькі ён думаў, што супраць нас, а не па факту збіцця дэпутатаў.

Вынікі таго, што адбылося ў ноч з 11 на 12 красавіка мелі палітычныя наступствы - пасля фактычнага разгону парламента узброенымі людзьмі Лукашэнка, па сутнасці, перастаў быць легітымным прэзідэнтам краіны. Прынамсі, прадстаўнікі сённяшняй псеўдаапазіцыі нідзе не ўзгадваюць пра разгон парляманта і ганебны рэферэндум 1995 года, бо многія з іх прымалі непасрэдны ўдзел ці падтрымалі гэтуя брутальную акцыю і ганебны рэферэндум. Яны звычайна пішуць пра "дзяржаўны пераварот у выніку рэферэндума 1996 г.".

Шаладонава тады прыбралі. Ён, праўда, выступаў на сесіі. Пасля гэтага Лукашэнка сказаў, што "лично я не пойду на эти выборы". Быў запушчаны механізм каб сарваць выбары, не абраць новы ВС. Але ж самае галоўнае у тым, што пачалася татальная ліквідацыя, вынішчэнне, я б сказаў, фактычна вайна супраць кандыдатаў ад БНФ.

Гэта праяўлялася і на майскіх і на восеньскіх выбарах. Увосень стала троху лягчэй - у выбарах прынялі ўдзел выбаршчыкі маладога і сярэдняга веку, тыя, хто пад час майскіх выбараў у большасці сваёй, пад уздзеяннем працы спецслужбаў, на выбары не пайшоў, хто заяўляў - "я на выборы не пойду, я политикой не интересуюсь, я дело делаю". Увосень 1995 года я фактычна перамог на выбарах. Я тады 52 % галасоў набраў. Яны зрабілі так, што быццам бы 40 чал. да кворума не хапіла, хаця на участках былі засведчаны двайныя спісы - каб кворум завысіць, адзін чалавек заносіўся у спісы двойчы - у асноўны і дадатковы спісы. Вось такая тэхналогія была. Велізарныя сілы кінулі супраць Зянона Пазьняка. Ездзіла адна і тая ж група гэбістаў па усіх участках і "галасавала". Вот такім чынам яны усё зрабілі максімальна, каб не дапусціць апазіцыю БНФ.

На выбарах 1995 г. я удзельнічаў на участку №36 у г. Мінску і якіх-небудзь значных расходаў я не панёс. Уласна такой магчымасці і не давалі. Выдзеленых грошай хапала толькі на улёткі, каб кінуць іх па адной на кожную кватэру.

Мая група падтрымкі была у асноўным з фронтаўцаў, але былі і мясцовыя жыхары, мае калегі з завода. Група не была пастаянная. Адны хадзілі і раскідвалі улёткі, іншыя сачылі за тым, каб не дапускаць правакацый, бо гэбісты пад выглядам выбаршчыкаў учынялі розныя правакацыі. Яны рыхтавалі іх прафесійна, з мэтай сарваць сход, сустрэчу або учыніць нейкую бузу. Такое здаралася на кожным пікеце. Памятаю, што на завод "Ударнік" у стылі са-

вецкіх часоў прыходзіў афіцэр КДБ гаварыць з дырэктарам. Ён у яго стаў высвятляць, які я уплыў маю, з кім кантактую і г.д.

К прыкладу, ідзе у двары дома мая сустрэча з выбаршчыкамі. Да мяне скіроўваецца чалавек з сабакам, пачынае пагражаць, што спусціць сабаку. Выклікалі міліцыю. Я дэманструю пасведчанне кандыдата ў дэпутаты, але міліцыя ніяк не рэагуе і той асобай не цікавілася. Хаця для процідзеяння мне ужываліся розныя сродкі і формы, але людзі прыходзілі на сустрэчы і рэагавалі на выступы нармальна.

На травенскіх выбарах уладам удалося нейтралізаваць моладзь. Яны запусцілі фільм "Дзеці хлусні" і антыпалітычны вірус накшталт:" Я палітыкай не займаюся і не цікаўлюся". Гэта формула стала нават папулярнай сярод моладзі. Таму, у выбарах прымалі удзел у асноўным пенсіянеры. Фільм выпхнуў гэтых людзей на выбары, якія слепа верылі А. Лукашэнку.Усе было задзейнічана асабліва супраць З. Пазняка. На яго кінулі спецыяльныя лятучыя атрады, якія раз'язджалі і галасавалі на розных участках. Яны завышалі кворум, стваралі фальшывыя спісы. Тое, што у маі не быў выбраны паўнаскладны ВС - гэта вынік мэтанакіраванай працы усіх спецслужбаў. У вялікай ступені на гэта паўплываў заклік самога А. Лукашэнкі ігнараваць выбары. Супраць БНФ вялася фанастычная дыскрэдытацыя. Супраць астатніх кандыдатаў такой агалцелай кампаніі не вялося. Таму за нашымі спінамі у ВС праскочылі людзі, якія дэкляравалі сябе нейтраламі. У той час улады распрацавалі і упершыню прымянялі тыя тэхналогіі, якія эфектыўна працавалі у наступных выбарчых кампаніях.

Мяне зарубілі проста брутальным чынам. Я мусіў падаць апеляцыю Абрамовічу, старшыні цэнтрвыбаркама. Ён сваёй рукой паправіў заяву, сказаўшы, што яна не правільна напісана. Я тады адчуў, што тут штосьці не тое, калі ён правіў маю заяву. Я тут сутыкнуўся з фантастычнай подласцю гэтага чалавека. Да гэтага ён меў імідж чалавека прыстойнага, дэмакрата, а аказалася, што такі нягоднік. Я бы можа да канца змагаўся, але ў мяне тады здарылася трагедыя - якраз памерла сястра. Праз некалькі дзён пасля пахавання я быў ў такім стане, што сабрацца проста не было сіл ужо. Тады маглі стаць дэпутатамі два чалавекі ад БНФ. Гэта В. Голубеў і я. Мы набралі больш за 50 %. У Голубева тады сітуацыя была больш складанейшая, а ў мяне - больш надзейная. Бо я перамог, 52 % набраў і да кворума 40 чалавек не хапіла. Каб не прапусціць мяне , яны завышалі штучна кворум праз стварэнне двайных спісаў. Камісіі трэба было праверыць спісы на участках.

На адным участку праверылі - пацьвердіўся факт двайных спісаў, пасьля чаго праверку спынілі.

Яны зразумелі, што дэпутаты Апазіцыі БНФ ВС 12-га склікання мелі каласальны парламенскі вопыт, мелі людзей, мы былі арганізаванай сілай, таму ўсё было зроблена, каб не пусціць нас ў парлямант.

Дэпутаты ВС 13-га склікання, па вялікім рахунку, не паспелі стаць парлямантам. Правал імпічмента Лукашэнку яскрава гэта паказаў. Яны нядаўна сталі дэпутатамі і яны, канешне, са сваім імпічмэнтам проста поўнасцю паказалі сваю няздольнасць, у тым ліку і С. Шарэцкі. Гэта было сумна.

Новы старшыня ВС С. Шарэцкі на першай сесіі ВС 13-га склікання заявіў, што, маўляў, які ў нас сабраўся харошы ВС і што ў нас няма такіх папулістаў, якія былі ў ВС 12-га склікання з апазіцыыі БНФ. Шарэцкі гэта сказаў у той час, калі мы столькі год працавалі напружана. Дарэчы, тое, што Шарэцкі заявіў, гэта быў рэверанс у бок Лукашэнкі. Калі ты чалавек, які мае нейкую уласную годнасць, гонар, то ты не можаш рабіць подласці. Гэта відавочна.

У БНФ былі людзі, якія ўвосень 1995 года атрымалі інфармацыю аб тым, што Зянона Пазняка плануюць забіць. Мы валодалі інфармацыяй, што створана спецпадраздзяленне па яго фізічнай ліквідацыі. Крыніцы інфармацыі былі сур'ёзная. Да гэтага былі знешнія праявы - проста сачэнне за ім, вакол яго пастаянна адбываліся дзіўныя рэчы. Фактычна ён з'ехаў, калі ужо быў аддадзены загад па яго ліквідацыі. Калі яны у масках уварваліся у штаб на вул. Варвашэні то спазніліся літаральна на хвіліны і ў іх нічога з задумы не атрымалася.

Гэтае спецпадрадзяленне стваралася ў нетрах уласна самой улады. Я б не стаў казаць ні пра МУС, ні пра КДБ, ні пра пятае і дзесятае, але ўпэўнены, што без ФСБ тут не абышлося. Я думаю, што гэтае спецпадрадзяленне рабіла тыя страшныя рэчы, пра якія мы часам чуем і чытаем. Калі пэўная інфармацыя паступіла, мы сабраліся і разважалі на палітычным камітэце БНФ, што рабіць і хто пойдзе Зянону сказаць такую рэч. Тады пайшоў і сказаў В. Вячорка, Вячорка, не я, не хто-небудзь іншы. Зянон Пазьняк з'ехаў. Дзякаваць Богу - ён жыве. Ён працуе для Беларусі. Ён генератар ідэй. Ён аналітык Ён лідэр.

Вось мы гаворым улада і апазіцыя. І ў апазіцыі былі людзі, якія вольна ці нявольна падыгрывалі уладзе. Ю. Хадыка дапусцім. Калі у тую ноч, з 11 на 12 красавіка 1995 г. у залі пасяджэнняў ВС пачалі шукаць бомбу, мы разумелі, чым усё гэта скончыцца. Зянон

Пазьняк пазваніў Хадыку ўначы і сказаў - Юра, рыхтуй выводзіць людзей раніцай на плошчу. Хадыка не выканаў гэтую просьбу. Калі ж потым Пазняк пытаўся - што ж ты нарабіў? - то Хадыка ў адказ заявіў - што, хіба мы не дэмакратычная арганізацыя? аўтарытарная? Пазняк кажа, а што, Сойм уначы трэба было збіраць? Хадыка разважаў там пра нейкія абстрацыі, маўляў, нельга было прэцэндэнта ствараць. Якія прэцэндэнты? - войскі ў парляманце. Я і потым назіраў паводзіны Хадыкі усе гады. Ён як бы выпадкова у Фронце апынуўся. Прычым на высокай пасадзе. Гэты чалавек займаў свядома варожую пазіцыю і мог столькі на працягу гадоў рабіць вось такія рэчы. Ну аб гэтым асобная гаворка.

Дарэчы, важным момантам было тое, што калі збілі дэпутатаў ад апазіцыі, то людзі не ведалі пра гэта і не прышлі на плошчу да парляманта за выключэннем, хіба што адной тысячы чалавек. І што цікава. Праз год, калі выбухнулі нашыя майскія дэманстрацыі, мы даведаліся, што расейская дыпламатыя напоўніцу старалася выкарыстаць той факт, што 12 красавіка 1995 года на плошчу да ВС прыйшло мала людзей. "Ведаеце, Беларусь тады ужо практычна спісалі з палітычнай карты свету" - казалі нам пасьля ў дыппрадстаўніцтве адной еўрапейскай краіны. Еўрапейцы нас не разумелі. Не разумелі таго, што тут не Францыя, дзе дэмакратыя, дзе людзі выхаваныя змагацца за дэмакратыю, што ў нас людзі, якія вырваліся з саўдэпіі, часам не уяўляюць, што такое парлямант. Людзі проста не ведалі і як сябе паводзіць. Калі З. Пазняк прыехаў у Амерыку пасля майскіх моцных дэманстрацый 1996 года, што адбыліся пад лозунгамі за незалежнасць Беларусі, яго думка была улічана пры складанні заявы прэсслужбы амерыканскага дзяржэпартамента пра тое, што яны падтрымліваюць незалежнасць Беларусі. Расія тады лямантавала, маўляў, колькі там выйшла - 40 ці 80 тыс. Важна тое, што Амерыка сказала, што падтрымлівае нашу незалежнасць..

На вялікі жаль Станіслаў Шушкевіч за час свайго старшынства ў ВС настроіў супраць сябе амаль усіх дэпутатаў. Рабіў ён гэта звычайна кідаючы са свайго спікерскага крэсла з'едлівыя, здеклівыя рэплікі ў адрас таго ці іншага дэпутата. І калі наменклатура вырашыла яго зняць з пасады старшыні парляманта, яна зрабіла гэта нягледзячы на ўсе намаганні Апазіцыі БНФ захаваць Станіслава Станіслававіча на пасадзе старшыні ВС. На яго, у гутарках з дэпутатамі, скардзіліся і работнікі сакратарыяту ВС, якія спачатку віталі абранне сп.Шушкевіча на пасаду старшыні ВС.

Логіка яго паводзінаў і дзеянняў да канца мне так і не стала зразумелай. Да прыкладу, калі сп. Шушкевіч нечакана падпісаў

Дагавор аб калектыўнай бяспецы, Зянон Пазьняк звярнуўся да яго з пытаннем - навошта Вы, Станіслаў Станіслававіч, гэта зрабілі? На што сп. Шушкевіч адказаў, што, маўляў, гэта проста паперка. Калі сп. Пазьняк спрабаваў пераканаць сп. Шушкевіча што гэтая "пустая паперка" калі небудзь, пры пэўных абставінах, можа напоўніцца рэальным зместам, то той толькі адмахваўся. Так яно і здарылася. Калі Лукашэнка прыйшоў да ўлады і падпісаў 21 лютага 1995 года "Дагавор аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Расейскай Федэрацыяй", то ў артыкуле 5 Дагавора, які тычыцца ваеннага супрацоўніцтва, спасылка была зроблена менавіта на Дагавор аб калектыўнай бяспецы. Дарэчы, Белавежскія пагадненні, падпісаныя ў тым ліку і сп. Шушкевічам, расейская дыпламатыя расцэньвае як сваю перамогу. Гэтыя пагадненні ў значнай ступені прывязалі Беларусь да канаючай імпэрыі, затармазілі яе самастойнае развіццё, хаця, як адзначаецца пастаянна, заклалі працэс мірнага суверэнага дзяржаўнага будаўніцтва былых рэспублік СССР.

# Баршчэўскі Лявон

*Крывавая ноч*

Намеру рабіць палітычную кар'еру я ніколі не меў, і маё абранне дэпутатам Вярхоўнага Савета XII склікання адбылося ў выніку збегу акалічнасцяў. Горад Наваполацк, дзе я ў той час працаваў старшым выкладчыкам кафедры замежных моў мясцовага політэхнічнага інстытута (цяпер гэта - Полацкі дзяржаўны універсітэт), адзін з самых маладых, а значыць, і самых дэмакратычных гарадоў Беларусі. Першыя масавыя мітынгі часоў перабудовы ў Беларусі адбыліася менавіта тут, яшчэ ў 1987 годзе - і праводзіліся яны пад экалагічнымі лозунгамі. Літаратурнае аб'яднанне "Крыніцы", да якога належаў і я (а кіраваў ім не хто іншы, а Уладзімір Арлоў), актыўна дапамагала энтузіястам экалагічнага руху - у плане інтэлектуальнай падтрымкі. У 1989 г. тут узнікла і дынамічная група падтрымкі БНФ, у якую я, дарэчы, тады фармальна не ўваходзіў, але цесна кантактаваў з яе актывістамі. Перад пачаткам кампаніі выбараў у Вярхоўны Савет БССР суполкі БНФ, экалагаў і асобныя прадстаўнікі інтэлігенцыі (збольшага беспартыйныя) утварылі аб'яднанне "Дэмакратычны форум" і склалі адзіны спіс кандыдатаў у саветы трох узроўняў - Вярхоўны, абласны і гарадскі. Першапачаткова мне прапаноўвалася балатавацца па гэтым спісе ў абласны Савет. Але, калі Дэмфоруму не ўдалося вылучыць праз сход выбаршчыкаў на адну з трох наваполацкіх акругаў па выбарах у Вярхоўны Савет свайго кандыдата (паэта Сяржука Сокалава-Воюша), мне прапанавалі паспрабаваць вылучыцца на гэтую ж акругу праз агульнаінстытуцкі сход. Маім супернікам тут быў дацэнт кафедры філасофіі артадаксальны камуніст Емяльянаў, і я з вялікай перавагай (у асноўным галасамі студэнтаў) яго перамог. На саміх выбарах у мяне напачатку было пяць супернікаў, але ў другі тур мы выйшлі на пару з тагачасным

першым сакратаром гаркаму КПБ Панталёвым, і тут мае шанцы зноў выглядалі як вельмі добрыя. У другім туры Панталёў набраў каля 39 % галасоў, а я - больш за 57 %. Сярод тых, каго абралі ў іншых, ненавапалацкіх акругах, я асабіста ведаў Сяргея Навумчыка (ён выйграў выбары ў Віцебску) і крыху таксама пісьменнікаў Ніла Гілевіча і Анатоля Вярцінскага (я ў той час ужо таксама быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў БССР). З усімі астатнімі дэпутатамі ВС XII склікання я знаёміўся пазней, у Віцебску (там адзін раз збіраўся сход абраных ад Віцебшчыны дэпутатаў) і ў Мінску. У Мінск я прыехаў за пару дзён да пачатку пасяджэнняў першай сесіі Вярхоўнага Савета, і той жа Сяргей Навумчык адразу запрасіў мяне наведваць нарады апапзіцыйных дэпутатаў, якія праходзілі ў галоўным корпусе БДУ пад агульным кіраўніцтвам Станіслава Шушкевіча і з актыўным удзелам дэпутатаў-сяброў БНФ - Зянона Пазьняка, Валянціна Голубева, Уладзіміра Новіка, Алега Трусава, таго ж Сяргея Навумчыка і інш. Пазней, пасля таго, як пачалася сесія, зборы працягваліся ўжо ў будынку Дома ўрада. На гэтыя пасяджэнні прыходзіла часам да ста дэпутатаў, сярод якіх былі, між іншым, Віктар Ганчар, Мечыслаў Грыб, Леанід Козік і Аляксандр Лукашэнка. Гэтак утварыўся досыць аморфны Дэмакратычны клуб. У яго межах праходзілі часам цікавыя дыскусіі, але канкрэтнай законатворчай працай Дэмклуб, па сутнасці, не займаўся, абмяжоўваючыся выпрацоўкай больш-менш узгодненых падыходаў да вырашэння кадравых пытанняў. З незадаволенасці малой дзеяздольнасцю Дэмклуба і паўстала ідэя арганізацыі фракцыі БНФ (27 дэпутатаў), а крыху апзней - і Апазіцыі БНФ (да 35 дэпутатаў). І сапраўды, ужо на другую сесію Вярхоўнага Савета Апазіцыя БНФ прадставіла пяць законапраектаў, якія грунтаваліся на агульнадэмакратычных і рынкавых падыходах. Пазней практычна да кожнага падрыхтаванага большасцю законапраектаў Апазіцыя БНФ падавала альбо альтэрнатыўныя законапраекты, альбо пакеты паправак. Парламенцкая большасць напачатку была арганізаваная у так званую "партыйную групу", якая атрымлівала наўпроставыя ўказанні ад ЦК. Але частка партыйных дэпутатаў адначасова ўваходзіла і ў Дэмклуб, а некаторыя - і ў Апзіцыю БНФ, таму вынікі партыйнага кіраўніцтва дэпутатамі рабіліся ўсё больш няпэўнымі. Пасля спынення дзейнасці КПСС у Беларусі (ажыццёўленага з удзелам той самай большасці!) значная частка дэпутатаў ад наменклатуры аказалася неарганізаванаю. Але гэта цягнулася нядоўга. Праз месяц пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі фактычна яны ўжо згуртаваліяся вакол прэм'ера Кебіча. Рэальна ж яны абвясцілі сябе як фрак-

цыя, пад назвай "Беларусь", дзесьці праз паўгода, улетку 1992 года. У цэлым да гэтай фракцыі ў розны час належала каля 150-ці дэпутатаў (з агульнай колькасці 340 - 345). Я ведаю, што іх каардынатары - Генадзь Казлоў і Мікалай Скарынін - некалькі разоў ездзілі ў Маскву. Відавочна, што там яны атрымалі нейкія ўказанні і, магчыма, гарантыі. У асноўным гэтыя людзі былі падуладныя Кебічу, залежалі ад яго і таму галасавалі і ставілі подпісы за тое, што ад іх патрабавалі. Аднак нельга сказаць, што яны дружна галасавалі па ўсіх пытаннях і дысцыплінавана рухаліся у адзін бок.

Выканаўчай уладаў тады кіраваў Вячаслаў Кебіч. З Кебічам у нас былі неаднаразовыя кантакты - мы палемізавалі са шмат якімі яго прапановамі, а часам і знаходзілі агульную мову. У прынцыпе ён быў даступны чалавек з добрай рэакцыяй. Пры іншых умовах і абставінах ён мог стаць талковым і неардынарным кіраўніком. Рашэнні ён прымаў вельмі хутка, хоць і не заўсёды ўдала. Ён мог адказаць апаненту з гумарам, прычым без хамства, як гэта часам робіць цяперашні прэзідэнт. Сказаць, што Кебіч быў адкрытым, аднак, нельга. Ён адказваў далёка не на ўсе пытанні шчыра. Але ў цэлым у яго была прывабная харызма. У мяне склалася ўражанне, што яму увесь час не давалі узяць рэальна ўсю ўладу ў свае рукі. Ён быў усё-такі гаспадарнік і не так адкрыта удзельнічаў у палітычных інтрыгах. Ён быў супернікам Шушкевіча на выбарах старшыні ВС у верасні 1991 г., але набраў менш за яго галасоў, а таму у другім туры зняў сваю кандыдатуру. Тады вось Шушкевіча і выбралі старшынёй ВС. Аднак, калі Масква стала разглядаць Шушкевіча як ворага, як нацыяналіста (у Думе з канца 1993 г. сталі дамінаваць камуністы і жырыноўцы), то яна пачала рабіць стаўку на Кебіча і стала праз сваіх людзей падсоўваць у ягонае атачэнне свае крэатуры, кшталту Замяталіна. Яна стала акружаць Кебіча людзьмі, якія на яго уплывалі. А паколькі ён не заўсёды быў "у нармальнай фізічнай форме", то яны з гэтага карысталіся і падсоўвалі яму пэўную інфармацыю. Ён дзесьці, відаць, адчуваў, што гэта кепска, але у яго ўнутры не хапала волі і энергіі. Потым пазней ён мне неяк на адным прыёме сказаў, што вось "вам трэба было мне памагаць". Я адказаў: "Як мы рэальна можам Вам памагаць? Замяталіна, Антановіча іншых, што каля Вас, не мы ж вам падсунулі. Праз іх нельга было прабіцца да Вас, а яны тады шмат што вызначалі". Кебіч быў слабаваты характарам. Відаць, з Масквы яму казалі: слухайся, маўляў, гэтых людзей, рабі так, як яны кажуць. А паколькі сваёй партыі у яго не было, то не было і апоры. На гэтым яго трымалі і ламалі.

Галоўнай тэзай прапаганды з нашага боку было тое, што, маўляў, улада (напачатку Кебіч, а потым і Лукашэнка) даводзіць людзей да галечы. Калі мы абвяшчалі галадоўку 11 красавіка 1995 г., мы таксама падкрэслівалі, што замест таго, каб займацца эканамічнымі пытаннямі, прэзідэнт прапануе рэферэндум.

Уласна, перадгісторыя гэтай галадоўкі пачалася ў канцы 1994 года. Пачалася яна з памятнага выступу на сесіі Вярхоўнага Савета дэпутата Апазіцыі БНФ Сяргея Антончыка, які простымі словамі, але таленавіта паказаў, што пасля першых беларускіх прэзідэнцкіх выбараў улада не памянялася: да яе рычагоў атрымала доступ групоўка ранейшых "непатапляльных". Тых самых, што прывыклі свае асабістыя інтарэсы выдаваць за інтарэсы народа і дзяржавы, а жыццё канкрэтнага чалавека трактаваць як вялікую ласку, падораную яму ўладай. Сяргей Антончык разварушыў гэты вулей. Ён наіўна верыў, што людзі яго зразумеюць і стануць на ягоны бок.

Антыкарупцыйныя факты былі заўсёды дарэчы ў палітычнай барацьбе. Узгадайма пра дзейнасць так званай "антыкарупцыйнай камісіі" ў ВС ХІІ склікання, якую ўзначаліў Аляксандр Лукашэнка. Дарэчы, частку здабытага матэрыялу розныя людзі, у т.л. прафесійныя следчыя, Лукашэнку не давалі, бо не верылі яму. У БНФ ведалі, што Антончыку паступала каштоўная інфармацыя, якую ён натуральна даваў туды, у камісію, але папярэдне рабіў сабе копіі. Большасць гэтых фактаў тычыліся асоб, якія потым апынуліся ва ўрадзе Лукашэнкі, і гэтую інфармацыю Лукашэнка ў сваім дакладзе не агучыў. А ў Антончыка гэта усё якраз засталося, бо копіі ён пакідаў сабе. Антончык выкарыстаў тое, што не збіраўся выкарыстоўваць Лукашэнка. А да гэтага часу з'явіліся новыя факты ужо з акружэння прэзідэнта тыпу Ціцянкова і іншых.

Антончык заявіў аб сваім цвёрдым намеры выступіць з такім дакладам і азнаёміў Пазьняка з тэзісамі свайго выступлення. Наколькі я ведаю, Пазьняк не раіў яму выступаць з палітычных меркаванняў, а менавіта таму, што, маўляў, два разы ў адну і тую ж ваду не заходзяць, або што на гэтым можна было адзін раз набыць папулярнасць, а другі раз гэта будзе адваротны псіхалагічны эффект. Можа, Пазьняк баяўся нейкай канкурэнцыі для свайго лідэрства ў Фронце. Ён у нечым меў рацыю, бо калі падобнае адбываецца другі раз, то людзі перастаюць верыць. Яны думаюць: ага, вы рашылі на Лукашэнку такім чынам накапаць і такім спосабам зваліць яго. А ў Лукашэнкі быў высокі рэйтынг. Антончыку раілі гэты даклад распаўсюдзіць, проста надрукаваць у газетах, а з ім не выступаць. Аднак ён рашуча сказаў, што выступіць.

Ніхто яму не мог забараніць гэтага і не забаранялі. Відаць, таксама у Пазьняка былі сумневы па некаторых фактах, сабраных Антончыкам. Маўляў, доказаў недастаткова, потым цябе самога будуць паласкаць за тое, што ты не даказаў нешта. Безумоўна, былі сумненні і па фактуры. Быў шэраг фактаў, як след не падмацаваных дакументамі. Безумоўна, у Пазьняка існавалі сумневы да некаторых фактах, як проста падкінутых ці сфабрыкаваных. А таму, калі па іх і з-за іх з Антончыкам пачнуць судзіцца, то ты нічога не дакажаш і не адмыешся. Магчыма, што такі даклад Антончык рабіў не адзін. Я не стану агучваць прозвішча таго, хто пісаў тэкст самога даклада Антончыка, але скажу, што літаратурна яго выбудаваў і апрацаваў чалавек адукаваны у галіне псіхалогіі. Канешне, яму не хапала нейкіх фактаў, прычым такіх, якія б маглі давесці да слёз. Гэты чалавек прымусіў Антончыка уключыць у даклад некаторыя факты, каб усё гучала так сказаць забойна.

У дакладзе Антончыка асноўны кампрамат быў на акружэнне Лукашэнкі, у тым ліку і на прэм'ера Чыгіра. Але у свядомасці людзей выходзіла, што Лукашэнка чысты, а усе іншыя - урад, парламент - прадажныя. Атрымлівалася, што даклад біў так сказаць па сваіх, па сабе. Тым больш, што тэрмін дзейнасці ВС XII склікання заканчваўся, а рэйтынг у яго быў нізкі.

Улада ж адразу паказала: нічога зразумець людзям яна не дасць. Гэтак у снежні 1994 года з'явіліся "белыя плямы" ў газетах, а ў сакавіку 1995-га адбылася згаданая гісторыя з гвалтоўным адхіленнем ад займанай пасады рэдактара "Народнай газеты" Іосіфа Сярэдзіча. Потым былі, узгадайма: недапушчэнне да працы новага законнапрызначанага рэдактара "Народнай газеты", закрыццё радыёстанцыяў і газет, што выказвалі альтэрнатыўныя ўладным думкі, яшчэ пазней адзін журналіст бясследна знік, рэдактары і журналісты недзяржаўных выданняў сталі трапляць на "хімію" і можна толькі здагадвацца, з чым незалежныя СМІ могуць сутыкнуцца далей.

Гэта прадэманстравалі адносіны да Сярэдзіча, тады рэдактара парламенцкай Народнай газеты. 18 сакавіка ён быў зняты з пасады. Дэпутат Генадзь Карпенка раіў вярнуцца да гэтага пытання у ВС. Мы яго падтрымалі, але Сярэдзіч сказаў, што аднаго яго звароту у Канстытуцыйны і Вярхоўны суды будзе дастаткова, каб усё вярнулася на свае месцы. Ён гаварыў, што гэтае пытанне для яго настолькі яснае, што дзеля яго не варта рабіць нейкую бузу, каб даказваць, што прэзідэнт паступіў незаконна і не ў яго прарэгатывах адхіляць рэдактара парламенцкай газеты. Ён казаў, што

калі пытанне вырашыцца юрыдычна, то тады і будзе ясна, што рабіць, а ВС будзе мець падставу прыняць пэўнае рашэнне.Такім чынам, Сярэдзіч пэўным чынам сам прытармазіў пратэсты супраць відавочнага беззаконня. Наступным беззаконнем было ўжо збіццё нас, дэпутатаў ВС. Лукашэнка разумеў, што большасць ВС яго не падтрымлівае нават па пытаннях рэферэндуму, які ён ініцыяваў. Безумоўна, што без удзелу Масквы тут не абышлося.

Тады быў нізкі пік грамадскай актыўнасці, што было засведчана акцыяй 12 красавіка 1995 г., калі на плошчу каля Дома урада сабралася няшмат людзей. Зніжэнне вулічнай актыўнасці бачыла і большасць у ВС XII склікання. Калі ў ВС абмяркоўваліся асабліва важныя пытанні, дэпутаты ад большасці ў перапынках паміж паседжаннямі часта выбягалі глядзець у вокны. Калі на плошчы стаяла 5 ці 6 тысяч чалавек, то яны сябе інакш паводзілі. Яны тады ішлі на саступкі і кампрамісы. А як толькі на пляцы стаяла жменька, скажам чалавек 300, то яны проста прапіхвалі свае рашэнні. Яны вельмі рэагавалі на вуліцу і яе вельмі баяліся. Тады была хваля папулізму з боку народных дэпутатаў. Магчыма, калі б тады народ падняўся, як у 1991 годзе, то можна было б рашыць усе пытанні з уладай.

Майстрам неабмежаванага папулізму быў і ёсць сённяшні прэзідэнт. У яго выступах паўтараецца думка, што, маўляў, ён, стаўшы прэзідэнтам застаў пустую казну, што там мышы з'елі усе грашовыя паперкі. Народ верыў у тое, што, маўляў, Кебіч давёў яго да галечы, а ён, Лукашэнка, цяпер не можа з гэтым справіцца. У прынцыпе, нягледзячы на усе падобныя праблемы, у яго быў ў красавіку 1995 г. крэдыт даверу быў вышэйшы, чым у ВС. Таму ён і дзейнічаў без агляткі.

Самай, аднак, буйной косткай у горле апекуноў і дарадцаў улады была беларуская дзяржаўнасць - як у гістарычным плане, гэтак і ў сучаснасці. Беларуская мова, нацыянальныя сімвалы (бел-чырвона-белы сцяг і "Пагоня") вельмі хутка маглі стацца пазнавальнымі знакамі гэтай дзяржаўнасці не толькі ў досыць вузкім інтэлігенцкім коле, а і ў шырокіх масах. Гэта ніяк не ўваходзіла ў планы імперцаў у суседняй дзяржаве і тых, хто шукаў іхняй апекі ў Беларусі. Ударыць па мове і нацыянальных сімвалах было найпрасцей, бо вынішчаліся і душыліся яны стагоддзямі, а новае адраджэнне было пяцігадовым дзіцём. Вось тут і трэба шукаць карані падзеяў начы з 11 на 12 красавіка 1995 г. Нагадаю, што ў канцы сакавіка таго года прэзідэнт Лукашэнка ўпершыню абвясціў пра свой намер правесці рэферэндум па пытаннях фактычнай ліквідацыі дзяржаўнасці беларускай мовы, вяртання дзяржаўнай

сімволікі савецкага ўзору, падтрымкі яго заяваў аб эканамічнай інтэграцыі з Расіяй і атрымання ім права аднаасобна распускаць Вярхоўны Савет. Неўзабаве ў прэсе з'явілася заява досыць вялікай групы дэпутатаў, у якой яны прасілі прэзідэнта з'ініцыяваць рэферэндум па пытанні надання рускай мове статусу дзяржаўнай і змены дзяржаўнай сімволікі.

Да Лукашэнкі звярталася група дэпутатаў з "просьбай" правесці рэферэндум - хоць паводле тагачаснага заканадаўства прызначаць рэферэндум меў магчымасць толькі сам Вярхоўны Савет. Адпаведная папера з подпісамі дэпутатаў з фракцыі "Беларусь" была распаўсюджана у ВС. Зварот да прэзідэнта меў два пытанні - аб мове і сімволіцы.

Асабіста я размаўляў са шмат якімі падпісантамі той заявы. Высветлілася цікавая рэч: прыкладна палова з іх, такіх як Іван Цярэшка, намесніка старшыні камісіі па міжнародных справах, гаварыла, што яны за беларускую мову як адзіную дзяржаўную, але супраць сімволікі, якая ім здавалася то "літоўскай", то "фашысцкай"; другая ж палова, накшталт генерала пагранічных войск Бачарова, сцвярджала, што, наадварот, не мае нічога супраць несавецкай сімволікі, але баіцца абавязковага характару беларускай дзяржаўнай мовы. У вышэйзгаданай заяве, аднак, усё было звалена ў адну кучу: адных проста "прыплюсавалі" да другіх. Калі ж подпісы суміраваліся, то аказвалася, што падпісантаў аказвалася ці не пад сотню чалавек.

Гэты зварот з'явіўся прыкладна за тыдзень да дня 11 красавіка 1995 г., калі Лукашэнка распаўсюдзіў у ВС праект новых сімвалаў разам з зваротам аб правядзенні рэферэндума па двух пытаннях. У гэтым варыянце, выведзеным на прынтары у колеры, сцяг быў БССР-аўскі, толькі без сярпа і молата. На гербе было толькі калоссе, зямны шар і надпіс "Рэспубліка Беларусь". Выглядала гэта досыць прымітыўна і ўбога. Так што многія дэпутаты крывілі нос і казалі, як гэта не прыгожа.

Праект новых сімвалаў рыхтаваўся ў сакрэце, і тут існуюць розныя версіі. Мне гаварылі абсалютна канфедэцыйна, што нібыта да гэтага спрычыніўся скульптар Папсуеў, які на словах падаў ідэю Сініцыну, кіраўніку адміністрацыі прэзідэнта. Малодшы Савіцкі, сын слыннага мастака, гаварыў мне асабіста, што, насуперак агульнай думцы, ён з бацькам не мае да гэтага дачынення і лічыць гэта зусім не эстэтычным.

Лукашэнка такім чынам сведчыў пэўным маскоўскім колам, што ён свой, "рускі". А яму адтуль падыгравалі і казалі, што вось, маўляў, Ельцын хворы, стары, глядзі, ёсць шанец стаць прэзідэн-

там пасля аб'яднання краін. Нехта з ім гуляў у такія гульні, дзе Беларусь была палітычным палігонам.

За 2 дні да абмеркавання прэзідэнцкай прапановы на ВС 11 красавіка, у ім былі ўжо распаўсюджаныя 4 пытанні, што меліся быць вынесеныя на рэферэндум.

Ініцыяванне рэферэндуму самае меншае па двух пытаннях было антыканстытуцыйным: згодна з Канстытуцыяй рэферэндумы, якія мелі б на мэце вырашэнне канстытуцыйных пытанняў, не могуць праводзіцца ў апошнія 6 месяцаў паўнамоцтваў дзейнага Вярхоўнага Савета. Пытанні змены статусу дзяржаўнай мовы і вызначэння таго, хто мае права распускаць парламент, адназначна патрабавалі змен у Канстытуцыі. Выбары ж у новы Вярхоўны Савет былі прызначаныя на 14 мая таго ж года - г. зн., менш як праз два месяцы пасля першых вусных выказванняў прэзідэнта пра неабходнасць рэферэндуму. Вынясенне першага з названых вышэй пытанняў на рэферэндум, акрамя таго, выразна супярэчыла артыкулу 3 дзейнага тады "Закона аб народным волевыяўленні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь". Аднак ужо тады было зразумела, што парушэнне Канстытуцыі не магло спыніць тых, хто праектаваў рэферэндум.

Вось тады апазіцыйныя дэпутаты ад БНФ і Грамады і аб'явілі галадоўку. Пра яе З. Пазьняк гаварыў, здаецца, з Голубевым ноччу, напярэдадні прыняцця рашэння пра галадоўку. Я якраз быў хворы з-за павышанай тэмпературы і абсалютна нічога не ведаў пра галадоўку. У самы дзень 11 красавіка я адправіўся у ВС. Я ўвайшоў у залу пасяджэнняў якраз тады, калі сябры ад апазіцыі БНФ на чале з Пазьняком пачыналі галадоўку. Адразу з уваходу не сядаючы на сваё месца я пайшоў да трыбуны і далучыўся да іх. Усяго разам у галадоўцы ўзялі ўдзел 19 дэпутатаў. Некаторыя з сябраў Апазіцыі адсутнічалі ў той момант у зале (як дэпутат Пырх), а жанчынам, як я разумею, далучацца да галадавання забараніў сам Пазьняк. Некаторыя дэпутаты яшчэ раней адышлі ад апазіцыі БНФ (да прыкладу, дэпутат Новік). Карацей кажучы, тыя рэальныя сябры Апазіцыі БНФ, што былі тады на паседжанні - за выключэннем жанчын - усе размясціліся вакол парламенцкай трыбуны. Прыкладна пароўну сядзела з аднаго яе боку і з другога. Я сядзеў з левага боку каля прэзідыума - калі быць тварам да залы

Пачатак жа галадоўкі 11 красавіка быў нечаканым не толькі асабіста для мяне, але і для парламенцкай большасці: шмат хто з дэпутатаў схамянуўся, узгадаў, што каму як не яму трэба бараніць нядаўна (і не без праблем) прынятую Канстытуцыю, за якую, дарэчы, тады так горача агітаваў дэпутат Лукашэнка. Выступ кіраў-

ніка камісіі Вярхоўнага Савета па заканадаўству Дзмітрыя Булахава (які ў часе прэзідэнцкіх выбараў актыўна працаваў у камандзе будучага прэзідэнта) расставіў неабходныя акцэнты. У выніку ніводнае з пытанняў, вынесеных прэзідэнтам - акрамя невыразна сфармуляванага пытання пра падтрымку захадаў прэзідэнта дзеля эканамічнай інтэграцыі з Расіяй, - з першага разу не было зацверджанае большасцю парламента! Спікеру Мечаславу Грыбу трэба было паставіць на галасаванне пытанне аб завяршэнні дэбатаў па гэтым пытанні і прапанаваць перайсці да наступнага пытання парадку дня. Аднак Аляксандр Лукашэнка пачаў усялякімі спосабамі ціснуць на парламенцкую большасць, якая, трэба зазначыць, знаходзілася ў падважаным стане: ніхто не быў упэўнены ў сваёй будучыні пасля маючых адбыцца выбараў 14 мая. Таму пагроза паўторнага вынясення на разгляд ініцыятывы аб рэферэндуме заставалася абсалютна рэальнай, і намі калектыўна было вырашана: галадоўку не спыняць.

Пасля заканчэння сесіі ў 18 гадзін мы засталіся ў зале пасяджэнняў. Побач з намі напачатку было некалькі журналістаў з розных выданняў. Потым яны па чарзе загадкавым чынам пачалі знікаць. Пасля 21 гадзіны каля тэлефона ў "бакоўцы" зала пасяджэнняў заставалася толькі карэспандэнтка радыё "Свабода" Алена Радкевіч. Але каля 23-х гадзін да яе падышло некалькі невядомых асоб у цывільным, якія вывелі Алену з залы. Ужо ў той момант стала зразумела, што, хутчэй за ўсё, застацца ў зале нават да наступнай раніцы нам ужо не дадуць. Перш чым тэлефон у "бакоўцы" быў адключаны, нам яшчэ ўдалося перадаць журналістам адпаведную інфармацыю і папрасіць іх не адыходзіць ад будынка Дома ўрада. На жаль, як выявілася пазней, недзе пасля 0 гадзін 12 красавіка яны ўсе разышліся па дамах. Шлях да ўжывання грубай сілы быў, гэткім чынам, фактычна адкрыты. Каля паўночы ў залу ўвайшла група асоб у чорных скураных куртках на чале з тагачасным кіраўніком службы аховы прэзідэнта, былым дэпутатам Міхаілам Цесаўцом. Апошні абвясціў, што паступіў сігнал, нібыта ў будынку закладзеная бомба, і таму ўсе маюць быць эвакуяваныя з будынка. Цікава, што хвілін за 20 да гэтага мы ў зале якраз абмяркоўвалі сцэнар нашага выдалення з залы і гаварылі пра тое, што тут будуць шукаць "бомбу". Таму выступ Цесаўца не быў для нас нечаканым, і мы прапанавалі яму прывесці сапёраў і пры нас агледзець усё, што яны толькі захочуць. Цесавец, ведаючы, што ніякай бомбы ў будынку няма, аддаў загад сваім падначаленым выводзіць нас з залы, але мы ўсе дружна выцягнулі з кішэняў свае дэпутацкія пасведчанні, выразна папя-

рэдзілі людзей у скуранках, што за парушэнне недатыкальнасці дэпутатаў кожны з іх персанальна будзе несці адказнасць - аж да крымінальнай. І, о дзіва! Падначаленыя адмовіліся выконваць загад свайго шэфа. Цікава, што калі праз некалькі хвілін хтосьці з калегаў (здаецца, дэпутат Сяргей Навумчык) выйшаў у фае залы, ён праз вокны ўбачыў, што ў некалькіх памяшканнях і правага і левага крылаў будынка гарэла святло, а каля правага пад'езду стаяла "іншамарка", над радыятарам якой развяваўся сцяжок (яшчэ бел-чырвона-белы!). Значыць, тут былі розныя людзі, у тым ліку высокія кіраўнікі, якія не баяліся аніякіх бомбаў! Зрэшты, сапёры з'явіліся і, натуральна, нічога не знайшлі, пра што і склалі адпаведны акт.

Наступныя паўгадзіны былі адносна спакойныя, і мы дамовіліся, што можам прылегчы адпачыць тут жа каля цэнтральнай трыбуны залы пасяджэнняў (балазе падлога была засцеленая лямцавым паласам); пры гэтым адзін чалавек (па чарзе) будзе дзяжурыць і, у выпадку чаго, усіх пабудзіць. Я адчуў, што ў мяне зноў паднялася тэмпература і, накрыўшыся зімовай курткай, лёг падрамаць злева ад галоўнай трыбуны.

Каля трэцяй гадзіны мяне і іншых абудзіў рэзкі крык дэпутата Валянціна Голубева, які перад гэтым прыадчыніў дзверы ў фае: "Ваенныя з аўтаматамі і ў масках!". Мы хутка паўскоквалі і расселіся ў ложы, дзе звычайна сядзелі члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Валянцін расказаў нам, што ў фае, выстраіўшыся некалькімі шарэнгамі, стаяць вайскоўцы ў форме, узбраенні, у масках з адгазнікамі: агулам "чалавек пяцьсот альбо шэсцьсот". На балконах залы пасяджэнняў зноў з'явіліся людзі з відэакамерамі (як мінімум, двое). Тут ужо ні ў кога не было сумневу, што нас будуць выдаляць з залы. Таму мы адразу тут жа дамовіліся, што будзем супраціўляцца, ухапіўшыся адзін за аднаго, а калі ім удасца разрываць наш ланцуг, трэба зрываць з іх маскі і чапляцца - колькі будзе сілы - за сталы і крэслы. Толькі мы паспелі гэта абгаварыць, як у зале запалілася святло і з усіх пяці дзвярэй да нас кінуліся "малпападобныя" - людзі ў чорных, спартовага кшталту, касцюмах, адгазніках - падобныя да малпаў істоты - чорныя з ног да галавы. Яны з дзікім віскатаннем беглі да мяне, спрабавалі схапіць за галаву, за ногі, за рукі. Пачуліся крыкі з усіх бакоў. Унурыўшы галаву ў каўнер зімовай курткі, я моцна аберуч ухапіўся за руку Пётры Садоўскага. Моцна мацюкаючыся і лямантуючы, нападаючыя імкнуліся адарваць мяне ад яго, але я даволі доўга не даваў ім гэтага зрабіць. Бакавым зрокам яшчэ ўбачыў, як дэпутат Ігар Гермянчук сарваў такі маску з аднаго "малпападобнага",

і той імгненна адбег убок і кінуўся на падлогу! Тым часам нападаючыя пачалі круціць другую руку Садоўскага, якая была ў яго раней зламаная (нагадваю, што ён меў яшчэ недатыкальнасць і як Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь) - і я мусіў адпусціць яго. Людзі ў чорным імгненна закруцілі мне рукі за спіну, прычым так, што мой падбародак апынуўся ніжэй каленяў. Мяне пацягнулі паўкругам папярэчнага праходу, што ішоў уздоўж задняга шэрагу дэпутацкіх крэслаў. Каля крэслаў ланцугом стаялі вайскоўцы ў камуфляжы і поўнай амуніцыі, і кожны з іх імкнуўся ботам пацэліць мне ў твар. Шмат каму гэта ўдавалася, з разбітага твару ішла кроў і - шчыра скажу - у тую хвілю я ўжо развітаўся з жыццём. "Значыць, - праскочыла думка, - усе тармазы адключаныя, а калі гэтак можна збіваць дэпутата, дык потым павінны забіць, каб нікому нічога не расказаў.". Прапусціўшы гэтак праз шыхт вайскоўцаў, мяне павалаклі долу па сходах, што вялі да выхаду ў задні двор Дома ўраду. Там стаялі уазікі-"варанкі" з адчыненымі заднімі дзвярыма. Мяне падцягнулі да адных дзвярэй і, нібы бервяно, укінулі ўнутр машыны. Тут жа разабраліся: на падлозе ляжалі штабелем Ігар Гермянчук, Аляксандр Шут, Пётра Садоўскі, Алег Трусаў. Дзверы за мной, апошнім, зачыніліся, і машына памчала з месца.

Каб крыху ачомацца, спатрэбілася хвіліна, але першым апрытомнеў Алег Трусаў. Прыняўшы сяк-так вертыкальнае становішча, ён агледзеўся, што ў машыне, акрамя збітых дэпутатаў, толькі спераду сядзіць кіроўца, а справа яго - нейкі чалавек у форме (што была за форма - у цемры разгледзець было немагчыма). І тут Алег пачаў крычаць, а мы адразу да яго далучыліся хорам: "Калі не хочаце сесці, вязіце адразу ж у пракуратуру! У Генеральную!" І, давёзшы нас да скрыжавання праспекта Скарыны і вуліцы Янкі Купалы, кіроўца павярнуў-такі налева, потым яшчэ раз налева - і мы апынуліся каля будынка Пракуратуры Беларусі. Выскачыўшы з машыны і пакінуўшы там (каб "трымаў машыну"!) Ігара Герменчука, мы кінуліся ў будынак і ў настойлівай форме запатрабавалі ад дзяжурнага па будынку выклікаць тагачаснага Генеральнага пракурора Васіля Шаладонава. Яго знайсці з невядомых нам прычын не ўдалося. Але ўжо праз 7 - 10 хвілін з'явіўся дзяжурны пракурор, які прыняў ад нас афіцыйную заяву як ад пацярпелых у выніку жорсткага збіцця людзьмі ў вайсковай форме і выклікаў "хуткую дапамогу". Пасля таго, як мяне крыху перавязалі, я выйшаў на ганак будынка і паклікаў з машыны Ігара Герменчука, якому таксама патрабавалася медыцынская дапамога. Тут было зроблена глупства (зрэшты, апраўдальнае ў стрэсавай сітуацыі): я

папрасіў Алеся Шута заняць яго месца ў машыне. Потым высветліцца, што Алеся вывезуць у парк Янкі Купалы і, нанёсшы яму некалькі ўдараў, выкінуць там на зямлю (так, дарэчы, зрабілі з нявольнымі "пасажырамі" іншых трох аўтамашын - толькі вывозілі іх у больш аддаленыя месцы горада). У той жа момант мы, хто знаходзіўся ў будынку, атрымалі рэкамендацыю ад супрацоўнікаў "хуткай дапамогі" - адпраўляцца ў клініку так званай "лечкамісіі", каб атрымаць больш кваліфікаваную дапамогу і зафіксаваць там атрыманыя пабоі. Гэта было зроблена цягам наступнай гадзіны, прычым дактары "лечкамісіі" гаварылі нам, што фіксуюць нашыя пабоі, выразна ўсведамляючы сабе магчымыя негатыўныя для сябе наступствы гэтага ўчынку.

Як высветлілася пазней, наша "пяцёрка" дэпутатаў, дамогшыся неадкладнага звароту ў Пракуратуру, крыху папсавала першапачатковыя планы арганізатараў садысцкай акцыі. Знаёмыя супрацоўнікі тагачаснай аховы Дома ўраду пазней расказвалі некаторым калегам-дэпутатам, нібыта каля 4 гадзін 30 хвілін тае самае начы дзяжурны па Доме ўраду атрымаў званок ад нейкага быццам бы "сведкі", які сказаў, што ў раёне плошчы Незалежнасці адбываецца бойка паміж людзьмі, некаторых з якіх ён раней "бачыў па тэлевізары". Але, калі гэта і праўда, спланаваная правакацыя спрацаваць ужо не магла. Дарэчы, назаўтра нават урадавая "Звязда" надрукавала афіцыйную інфармацыю Пракуратуры Беларусі пра тое, што пяцёра дэпутатаў звярнуліся з заявай пра здзейсненае ў іх дачыненні злачынства ў раёне 3 гадзін 10 хвілін ночы з 11 на 12 красавіка 1995 г.

На жаль, падкантрольныя ўладам ужо ў той час СМІ у цэлым не спыніліся перад адкрытай хлуснёй на адрас дэпутатаў-удзельнікаў галадоўкі. Вядома ж і журналісты, і рэдактары "Советской Белоруссии" ды Беларускага тэлебачання не верылі таму, што пішуць або паказваюць. Не верыў уласным словам, прамоўленым у сваё апраўданне на сесіі, Міхаіл Цесавец (у гэты час запомніўся выкрык аднаго даўнейшага спікера Вярхоўнага Савета Мікалая Дземянцея: "Правильно! Мало им дали!").

Мяркую, аднак, што 12 красавіка кансалідаваныя дзеянні тагачаснага Вярхоўнага Савета маглі сітуацыю змяніць. Рана раніцай яго Прэзідыум (мне пра гэта гаварылі дэпутаты, што бралі ўдзел у яго пасяджэнні) заняў досыць радыкальную пазіцыю: было прапанавана наступнае пасяджэнне правесці ў будынку Вярхоўнага Савета і паставіць пытанне аб дачыненні канкрэтных службовых асоб да антызаконных брутальных дзеянняў супраць дэпутатаў. Шчыра скажу, што калі б гэта здзейснілася, асабіста мне не было

б надта істотным, ці атрымаюць па заслугах арганізатары і выканаўцы начнога разбою. Куды важнейшым было б тое, што ў гэткай сітуацыі пытанне правядзення рэферэндуму 14 мая аўтаматычна знікала б з парадку дня.

Дарэчы, пратэставаць супраць гвалту 12 красавіка на мінскія вуліцы выйшла ўсяго некалькі соцень ці, можа, з тысячу чалавек. Што праўда, міліцыя зрабіла ўжо тады актыўныя захады, каб не пусціць людзей на плошчу Незалежнасці (быў перакрыты ўваход з боку БДУ і станцыі метро "Плошча Незалежнасці"). Аднак пратэстуючыя тады яшчэ бесперашкодна маглі перайсці да будынку на К.Маркса, 38, і сабрацца там. Мы, група дэпутатаў, напачатку пастанавілі галадоўкі не спыняць, а прадоўжыць яе менавіта ў тагачасным будынку Вярхоўнага Савета. Праз нейкі час да нас падышоў міліцыянер з аховы будынка і сказаў, што Мечаслаў Грыб даручыў яму сачыць за нашай бяспекай, але - "вы разумееце, калі што, дык мы мала чым вам тут зможам дапамагчы...". Недзе пасля абеду, калі ў скверы каля тэатра Янкі Купалы сабралося крыху (тысяча ці паўтары) людзей, мы правялі пасяджэнне, дзе абмяркоўвалі, ці мэтазгодна працягваць галадоўку і што, увогуле, рабіць далей. Памятаю, Алег Трусаў адстойваў думку, што, калі нас другі раз выкінуць - цяпер ужо з гэтага будынка - гэта ўжо будзе выглядаць не трагічна, а смешна, і з нас проста пачнуць кпіць. Былі і іншыя думкі, але, у выніку перамагло меркаванне, што галадоўка ў невялікім кабінеце Вярхоўнага Савета - нават калі не будзе сілай спыненая - не будзе мець станоўчага розгаласу ў грамадстве, бо падкантрольныя ўладзе СМІ ўсё адно будуць займацца паклёпамі, а даказаць каму-небудзь, што дэпутаты не прымаюць ніякай ежы, у гэтых варунках, будзе надзвычай праблематычна. Праз нейкі час мы выйшлі да людзей, што нас чакалі на вуліцы, і запыталіся ў іх, што нам рабіць. Ніхто з выступоўцаў на тым імправізаваным мітынгу не заклікаў нас прадоўжыць галадоўку. Недзе ў падсвядомасці шмат у каго з дэмакратычна настроеных людзей тады яшчэ існавала спадзяванне, што яшчэ ўдасца альбо не даць уладзе выйграць той рэферэндум, альбо дамагчыся перамогі на новых выбарах у Вярхоўны Савет, да якіх тады заставаўся фактычна толькі месяц. Нам людзі гаварылі, што сядзець і галадаваць проста ўжо няма калі: трэба рыхтавацца да выбараў і іх выйграваць. Існавалі таксама спадзяванні на тое, што сваё слова скажа Канстытуцыйны Суд, які абавязаны бараніць Канстытуцыю, і г.д. Хоць цяпер ужо відавочна ўсім: 12 красавіка 1995 г. улада пераступіла тую мяжу, калі яна магла б сабе дазволіць "пагуляць у дэмакратыю" і дазволіць правесці выбары ў парламент і рэферэн-

дум на дэмакратычнай аснове. Як мы ведаем, нічога такога не адбылося.

Спадзяванні на прынцыповасць большасці парламента, аднак, не спраўдзіліся. Прэзідэнт запрасіў Старшыню Вярхоўнага Савета Мечаслава Грыба на "размову" ў сваю рэзідэнцыю. Мне здаецца, што Мечаслаў Іванавіч імем Прэзідыума павінен быў дамагчыся сустрэчы з усім складам Прэзідыума - і менавіта ў будынку парламента. Кажу гэта таму, што пасля сустрэчы з прэзідэнтам наш спікер зрабіўся іншы, больш памяркоўны. Пасяджэнне Вярхоўнага Савета было прызначанае на 12 гадзін дня ў будынку Дома ўраду. Туды дэпутатам-ахвярам начнога нападу прыйшлося прабівацца праз ахову сілай (!). Паступова рабілася ўсё больш зразумелым, што большасць вырашыла ахвяраваць меншасцю, каб атрымаць гарантыі сваёй будучыні.

Калі мы прарваліся на паседжанне, то першай жа фразай Грыба прагучала: "так, мы ведаем, у мяне была дэлегацыя, яна сказалі тое і тое, але ж мы не можам загадзя судзіць, любая справа патрабуе расследавання, нельга згарача нешта вырашаць". Я зразумеў, што наша занепакоенасць тым, што Грыб пра нешта ужо дагаварыўся з Лукашэнкам, спраўдзілася. Потым была трансляцыя, выступы, але зала была маральна зломлена. Эмацыйна ўсё узрасло асабліва, калі на паседжанні з'явіўся Цесавец. На яго сталі крычаць, што ён фашыст. Ён стаў бледны, выйшаў на трыбуну і заікаючыся пачаў гнуць нейкую версію, маўляў, галадоўшчыкі нейкія лёзы даставалі, хацелі імі вены парэзаць сабе. Карацей кажучы, ён гаварыў няўпэўнена, бо гэтую версію яму за гэты час, відаць, сачынілі. Гаварыў ён яўна не са сваіх слоў. А Ігар Гермянчук потым расказаў у дэталях з трыбуны, як усё сапраўды было. Прыхільна рэагавала не толькі апазіцыя, але і дэмакратычная частка тых, хто заставаўся нашымі прыхільнікамі накшталт Карпенкі, Цялежнікава і інш. Карпенка выступіў рэзка. Ён гаварыў, што калі тут у ВС нельга засядаць, дзе пабілі дэпутатаў і пралілі кроў, пакуль расследаванне заканчваецца, то нам нельга вырашаць іншыя пытанні. Але пасля выступаў Цесаўца, міністра абароны Кастэнка і астатніх гэта большасць стала прыхільна гудзець, крычаць што, маўляў, мала ім далі і ўсякае такое. Тады Пазьняк аб'явіў, што мы не можам працягваць тут знаходзіцца, а таму пакідаем пасяджэнне. Я думаю цяпер, што гэта можа было і няправільна, бо усё-такі зала у большасці разумела, што беззаконне відавочнае, што усім вядома, што значыць тое ж паўторнае галасаванне ў нашай прысутнасці.

Галадоўшчыкі паслухалі Зянона Пазьняка і, здаецца, выйшлі усе. Потым выйшлі Карпенка і іншыя. Мы публічна заявілі, што не можам удзельнічаць у пасяджэнні ВС. Як я цяпер разумею, сітуацыя можа б інакш развівалася, калі б мы проста сядзелі і нават не выступалі, то яшчэ невядома, як бы яны галасавалі за гэты рэферэндум.

Большасць дэпутатаў тады была дэмаралізаваная. У кожнага падыходзіў да канца дэпутацкі тэрмін. Кожны думаў, як яму быць далей. Тут спрацоўваў звычайны шкурны інтарэс: вось калі я цяпер тут ціха пасяджу, то можа якую пасаду атрымаю. Абсалютная большасць не верыла, што яе перавыберуць. Трэба мець на ўвазе, што рэйтынг ВС моцна саступаў тады рэйтынгу Лукашэнкі. І дэпутаты большасці проста купіліся на розныя абяцанні Лукашэнкі. Купіліся нават не тыя, каму нешта ужо паабяцалі і хто спадзяваўся нешта атрымаць, бо ім стала зразумела, што з гэтага ВС нічога не будзе. Па-першае, новы ВС па любому на 100 чал. павінен быў выбірацца меншы, чым стары. Ясна, што нават з гэтага гледзішча не ўсе туды траплялі, нават калі хто і спадзяваўся на гэта. Па-другое, многія адчувалі, што іх не перавыберуць таму, што за мінулыя гады яны сябе па-сапраўднаму нічым не праявілі, а тут ужо ішлі новыя людзі, якія збіраліся змагацца за дэпутацкія мандаты. Для такіх атмасфера была хутчэй пахавальная. Пакуль мы з апазіцыі былі сярод іх, мы у нейкай ступені трымалі у астатніх баявы дух і яны маглі супраціўляцца. Але тады, 12 красавіка, залу ВС мы пакінулі.

Пасля таго, як мы сышлі, большасць урэшце рэшт прагаласавала за прапанаваны Лукашэнкам рэферэндум. Яны на радасцях заадно прагаласавалі таксама за тое, каб вярнуць 7 лістапада у пералік дзяржаўных святаў. Потым, у адной тэлепраграме сказалі, што ўсё, што апазіцыя здолела заваяваць за 5 гадоў, было страчана за адзін дзень. Дзесьці у гэтым сцвярджэнні ёсць доля праўды. Потым Лукашэнка запрасіў усіх, хто прысутнічаў на галасаанні, у сталоўку ВС. Сабралася там можа чалавек 190 з той парламенцкай большасці. Вось яны балявалі і святкавалі, выпілі гарэлкі і разышліся.

Мы ж яшчэ сабралі камісію па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны на чале з Нілам Гілевічам і афіцыйна накіравалі ў Канстытуцыйны суд на імя Валерыя Ціхіні зварот на прадмет законнасці прызначэння рэферэндуму па мове і сімволіцы, бо норма дзеючага закона аб рэферэндуме як бы забараняла гэта ім. Вось тут Ціхіня і праявіў сваю беспрынцыповасць і баязлівасць. Ён даслаў у ВС адпіску такога кшталту, што, маўляў, атры-

маў ваш зварот, які па сутнасці не намераны яго разглядаць. Гучала гэта прыблізна ў такой вось казуістычнай фармулёўцы. Тут Канстытуцыйны суд, на мой погляд, парушыў закон, бо не разгледзеў афіцыйнага запыту камісіі Вярхоўнага Савета і не абазначыў нават сваіх прававых адносін адносна законнасці рэферэндуму.

Дарэчы, у камісіі мы шукалі розныя варыянты выйсця са становішча. Я асабіста нават прапанаваў, а можа, давайце выйдзем з ініцыятывай сабраць пасяджэнне ВС і у прыватнасці запісаць фармулёўку наконт мовы так, як гэта гучала у прапанове Лукашэнкі. А там, нагадаю, мовам даваўся роўны статус. Там не было гаворкі пра дзяржаўнасць рускай мовы, бо гэта норма была запісана пазней. Каб выбіць у Лукашэнкі такі козыр, трэба было запісаць у Канстытуцыі тую самую фразу, якая гучала у прапанове Лукашэнкі, г. зн.тое, што беларуская і руская мова маюць роўны статус. Аднак Гілевіч замахаў рукамі, маўляў, пакуль ён жывы, то такога не будзе, гэта нельга выканаць, бо мы самі даем прэзідэнту карты у рукі. Але мы яму нічога такога не давалі, бо ён жа сам казаў: калі ВС вырашыць пытанні рэферэндуму без яго правядзення, тады рэферэндум ён праводзіць не будзе. З іншага боку, ВС мог прыняць такое рашэнне, але ж Лукашэнка нездарма прыдумаў яшчэ тры пытанні. Ён своечасова мог сказаць: добра, гэтае пытанне здымаем, давайце разгледзім іншыя. Для яго мова і сімвалы былі істотнымі пытаннямі. Другія яго менш абавязвалі. Пытанне пра інтэграцыю не можа быць прадметам рэформы увогуле па вызначэнні, бо пытанне ацэнкі дзейнасці выканаўчай улады ў прынцыпе не магло выносіцца на рэферэндум. Чацвёрты пункт пра права прэзідэнта на роспуск ВС быў не такі прынцыповы, бо на той момант Лукашэнка добра бачыў, што гэты ВС яму не пагражае ніякім імпічмэнтам.

Сітуацыю, што склалася тады, ужо тым больш не мог пераламаць сумленны следчы па асабліва важных справах Пракуратуры Беларусі Язэп Бролішс. Ён зафіксаваў усе паказанні пацярпелых, дамогся, каб абсалютная большасць з іх прайшла медыцынскі агляд у спецыялізаванай клініцы, запатрабаваў відэаматэрыялы, якія б расказалі ўсё. Але завяршыць следства яму не далі, напэўна ж, вельмі ўплывовыя асобы.

14 мая 1995 г., аднак, выбраць кворумны склад Вярхоўнага Савета 13-га склікання не ўдалося. Таму ўвосень 1995 г. Вярхоўны Савет 12-га склікання яшчэ здолеў правесці некалькі пасяджэнняў - каб хоць у нейкі спосаб паўплываць на сітуацыю ў краіне - але толькі на першым з гэтых пасяджэнняў удалося забяспечыць рэальную наяўнасць кворуму. Адміністрацыя прэзідэнта вяла

актыўную работу з дэпутатамі, не спыняючыся перад адкрытым запалохваннем: у выніку частка дэпутатаў пабаялася надалей браць удзел у сесіі.

У лістападзе-снежні таго ж года, падчас паўторных выбараў, усё-такі была даабраная неабходная мінімальная колькасць дэпутатаў новага Вярхоўнага Савета. Але ўмяшанне спецслужбаў у працэс падрыхтоўкі і правядзення выбараў і рэферэндуму ў 1995 г. і пазней, непрыхаваная агітацыя праз тэлебачанне самога А.Лукашэнкі, пастаўленыя пад жорсткі кантроль дзяржаўныя электронныя СМІ зрабілі сваю справу: парламент пачаў няўхільна траціць свой уплыў і магчымасці кантраляваць выканаўчую ўладу. Вярхоўны Савет 13-га склікання, у якім ужо не было фракцыі БНФ - і да таго ж, абраны не ў поўным складзе - ужо нічога не здолеў супрацьпаставіць сіле і агрэсіі прэзідэнта і ягоных памагатых.

На выбарах 1995 г. я працаваў у акрузе Зянона Пазьняка у Заводскім раёне г. Мінска. Мы працавалі актыўна. Прыкладна палова людзей на сходах ставілася да нас прыхільна, нас падтрымлівала і казала, - " нас не трэба агітаваць за Пазьняка, мы і так добра яго ведаем". Аднак пасля паказу на тэлебачанні фільма "Дзеці хлусні" і шалёнай прапаганды супраць БНФ Пазьняк у прынцыпе прайграў выбары, бо у другім туры не хапіла яўкі выбаршчыкаў і выбары не адбыліся.

Дарэчы, гэты фільм мы глядзелі ў выбарчым штабе Пазьняка. Дарэчы, ён куды лепш за мяне зразумеў магчымыя наступствы паказу гэтага фільма. Калі фільм закончыўся, Пазьняк сказаў, што гэты фільм забярэ у нас многа галасоў. Сапраўды, калі мы назаўтра ішлі па двары, то насустрач выскоквалі бабкі і крычалі у наш бок "Фашысты!". Яшчэ вельмі спрацавала гэтая камуністычна-кебічава прапаганда у той бок, што, маўляў, ніякіх Курапатаў няма у прыродзе, што Пазьняк іх сам і прыдумаў. А ён якраз гаварыў людзям, якія падобнаму верылі, - ідзіце тады, сядзьце на тралейбус №53, праедзьце і зірніце. Гэта недалёка ад вас, а не недзе там на іншай планеце. Яны ж чулі пра Курапаты, але у агульным плане. А тут ім гавораць, што Курапаты - гэта хлусня. Я таксама гаварыў ім у такіх выпадках, што яшчэ засталіся жывыя сведкі, з якім Пазьняк размаўляў і якія усё падцвердзяць.

Прапаганда, такім чынам, адбіла частку патэнцыяльных выбаршчыкаў, тых, хто традыцыйна галасаваў за Фронт. Яны засумняваліся і проста вырашылі не пайсці на выбары. Памятаю такі выпадак. На вуліцы Ілімскай быў пабудаваны 256-кватэрны дом. Як дэпутат Пазьняк прыклаў шмат намаганняў для яго пабудовы, каб аддаць яго людзям. Засялілі ж гэты дом збольшага

ветэранамі. Гэта значыць, ягонымі рукамі яму так сказаць падсялілі тысячу ветэранаў, сярод якіх вялікі працэнт складалі "інвалідны халоднай вайны". У выбарчую кампанію 1990 года гэты дом не існаваў, а у кампанію 1995 года ён быў заселены. Словам, тады ўлады правялі добра арганізаваную дыверсію. У выніку гэтага камуністы са сваім дысцыплінаваным электаратам дружна з'явіліся на участкі 14 мая 1995 г.і, хаця і не намнога, але яны нас апярэдзілі. Адбылася дэмаралізацыя нашага патэнцыянальнага электарату, а у выніку новы ВС застаўся без апазіцыі БНФ.

У траўні 1995 на выбарах галоўным супернікам Пазьняка быў камуніст, дырэктар жалезабетоннага завода Рыгор Пунцік, член ПКБ. На гэтага Пунціка Пазьняку у ВС пісалі работніцы завода пра тое. што ён нешта там украў і нахапаў у падшэфным калгасе. Я прапаноўваў Пазьняку выкарыстаць гэтыя пісьмы ў выбарчай кампаніі. Але Пазьняк сказаў, што гэта, маўляў, "не нашы метады і я не стану гэтым карыстацца". У прынцыпе і дарма, таму што ўвосень пасля Пазьняка па той самай акрузе кандыдатам у дэпутаты ішоў я. Я часткова выкарыстаў гэтыя матэрыялы і Пунціка абышоў.

Прасцей кажучы, выбаршчыкі, як калісь і гледачы у Рыме, хацелі пацехі. Я, праўда, не хацеў быць дэпутатам. Аднак Пазьняк мяне прымусіў зарэгістравацца па той акрузе, дзе я не жыў і не працаваў. Ён сказаў, што сам едзе балатавацца ў Смаргонь, а тут узамен яго трэба некага выставіць. Таму ён мусіць выставіць за сябе як мінімум свайго намесніка. Вось так ён і прымусіў мяне балатавацца.

Мы, натуральна, думалі, што пры аб'ектыўных выбарах мы будзем мець моцную парламенцкую фракцыю. Аднак жа большасць нездарма змагалася за выбары па мажарытарнай сістэме. Калі б выбары адбыліся па змешанай сістэме, як у Расіі ці Літве, то прайшло б як мінімум 60 чал. ад БНФ. А так у новым парламенце не аказалася ніводнага з франтаўцаў і яго прыхільнікаў.

Пасля таго, як у маі 1995 г. не удалося выбраць увесь парламенцкі склад ВС, увосень узнікла ініцыятыва аб тым, што трэба сабраць стары склад дэпутатаў і вырашыць некаторыя пытанні, без чаго нельга абысціся. І такую сесію удалося сабраць у верасні. Быў кворум, але потым пачалася работа адміністрацыі Лукашэнкі. Яна стала ціснуць на дэпутатаў па месцы працы - маўляў, калі паедзеш у Мінск, то будуць праблемы. Таму дзесьці з 2-га ці 4-га дня кворум ужо не існаваў, і стала зразумела, што гэты ВС ужо нічога рэальна не можа зрабіць.

Крыху пра падзеі наступнага году.

Калі 24 сакавіка 1996 г. адзначалася чарговая гадавіна абвяшчэння незалежнасці БНР, то мы калонай пайшлі пад будынак старога радыёцэнтра на вул. Камуністычную і там доўга патрабавалі, каб прадстаўнікам пазіцыі далі слова у тэлеэфіры. Але быў выхадны дзень і там акрамя аховы нікога з начальства не было. Слова у эфіры ніхто даць і не мог бы. Пасля таго, як слова не далі, узнікла стыхійнае шэсце. Бо яшчэ ўсё падыходзілі людзі, многія ішлі з боку вакзала: на мітынг тады прыехала шмат інагародніх. АМАП і спецназ некалькі разоў каля тэлестудыі спрабавалі напасці на іх, выхапіць іх з шэрагаў мітынгоўцаў. А там проста ўзнікла некалькі боек. Аднак дэманстранты, па сутнасці, перамаглі ў гэтых бойках. Нават разбілі некалькі шлемаў амонаўцам. Г. зн., фактычна міліцыя адступіла, бо людзей адбілі і не далі нікога захапіць.

Як я ведаю з аповядаў, бо сам не бачыў, калі Пазьняк і Навумчык тады паехалі дадому, то у іх дварах стаялі міліцэйскія машыны. Былі і крытыя машыны з салдатамі унутраных войск з аўтаматамі. Абодва палітыкі не вярнуліся дадому, а пайшлі на іншыя кватэры. Паколькі у кватэры Навумчыка жыла яго 16-гадовая сваячка, то яна здолела ім паведаміць, што некалькі разоў спрабавалі ўламацца на іх кватэру ва Уруччы. Яны некалькі дзён хаваліся на нейкіх кватэрах, а потым праз Украіну з'ехалі. Але гэта не быў канчатковы ад'езд, бо Пазьняк 26 красавіка з'явіўся на Чарнобыльскі шлях. Яго ужо проста адсочвалі ад самой мяжы і перадавалі інфармацыю. Па заканчэнні гэтай вельмі масавай акцыі мы паехалі на "рафіку" па адрасу Варвашэні 8. Пазьняк быў там разам з кіраўніцтвам фронту. Па дарозе мы абагналі машыну Мясніковіча і пажартавалі хіба давайце спынім яго і забяром да сябе.

Прыехалі на сядзібу фронта на Варвашэні. Тут прыйшло паведамленне, што затрымалі Віктара Кароліка, старшыню Завадскай рады Фронту, які вельмі актыўна падтрымліваў выбарчыя кампаніі Пазьняка. Потым прыехала яшчэ некалькі чалавек з кіраўніцтва Фронту. Мы пазванілі адвакату Надзеі Дударавай. Яна кажа: "Заедзьце за мной, паедзем высвятляць, дзе іх затрымалі, можа і вызвалім". На тым самым "рафіку" мы паехалі да Дударавай, а потым на вул. Караля, у Фрунзенскі райаддзел міліцыі. Прыехалі туды, сталі крыху воддаль. Дударава пайшла у дзяжурную частку высвятляць, што з затрыманымі. І сапраўды, нашыя некалькі чалавек аказаліся там на чале з Каролікам. Але ім сказалі (а была пятніца): маўляў, ні на што не разлічвайце, да панядзелка вас не выпусцяць, бо на працягу 72 гадзін можна любога чалавнека зат-

рымаць для высвятлення абставін. Наш адвакат вярнулася і сказала, што нам зараз не варта тут сядзець, што мы нічога тут не даб'емся, трэба ехаць параіцца. Мы вярнуліся да сядзібы БНФ на Варвашэні. Я ўбачыў, што там ужо стаяць крытыя машыны і аўтобусы з занавешанымі вокнамі, якіх там раней не было. Я, аднак, тады падумаў, што за намі проста сочаць.

Калі Пазьняк з Юрыем Хадыкам зайшлі у далёкі пакой пра нешта раіцца, я застаўся у пярэднім пакоі. Было адчуванне, што атмасфера згушчаецца, што нешта абавязкова здарыцца. Са мной было чалавек 7 хлопцаў. Я сказаў ім: выйдзем на вуліцу, паглядзім, што там робіцца. Мы выйшлі і убачылі групу аўтобусаў.У аднаго аўтобуса дзверы адчыніліся і адтуль выскачылі людзі у масках. Яны напалі на мяне, схапілі за плашч, прычым так хутка, што мае хлопцы з "аховы" не паспелі зрэагаваць. Мяне укінулі у аўтобус. Я спачатку быў у стрэсавым стане, але потым пачуў голас нейкага камандзіра: "Леонида Петровича не трогать!". Як я мяркую, гэта мог быць голас Навумава (зараз міністр унутраных спраў), паколькі падобны на яго голас я потым некалькі разоў чуў па тэлебачанні. Я сеў і кажу яму, гэтаму камандзіру, - я памочнік дэпутата, у мяне ёсць пасведчанне памочніка дэпутата Знаўца. Мне нічога не адказалі. Але праз 15 хвілін той жа самы чалавек з голасам Навумава скамандаваў; "Подъезжаем!".

Аўтобус пад'ехаў і стаў проста насупраць дзвярэй сядзібы на Варвашэні, 8. Начальнік зноў даў каманду - дзверы аўтобуса адчыніліся і людзі у масках рынуліся у сядзібу БНФ. Адтуль яны хутка сталі прыводзіць увогуле усіх, хто быў там, у тым ліку дзяжурных і Знаўца. Нейкі час машына стаяла, бо, як я мяркую, была каманда арыштаваць менавіта Пазьняка. Але яго на той момант на месцы не аказалася, бо ён выйшаў з Хадыкам праз другія дзверы на двор. Тады, у якасці кампенсацыі, каб далажыць па начальству, пабралі усіх, хто знаходзіўся у сядзібе. Пазней, калі былі іншыя хапуны, тыя дзверы пільнавалі. А той раз - ці то яны не ведалі, ці то ім своечасова не паведамілі пры тыя другія дзверы - шчасце было на баку Пазьняка і Хадыкі. Як казаў потым Хадыка, яны з Пазьняком выйшлі з сядзібы літаральна незадоўга перад хапуном, бо убачылі нейкае варушэнне на вуліцы. Яны не адважыліся выйсці на вуліцу, а зайшлі побач у шматпавярховы дом і падняліся на чацверты паверх на пляцоўку гэтага дома. Якраз ішла аблава і яны чулі унізе галасы. Але тыя, хто забягаў, не падымаліся вышэй за першы паверх. Унізе пашумелі і адышлі. Пасля гэтага Хадыка паехаў дадому, а Пазьняк паехаў на запасную кватэру, а ужо адтуль нелегальна выехаў праз Украіну ў Польшчу і пасля таго ўжо не вяртаўся.

Хадыку раніцой забралі каля пад'езду яго дома на вул.Якуба Коласа. Тады ён і пачаў сваю галадоўку. Спачатку яго павезлі у спецпрыёмнік. Відаць, і гэта мусіла быць нейкай кампенсацыяй за Пазьняка (Хадыка лічыўся другой асобай у кіраўніцтве Фронту). Тады ж каля пад'езду дома арыштавалі і Вінцука Вячорку. З чатырох кіраўнікоў БНФ супраць двух - Хадыкі і Сіўчыка - узбудзілі крымінальную справу, а супраць мяне і Вячоркі спрабавалі ўчыніць адміністрацыйныя суды, але, у выніку, апраўдалі і яго, і мяне.

А тады я трапіў у стары будынак Цэнтральнага РАУС на вул. Інтэрнацыянальнай, дзе нас пратрымалі ноч. Нас везлі туды з жартамі. Сярод нас у аўтобусе была жанчына, Ірына Важнік. Яна запытала: "Куды нас вязуць?". Ёй адказалі змрачнаватым жартам: "У Курапаты". Але праз шчыліну ў фіранцы я ўбачыў цэнтр горада і што мы кружым вакол будынка КДБ.

Мяне выклікалі пару разоў у якасці сведкі - паказаць, што было, што я бачыў. Мяне дапытваў следчы Чумачэнка. Да раніцы мы сядзелі у спартыўнай зале РАУС, якая ахоўвалася міліцыянтамі. А ўранні наступнага дня нас павезлі на вул. Акрэсціна у спецпрыёмнік-размеркавальнік. Паколькі былі выхадныя, то суда да панядзелка не прадбачылася. Так мы і сядзелі два дні без суда. Большасць з нас - мастакі, пісьменнікі, інтэлігенцыя, пара чарнобыльцаў - першы раз у жыцці трапіла ў такія ўмовы. Нас тасавалі. У камеры са мной было чалавек 12. Да нас падсунулі слухаць, што мы гаворым, нейкага сексота. Мы, з дапамогай арыштаваных напярэдадні ўкраінцаў, яго хутка вылічылі, і яго ад нас забралі. Потым прама у турме пачаліся так званыя працэсы над удзельнікамі чарнобыльскага шэсця. Суды пачаліся насуперак усім законам. Яны пачаліся раніцай не ў будынках гэтых самых судоў. Прыхаў выязны суддзя, якому далі памяшканне прама у турме. Многія адмовіліся так судзіцца, бо іх ніхто не меў права судзіць у турме у закрытым рэжыме. Я таксама патрабаваў адваката і сказаў, што пакуль не вызавуць адваката, я з імі не буду размаўляць. Назаўтра мяне прывезлі у Маскоўскі раённы суд, куды прыехала і адвакат Дударава. Я адразу паказаў, што я ў прынцыпе не удзельнічаў у шэсці, бо тады меў даручэнне сядзець у машыне з гукаўзмацняльнікам і раздаваць указанні у гучную сувязь. Гэта значыць, я сядзеў унутры машыны і ў самім шэсці не удзельнічаў. У іх быў відэазапіс, і таму мяне адпусцілі. Але справу не закрылі да з'яўлення "новых акалічнасцяў". Закрылі яе толькі праз месяц, калі высветлілася, што ніякіх прыкмет злачынства, тыпу парушэння грамадскага парадку, у маіх паводзінах не было. Аднак па парадзе адваката, я нейкі час хаваўся.

Пасля гэтага хапуна ўсё кіраўніцтва Фронту сядзела ў турме, а на свабодзе заставаўся толькі адзін сакратар управы і адзін намеснік старшыні, Станіслаў Гусак. Яны правялі без нас прэс-канферэнцыю і адпаведна заняліся распаўсюджваннем інфармацыі па структурах БНФ. Гэта значыць, што структура Фронту функцыянавала без нас, бо у той час яна была добра разгалінаваная. Мы мелі ўсюды людзей, у тым ліку і у спецслужбах і спецорганах. 9 мая на чарговым сойме БНФ было сказана, што Пазьняк дае сігнал праз запячатаны канверт аб вызначэнні кіраўніка Фронту ў Беларусі, дзе ўказваецца і яго прозвішча. Калі адкрылі канверт, то аказалася, што выконваць абавязкі Пазьняка у гэтай сітуацыі даручаецца менавіта мне. Канверт прывезлі яго давераныя асобы. Там яго уласнай рукой называлася маё прозвішча. Дарэчы, пра гэта ён даўно гаварыў, хаця і не гаварыў хто менавіта прызначаецца ім у намеснікі. Але мы ведалі, што ёсць такі канверт. Паколькі я быў яшчэ пад судом, то пасля пасяджэння сойму адразу на некалькі дзён з'ехаў на канспіратыўную кватэру. А праз ціск з боку самога Ельцына, як кажуць, Лукашэнка пазней адпусціў-такі Хадыку і Сіўчыка.

У гэты час БНФ быў на пад'ёме. На кожную арганізаваную ім акцыю выходзіла шмат людзей. Моладзь проста ішла валам і запісвалася у Фронт. Ад'езд Пазьняка не пашкодзіў гэтай станоўчай тэндэнцыі. Наадварот, ён даў зразумець, што раз Пазьняк улізнуў, то спецслужбы не ўсемагутныя. Спад у БНФ пачаўся тады, калі Пазьняк папракнуў нас у тым, што мы яго кепска баронім і не патрабуем для яго гарантый. Мы ж рабілі, што маглі. Адвакат Надзея Дударава у згодзе з самім Пазьняком рыхтавала належныя паперы і звярталася з імі ва усе інстанцыі наконт сітуацыі са "справай" Пазьняка. А ў ягоным кожным пасланні гаворка ішла пра асабістыя гарантыі. Улада не адказвала і проста маўчала доўгі час. Адвакату адказвалі, што для баяцца Пазьняку няма падстаў, што ва узбуджанай крымінальнай справе ён праходзіць толькі як сведка, але справу не закрывалі. Праз год Лукашэнка на нейкай прэс-канферэнцыі сказаў, што няхай ён, Пазьняк прыязжае, з яго галавы ні адзін волас не упадзе. Праўда, пажартаваў ён, у яго няма валасоў як і у самога мяне. Але тады не было ніякай канкрэтнай рэакцыі. А Пазьняку паказалася гэтага мала. Ён прыслаў ліст пра тое, што мы за яго кепска змагаемся, а таму ён вымушаны прасіць палітычнага прытулку. Вось гэта быў удар. Ліст гэты прыйшоў ці то ў канцы чэрвеня, ці то ў пачатку ліпеня 1996 г. Тады гэта пэўным чынам адбілася на настроі у Фронце. Восеньскія акцыі былі не такімі ужо шматлюднымі. Былі і іншыя чыннікі - прынамсі,

закрылі радыёстанцыю 101.2, якая расказвала пра гэтыя акцыі нават шараговым аўтамабілістам. Новы ВС на чале з Шарэцкім выступіў з ініцыятывай рэферэндуму і многія шэраговыя фронтаўцы ад яго адвярнуліся, маўляў, нашто я пайду за яго стаяць на плошчы. А тут яшчэ ўпэўненасць пахіснула палітычная эміграцыя прызнанага апзіцыйнага лідэра.

Калі ўзнікла ініцыятыва Лукашэнкі пра чарговы рэферэндум, то ВС 13 склікання зразумеў, што яму прыходзіць канец, калі не удасца паспрабаваць хоць нешта змяніць. А масы маглі падняць толькі мы. Гэта мог сказаць у той момант любы. За гэтым да нас звярталіся і Шарэцкі і Карпенка. Тады ж у жніўні-верасні 1996 г.узнік круглы стол, які праводзіўся у доме палітасветы з удзелам партый. Туды запрасілі і Лукашэнку. Але ён не прыйшоў, а прыслаў за сябе віцэ-прэм'ера Лінга. Удзельнікі стала распрацавалі дакумент, які ўпершыню ў гісторыі супольна падпісалі, сярод іншага, кіраўніцтва ВС, кампартыі і БНФ. Яны выказаліся за тое, каб прапанову аб рэферэндуме правеці у разумнае рэчышча, што можна весці размову пра ўдасканаленне Канстытуцыі, але не наспех, не аўральным спосабам. Быў арганізаваны і першы сумесны мітынг каля палаца чыгуначнікаў, які, аднак, фактычна аказаўся правальным, таму што нашы шарагоўцы з БНФ на згаданы мітынг прыйшлі, а камуністы не прыйшлі, бо баяліся бела-чырвона-белых сцягоў. Таму мітынг аказаўся параўнальна малалюдным.

Трэба, акрамя таго, мець на ўвазе і наступную акалічнасць. Шараговыя людзі актыўна падтрымлівалі Фронт пакуль існавала пагроза страты незалежнасці, бо ўвесну 1996 г. яшчэ ішла Чачэнская вайна. Мы гаварылі людзям: калі мы аб'яднаемся з Расіяй, тады туды пашлюць ваяваць і беларусаў. А тут увосень якраз ужо і падпісалі Хасаўюртаўскія дамовы, а Б. Ельцына перавыбралі на новы тэрмін. Словам, шмат у каго ўзнікла адчуванне таго, што знікла непасрэдная пагроза незалежнасці. Навучэнцы тэхнікумаў і пэтэвэшнікі ўвесну актыўна ішлі на мітынгі і дэманстрацыі, бароночы якраз ідэю незалежнасці, бо разумелі, што ў разе чаго іх возьмуць у армію. Да таго ж, Лукашэнка выдаў пазней, на пачатку 1997 г., дэкрэт №5, якім рэзка узмацняў адказнасць за удзел у дэманстрацыях. Пачаліся рэпрэсіі і супраць журналістаў.

У той момант я быў вулічным палітыкам. Я бываў у ВС XIII склікання, сустракаўся з дэпутатамі, даваў ім інфармацыю, але у асноўным кантактаваў з Карпенкам. Ён гаварыў, што сабраў групу наконт імпічмэнта прэзідэнту Лукашэнка, што пакуль вагаюцца камуністы, што калі толькі хаця б частка з іх да нас далучыцца, тады мы здолеем сабраць неабходны мінімум подпісаў. Потым

камуністы з Калякіным на чале пагадзіліся, і неабходная колькасць подпісаў была сабраная. Справу адразу перадалі у Канстытуцыйны суд. Пра гэта мы ведалі ад Карпенкі, і з ім мы каардынавалі мерапрыемствы адносна мабілізацыі людзей на вулічныя акцыі. Адносна паводзін ВС нас інфармаваў пераважна ён, бо Шарэцкі займаў пазіцыю над усімі - маўляў, я не за прэзідэнта, але і не за гэта. Ён паставіў свой подпіс пад прапановай імпічменту толькі у дзень галасавання. У разгар рэферэндумнай кампаніі Карпенка мне казаў, што пачалося змаганне за дэпутатаў, бо іх пачалі па адным выклікаць, пужаць каго цукеркай, каго бізуном. Разбіраліся і з блізкімі сваякамі некаторых дэпутатаў. Тым не менш, ён з аптымізмам гаварыў, што подпісы будуць сабраныя. Рэч у тым, што з камуністамі было лёгка працаваць таму, што калі яны нешта вырашаць і паабяцаюць, то яны зробяць. Але ім трэба было праводзіць пленум, афармляць паперы. Гэта зацягвалася. Унутры фракцыі камуністаў у ВС здарыўся раскол, бо частка іх ясна сказала, што яны не будуць падпісваць ніякай ініцыятывы пра імпічмэнт Лукашэнку. За Калякіным пайшло усяго чалавек 30 з яго фракцыі. Астатнія адкалоліся і пайшлі за прэзідэнтам.

Да Мясніковіча выклікалі кожнага дэпутата, якія ставілі подпісы. Як толькі іх подпісы трапілі да Ціхіні, то яны чамусьці аказаліся і ў адміністрацыі Лукашэнкі. Карпенка ж, відаць, абяцаў дэпутатам, што гэтыя подпісы трапяць у Канстытуцыйны суд і больш нікуды адтуль не знікнуць да разгляду у самім судзе. Бо не было ніякіх падстаў передаваць завераныя подпісы ў адміністрацыю прэзідэнта. Таму я думаю, што Ціхіня меў да гэтага дачыненне. Ён мог сябе цвёрда трымаць. Аднак з яго боку быў тады звычайны страх. Потым у 1997 г. ён неяк падышоў да мяне і сказаў, што мы мелі ў выніку рацыю, але дэталяў не раскрываў. Канстытуцыйны суд быў для нас недаступны, бо ён увогуле трымаўся воддаль і як бы над усімі.

Вярхоўныя Саветы XII і XIII скліканняў у сваёй бальшыні ўсётакі складаліся з людзей, якім было цяжка мысліць катэгорыямі агульных, нацыянальных інтарэсаў. Абраныя дэпутаты ў першую чаргу клапаціліся пра свой асабісты інтэрас і калі жыццё прымушала рабіць выбар паміж агульным дабромі асабістай выгодай, шмат хто проста фізічна адчуваў страх за сваю кар'еру, а то і асабістае жыццё. У гэтым прычына іх слабасці, невысокага аўтарытэту ў вачах многіх людзей. Што праўда, пазней, пасля 1996 года, парламенцкая дзейнасць у Беларусі ператварылася ўвогуле ў імітацыю.

# Герменчук Ігар Іванавіч

*Праверана, мін няма. (Паказанні ў Вярхоўным савеце 12 красавіка 1995 г.)*

"Хачу давесці да Вашага ведама тое. што мы, пацярпелы бок, учора тут назіралі як гэта адбывалася. Сапраўды, існуе відэастужка. Усе з'яўленні палкоўніка Цесаўца фіксаваліся на дзве відэакамеры з гэтых бакоў. Усе з'яўленні іншых людзей у гэтую залу таксама фіксаваліся. Усё тое, што адбывалася тут, зафіксавана на відэастужку і там усё будзе вельмі ясна.

Такім чынам, упершыню Цесавец з'явіўся ў 21 гадзіну. Ён з'явіўся не адзін. Ён прыйшоў разам з нейкім, па паводзінах я назваў бы яго тыпам. Аказалася, па словах Цесаўца, гэта начальнік управы аховы прэзідэнта Каралёў. Ён паводзіў сябе такім чынам, што дэпутат Трусаў кажа: "Пакажыце пасведчанне, хто Вы". Ён кажа: "После 15 мая мы с вами разберемся. Я Вам покажу, кто я". Так заяўляў гэты чалавек, якога Цесавец назваў, што ён шэф аховы прэзідэнта Каралёў. Цесавец заявіў пад час гэтага візіту у 21.00, што ў 20.11. паступіў званок аб тым, што Дом Ураду замініраваны. "Мы усіх ужо эвакуіравалі з Дому Ураду", - сказаў Цесавец. - Цяпер мы вымушаны эвакуіраваць Вас". Спаслаўся на тое, што была размова ў яго з Грыбам і Мечыслаў Іванавіч згадзіўся з тым, што дэпутатаў трэба эвакуіраваць.

У 22. 20 палкоўнік Цесавец заявіўся з палкоўнікам грамадзянскай абароны, які сказаў, што будынак замініраваны і патрабуецца яго абследаванне сапёрамі. Мы сказалі, што мы не супраць, праводзьце любыя работы, якія вы тут хочаце, мы гатовы стаць у тое месца, на той пятачок тэрыторыі, які вы нам укажаце. Зноў жа Цесавец запатрабаваў вызваліць памяшканне. Мы адмовіліся гэта зрабіць, сказалі, што мы гатовы выконваць любыя ўказанні людзей, якія будуць праводзіць абследаванне залы і паводзіць сябе

так, як яны будуць гэта патрабаваць, а залу мы не пакінем. Цесавец прапаноўваў нам: вас развязуць па хатах, тут аўтобусы знаходзяцца, а мы тым часам абследуем залу. Тады, калі Цесавец сказаў, што з Дому Урада ўжо эвакуіравалі ўсіх - гэта была няпраўда.

Як ужо згадвалася, мы з дэпутатам Навумчыкам стаялі вось на той пляцоўцы. Дзве жанчыны, якія працавалі тут, здымаючы стэнаграмы,…няцяжка іх адшукаць, мы іх ведаем, памятаем,..- могуць падцвердзіць, што яны выходзілі..Ужо было позна, напэўна 22.40.

У 23.35 Цесавец зноў заявіўся. Гэтым разам ён заявіўся зноў жа з Каралёвым. Увайшлі яны не адны. З імі былі ўведзены прыкладна два дзесяткі людзей у цывільнай форме, маладыя, частка з іх брытагаловыя, і прыкладна столькі, ну можа быць, дзесятак альбо 15 міліцыянтаў у міліцэйскай форме, у чыне палкоўніка, маёра і ніжэй. Па-мойму, два падпалкоўнікі было.

Мы ужо сядзелі ў левым сектары прэзідыума, размясціўшыся на гэтых трох-чатырох шэрагах. Я сядзеў тут з Маркевічам. З двух бакоў сталі людзі ў цывільным. Міліцыянты сталі ззаду і Цесавец аддаў каманду - "Выводзьце". Двое кінуліся на Гюнтэра, які сядзеў з краю, відаць, як як да самай невялікай камплекцыі. Двое у цывільнай форме пачалі яго цягнуць. Дэпутат, яго калега, які сядзеў з ім побач, трымаў яго. Мы пачалі гаварыць - "Што вы робіце ? Мы дэпутаты, мы знаходзімся тут, мы нічым не перашкаджаем рабіць абследаванне". Гэтыя хлопцы рэціраваліся. Яны адчулі, што яны робяць нешта не тое.

І тады Цесавец разам з Каралёвым (увогуле, гэта прымітыўная публіка, як сведчыць гэты факт) схапіліся самі цягнуць дэпутата Гюнтэра. І я ім кажу: "Што, Цесавец, падымаем баявы дух?". Уявіце сабе: стаяць гэтыя хлопцы, бачаць, як яны паводзяць сябе, што так паводзіць нельга з дэпутатамі. І гэтыя тыпы, Цесавец з Каралёвым, падымалі такім чынам іх баявы дух. І калі я пачаў гаварыць пра усё гэта, Цесавец падскочыў да мяне. Маркевіч ухапіў мяне за руку, трымаючыся. Я ўхапіўся за сістэму уключэння мікрафонаў Мечыслава Іванавіча. Цесавец спрабаваў мяне цягнуць, але бачыў, што нічога ў яго не атрымаецца.

Такім чынам, гэта была такая першая спроба малымі сіламі нас адсюль дэпарціраваць. Увайшлі два палкоўнікі і сказалі, што ў прынцыпе згодныя праводзіць гэтае абследаванне наконт наяўнасці "взрывчатых веществ", як гаварыў тут міністр абароны, толькі хай дэпутаты спачатку знаходзяцца ў гэтым сектары, мы абследуем гэты, а потым (няхай дэпутаты) перасядуць сюды. Мы

згадзіліся. Яны абследавалі гэты сектар. Мы сюды пераселі. І нікуды не хадзілі, нікому мы не перашкаджалі. Сапраўды. тут ляжалі спальнікі, якія яны маглі падымаць, што заўгодна рабіць, таму што мы ужо рыхтаваліся ўсё ж такі спаць.

Яна абследавалі гэтае памяшканне. Пакуль лейтэнант пісаў акт абследавання памяшкання, там стаялі два палкоўнікі. З імі размаўляў дэпутат Трусаў. Пасля гэтага ўсе, хто удзельнічаў у гэтым так званым пошуку міны, распісаліся на гэтым акце, папрасілі дэпутатаў засведчыць гэты акт, што і зрабілі трое, па-мойму Трусаў, Гюнтэр. Трусаў і Гюнтэр паставілі гэтыя подпісы і тыя пайшлі. Такім чынам, яны выканалі сваю місію.

Калі міністр Кастэнка кажа, што яны там памыліліся, што ж гэта такое ? Два палкоўнікі выконвалі важную функцыю ў зале Вярхоўнага Савета, бралі на сябе велічэзную адказнасць. Тым не менш, (яны) паставілі свае подпісы. Вось такая была сітуацыя. Яны у жыцці, напэўна, не мелі такой адказнасці, як у гэтай сітуацыі. Яны паставілі гэтыя свае подпісы, і усе людзі, якія праводзілі гэтае абследаванне. І такім чынам, уся публіка - і Каралёў, і ўся гэтая брыгада - адсюль удалілася. І сапёры таксама сышлі. Але ўсё ж такі мы ведалі, што гэтым справа не скончыцца, таму што як закончылая так званае размініраванне (гэтыя акты былі падпісаны ў 00.41, прыкладна каля гадзіны), нам патэлефанавалі з вуліцы журналісты, што прыехаў лімузін, прыехаў прэзідэнт і прыехаў картэж. Акрамя таго, нам сказалі яшчэ, што сюды, у Дом урада, прыбылі Сініцын і Ціцянкоў.

Як з'явіліся тут журналісты ? Безумоўна, як толькі пачалася сітуацыя з замініраванннем, мы адсюль пазванілі карэспандэнтам. Гэта іх прафесійны абавязак. Яны павінны быць тут, каля гэтага будынка, каб паведамляць навіны. Я, як журналіст, калі б мае людзі не былі тут, выгнаў бы іх за гэта з работы.

Мы паклаліся спаць. Пазняк паклаўся тут, Антончык, Навумчык, Голубеў, Герменчук, там недзе Крыжаноўскі.

У 2 гадзіны 35 хвілін дэпутат Голубеў заўважыў, што там соваюцца нейкія людзі, што нейкі тупат у калідоры. Тут цёмна было. Ён пайшоў і прыадчыніў дзверы. Дэпутат Голубеў пасля гэтага крыкнуў: "Аўтаматчыкі, пад'ём". І ў гэты момант тыя людзі, якія тут ажыццяўлялі акцыю, зразумелі гэта нібыта каманду. Зала адразу пасля гэтага ўключылася. Мы паўскоквалі. Голубеў расказвае, што там людзі з аўтаматамі, у касках, у камуфляжы, спецназ. Мы хуценька апрануліся, хто як мог, і селі зноў жа на гэтыя месцы.

У 2 гадзіны 44 хвіліны ўвайўлі Цесавец, Каралёў і трэці.такі велічэзны чалавек у зашчытнага колеру форме, у зашчытнай ка-

муфляжнай кепцы, і Цесавец паўтарыў: "Вам даецца пяць хвілін для таго, каб пакінуць залу". Мы сказалі, што мы не пакінем залу, што размініраванне праведзена, а калі вы яшчэ раз хочаце правесці яго, калі ласка, праводзьце. Каралёў заяўляе, што ў нас ужо засталося тры хвіліны. І прыкладна пасля гэтых слоў яны пайшлі да дзвярэй. І мы бачылі, як усе дзверы адчыніліся, калі мы яшчэ сядзелі тут, да іх уваходу. І калі яны падышлі да дзвярэй, Цесавец даў каманду і сюды уварваліся.

Уварваліся праз усе дзверы, урываліся трыма шарэнгамі. Першая - гэта людзі ў нейкай чорнай спартыўнай альбо такой шарсцяной форме з чулкамі на галаве і толькі вочы прарэзаныя. За імі ішлі спецназаўцы ў касках альбо ў рэспіратарах з дубінкамі і аўтаматамі. І трэцця шарэнга - аўтаматчыкі сталі з аўтаматамі па ўсяму перыметру залы. Яны кінуліся адразу вось у гэты сектар. На Пазняка кінуліся трое, а тут сядзела тры чалавекі. Кінуліся і пачалі цягнуць (нас). Я сядзеў у сярэдзіне. Я спрабаваў адцягнуць руку, як цягнулі дэпутата Маркевіча. Калі тры бандыты круцілі галаву Пазняку, я спрабаваў адцягнуць іх рукі і пачаў здымаць гэтыя іх капюшоны. І сарваў па меншай меры чатыры капюшоны, пакуль яны да мяне дацягнуліся. У адзін з момантаў мяне пераггрэлі гумавай палкай. Да мяне дабраліся, мяне схапілі. Я вырываўся. Яны перакінулі мяне ў нейкія іншыя рукі, і потым, калі я зноў вырваўся, мяне падхапілі шэсць чалавек і нейкі сёмы бандыт (скот !) ішоў зверху. Неслі мяне сем чалавек, а ён зверху кулаком разбіваў мне нос, раскрывавіў нос. І занеслі ў машыну пятым чалавекам, ва Уазік укінулі ўперад нагамі.

Такім чынам, гэтыя людзі паводзілі сябе па бандыцку. Маскі ім патрэбны былі не толькі, каб схаваць твары, а каб проста не адчуваць ніякіх тармазоў.

Таму я хачу заявіць, што мы працягваем галадоўку і патрабуем, каб пракуратура Рэспублікі Беларусь узбудзіла крымінальную справу па гэтаму факту бандытызма, які адбыўся ў гэтай зале супраць дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Мы спадзяёмся, што генеральны пракурор выканае сваю місію і адновіць законнасць у гэтай краіне. Як сказаў доктар, які нас потым абследваў: "Дык што, калі дэпутатаў б'юць, дык што рабіць простаму чалавеку?". Мы засведчылі тыя пабоі, якія нанесены нам. Мы маглі б паказаць тое, што паказваў вам дэпутат Шут, але будзем спадзявацца, што ў вас, можа, хопіць хоць трошкі сумлення".

# Голубеў Валянцін

*Пра галадоўку Апазіцыі*

Я быў вылучаны ў дэпутаты ВС 12 склікання на сходзе жыхароў часткі мікрараёна Паўднёвы захад г. Мінска. Сход праходзіў у адной са школ, размешчанай недалёка каля дома, дзе я жыў. Усё адбылося даволі нечакана, я нічога не ведаў пра гэты сход, але да мяне ў кватэру зайшло некалькі жыхароў і сказалі, што людзі хочуць вылучыць мяне кандыдатам у дэпутаты. Людзей на сходзе было вельмі шмат, як і прэтэндэнтаў. Справа ў тым, што такія сходы арганізоўвала наменклатура, для падтрымкі сваіх вылучэнцаў. Але на гэтым сходзе атрымалася інакш. Хоць я быў апошнім з зарэгістраваных прэтэндэнтаў, можа 15-ты ці 17-ты, а галасы людзі аддавалі праз аддаванне бюлетэняў за прэтэндэнта па спісе, мне дасталася больш галасоў, чым усім астатнім разам. Памятаю, што я нічога не абяцаў, абяцаў толькі быць сумленным і гаварыць людзям праўду. У выніку я стаў адзіным вылучэнцам ад жыхароў Алібегаўскай акругі г. Мінска. У той час гэта ўжо была перамога простых людзей у змаганні з сістэмай і надалей выбаршчыкі ўвесь час актыўна падтрымлівалі мяне.

Да гэтага я добра ведаў пра нядаўна створаны Народны фронт, наведваў яго своеасаблівую "штаб-кватэру", якая месцілася тады ў Доме кіно - Чырвоным касцёле. Пазней быў адным са стваральнікаў Дэмакратычнай плыні (Дэпутацкага дэмакратычнага клуба) у ВС аснову якой склалі дэпутаты, якія ішлі на выбары ад Дэмакратычнага блока. Перад выбарамі была нават выпушчана лістоўка з пералікам прозвішчаў гэтых кандыдатаў. Менавіта яны адразу пасля выбараў выступілі ініцыятарамі стварэння больш шырокага аб'яднання дэмакратычна настроеных дэпутатаў. Мы сустрэліся з С. С. Шушкевічам, які быў тады прарэктарам БДУ і дэпутатам ВС СССР і ён даў нам магчымасць збірацца ў зале

паседжанняў Вучонага Савета БДУ, якраз насупраць будынка Вярхоўнага Савета. Менавіта там быў створаны Дэпутацкі Дэмакратычны Клуб, адным з каардынатараў якога быў я разам з Сяргеем Навумчыкам. На пачатак працы ВС клуб налічваў 100 чал. (спіс з тэлефонамі і адрасамі ў мяне захаваўся). Быў там і А. Лукашэнка.

Пазней мы з С. Антончыкам пайшлі да Старшыні Прэзідыума ВС БССР М. Дземянцея і дабіліся, каб нам дваім далі магчымасць удзельнічаць у падрыхтоўцы першай сесіі ВС, яе рэгламента, першых пастаноў. Цікава, але пасля перадачы ліста ад групы дэпутатаў з патрабаваннем, каб матэрыялы рыхтаваліся да сэсіі не толькі па руску, але і па беларуску, гэта было зроблена. Адзначу, што на сваёй апошняй сесіі папярэдні ВС БССР 11 склікання прыняў Закон аб мовах у БССР.

Апазіцыю Беларускага народнага фронту у Вярхоўным савеце узначальваў старшыня БНФ З. Пазняк. Я быў яго намеснікам у БНФ, старшыней Мінскай гарадской арганізацыі БНФ (якая была зарэгістравана раней за БНФ) і таму быў намеснікам і ў апазіцыіі. Займаўся я усім, што тады рабілася. З Лявонам Баршчэўскім рыхтаваў праект Закона аб рэферэндуме, падрыхтаваў, па-сутнасці першы праект Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, быў сааўтарам абсалютнай большасці заяў, праектаў і прапаноў апазіцыі.

Але так працавалі практычна ўсе сябры апазіцыіі. Дадому мы ішлі пасля 10-11 вечара. На плошчу, для сустрэч з людзьмі, якія прыходзілі кожны дзень мы адпраўлялі делегацыі, а астатнія працавалі ў ВС. Мы кожны вечар падводзілі вынікі дня працы ВС і рыхтавалі праекты прапаноў для тых, хто будзе выступаць у наступным. Заўважу, што гэта не адмаўляла асабістай дзейнасці дэпутата, кожны мог выступіць па любому пытанню, выносіць свае прапановы па любых іншых пытаннях, але супраць агулам прынятых рашэнняў, як правіла, ніхто не выступаў.

Пазней за нас у ВС сфарміравалася фракцыя сацыял-дэмакратычнай Грамады, разам з афармленнем самой партыі. Сябры Грамады па іншаму не маглі б засведчыць сваю прысутнасць ў ВС. Да таго ж, яны імкнуліся неяк адасобіцца ад БНФ, ад Пазняка, каб паказаць што яны "не такія". Пра гэта многія з іх адкрыта гаварылі. У мяне многа сяброў сярод сацыял-дэмакратаў, яны самі добрыя людзі, але гэта, напэўна, сутнасць іх арганізацыі - заўсёды спрабаваць вылучыцца, нават калі гэта было і не на карысць справе. Гэта і адкліканне напачатку аддадзеных подпісаў за Генадзя Карпенку і потым падтрымка Станіслава Шушкевіча, пастаянныя "асобыя", адрозныя ад астатніх дэмакратычных партый і арган-

зацый паводзіны Грамады часоў М. Статкевіча, як і самаго Міколы. Так было і зараз, калі эсдэкі ізноў не пайшлі разам, а "узялі" сабе за лідэра Аляксандра Казуліна. Праўда імненне аддзяліцца своеасабліва "стымулявалася" і З. Пазняком, які быў даволі аўтарытарным лідэрам і выступаў за тое, каб усе былі ў адной Апазіцыі БНФ, што разумелася астатнімі - заставацца пад яго кіраўніцтвам. Некаторыя гэтага проста не хацелі.

Г. Карпенка, А. Сасноў, А. Лукашэнка спрабавалі стварыць групы нешта накшталт "дэмакратычных камуністаў", але працаваць яны не змаглі. Бачу ў гэтым дзве прычыны: у іх не было ідэі, але ўсе хацелі нешта ўзначаліць.

Здаецца ў 1993 г. выканаўчая ўлада стварыла сваю фракцыю ў ВС пад назвай "Беларусь". Яе зборы адбываліся ў суседнім крыле Дома Ураду, у зале пасяджэнняў Савета Міністраў. Узначальваў групу Г. Казлоў, дапамагаў памочнік В. Кебіча дэпутат М. Скарынін. Уваходзілі туды ўсе дэпутаты, хто працаваў на дзяржаўных пасадах, ад старшыняў калгасаў да міністраў. Менавіта гэта група змагла сарваць рэферэндум аб датэрміновых выбарах ВС у 1993 г., зняць з пасады С. Шушкевіча, дабіцца ўвядзення ў праект Канстытуцыіі пасады прэзідэнта і пераканаць В. Кебіча, што ён пераможа і інш.

На пасяджэнне апазіцыі БНФ - менавіта так яна называлася, а не фракцыя, мог прыйсці любы дэпутат. І многія прыходзілі, але не ўсе заставаліся. Некаторыя баяліся страціць працу, гаварыць па-беларуску, асабіста Пазняка, і г.д. Пасяджэнні былі практычна штодзённа, а то і па некалькі разоў. Калі мы пачалі распрацоўваць альтэрнатыўныя законапраекты, многія людзі самі нам прапанавалі дапамогу. Так, закон аб мясцовым самакіраванні дапамагаў пісаць А. Станкевіч, аб выбарах - В. Чуйко, У. Анцулевіч, М. Саталіна (дарэчы ўсе кандыдаты навук), член-кар. І. Нікітчанка, акадэмік Р. Гарэцкі і вельмі многія навукоўцы. У просьбе ад дапамозе практычна ніхто не адмаўляў. Таму і праекты законаў нашыя былі больш "народныя" і актыўна падтрымліваліся вуліцай. Пра ўсіх сяброў апазіцыі магу сказаць толькі добрае, гэта была дружная каманда, якая імкнулася як мага больш зрабіць для нацыі, пабудаваць незалежную дэмакратычную Беларусь. Часта ўспамінаю Ігара Герменчука, якога ўжо няма з намі. Яго газета "Свабода" многа зрабіла для Беларусі, а сам ён быў і працавіты, і і моцны і гераічны. Менавіта ён пачаў зрываць маскі са спецназа, калі яны напалі на яго з Пазняком пры штурме ВС пад час галадоўкі 1995 г. Вельмі актыўныя былі Л. Баршчэўскі, С, Навумчык, У. Заблоцкі, Ю. Беленькі, П. Садоўскі і інш. Дарэчы, дэпутаты апазіцыі балі

добрымі спецыялістамі, аратарамі, многія з вучонымі ступенямі і званнямі і тым выразна вылучаліся ў лепшы бок ад іншай масы.

Вылучалася апазіцыя тым, што яна была адзінай адкрыта антыкамуністычнай і нацыянальна арыентаванай сілай.

Абсалютная большасць ВС былі нармальныя людзі, хоць і працавалі ў той сістэме. Не адбыліся б падзеі лета 1994 г., то абсалютная большасць працавала б на беларускую дэмакратыю, як зараз многія працуюць на аўтарытарны рэжым. Можа гэта сутнасць беларусаў? Былі адзінкі "зацятых" камуністаў з ліку пенсіянераў, якія ці не разумелі, што адбываецца, ці баяліся, што прыйдзецца за нешта адказваць. Але і сярод дэпутатаў-ветэранаў былі людзі пра якіх і зараз з прыемнасцю ўспамінаю: дэпутат М. Тоўсцік, з якім я працаваў у Канстытуцыйнай камісіі, дэпутат Шабашоў, з якім мы ездзілі ў Вільнюс пад час захопа савецкімі войскамі тэлевізійнай вежы і інш. Увогуле сярод дэпутатаў ВС 12 склікання было многа неардынарных асобаў як сярод большасці, так і ў апазіцыіі. Цяпер гэтага няма. Ці не відаць?

Я нармальна стаўлюся да іх усіх як да людзей. Калі б В. Кебіч не захацеў стаць прэзідэнтам, то Беларусь была б дэмакратычнай, а ён - прэм'ерам. Менавіта пры ім краіна выйшла з крызісу, былі ўведзены ўласныя грошы, стабілізаваліся цэны. Паколькі наступіла пэўная стабільнасць, то ён і вырашыў пайсці на выбары. Але тады імя Кебіча звязвалі не з дасягненнямі, а з папярэднім застоем і крызісам. Упэўнены, што ён бы не разагнаў ВС і парламент выконваў бы пры ім функцыі апазіцыіі да дзеянняў выканаўчай улады.

Мечыслаў Грыб - беларус, патрыёт, разумны спецыяліст, больш радыкальна, чым С. Шушкевіч пачаў надаваць моцы парламенту, праводзіць справу беларусізацыі. Па меншай меры ён не баяўся падтрымліваць гэтага. Лічу, што старшыня ВС М. Грыб не меў права пайці спаць пад час галадоўкі і не прыехаць у ВС, калі там ужо шукалі "міну", а потым збівалі дэпутатаў. Але што было гэтай ноччу, ён напэўна нам не раскажа. Дрэнна, што пасля пабоішча ён быў на наступны дзень сярод тых, хто піў у Вярхоўным Савеце прастаўленую Лукашэнкам гарэлку за ягоную перамогу над ВС у асобе апазіцыі і фатаграфаваўся "на памяць". Але М. Грыб зрабіў усё, каб ВС працаваў у якасці заканадаўчага органа да выбараў ВС 13 склікання.

Міхал Чыгір - сумленны чалавек, які разам з А. Саннікавым і А. Сасновым падаў у адстаўку перад рэферэндумам 1996 г., убачыўшы з самага верху парушэнні. Не ведаю, як ён папаў у "каманду" прэзідэнта, але выйшаў адтуль па-чалавечы. З задавальненнем заўсёды пацісну яму руку.

Па-праўдзе, не хачу даваць ацэнку чыімсці паводзінам. Кожны выбірае для сябе і потым адказвае перад сумленнем і Богам. Мне больш зразумела, чаму А. Саннікаў, В. Ганчар, Л. Сініцын, А. Фядута не змаглі працаваць у той сістэме. Хаця, думаю, В. Кузняцоў у некаторай ступені "лішняя" фігура ў гэтым пераліку. Гэта быў нармальны чыноўнік былой сістэмы, які і застаўся працаваць у сістэме. Астатнія проста апынуліся ў стане "пераможцаў" і скарысталіся гэтай сітуацыяй.

"Плошча" вельмі многа нам дапамагала, дэпутацкая большасць ВС таксама арыентавалася на тое, што гавораць на вуліцы. Дарэчы, людзі па-большасці збіраліся самі, а не па закліку. Усе ведалі, што робіцца ў ВС - ішла прамая трансляцыя. Вялікая падтрымка апазіцыі была ў жніўні і верасні 1991 г. Тады сапраўды, без людской падтрымкі дэпутаты маглі не прыняць прапанаваныя намі законы аб наданні Дэкларацыі аб суверэнітэце статуса канстытуцыйнага закона, аб дэпартызацыі і прыпыненні дзейнасці КПБ, аб змене назвы дзяржавы, аб сцягу і гербе. Дарэчы, многія з гэтых пастаноў мы рыхтавалі за ноч, а раніцай іх ВС прымаў. Ганаруся, што маю да іх падрыхтоўкі дэпутацкага самае непасрэднае дачыненне.

Помню, што практычна ніхто з дэпутатаў не падтрымліваў ідэю А. Лукашэнкі аб рэферэндуме, якую ён агучыў на сесіі ВС 21 сакавіка 1995 г. Менавіта таму, як толькі мы селі потым галадаць у знак пратэсту, то пытанне было знята з абмеркавання. Каб не збілі нас, не было б ніякага рэферэндума. На рэферэндуме для А. Лукашэнкі былі галоўныя пытанні не аб мове і інтэграцыі з Расіяй, хоць менавіта яны "раскручваліся" прэзідэнтам і сродкамі масавай інфармацыі. Галоўнае - змяніць дзяржаўную сімволіку (як так, па сутнасці пад дзяржаўным сцягам апазіцыя выступала супраць прэзідэнта) і дабіцца права роспуска Вярхоўнага Савета. Думаю, вялікая колькасць дэпутатаў гэта разумела.

Калі нам стала зразумела, што назаўтра ВС хутчэй за усё прыме прапанову прэзідэнта аб прызначэнні рэферэндума, то ў пакоі 363 (былы пакой Народнага Кантроля БССР, які потым стаў штабпакоем апазіцыі) ВС сабраліся ўсе дэпутаты ад апазіцыі і тыя, хто нас падтрымліваў. Было там можа чалавек 20 як мінімум ці болей. Гэта было 10 красавіка 1995 г. каля 18 гадзін. Абмяркоўвалі сітуацыю прыблізна да паловы восьмага вечара: шукалі сродкі і спосабы для таго, каб не толькі прыцягнуць увагу грамадскасці, але і спыніць прыняцце ВС рашэння аб прызначэнні рэферэндума.

Прапановы гучалі самыя розныя пра тое, што рабіць. Гаварылі З. Пазняк, С. Антончык, - практычна ўсе. Дакладна памятаю, што

толькі адзін чалавек выказаў прапанову правесці галадоўку. Гэта быў дэпутат з Гродна Мікола Маркевіч. Аднак яго прапанову неяк адразу адмялі і яе болей не абмяркоўвалі. Яе успрынялі за несур'ёзную рэч і яна знікла. Гучалі прапановы пакінуць сесію ВС і сысці, каб прэзідэнцкі варыянт прымалі без нас. Гаварылі пра тое, каб прыняць чарговую заяву, выступіць у друку супраць ВС і Лукашэнкі, звярнуцца да беларускага народу з нейкім прызывам. Ідэю галадоўкі прысутныя не ўспрынялі пазітыўна, бо, як я думаю, тады час галадовак мінуў. І да гэтага былі галадоўкі рознага тыпу на плошчы, а галадоўшчыкамі часта былі проста людзі неўраўнаважаныя. Але хацелася зрабіць так, каб нашыя дзеянні былі зразумелыя грамадствам, а не ўспрымаліся як акт адчаю. Таму мы прыкідвалі варыянты таго, што рабіць заўтра. Мы вырашылі зараней прыйсці ў Вярхоўны савет і яшчэ параіцца перад сесіяй з надзеі, што за ноч нешта прыдумаецца або з'явіцца які-небудзь эфектыўны крок.

Я паехаў дахаты, а недзе каля гадзіны ночы мне ў дзверы пазванілі З. Пазняк з С. Антончыкам. Яны з парога сказалі - "Валянцін, ёсць размова". З. Пазняк прапанаваў на наступны дзень адразу з раніцы пры адкрыцці сесіі ВС зрабіць заяву аб галадоўцы сяброў фракцыі БНФ у знак пратэста супраць прызначэння антыканстытуцыйнага рэферэндуму. І мы утраіх, седзячы у мяне на кухні недзе гадзін да трох начы, накідалі для Пазняка тэкст выступлення з такой заявай.

Гэтая заява мала чым адрознівалася ад заяў, з якімі мы раней адкрыта выступалі супраць большасьці ў ВС, асабліва пасля восені 1993 г., калі ВС забараніў рэферэндум аб даверы ВС і правядзенні датэрміновых выбараў. Тады якраз пад такі рэферэндум была сабрана неабходная колькасць подпісаў выбаршчыкаў - 442 тысячы. Тады ВС у адпаведнасці з законам проста абавязаны быў прызначыць дату рэферэндума, але гэтага не зрабіў. Такім чынам, з аднаго боку ВС меў "вопыт" непрызначэння даты (а адсюль і самога) рэферэндума, а з другога - паказаў Лукашэнку, як можна незаконным спосабам узурпаваць уладу.

Але зараз у заяве апазіцыі гучалі словы аб тым, што мы вычарпалі ўсе магчымасці і таму аб'яўляем галадоўку у якасці крайняга сродку уздзеяння на дэпутатаў. Мы хацелі такім чынам паўплываць не на грамадства, а менавіта на сам ВС і яго дэпутатаў, зрабіць большасць дэпутатаў калі не сваімі прыхільнікамі, то прымусіць іх задумацца і пра лёс краіны і пра свой уласны лёс. Таму мы абвясцілі галадоўку не на вуліцы, не ў сваіх кабінетах, не ў сядзібе БНФ, а вось тут, у цэнтры залы ВС, прама на яго пасяд-

жэнні. Мы сапраўды не імкнуліся гэтай акцыяй здабыць падтрымку грамадства, як за гэта потым нас крытыкавалі і гаварылі, што мы маглі выйсці са сваёй партыяй і арганізаваць значна большую галадоўку на плошчы, - галоўным было не даць ВС прызначыць рэферэндум, хаця б адцягнуць час. У тых умовах любая затрымка ў часе давала прэзідэнту казыры ў прызначэнні рэферэндума. Гэта разумеў і ён і мы. "Вуліца" магла толькі пратэставаць супраць рашэння, прынятага ВС. Разумней і практычней было не дапусціць прыняцця такога рашэння, а потым растлумачыць грамадству. Дарэчы, калі б не збіццё дэпутатаў апазіцыі, то назаўтра на плошчы былі б дзесяткі ў сотні галадаючых у нашу падтрымку. Думаю і пра гэта ведалі спецслужбы, таму што раніцай плоўча Незалежнасці была ацэплена спецназам, а паыходзячых людзей пры да памозе так званыных "каробача" проста выводзілі за яе межы.

Пра галадоўку, такім чынам, напачатку ведалі толькі трое. Дарэчы, яшчэ ўвечары, калі не было прынята ніякага канкрэтнага рашэння, апазіцыя дэлегавала мне з З. Пазняком права ў складаным становішчы і ў крытычны момант выпрацаваць такое рашэнне, ці прыняць такія дзеянні, якія б не супярэчылі агульнай устаноўцы фракцыі. Мы разумелі, што пакой, у якім збіраецца апазіцыя, праслухоўваецца. А пытанне стаяла рубам, бо Грыб папярэдзіў, што пытанне аб прызначэнні даты рэферэндума будзе пастаўлена на галасаванне з раніцы 11 красавіка. У нас была адна задача, заставалася адзіная магчымасць змагацца - праз тое, каб сарваць такое галасаванне. І сапраўды, як толькі потым было абвешчана аб галадоўцы, М. Грыб адразу абвясціў - маўляў, давайце абмяркоўваць іншыя пытанні павесткі дня, а не дату рэферэндуму.

Шкада, але З. Пазняк, як стойкі антыкамуніст і нацыяналіст, нават у тактычных мэтах не мог адступіць і прапанаваць ВС кампраміс, аб'яднанне для дасягнення пэўнай мэты - давайце падумаем, давайце аб'яднаемся, зробім тое, што нам усім будзе найбольш карысным і г.д. Ён не адзін быў поўнасцю перакананы і па сённяшні дзень у тым, што большасць народа за сценамі парламента нас падтрымлівала і любыя абвінавачванні ў адрас ВС з нашага боку выглядалі як ачышчэнне нас саміх, апазіцыі. Разумелася так, што вось народ прачытае нашу заяву, заяву апазіцыі, і яна атрымае чарговыя балы на сваю карысць. На жаль, усё было не так проста і вельмі вялікая колькасць людзей, што прагаласавалі на прэзідэнцкіх выбарах за А. Лукашэнку гатовы былі падтрымліваць любыя яго дзеянні, бараніць яго ад усіх.

Па дамоўленасці, я з С. Антончыкам павінны былі паведаміць пра прынятае рашэнне аб галадоўцы сябрам фракцыі да пачатку пасяджэння. Мы прыйшлі вельмі рана ў будынак ВС з задачай сустрэць усіх сяброў і папярэдзіць іх, пагаварыць з імі і, калі яны не згодныя з тэкстам заявы, то ніхто не будзе іх няволіць з удзелам у галадоўцы. Мы толькі прасілі іх - калі ласка, толькі не выступайце з удакладненнямі, з прапановамі паляпшэння рэзалюцыі, бо ў апазіцыі часта бывала, што удакладненнямі добрую справу зацягвалі ў балота абмеркаванняў і узгадненняў. Але на гэты раз ніхто не выступіў супраць. Усе, хто разумеў важнасць моманту, хто не пабаяўся такой акцыі, той адразу выйшаў і сеў у цэнтр залы ВС.

І вось З. Пазняк перад самым адкрыццём сесіі, стаў каля першага мікрафона і папрасіў слова для заявы. Ён трымаў дапрацаваны ім тэкст, які пазней ні з кім не абмяркоўваўся і не ўзгадняўся. Мы, некалькі чалавек, таксама стаялі каля мікрафонаў і былі гатовы паўтарыць просьбу аб выступленні, калі б яму не далі слова. Але З. Пазняк зрабіў заяву, пайшоў і сеў каля трыбуны. Да яго далучыліся астатнія.

Першым пытаннем сесіі ВС стаяла пытанне ад прызначэнні даты рэферэндума, прапанаванага прэзідэнтам. Сярод іншых пытанняў быў лёс "Народнай газеты" і звальненне яе рэдактара Іосіфа Сярэдзіча. Ён пазней падыходзіў да нас і прасіў, каб мы спынілі часова сваю акцыю, маўляў, давайце спачатку з вашым удзелам прагаласуем за газету, а потым вы працягніце галадаваць. Ён хацеў зрабіць сваю справу не разумеючы, што галадоўку нельга так проста пачаць і спыніць, або гуляць у яе.

Усе, хто быў з членаў апазіцыі тады на пасяджэнні, адразу пайшлі да трыбуны і селі разам з Пазняком. Можа нехта і спазніўся, але хто не выйшаў адразу у цэнтр залы, той потым зусім не удзельнічаў. Лявон Баршчэўскі быў хворы, дрэнна сябе адчуваў, але ён таксама выйшаў і сеў разам з усімі.

Па рэакцыі дэпутацкай залы было відаць, што наш учынак ашаламіў прысутных. Гэта адчувалася нават па паветры - яно не калыхалася, як гэта бывае пры звычайных дэбатах, калі адны гутараць, другія ходзяць, трэція шамацяць паперамі, нехта выступае і т.д. Калі прагучала заява З. Пазняка, то усе проста замаўчалі, было здзервянелае маўчанне. Такая рэакцыя ВС была на маёй памяці ўсяго два разы - адзін раз, калі чакалася выступленне Лукашэнкі з антыкарупцыйным дакладам і калі кожны дэпутат таксама анямеў у чаканні пачуць нешта, крый божа, пра сябе. Выступ Пазняка быў поўнай нечаканасцю для іх. Калі б ён сказаў ім, што нам трэба разам клапаціцца пра краіну, то можа хто яшчэ да

нас выйшаў. Тым не менш, адразу стала зразумела, што дэпутаты пытанне пра рэферэндум не прымуць. Але пагроза галасавання за рэферэндум захоўвалася на працягу усяго пасяджэння.

Усё выглядала у той момант неяк ірэальна. Выступалі дакладчыкі, а ў цэнтры залы сядзела вакол трыбуны на прыступках група і займалася нейкай сваёй справай. Старшыня ВС М. Грыб, як мне здаецца, унутры быў супраць рэферэндума. Але ён знаходзіўся ў дваістай сітуацыі і адпаведна сябе паводзіў. Я думаю, што ён выкарыстоўваў любыя магчымасці, каб гэты рэферэндум не прызначыць. З другога боку, ён займаў пасаду, якая давала яму пэўныя матэрыяльныя і іншыя перавагі. Ён разумеў, здаецца, што калі ён адкрыта выступіць супраць Лукашэнкі, то гэтыя перавагі страціць. Калі б М. Грыб быў цалкам за нас, то ён бы ноччу, ведаючы, што ў зале сядзяць дэпутаты і там вядзецца пошук бомбы, што існуе пагроза будынку і жыццям яго калег, прадстаўнікоў народа і заканадаўцаў, ён у такой сітуацыі проста быў павінны прыехаць на месца падзей. Але ён не зрабіў гэтага таму, што, як я думаю, яму парэкамендавалі туды не прыязджаць. Я ведаю, што па сваёй натуры ён туды прыехаў бы і зрабіў гэта проста па чалавечы.

Як я памятаю, у гэты дзень пытанне пра рэферэндум ВС увогуле больш не падымаў. ВС адмовіўся, як мне здаецца, яго абмяркоўваць. Затым у сесіі былі звычайныя перапынкі. У 12 гадзін і паміж 14 і 16 гадзінамі на абед, мы сядзелі адны ў зале, амаль ніхто з дэпутатаў да нас не падыходзіў. Усе чакалі, што ж будзе. Закончылася сесія недзе ў 16 гадзін вечара, здаецца раней, чым у іншыя дні. Тады у залі былі карэспандэнты, якія натуральна ведалі, што пачалася галадоўка. Інфармацыя адразу пайшла і ў Расію. У будынку ВС працавала група польскіх журналістаў. Дарэчы, яны адзіныя стаялі потым на плошчы Незалежнасці да самага канца, бачылі, як нас выводзілі і гэта здымалі. Побач з імі не было ніводнага беларускага журналіста. З нашых журналістаў з намі пасля 18 гадзін знаходзілася Алена Радкевіч, карэспандэнтка "Беларускай маладзёжнай" і радыё "Свабода". Яна была з намі некалькі гадзін, брала інтэрв'ю, здаецца, у Пазняка. Я не памятаю, як Радкевіч трапіла у залу, але упэўнены, што яе прапусцілі радавыя міліцыянты з аховы. Гэта былі людзі, якія слухалі ўсе выступленні дэпутатаў, ужывую бачылі, што такое большасць і што такое апазіцыя. У большасці яны былі нармальныя і сумленныя людзі. Нехта з міліцэйскіх начальнікаў потым спрасіў яе - "Вы дэпутат"? Яна адказала, што не, што яна журналіст і паказала пасведчанне. Яе папрасілі пакінуць памяшканне.

Памятаю, як у адным перапынку мяне паклікалі наверх на сустрэчу з намеснікам старшыні управы БНФ Віктарам Антонавічам Івашкевічам. Ён паведаміў мне, што Управа раілася з юрыстамі і медыкамі, якія сказалі па якіх правілах і стандартах праводзяцца галадоўкі. Ён перадаў, што праводзіцца збор грошай на тое, каб закупіць спальныя мяшкі для нас і што нам прывязуць мінеральную ваду. Я памятаю, што М. Грыб даў распараджэнне сакратарыяту і той даў нам некалькі бутэлек мінеральнай вады. У дзень, яшчэ пад час паседжання, З. Пазняк прасіў М. Грыба забяспечыць нас медыцынскай дапамогай, каб за намі вёўся нагляд з тым, каб было відаць, што мы сапраўды галадаем.

Не памятаю калі, але да мяне звярнуліся некалькі супрацоўнікаў сакратарыята ВС і паведамілі пра тэлефонны раз'ём пад адным з крэслаў, дзе сядзелі прадстаўнікі Сакратарыята і Камісіі па кантролю за электроннай сістэмай галасавання. Яны прынеслі мне тэлефон і я мог звязвацца са знешнім светам. Потым, акрамя мяне, ім карыстаўся і Пазняк, які даваў па ім інтэрв'ю. Я па гэтым тэлефоне перадаваў у Варшаву на польскае радыё, польскім журналістам у Мінску інфармацыю пра тое, што адбываецца у ВС да самага апошняга моманту. І толькі калі ўжо калі ў залу убеглі людзі у чорным, я паспеў крыкнуць у тэлефон - "усё, яны бягуць, я потым дазваню". У польскі эфір, такім чынам, ішла прамая трансляцыя аб падзеі тады, калі нашы журналісты спалі. Пра гэтую тэлефонную разетку ведалі многія, але Пазняк не дазваляў ёю карыстацца абы каму. Усе разумелі, што гэты тэлефон патрэбны на надвычайны выпадак.

У залі ВС мы не сядзелі нейкім статкам ці маналітам. Мы разбіліся на групы. Атрыманых для начлегу спальных мяшкоў хапала на усіх. Бывалі выпадкі, калі я не спаў некалькі дзён, але на гэты раз было трывожна. У напрузе палітычнай галадоўкі пастаянна біў нервовы мандраж, бо мы не ведалі, чым усё скончыцца.

Не памятаю калі, але да нас зайшлі і сказалі, што будуць шукаць міну, бо будынак замініраваны. Мы адказалі - хай узрываецца разам з намі. Потым прыйшоў начальнік аховы Міхаіл Цесавец з людзьмі у цывільным, добрага выгляду, холенымі, добра выгаленымі, з разумнымі, хоць і спецыфічнымі на выгляд службовымі тварамі. Такія бываюць толькі ў супрацоўнікаў вядомых спецыяльных служб. Я думаю, што гэта была група афіцэраў КДБ, чалавек не меней 20. Цесавец пачаў нам гаварыць пра бомбу, патрабаваў пакінуць залу. Мы гаварылі, што мы дэпутаты, галадаем у будынку парламента, і калі вам трэба, то шукайце сваю міну, яна

нам не патрэбная. Працуйце па сваёй схеме, а мы будзем працаваць па сваёй, мы вам замінаць не будзем. Цесавец некага з нас штурхаў, загадаў гэтым людзям хапаць нас і выводзіць. Але добра памятаю, як нехта з гэтай групы яму адказаў пры нас - "а пайшоў ты, сам знаеш куды. Табе трэба, ты і выводзі сам". Гэтыя людзі не напалі на нас, яны, як сапраўдныя афіцэры і грамадзяне, адмовіліся парушаць закон. Але заходзілі яны з накручаным выглядам, відаць было, што іх нацкоўвалі на нас. Але як толькі мы растлумачылі, хто мы, што мы робім, чаму праводзім галадоўку, пасля таго, як мы папярэдзілі іх, што калі толькі яны прыменяць супраць нас сілу, то гэта будзе парушэнне статуса дэпутацкай недатыкальнасці, закона аб парламенце, Канстытуцыі і г.д., тады у іх спрацаваў розум і, думаю, сумленне". У КДБ добра ведалі дэпутата А, Лукашэнку і як ён прыйшоў да ўлады. Гэтыя афіцэры павярнуліся і выйшлі.

Потым быў пошук міны, дзеля чаго заходзіў афіцэр у савецкай форме, у званні ні то палкоўніка, ні то падпалкоўніка, з салдатамі і сабакамі. Ён паводзіў сябе прыстойна, культурна. Відаць было, што ён выдатна ўсё разумеў, як і тое, што ніякай міны няма. Ён паведаміў нам, што прыбыў з заданнем правесці пошук міны у будынку ВС і пры выяўленні яе прыняць адпаведныя меры. Мы адказалі з жартам - "калі ласка, толькі бомбу не падлажыце самі". Салдаты зрабілі справу хутка. Яны ішлі па радах дэпутацкіх крэсел і прасілі нас вызваліць рад такі-та або сектар такі-та. Мы садзіліся туды, дзе прайшла праверка. Потым ён сказаў, што міны няма і пайшоў дакладваць. Калі не памыляюся, М. Грыбу З. Пазняк званіў на дачу і паведамляў пра пошук міны. Грыб гаварыў аб нечым з Пазняком, а потым там, у М. Грыба, перасталі падымаць трубку, напэўна старшыня ВС лёг адпачываць. Гэта было незадоўга перад самым уварваннем у залу ВС вайскоўцаў. Пасля гэтага да нас заходзілі нейкія групы разы два ці тры, прасілі ачысціць залу. Здаецца гэта рабіў Цесавец ці нехта з Сакратарыяту.

Пасля таго, як выйшлі сапёры, мы пачалі укладвацца спаць ці ў спальныя мяшкі, або там, дзе было зручна. І вось тут ціха-ціха, паволі-паволі пачала падаць напруга у вялікай люстры. Мы сталі гаварыць усё цішэй, я нават пачуў нечае пасапванне. На балконе, дзе звычайна сядзяць тэхнікі, фатографы, рэжысёры гука, работнікі сувязі, я убачыў нечыя цені. Мы дамовіліся аб тым, што нехта будзе дзяжурыць у прэзідыуме, каля настольнай лямпы. Першым там сеў, здаецца, Лявон Дзейка. Мы былі упэўнены, што знаходзімся пад аховай міліцыі і гэтага дастаткова.

Было трывожна. Побач спаў С. Навумчык, а я прыслухоўваўся. Тут у нейкі момант я нават фізічна пачуў як закалыхалася паветра, што бывае, калі недзе побач у памяшканні ідзе вялікая маса людзей. Гэта адчуванне вядома кожнаму, хто служыў у войску. А потым я пачоў гук удара аб дула аўтамата АКМ ці карабіна - дзынь. Гэты "дзынь", як і многія вайскоўцы, я не магу пераблытаць ні з якім гукам. Стала страшнавата. Я падняўся і направіўся да цэнтральных дзвярэй залы. Як толькі я адкрыў дзверы, то звонку мне нібы памаглі. Дзверы расчыніліся і ў ярка залітым святлом файе я убачыў густую масу ваенных. Адразу кінулася ў вочы тое, што яны стаялі, нібы касманаўты, у пластмасавых масках ці шлемах. Іх было можа некалькі соцен. Яны стаялі групамі і размаўлялі. Некалькі чалавек былі з ранцамі і ў супрацьгазавых масках. У гэты момант той салдат, які дапамог мне адчыняць дзверы, ткнуў у мяне ручным кулямётам. Я машынальна крыкнуў перапужаны - "Куляметчыкі!" - і адпрануў ад дзвярэй. У гэты момант ззаду за мной у залі загарэліся ўсе лямпы і я убачыў на балконе трох аператараў, якія вялі здымкі на відэакамеру. Яны стаялі наводдаль адзін ад аднаго і вялі панарамную здымку залы зверху з трох розных пазіцый: з левага, правага боку балкона і па яго цэнтры.

Алег Трусаў падняўся і пайшоў праверыць, ці праўду я сказаў. Ён паглядзеў у дзвярную шчыліну, вярнуўся і сказаў, што "Праўда, там кулямётчыкі". Мы усе ўскочылі і пачалі апранацца. Я адразу пазваніў польскім журналістам і тут у залу зайшоў Цесавец і прапанаваў ўсім яе пакінуць. Мы адмовіліся і селі на крэслы прэзідыума. Праз некалькі секунд расхінуліся ўсе дзверы і ў залу уляцелі людзі ў чоным трыко і масках. Яны ляцелі і круціліся з крыкамі. За імі па перыметру залі выстраіліся аўтаматчыкі, потым спецназ. Яны нас проста хапалі, білі і прымусам выцягвалі з залы, а потым развозілі на машынах і выкідвалі ў начным горадзе на розных месцах.

На наступны дзень апазіцыю ў ВС было пускаць збаронена. Увогуле ўваход з правага крыла быў зачынены. Мы зайшлі з боку Савета міністраў, але там таксама не пускалі. Больш за тое, там была ўстаноўлена рамка для праверкі як у аэрапорце. Нас не пускалі, але мы, напружыўшыся, звалілі яе і прарваліся на сэсію. Там ужо выступаў Лукашэнка. Памятаю, што я амаль што ганяў па залі М. Цесаўца, бо было за што, бо ўжо не вытрымалі нервы. Супрацоўнікі аховы толькі бегалі і прасілі: "Не ў зале паседжанняў, Валянцін Федаравіч, толькі не ў зале пасяджэнняў". Але і без гэтага ўсе выдатна разумелі, што насамрэч адбылося ноччу. Памя-

таю, што я выступаў, назваў арганізатара гэтых дзеянняў "фашыстам" (ішла прамая трансляцыя), а ён паабяцаў, што пакажа плёнку, як гэтае збіццё адбывалася. Схлусіў і пабаяўся. Пабоі дэманстраваў Аляксандр Шут у цэнтры зала, а Дземянцей крыкнуў "Мала далі!". Зараз ён сенатар.

Хутка прэзідэнт патрабаваў ВС выселіцца ў правае крыло Дома урада , а каб прынізіць ВС, доўга, некалькі месяцаў, не плаціў дэпутатам заробку, спадзяючыся тым самым яшчэ зламіць іх. Значна пазней, грошы вярнулі праз суд, бо усе мы падавалі іскі ў суд.

На выбары 14 і 30 мая 1995 г. я ішоў з адкрыта антылукашэнкаўскпай праграмай і набраў у 1 туры 47, 9 %. Падтрымка людзей была вялікая, як і разуменне. Але, як мне потым сказалі, я быў у спісе тых, хто ні ў якім разе не павінен быць дэпутатам ВС 13 склікання. У другім туры я перамог, але выбары прызналі неадбыўшыміся - не хапіла 7 чалавек да 50 %, якія прынялі ўдзел у галасаванні. Тады Лукашэнка заклікаў не ісці на выбары - усё роўна падмануць! Са скрынкамі дадому нават пасля пісьмовых заяў камісіі не хадзілі, ім гэта забаранілі. А ў маёй акрузе, каб паменшыць яўку, у спіс выбаршчыкаў уключылі тых, хто быў выключаны перад першым турам галасавання - з'ехаўшых, хворых і вельмі вялікую колькасць людзей, якія за 5 гадоў пасля мінулых выбараў памёрлі! У Цэнтрвыбаркам на наступны дзень, адзіны дзень, калі можна было падаваць скаргу, мяне проста не пусціў спецназ. Потым я атрымаў адказ з пракуратуры, што на 2-гі тур людзі, якія хацелі, каб іх выключылі са спісаў, павінны былі напісаць заяву у адпаведную выбарчую камісію. У тым ліку і памёршыя! Цікава, што для першага тура гэтага рабіць не было неабходнасці. Вось так я не стаў другі раз дэпутатам. Думаю, што нешта падобнае праводзілася і супраць іншых сяброў БНФ.

Агітацыя Азаронкаў працуе на пэўную, малаадукаваную частку электарату. На жаль, у людзей вялікі давер да надрукаванага і паказанага па тэлевізіі. Нашыя людзі самі па сваёй натуры вельмі сумленныя і часта не могуць нават паверыць, што на такім узроўні і так цынічна можна хлусіць.

# Грыб Мечаслаў

*Супрацьстаянне*

У Вярхоўны савет 12 склікання я трапіў ад Кастрычніцкай акругі з пасады начальніка ўпраўлення УС Віцебскага аблвыканкама. Балатаваўся я тады, на выбарах 1990 г., на альтэрнатыўнай аснове сярод 13 прэтэндэнтаў.

ВС працаваў не на прафесійнай аснове, а дакладней 80 дэпутатаў з усіх 345 чал. працавалі у ім вызваленымі ці на пастаяннай аснове, а астатнія спалучалі свае дэпутацкія абавязкі з сумяшчэннем работы у гаспадарцы, органах кіравання і г.д. Кожны дэпутат уваходзіў у склад адной з пастаянных камісій Вярхоўнага Савета. Усе старшыні камісій з'яўляліся членамі прэзідыума. Звычайна ў выхадныя дні дэпутаты выязджалі у свае акругі, а ў аўторак збіраліся на пленарныя пасяджэнні, дзе зацвярджалі павестку разгляду пытанняў на працягу цякучай сесіі. Парадак пытанняў павесткі прапаноўваўся прэзідыумам Вярхоўнага Савета. Кожны дэпутат мог выступіць і адхіліць вынесеныя на абмеркаванне пытанні, ці ўнесці свае прапановы, а ВС мог прагаласаваць і падтрымаць яго. Усё вырашала пленарная сесія, дэмакратычна і шляхам галасавання.

Дэпутаты ВС умоўна былі аб'яднаны па абласцях і г. Мінску, адтуль, адкуль яны выбіраліся, так што на чале кожнай дэпутацкай групоўкі стаяў старшыня абласнога Савета і Мінгарсавета, акрамя Брэсцкага аблсавета, бо старшыня Брэсцкага аблсавета не быў дэпутатам. З'яўленне у ВС пэўных дэпутацкіх фракцый і груп ніякім чынам не парушала гэтага прынятага парадку. Для кожнага створанага дэпутацкага аб'яднання прадастаўляліся больш менш неабходныя умовы для працы. У прадастаўленні пакояў для паседжанняў праблем не існавала, для гэтага дастаткова было звярнуцца да старшыні ВС ці начальніка сакратарыята

Анціпенка. Ён нікому у гэтым пытанні не адмаўляў, тым больш, што памяшканняў хапала.

Хаця неафіцыйна дэпутаты падзяляліся па тэратарыяльнаму прызнаку, аднак сярод іх існавалі фракцыі тыпу маладзёвай, камуністычнай, БНФ і з назвай "Беларусь". Такіх фракцый у ВС было 5 ці 6. Многія вялі свае справы хаатычна, дрэнна, так што яны мелі малое значэнне ў жыцці ВС і я не надаваў ім увагі. Фактычна у нейкім сэнсе пагоду у ВС рабілі дзве фракцыі-Беларусь і БНФ, якія стаялі на процілеглых ідэалагічных пазіцыях. Першая групоўка арыенціравалася на Усход, а другая -на Захад.

Фракцыя "Беларусь" па колькасці удзельнікаў дасягала прыкладна амаль паловы складу ВС і мела каля 140 чал. Яна была праўрадавым аб'яднаннем, хаця яе сябры афіцыйна гэтага ні перад кім не афішыравалі і ніхто з іх пра гэта адкрыта не гаварыў. Узначальваў гэту фракцыю Генадзь Іванавіч Казлоў, які тады працаваў намеснікам у Данілава, сакратара бяспекі. Натуральна, што пагэтаму інфармацыя замыкалася на ім і сувязь ішла туды.

Фракцыя БНФ ,нягледзячы на сваю малалікасць, а сяброў у яе ўваходзіла можа чалавек 27, найбольш актыўна працавала у ВС. Яны з задавальненнем уносілі свае прапановы. Увогуле ВС 12 склікання прыняў ці не паутары тысячы усіх законапраектаў. Сябры фракцыі БНФ асабліва шчыльна працавалі над законам аб адукацыі, інвестыцыях, зямлі. Дарэчы, закон аб зямлі быў нармальным законам, але ён быў прыняты часткова. Справа у тым, што прыкладна 80 % складу ВС было з камуністаў і для іх слова пра прыватную уласнасць было не прымальным. У свядомасці большасці дэпутатаў тады проста у галаве не умяшчалася як гэта дазволіць уласнасць на зямлю. Тады я якраз быў старшынёй профільнай камісіі і мы рашылі правесці гэты закон часткова у тым сэнсе, што дазвалялася мець ва уласнасці прысядзібныя участкі ці дачы у горадзе, а на вёсцы-да 1 га зямлі. Гэта норма існуе і сёння. Далей яе і па сённяшні дзень ніхто не пайшоў.

Апазіцыя БНФ у ВС была фактарам неспакойнасці і турбот кіраўніцтва. Гэта было натуральна. Дысцыпліна і арганізаванасць самой фракцыі, на мой погляд, трымалася на Зянону Пазняку. З ім у мяне былі рэдкія рабочыя стасункі тады, калі ён заходзіў да мяне як кіраўнік сваёй фракцыі. У гэтым перад ім не было ніякіх абмежаванняў. Пры сустрэчах з ім я не спрабаваў праз яго сцішаць членаў фракцыі, бо не бачыў у іх паводзінах ніякіх перашкод для працы ВС. Я увогуле не бачыў у іх дэструкцыйнай сілы, бо апазіцыя павінна быць, асабліва у парламенце, бо яна дазваляе пазбегнуць памылак пры прыняцці адказных рашэнняў.

Апазіцыю складалі адукаваныя людзі з вучонымі ступенямі. Паводзілі яны сябе даволі прыстойна і у мяне ніколі не узнікала жадання прасіць таго ж З. Пазняка стрымаць ці утаймаваць сваіх калег. Я гэтага не рабіў. Сам З. Пазняк быў разумным і адукаваным чалавекам. З ім можна было размаўляць на розныя тэмы. Я не лічу яго зацыкленым на нечым або апантаным нечым авантурным. Бывала, канешне, што ён занадта варожа ставіўся да Расіі і сурова выказваўся у адрас Расіі. У нашым тагачасным грамадстве, ды і сёння таксама, такая пазіцыя успрымалася негатыўна і не атрымлівала падтрымкі. Таму я некалькі разоў раіў Пазняку такімі словамі-"Зянон Станіслававіч, не трэба так рабіць. Паглядзі, гэта не падабаецца большасці нашых людзей". Але ён стаяў на сваім.

Сярод астатніх членаў апазіцыйнай фракцыі можна таксама выдзеліць Пятра Садоўскага, які быў паслом у Германіі, чалавека прынцыповага і цікавага самога па сабе. Разважлівым у гутарцы быў гісторык Валянцін Голубеў. Сяргей Навумчык, здаецца памочнік З. Пазняка, і інш.

Адным з фактараў неспакою у ВС стаў даклад сябра фракцыі БНФ у ВС Сяргея Антончыка адносна карупцыі. На гэты даклад рэакцыя была бурнай, бо нядаўна абраны прэзідэнтам Аляксандр Лукашэнка ішоў на выбары якраз з шматлікімі тамамі пра карупцыю. А тут С. Антончык выступае і гаворыць пра карупцыю ужо у адміністрацыі прэзідэнта, што акружэнне А. Лукашэнкі карумпаванае. Гэта зацікавіла усіх дэпутатаў. Я не ведаю, адкуль С. Антончык браў свае звесткі і хто іх яму даваў. Па агучаных С. Антончыкам фактах фракцыя БНФ прапаноўвала стварыць камісію па расследаванню такіх фактаў у ВС. ВС меў права стварыць асобныя камісіі па гэтаму пытанню ці аддаць іх расследаванне у пастаяныя камісіі. Але поезд ужо адышоў, бо адразу пасля выбараў А. Лукашэнкі прэзідэнтам паміж ім і ВС пачалася цяганіна за уладу. Тым не менш мы у ВС паспелі правесці рашэнне адносна дакументальнай рэвізіі фінансава-гаспадарчай дзейнасці ВС, СМ і кіраўніцтва спраў прэзідэнта, пра што было даручана кантрольнай палаце на чале з Васілём Саковічам.

Ідэя рэвізіі фінансава-гаспадарчай дзейнасці вышэйшых органаў улады паходзіла з інфармацыі да нас у ВС аб розных парушэннях. Уласна кажучы, спачатку мы думалі узбудзіць праверку кіраўніцтва справамі прэзідэнта. Выглядала гэта непрыемна, а таму мы рашылі пайсці шырэй і праверыць усе органы улады, акрамя судоў. В. Саковіч склаў брыгады правяраючых і прыступіў да выканання даручэння ВС. Сакратарыят ВС мы праверылі, дзе знайшлі не

надта значныя непрыемнасці. Сталі правяраць Савет міністраў, але А. Лукашэнка неафіцыйна забараніў гэта рабіць і не пусціў на парог кіраўніцтва сваімі справамі. ВС 13 склікання потым вярнуўся да гэтай справы, але да сённяшняга дня фінансава-гаспадарчую дзейнасць ні СМ, ні кіраўніцтва справамі прэзідэнта ні разу не падвяргаліся праверцы. Адказу на гэтыя пытанні і зараз няма.

Тады, пасля інагурацыі 1994 г., ішло планамернае сістэматычнае дзеянне па набыццю прэзідэнтам адзінаўладдзя. А. Лукашэнка прасіў ВС даць яму поўную уладу у эканамічнай галіне, якая б мела заканадаўчую сілу, маўляў таму, што ВС непаваротлівы, марудны. Мы селі, паглядзелі у Канстытуцыю і убачылі, што з'яўляемся адзіным вышэйшым заканадаўчым органам. Таму мы адказалі яму, што трэба памяняць Канстытуцыю для змены суадносін ветак улады. Так што выбачайце, але мы Вам такіх паўнамоцтваў даць не можам без парушэння самой Канстытуцыі. Лукашэнка тады моцна на нас пакрыўдзіўся і з гэтай пары паміж намі і ім пачалася афіцыйна і неафіцыйна сапраўдная халодная вайна.

Прэзідэнт праводзіў у ВС раскольніцкую палітыку, калі зманьваў да сябе дэпутатаў. Можна сказаць, што так паступалі з людзьмі без высокага гонару і павагі да сябе. У такіх умовах ён ініцыіраваў рэферэндум у маі 1995 г. які прабіваў нібы таранам у сувязі з чым частка дэпутатаў і абвясціла сваю галадоўку 11 красавіка.

Пра галадоўку дэпутатаў з апазіцыі я папярэдне нічога не ведаў. 11 красавіка 1995 г. я прыйшоў у залу паседжання ВС і убачыў вакол трыбуны для выступленняў ужо седзячых на прыступках каля 10 дэпутатаў, прадстаўнікоў апазіцыі БНФ.

Я заняў сваё месца старшыні і пацікавіўся у намеснікаў і дэпутатаў, што здарылася і што рабіць. Мне адказалі, што яны абвясцілі галадоўку у знак пратэсту супраць рэферэндума, прапанаванага прэзідэнтам у маі 1995 г. і па тых пытаннях, якія унесены прэзідэнтам на рэферэндум.

Галадоўка стала нечаканасцю не толькі для мяне, але і для астатніх дэпутатаў. З кіраўніцтвам ВС, г.зн. ні са мной, ні з маімі намеснікамі, папярэдне гэту акцыю ніхто з апазіцыі не узгадняў і не абмяркоўваў. Я і сёння лічу, што рашэнне аб'явіць галадоўку не абмяркоўвалася нават на паседжанні усёй фракцыі БНФ у ВС. Я упэўнены у тым, што гэта было спантаннае рашэнне, прынятае З. Пазняком перад самым пасяджэннем ВС. Словам, тады я разгубіўся, бо у такіх абставінах праводзіць паседжанні было складана. Разгубіліся і астатнія дэпутаты, якія таксама не ведалі што рабіць, бо ім прыходзілася праходзіць для выступлення за трыбунай і пе-

растоупаць праз ногі седзячых вакол трыбуны сваіх калег. Тады кожны меў права выказваць свае думкі і меркаванні, кожны меў права таксама і на галадоўку, калі хацеў гэтым дамагчыся вырашыць нейкія пытанні.

Дэпутацкая зала рэагавала на галадоўшчыкаў спачатку незадаволена, але гэтая незадаволенасць была ціхая, можна сказаць прыхаваная. Па тварах дэпутатаў на месцах я бачыў, што гэта ім не падабалася. Аднак ніхто адкрыта не крычаў, не выступаў і не бег з прапановамі выцягваць галадоўшчыкаў за рукі і ногі ад трыбуны. Дэпутаты адразу паставіліся да акцыі апазіцыі спакойна, але са здзіўленнем. Мы абмеркавалі з дэпутатамі як сябе паводзіць далей. Я звярнуўся да іх з пытаннем-"вось, шаноўныя, такія абставіны, што нам рабіць, адкрываць пасяджэнні ці спыніць сесію"? І мы прыйшлі да вываду, што раз апазіцыянеры хочуць сядзець і галадаваць прама у зале ВС, то няхай сядзяць і галадуюць, гэта іх права, а мы будзем працягваць працу. З галадоўшчыкамі я актыўна потым не размаўляў.

Ніхто з іх да мяне асабіста таксама не звяртаўся адносна працэдуры самой іх галадоўкі, ежы, адзення. Адно толькі перад самым абедам, у перапынак паміж паседжаннямі, да мяне падышоў З. Пазняк і кажа, што у яго маюцца звесткі аб тым, што сёння ноччу улада мае намер напасці на галадоўшчыкаў, каб іх пабіць і выгнаць з залы паседжанняў. Так ён мяне паінфармаваў. Я кажу яму, што у мяне такіх звестак няма, але калі гэта усё так, як ён кажа, то я выклічу начальніка аховы і разбяруся.

Начальнікам аховы тады быў наш дэпутат, падпалкоўнік міліцыі Міхал Цесавец, які ужо перайшоў на працу у каманду адміністрацыі прэзідэнта. Я паклікаў яго і кажу яму -"так і так, вы самі бачыце, што адбываецца у залі ВС". Ён кажа-"так, я ведаю". Я кажу яму-"да мяне звярнуўся З. Пазняк і паведаміў, што ён мае звесткі аб магчымым нападзе на дэпутатаў, а таму я не хачу, каб тут у залі што-небудзь такое адбылося. Вы ж разумееецe, яны дэпутаты і маюць права на галадоўку, хоць гэта мне і не падабаецца тым, што яны аб'явілі яе тут,у залі, а не на плошчы і не у сваіх кабінетах. Тым не менш, трэба, каб усё было спакойна і мірна". М. Цесавец тады запэўніў мяне, што "мы усё зробім патрэбнае, прымем меры і нічога такога не адбудзецца". Аднак падзеі потым разvіваліся такім чынам. што калі галадоўшчыкаў разганялі і выносілі з залы, то М. Цесавец аказаўся самым удзельнікам пабоішча.

Калі апазіцыя абвясціла сваю галадоўку, то тады ВС абмяркоўваў розныя пытанні. На той момант ВС яшчэ не прыняў рашэння па рэферэндуме. Былі вялікія спрэчкі. Калі б не галадоўка, то пэў-

на удалося б дагаварыцца з уладамі, каб нешта змяніць. Але камень быў укінуты, адно пацягнула за сабой другое і далейшае атрымалася як са снежнай лавінай. Потым ВС усё-такі прагаласаваў за рэферэндум у маі 1995 года. Галадоўка падштурхнула да гэтага тых дэпутатаў, якія яшчэ вагаліся. Дарэчы, Канстытуцыя 1994 г. давала прэзідэнту права ўносіць прапановы аб правядзенні рэферэндума. Яна давала яму права фармуляваць пытанні на рэферэндум. Калі Лукашэнка ўнёс адпаведныя прапановы на абмеркаванне ВС, то ён ніякай Канстытуцыі не парушыў. ВС не мог і не меў права адмовіць прэзідэнту у яго ініцыятыве аб правядзенні рэферэндума ці змяніць пытанні, якія сфармуляваў прэзідэнт. ВС меў толькі права назначыць дату правядзення рэферэндума.

У той дзень сесію я вёў да самага яе канца у 18 ці 19 гадзін вечара. Калі я адлучаўся з залы паседжанняў па нейкіх справах, тады мяне па завядзёнцы падмянялі мае намеснікі. Усе галадоўшчыкі таксама не сядзелі прывязанымі ці прыкутымі, з іх таксама нехта уставаў, зыходзіў, вяртаўся, зноў садзіўся. Сувязь працавала, ніхто нічога не адключаў і не выключаў. Можна было выйсці, патэлефанаваць дахаты, ці куды трэба.

Пасля закрыцця сесіі 11 красавіка я разам з дэпутатамі пакінуў залу паседжанняў і там засталіся толькі галадоўшчыкі. Разам з імі засталіся і асобныя карэспандэнты. Дарэчы, з акрэдытацыяй журналістаў у тыя часы у ВС не было праблем. Яны зазвычай прысутнічалі на паседжаннях ВС з дыктафонамі і камерамі, калі мелі акрэдытацыю. У той дзень да 18 гадзін таксама у залі вяліся здымкі акрэдытаванымі карэспандэнтамі з Расіі і нашымі айчыннамі. Чаму у той раз у залі засталіся нейкія журналісты-ці то іх запрасілі самі галадоўшчкі, ці іх накіравала туды адміністрацыя прэзідэнта, я не ведаю. Пэўна яны апынуліся там па ініцыятыве кагосьці з апазіцыі. Відаць, нехта хацеў і стараўся прыцягнуць як можна больш увагі да галадоўкі, бо інакш у ёй не было ніякага сэнсу.

Я паехаў пасля закрыцця сесіі 11 красавіка у свой офіс на вул. К. Маркса ў будынак быўшага ЦК КПБ, дзе працавалі мае намеснікі і знаходзіўся сакратарыят ВС, якім заведваў А. Анціпенка. Я працаваў там прыкладна да 9 гадзін вечара. Усё было ціха і спакойна. Мяне ніхто не турбаваў з нагоды галадоўкі часткі дэпутатаў і я паехаў адпачываць у сваю рэзідэнцыю у Драздах, дзе тады жыў. Я не званіў і не цікавіўся, што адбываецца з галадошўчыкамі, бо звычайна, калі што здаралася, тады званілі мне, паведамлялі, цікавіліся ці раіліся. Так было прынята і я не турбаваў па пусцяках службы. Нарэшце, я быў дастаткова знерваваны у гэты цяжкі дзень.

Што здарылася уначы з дэпутатамі у залі ВС я даведаўся у 8 гадзін раніцы наступнага дня, калі прыехаў на працу у будынак на К. Маркса. Я убачыў там з галадоўшчыкаў дэпутатаў збітымі, змучанымі, стомленымі В. Голубева, Алеся Беленькага і, здаецца, П. Садоўскага. Я напаіў іх мінеральнай вадой,а яны мне расказалі, што здарылася уначы і як з імі абышліся вайскоўцы. Яны сказалі, што уначы спрабавалі званіць мне, але не маглі гэтага зрабіць, бо мой тэлефон у рэзідэнцыі быў заблакаваны. Я параіў ім прайсці судова-медыцынскую экспертызу, зафіксаваць перш за усё пабоі, каб не губляць часу, бо гэта вельмі адказная справа і яе ім трэба зрабіць своечасова. Я паабяцаў ім разабрацца. Яны пагадзіліся са мной і пайшлі. Затым я выклікаў да сябе генеральнага пракурора В. Капітана і кажу яму-"давай, разбярыся, вывучы справу, бо бакі будуць вінаваціць адзін аднаго і распачнуць спрэчкі". Пагадзіліся узбудзіць крымінальную справу па факту збіцця дэпутатаў ВС.

Потым я неадкладна сабраў прэзідыум ВС і маёй першай прапановай на ім была такая парада-у сувязі з тым, што у залі ВС адбылося пабоішча, то не хадзіць больш у залу паседжання на Мяснікова, а праводзіць паседжанні ВС тут, у будынку ЦК на К. Маркса. Хаця зала тут была меншая і не прыстасаваная, без мікрафонаў, але я унёс такую прапанову на прэзідыум. Некаторыя яго члены выказалі нязгоду на маю ідэю. Яны гаварылі, што дэпутаты прывыклі да старой залы, што там у кожнага маецца сваё месца, абсталяванае для галасавання, а тут, на К. Маркса, амаль чыстая зала, тэхнічна не абсталяваная. Спасылкі былі такім чынам па тэхнічных прычынах. Пры галасаванні большасць падтрымала іх. Прэзідыум выказаўся супраць маёй прапановы і мы, такім чынам, пайшлі у стары будынак на Мяснікова.

Я тэлефанаваў А. Лукашэнку перад пачаткам сесіі. Ён сказаў мне, што ён не мае дачынення да начнога здарэння, што ён нікога не разганяў, нічога не ведае, але з усім разбярэцца, што там да чаго. Ён быў першай асобай у дзяржаве, я-другой, і таму не мог настойваць. Ёсць пракуратура, няхай яна і разбярэцца. Мы запрасілі усіх прадстаўнікоў сілавых структур выступіць з тлумачэннем начнога здарэння.

Што тычыцца разбіральніцтва пракуратуры вакол начнога здарэння 11-12 красавіка і якое вёў следчы Язэп Бролішс, то у мяне да гэтага былі адносіны як юрыста. А менавіта, ніхто з кіраўнікоў не мае права умешвацца у папярэдняе следства, бо потым гэта умяшанне пашкодзіць адкрыццю ісціны. Я нават і не мог прапанаваць нікому, каб мяне азнаёмілі з матэрыяламі гэтага папярэдняга

следства, якое, зразумела, можна было выкарыстаць як хочаш. Гэта не дало б ніякай карысці.

Калі мы прыйшлі у залу паседжанняў ВС на плошчы Незалежнасці, то там ужо не было ніякіх слядоў начнога здарэння-усё было чыста і прыбрана. Ніхто з пацярпеўшых уначы не спрабаваў працягваць галадоўку. Ім, як і іншым дэпутатам, дзверы ВС былі адкрытыя і ім дазвалялася прыходзіць, займаць свае месцы, запісвацца для выступленняў і выступаць каля мікрафона. Ніхто не пярэчыў і не аспрэчваў гэтага іхняга дэпутацкага права. Ніхто з іх не звяртаўся да мяне, як старшыні ВС, з тым, што нехта іх не пускае у залу пасяджэнняў ВС выконваць свае дэпутцкія абавязкі. Я не даваў з гэтай нагоды нікому ніякіх указанняў.

Калі мы пачалі праводзіць сесію,то практычна усе выступы кругціліся вакол начнога здарэння у залі. Ніхто з запрошаных сілавікоў не хацеў прызнавацца у тым, што мае дачыненне да начной акцыі супраць галадоўшчкаў. Яны проста хавалі інфармацыю. Усе дэпутаты, як і я, былі настолькі узрушаны, што гэту тэму не абміналі ні правыя ні левыя. Людзі разумелі, што сёння выкінулі з залы галадоўшчыкаў і пазбавілі права адных, а заўтры гэтак жа могуць пабіць іншых. Дэпутаты убачылі на гэтым прыкладзе, што яны безабаронныя перад выканаўчай уладай. Таму усе пачыналі гаварыць з гэтага. І калі 11-га красавіка у вачах дэпутатаў было нямое асуджэнне галадоўкі, то на гэты дзень 12 красавіка ужо адчувалася спачуванне да іх. Можа яно зыходзіла з боку не усіх дэпутатаў, аднак я памятаю па выступленнях, што ніхто галадоўшчыкаў не асуджаў, не папракаў ні ў чым. Ім спачувалі нават самыя зацятыя іх ворагі. Ніхто не гаварыў, што вось, добра зрабілі, што вас пабілі, што Вы самі, маўляў, заварылі кашу і г.д. Я не памятаю, каб нехта з пацярпелых дэпутатаў раздзяваўся прама у зале пасяджэнняў і дэманстраваў сваю пабітую спіну. М. Цесаўца, праўда ганялі па залі, але патасовак не было.

Пры гэтым паступіла інфармацыя аб тым, што прэзідэнт паабяцаў усё расследваць, што ён даручыць разабрацца з усім тым, што здарылася ўначы у залі ВС і што там тварылася бог ведае што, бо там нейкі прытон быў з жанчынамі, што там пілі гарэлку, віно, што ў яго ёсць пра гэта відэазапіс, які ён пакажа ўсім гэты відэазапіс і тады у дэпутатаў самі сабой адпадуць пытанні. Аднак я ў гэта не верыў. З. Пазняк ды іншыя галадоўшчыкі былі нейкім чынам папярэджаны адносна нападу і ўжо толькі гэта адно павінна было стаць стрымліваючым фактарам у паводзінах галадоўшчыкаў. Так яно потым і падцвердзілася. Ніякай плёнкі прэзідэнт дэпутатам не паказаў і да сённяшняга дня.

У гэты дзень прэзідэнт сказаў, што паколькі выбары новага ВС будуць у маі, то паўнамоцтвы гэтага ВС заканчваюцца. Ён спаслаўся на тыя абставіны, што першыя выбары дэпутатаў ВС 12 склікання адбыліся ў сакавіку 1990 г., а гэта азначае, па яго разуменню, што пяцігадовы тэрмін дэпутацкіх паўнамоцтваў павінен быў закончыцца 4. 03. 1995 г.. Але на самой справе 4 сакавіка 1990 г. паўнамоцны склад ВС не быў абраны і выбары праводзіліся амаль да канца красавіка. Акрамя таго, паўнамоцтвы ВС адлічваюцца з першай установачнай сесіі ВС, а не з дня абрання дэпутатаў. Прэзідэнт не пажадаў слухаць нашых доказаў і заявіў, што мы ужо сваё адпрацавалі і пара разыходзіцца. Ён запрасіў усіх на банкет у сталоўку СМ, дзе звычайна харчаваліся усе дэпутаты разам са служачымі ўрада. Туды пайшоў амаль увесь дэпутацкі корпус. Я пайшоў туды вымушана. Інакш не атрымлівалася. Вечарына не была доўгай-без нейкага застолля і урачыстых тостаў. Мы выпілі можа па 100-150 грамаў віна ці гарэлкі без усякай весялосці. Я адчуваў сябе не зручна, пад нейкім прыгнётам. Гэтым самым А. Лукашэнка,відаць, лічыў, што зараз паўнамоцтвы ВС завершаны. Гэта было з яго боку супрацьзаконна, бо яшчэ не было ні выбараў, ні установачнай сесіі новага ВС.

Выбары у маі сумяшчаліся з рэферэндумам па пытаннях, прапанаваных прэзідэнтам. Былі спрэчкі і прапановы не сумяшчаць іх, бо гэта пагражае абранню дэпутатаў. На рэферэндум увогуле не былі выдаткаваны сродкі, а таму спалучэнне іх было разумна з пункту гледжання эканоміі бюджэтных сродкаў. Але іх, як заўсёды, не хапала. Спонсараў прыходзілася шукаць, што было небяспэчна.

Выбары у маі 1995 г. праходзілі пад сцягам таго, што прэзідэнт абвясціў фактычную вайну дэпутатам ВС і навогул усяму дэпутацкаму корпусу, бо ён неаднаразова заяўляў у электоронных СМІ , што парламент не патрэбны, што у выбары ён не верыць і на выбары не пойдзе. Тым самым ён ускосна агітаваў выбаршчыкаў не хадзіць на выбары, байкатаваць іх. А умовы тады былі жорсткія, бо выбары лічыліся адбыўшыміся, калі у іх прыняло удзел не менш 50 % у першы і другім туры. Тады у маі у ВС не абралі нікога з апазіцыі. Яны удзельнічалі у выбарах, але пайшлі балаціравацца у гарадах, асабліва па Мінску, там, дзе іх звычайна падтрымліваў гарадскі электарат.

Балатаваўся я па Дзятлаўскай акрузе і ўжо у першым туры набраў каля 50 % патрэбных галасоў выбаршчыкаў, унесеных у спісы для галасавання. У ходзе выбараў выканаўчыя улады супраць мяне адкрыта не выступалі. Я б не сказаў, што адчуваў на

сабе перашкоды маёй передвыбарчай агітацыі ці нейкія правакацыі. Можа і былі супраць кагосьці нейкія рэкамендацыі, але катэгарычных заданняў тыпу таго, што некага трэба заваліць або не прапусціць, тады такога яшчэ не было. Гэта практыка здараецца і робіцца апошнім часам. Тады былі пэўныя абмежаванні, скажам на скарыстанне дзяржаўнага транспарту, але яны тычыліся усіх прэтэндэнтаў. Мне прыходзілася з гэтым лічыцца і я стараўся не падстаўляцца. Аднак у другім туры галасавання большасць людзей проста не выйшла на участкі для галасавання і таму не забяспечыла неабходных 50 % яўкі выбаршчыкаў. У выніку у першым і другім туры было абрана толькі 119 дэпутатаў пры кворуме у 140 дэпутатаў. г.зн. менш неабходнай колькасці. Новаабранцы не маглі працаваць самастойна, а мы, старыя дэпутаты, павінны былі рабіць яшчэ больш за сябе і за іх.

Такі мізэрны поспех вынікаў са складаных умоў. Безальтэрнатыўных акругаў тады не было. У мяне у самога было 6 канкурэнтаў. Я, напрыклад, у першым туры не сабраў неабходную колькасць галасоў. У другім туры людзей прыйшло меней, але умовы захаваліся ранейшыя, г.зн. патрабаваліся 50 % яўкі выбаршчыкаў і 50 % плюс адзін голас для перамогі кандыдата. Трэба дадаць страшэнны накат, які вёўся супраць усіх кандыдатаў, увогуле супраць заканадаўчай веткі улады. Тое, што прэзідэнт агітаваў супраць выбараў, то гэтай заявай ён не парушаў закона. Ён гаварыў ад сябе, і парушэння выбарчага заканадаўства тут не было, бо ішла перадвыбарчая кампанія. Ён выказваў уласнае меркаванне, але паколькі гэта гаварыла першая асоба у краіне, то яго выказванні многія успрымалі як дырэктыву, як заклік да байкоту.

Сказаць, што выбары і рэферэндум мая 1995 г. былі сфальсіфікаваныя, немагчыма. Тады такога не было, як гэта робіцца зараз. У нас тады не узнікала пытанняў адносна сумленнасці Цэнтрвыбаркама і мясцовых выбарчых камісій навогул, таму што яны арганізацыйна падпарадкоўваліся нам. На рэферэндум выносіліся такія пытанні, якія існавалі у настроях шырокіх мас і імі падтрымліваліся. Яны трапілі на прыдатную глебу. Рэйтынг А. Лукашэнкі тады быў вельмі высокі. Шмат хто з кандыдатаў у дэпутаты ішоў у тую выбарчую кампанію пад лозунгам падтрымкі палітыкі прэзідэнта. За іх і прагаласавалі людзі, бо усё, што ён рабіў, яны лічылі правільным, а тое, што у яго не атрымлівалася, ён казаў, што яму перашкаджаюць

У адпаведнасці з Канстытуцыяй РБ паўнамоцтвы ВС і яго старшыні пачынаюцца з першай установачнай сесіі. Першая сесія падцвярджае мандаты дэпутатаў, абірае кіраўніцтва і камісіі. Паўна-

моцтвы ВС цягнуцца пакуль выбаршчыкі не абяруць новы і паўнамоцны склад ВС. Паколькі ж выбаршчыкі у маі 1995 г. не абралі паўнамоцны склад ВС, то стары склад ВС 12 склікання дзейнічаў да 9 студзеня 1996 г., да першай установачнай сесіі ВС 13 склікання. Тады пасля давыбараў неабходнай колькасці дэпутатаў, выбараў новага кіраўніцтва і камісіі, я склаў свае паўнамоцтвы старшыні, перадаў іх афіцыйна Сямёну Шарэцкаму, а сам перайшоў на пасаду простага дэпутата.

Паколькі выбары у маі 1995 г. не адбыліся, стала зразумела, што ВС апынуўся у глыбокім крызісе. Што тычыцца дэпутатаў новаабранага ВС, то мы уносілі прапанову на абмеркаванне ВС і прынялі рашэнне аб тым, што мы не супраць таго, каб яны прысутнічалі на нашых пасяджэннях з правам дарадчага голасу. Мы не рассылалі ім павестак, бо не было вядома, хто з іх пагодзіцца прыехаць. Мы дазволілі ім прыходзіць на паседжанні,сядзець, выступаць, але сказалі, што даць ім рашучага голаса не можам, таму што колькасці нанава абраных дэпутатаў не хапала,каб прызнаць ВС 13 склікання правамоцным. Каб знайсці выхад, трэба было тэрмінова уносіць змены у дзеючае выбарчае заканадаўства. Трэба было скараціць у ім норму у 50 % да 25 %. і лічыць ВС абраным, калі у другім туры пагаласуюць не менш 25 % выбаршчыкаў.

Дзеля гэтага мы наладзілі 14 чэрвеня сесію ВС, на якую запрасілі 119 новаабраных дэпутатаў, каб яны прывыклі да працы у ВС. Мы разлічвалі на іх падтрымку. Але на той час дэпутаты не хацелі зразумець нас, кіраўніцтва ВС і яны нас не падтрымалі. Тады дэпутаты былі ўжо раскалотыя на тых, хто падтрымліваў ВС і тых, хто стаяў за Лукашэнку. На сходзе Віктар Кучынскі выступіў супраць нашых прапаноў з тым, што дэпутаты няроўна дзеляцца. Сам прэзідэнт і яго адміністрацыя адкрыта выказваліся супраць нашых прапаноў, таму што, калі б мы іх прынялі, то не чакалі б лістападаўскіх выбараў. Такога не здарылася. Нашы прапановы адразу адмялі і адкінулі з той падставай, што не усе прымаюць удзел у выбарах, бо выбірае не большасць, а меньшасць. Усё было зацыклена на тым, што з 340 дэпутатаў 80 чал. былі на пастаяннай працы у ВС, а астатнія працавалі у выканаўчай уладзе і падпарадкоўваліся прэзідэнту. Калі хто з дэпутатаў выступаў у ВС супраць прэзідэнта, то яго заўтра маглі звольніць з працы. Таму дэпутаты баяліся нешта рабіць.

На сходзе мы прапаноўвалі таксама у другім туры знізіць норму з 50 да 25 %, што не знайшло падтрымкі. Была прапанова пра норму у 2/5, але усё роўна нічога не атрымалася. Хаця кворум быў спачатку, але пасля трох дзён сесіі і адпаведнай апрацоўкі

дэпутатаў акружэннем прэзідэнта літаральна аднаго голаса не хапіла, каб унесці змены у рэгламент і знізіць кворум да паловы складу парламента. Кагосьці падкупілі пасадамі і рознымі дабротамі, кагосьці запалохалі.

Мы мусілі змагацца і мучыцца. Было такое адчуванне, быццам на цябе узвалілі вялікі цяжкі крыж, які табе давядзецца несці доўгі час аднаму, без намеснікаў, бо усіх іх -і Івана Бамбізы, Уладзіміра Русакевіча і Вечаслава Кузняцова-ужо не было побач са мной. Іх зманіў да сябе прэзідэнт. Выбіраць намесніка мне не даводзілася, бо мне казалі-а навошта ён табе, калі працаваць нам засталося зусім мала. Але я разумеў, што я сам магу зыйсці у любы момант і калі вось так лёгка зраблю, то ВС не стане, а гэта паспрыяе прэзідэнту кіраваць краінай самаасобна без усякіх амартызатараў.

Пасля майскіх выбараў працаваць з кожным днём станавілася складаней. Выканаўчая улада стварала розныя перашкоды. Справа дайшла да таго, што дэпутатам перасталі выплачваць дэпутацкія, а тым, хто працаваў пастаянна, увогуле перасталі плаціць заробак. Адпаведнае рашэнне аб спыненні выплат прымаў Савет Міністраў. Хаця у ВС быў свой рахунак, але грошай на яго не паступала, ён быў пусты. Я звязаўся з М. Чыгіром па гэтаму пытанню, а той прама пры мне з міністрам фінансаў Паўлам Дзікам і пытанне было вырашана тут жа. Аднак пакуль я перайшоў з урада на сваё мёсца старшыні ВС, то рашэнне перамянілі: грошай нам не далі і дэпутатам давялося звяртацца у суд самастойна, каб спагнаць свой затрыманы заробак. Іскі, з якімі дэпутаты ВС звярталіся у суд Маскоўскага раёна г.Мінска у сувязі з затрымкай выплат, былі задаволены судом паспяхова адносна 5 ці 6 заявак. Гэта стала падставай для сакратарыята ВС каб грошы выплацілі усім астатнім, хто атрымліваў сталы заробак ці хто пастаянна працаваў у ВС. А што тычыцца дэпутацкіх выплат, то з мая 1995 г. іх нам не плацілі, нягледзячы на якія-небудзь пратэсты. То есць ніякіх кампенсацый не атрымалася. Я стараўся потым знайсці нейкі пісьмовы указ, прыказ ці распараджэнне, але нічога такога нідзе не знайшоў. Не знаходзіў я адказу і ва урадавых кабінетах, калі заходзіў туды высвятляць прэтэнзіі дэпутатаў у якасці старшыні ВС. Перада мной, другім чалавека у краіне, проста разводзілі рукамі, казалі схадзі туды, схадзі сюды, паказвалі красамоўна і моўчкі пальцам наверх і г.д. Я спрабаваў дазваніцца да прэзідэнта з гэтым жа пытаннем, але там у яго адміністрацыі то не падымалі трубку, то гаварылі, што яго няма, што ён выйшаў, што мы вам packazвонім і даложым. Я ткнуўся туды разоў 5 ці ці 6, але потым махнуў рукой, каб не займацца такімі марнымі заняткамі.

Трэба сказаць, што мне і сакратарыяту заробак залічылі па ведамасці і далі. Я адразу раскусіў гэты ход улады, бо мяне хацелі процівапаставіць астатнім дэпутатам. Я зразумеў, што такі акт залічвае мяне у процілеглы стан. Я не прывык цішком пад падушкай трушчыць сваю пайку, а таму прынцыпова адмовіўся ад прывілегіі атрымліваць грошы. Я нават разлічваў на тое, што калі я адмаўляюся ад заробка, тады можа і астатнім пачнуць плаціць. Але перасталі плаціць усім і адразу. Да Лукашэнкі было ўжо не дазваніцца. У такіх умовах працавалася вельмі цяжка. Кожны дзень пасля мая 1995 г. я хадзіў на працу як на вайну, бо не ведаў, што будзе далей, ды і кожны дэпутат не ведаў, чым гэта усё скончыцца.

На гэты момант сам прэзідэнт сядзеў у пакоі старшыні Савета міністраў, а мы размяшчаліся на вул. К. Маркса у будынку былога ЦК КПБ. Акрамя таго, мы мелі на вул. Мяснікова залу для пленарных паседжанняў, кабінет былога старшыні ВС і некалькі пакояў для тэрміновых паседжанняў. Усё гэта было узгоднена з адміністрацыяй прэзідэнта. Аднак яго паплечнікі на чале з Іванам Ціцянковым пачалі дамагацца будынка на К. Маркса. Я якраз тады, у канцы мая, знаходзіўся у Дзятлаўскай акрузе на уласных выбарах. Перамовы з І. Ціцянковым вёў мой намеснік І. Бамбіза, які мяне інфармаваў. Я параіўся з іншымі членамі прэзідыума ВС і прыйшоў да вываду, што змагацца за будынак на К. Маркса не мае сэнсу, што нічога мы не выйграем, бо нам процістаіць першая асоба у дзяржаве з ужо моцнымі сродкамі і сіламі уздзеяння. Перад людзьмі было няёмка, калі б мы сталі сварыцца з прэзідэнтам вакол будынка. Мы рашылі спакойна дамовіцца і працаваць далей. Мы не хацелі спрачацца, бо тут усплывалі паводзіны некаторых дэпутатаў і іх выпіўкі у гатэлі. З-за гэтага мы нічога б не атрымалі, акрамя аднаго бруду на сваю галаву. Я сам раіў тады, што раз першая асоба краіны дабіваецца будынка пад уласную рэзідэнцыю, то няхай бярэ. Можа нам трэба было самім ініцыяраваць гэтае пытанне, але мы маўчалі, пакуль на нас не населі. Тое, што мы прасілі, нам далі, але пры гэтым падманулі з рамонтам і колькасцю пакояў. Нам далі тое, што нам не хапала. Пратэстаў я не памятаю на гэты конт. Акцыя па нашаму перасяленню рабілася спрытна. Нас проста штурхалі на новае месца.

Пасля стварэння у верасні 1994 г. сваёй адміністрацыі, прэзідэнт Лукашэнка забраў у ВС гараж па вул. Пуліхава, дзе стаяла каля 80 машын. Проста ноччу там паставілі сваю ахову, прыехалі са сваімі кіроўцамі, адагналі тыя 80 машын у Савет міністраў і пакінулі толькі машыну мне, старшыні ВС. Потым у нас забралі гасцініцу Кастрычніцкая. Я асабіста узбудзіў у Канстытуцыйным

судзе недзе каля 18 спраў адносна гэтага выпадку, маёмасці сакратарыята ВС і па шэрагу іншых законаў.

В. Ціхіня ніяк не мог вырашыцца з пытаннем вакол маёмасці ВС ні з юрыдычнага, ні з палітычнага погляду. Ён і туды памкнецца, і сюды. Яго прыцiснуць там і ён дае назад. Я ціснуў на яго з аднаго боку, а Лукашэнка з другога. Ціхіня не ведаў што рабіць і толькі праз паўгода вынес гэтае пытанне на разгляд суда. Ён мяне папярэдзіў і папрасіў падрыхтавацца. Я сам збіраўся пайсці на слуханні ў Канстытуцыйным судзе нашага звароту. Але назаўтра раніцай Ціхіня тэлефануе мне і кажа-"усё, суда не будзе, суд адмяняецца". Я пытаюся-чаму. Ён кажа-"няма прадмета спрэчкі". Я гавару-"як гэта няма, што здарылася"? Ён адказвае-"Лукашэнка адмяніў свой указ". Я кажу-"ну і што з гэтага?". Ціхіня кажа-"я нічога не магу зрабіць, таму што ён прыслаў мне паведамленне аб адмене свайго указа у частцы, якая тычылася маёмасці". Я кажу яму-"няхай і адмяніў, заўтра ён адновіць. Я упэўнены, што так і будзе". Ціхіня кажа-"усё роўна я не магу разглядаць". Я гавару яму-"тады ты не здымай гэтыя пытанні". А заўтра раніцой выйшаў ужо не прэзідэнцкі указ, а распараджэнне адносна маёмасці ВС. Як старшыня ВС я мог па заканадаўству абскардзіць указ прэзідэнта, а не распараджэнне. Яго мог разглядаць па сваёй ініцыятыве толькі Канстытуцыйны суд. Я патэлефанаваў Ціхіні і кажу-"ну што, Валерый Гур'евіч, дачакаўся?". Той адказвае каротка - "Да". Я сказаў яму што не магу зараз узбудзіць хадайніцтва, "бо ты яго не прымеш. У мяне няма такіх правоў, а ты па сваёй ініцыятыве не возмешся яго разглядаць. Вось так і вырашылася тады, у маі 1995 г., гэтая маёмасная спрэчка паміж ВС і прэзідэнтам, бо ён мог сказаць сёння адно, а заўтра зрабіць другое.

Ціхіня увесь час праяўляў асцярожнасць, прамаруджваў, узважваў усё, каб не рубіць з пляча. Ён знаходзіўся пад вялікім ціскам адміністрацыі прэзідэнта і яго самога. Ён нечага баяўся. Калі мы сустракаемся зараз, то ён не шкадуе пра тое, што здарылася. Толькі ў 1996 г. ён аднойчы мужна прызнаўся, што новы праект Кансытуцыі ўнесены на рэферэндум юрыдычна не граматны, не падрыхтаваны, што калі Канстытуцыя будзе прынята, тады Беларусь апынецца ізгоем у Еўропе, стане ізаляванай краінай, што гэтыя нормы-гэта прававы Чарнобыль. Але потым ён паступіў наадварот.

Прэзідэнт наступаў нахрапіста і тады, калі зняў з пасады генеральнага пракурора Васіля Шаладонава і назначыў выконваючым абавязкі Васіля Капітана. Шаладонаў не абскардзіў свайго звальнення. Мы памеркавалі і рашылі, што без заявы Шаладонава нам не зручна разглядаць гэту справу. Капітана мы ведалі як адукава-

нага чалавека і таму зацвердзілі яго на пасаду, хаця з боку прэзідэнта гэта звальненне пракурора было яўным парушэннем.

Яшчэ не былі зацверджаны вынікі майскага рэферэндума, а І. Ціцянкоў і яго каманда 17 мая залезлі на адабраны у нас будынак на вул. К. Маркса і сцягнулі з яго даху бела-чырвона-белы сцяг, які разарвалі на кускі, якія потым прадавалі з аўтографамі. Гэта быў яўны крымінал. У знак пратэсту у андрэеўскім скверы насупраць, каля грамадскай прыбіральні, здаецца "Зубраўцы", спалілі, здаецца, расійскі сцяг. Іх там затрымала міліцыя і ўзбудзіла крымінальную справу. Адзін з пацярпелых звярнуўся потым у 1997 г. да мяне па абарону. Яго асудзілі, далі умоўную меру пакарання, але не у так званых далёкіх месцах. Тады ж група дэпутатаў звярнулася ні то ў органы МУС, ні то пракуратуру, каб узбудзіць крымінальную справу адносна скідання дзяржаўных сімвалаў. Яны спасылаліся у сваёй заяве на адпаведныя нормы крымінальнага кодэкса. Аднак яе адмовіліся разглядаць і адказалі, што тут праступае звычайная халатнасць, а крымінальнага дзеяння ва учынку Ціцянкова, маўляў, зусім не відаць. Дарэчы, Ціцянкоў быў у маладосці ветырынарам, старшынёй калгаса, сакратаром Краснапольскага райкама КПБ. Ён быў прадстаўніком магілёўскай каманды прэзідэнта, разам з Віктарам Шэйманам раз'яджаў на выбарах прэзідэнта па краіне. У чарнобыльскй камісіі ён займаўся прадпрымальніцкай дзейнасцю і не надта сябраваў з законам.

У лістападзе 1995 г. я агітаваў за выбары у сродках інфармацыі Расіі і катэгарычна выступаў супраць намагання прэзідэнта перапісаць Канстытуцыю. Але маё выступленне не паказалі. Тады з грэхам папалам у ВС дабралі дэпутатаў, аднак усё роўна не хапала 62 чал. Першая устновачная сесія ВС 13 склікання адбылася 9 студзеня 1996 г. пад дырыжорствам палітычных партый ПКБ, Аграрнай партыі, Грамадзянскай партыі і іншых. Яны адкрыта займалася дзяльбой партфеляў, арганізацыяй фракцый, устанаўленнем паразумення з прэзідэнтам. Але зрабіць гэта ім не ўдалося і ВС 13 склікання праіснаваў усяго толькі 10 месяцаў.

# Гюнтер Б.

*Из обрывков памяти*

Я до сих пор понять не могу, как был избран в Верховный Совет. Среди опозиции ВС я оказался потому, что всегда был в оппозиции и ненавидел Советскую власть. Это самое главное. В первый раз я сел в 1954 году еще в сталинские времена. Мы все дети Сталина. Я работал в самых страшных курчатовских местах, то есть на ядерных объектах, в том числе строил Ленинградскую, Нововоронежскую, Чукотскую ГЭС. Делал так назывемые "стаканы". Я приехал в Белоруссию в 90-м году тогда, когда в Гомеле создавался союз предпринимателей и арендаторов.

Вы не поверите, но меня избрали депутатом Гомельского горсовета. Это смешно. Я не закончил журфак, физфак. Но меня избрали от станка, ибо я имел большой житейский опыт. Получилось как в дурдоме. Еврей Ферман звонит мне вечером и говорит: Борис, мы тебя выдвигаем в ВС. Они выдвинули перед этим своего крутого старика, дважды орденоносного ветерана. А он, Ферман, и говорит им, вот вам кандидат, рабочий. Вот так спонтанно и переголосовали. Я проходил как кандидадат от союза арендаторов и предпринимателей Гомельской области. Когда я баллотировался, то меня крыли по-черномумол жид, немец и поганец. Я вылез за 15 дней до выборов.

Среди оппозиции во фракции БНФ в ВС я не играл никакой роли. Я был сам по себе как вольный охотник.

Голодовка в 1995 году была спонтанной. Тогда была сложная ситуация и полная безисходность. Мы думали, что республике конец. Тогда Голубев, Позняк создавали независимость, а эти коммунисты...У нас не было выхода, хотя я был противником голодовки. И сегодня я считаю, что это не был единственный способ борьбы и выхода. Я не хотел себя губить ради этого г... Но Зенон Позняк сказал на собрании опозиции  ребята, всё. Ключевого сло-

ва не помню. Собрание было 10-го апреля. Это было для меня спонтанно.

Мы все пошли в зал. Это было в обед. Мы сели 18 или 19 чел. Потом к нам присоединился Игорь Пырх, замначальника милиции Гомельской области, сейчас уже покойный. О голодовке в принципе все знали, но не все на нее пошли. Карпенко знал, но не голодал. Мы разместились по краям трибуны. Мы просто сели спокойно на ступеньки. Я сидел справа от трибуны. Рядом сидели Беленький и Позняк. Я был в прикиде  черном пиджаке. Я всегда ходил в черном. Меня за это называли человеком в черном. Мы сидели и всё. А залэто большое г... Зенон сказал залу  "Ребята, мы не отдадим независимость, мы Вам покажем кузькину мать". Зал ревел, стоял гул. Потом они заткнулись, а мы сели. Они вышли спокойно, а мы спокойно ходили по залу. Гриб обеспечил нас водой, постельными мешками, каждого.

Потом пришел начальник охраны Лукашенко Ковалев. Он сразу сказал  вон отсюда. А мы ему во показали, сам пошел отсюда. Потом часов в 12 ночи пришел Цесовец с Ковалевым и взялись за меня. Они видимо считали, что я самое слабое звено. Я шчуплый и сидел на краю в кресле. Мы все поняли, что нас начинают трясти. Мы крепко взялись локтями с Малашко. Меня стали выдергивать и рвать на части. Цесовец говорит "у тебя яйца свободные? Я говорю  нет. Он говорит  я тебе их сейчас замочу, сделаю всмятку". И этот шкаф ухмыляется. Но они меня не выдернули, бросили и исчезли. Потом мы залезли в спальные мешки. В три часа ночи я захотел пописать и пошел в туалет. У меня челюсть отвисла, когда я увидел, что все оцеплено Омоном. Они были одеты в зеленый камуфляж. Это были солдаты в обтянутых касках, с автоматами. И они и я растерялись, когда увидели друг друга. Тут Валик Голубев открыл другую дверь и, пардон, кричит ребята, нас обложили.

До сих пор не забуду это. Все двери открываются и они потекли. Вначале потекли в зеленом прикиде. Это был спецназ в касках. С автоматами. Потом пошел второй эшелон. Они были в черном трико. Маски черные. Человек 40. Они бежали веером из трех дверей и кричали "ия, ия". Это меня поразило. Они плевать хотели на столы, кресла. Они просто летели. Вот они-то меня и выдернули. Я почему-то снова оказался крайний. Я понял, что сопротивляться бесполезно. Мне заломали руки два человека, но по дороге споткнулись и потеряли меня. Я покатился по ступенькам. А они были в ботах. Смотрю  сапог летит справа, летит слева. Не помню, как увернулся, но они не попали. Потом два этих орла потащили опять меня во двор. Краем глаза я видел, что по-черному

били Шута и Позняка. Всего их в зале было человек 400. В холе был Лукашенко, я его видел. Он стоял в первых рядах. Я его узнал по штанам. Нас брали не местные ребята, а из Москвы. Я знаю это и тогда догадался по времени. Так как в 24 00 был первый накат, а в 3 часа из Москвы пришел борт со спецназом.

Нас вышвырнули в милицейский уазик. Со мною был Наумчик и Дейко. В машине сидел водитель и майор. Они вышвырнули нас в районе сквера Купалы, где сейчас резиденция президента. Потом мы пошли в гостиницу Октябрьская к Дейко, где спокойно выпили кофе и курили.

На другой день, то есть 12 апреля, нас не пускали в ВС и мы прошли через Совмин. Карпенко помог нам пройти. Мы сели в левое крыло, Зенон сказал  хватит голодать, не надо заниматься дерьмом. Мы им всем сказали  ребята , мы с вами не дружим, так как нельзя республику сдавать. Больше всего досталось ночью Шуту. Он поднял перед всеми свою рубашку и показал на теле подтеки и синяки. Он был так избит. Они не прореагировали. Никакой реакции не последовало и от Гриба. Гриба купил Лукашенко. Они спустили все на тормозах. Мы были как кость в горле у их. Мы решили  плевать на ВС и будем заседать на Карла Маркса.

ВС 12 созыва был первый ВС независимой республики. Мы ругались наверху, но в кулуарах мы не ругались. ВС состоял из коммунистов, но они были люди, не то что нынешние. Г. Лукашенко я ненавижу. Он сломал мне жизнь. Ему помог Гончар. Помню однажды стук в дверь. На пороге стоит Гончар  белорусский Собчак, и говорит  хочу вас познакомить с Сашкой, он наш будущий президент. И принес огурцы. Но мы его вышвырнули. Он не вписался к нам. Мы его вышибли сразу. Гончар же ушел по-английски, тихонько. Это было в 1991 году. Во время голодовки 1995 г. он ничем себя не проявил. Все это жуткая грязь.

Наумчик же, когда Зенон ушел в эмиграцию, решал свои проблемы просто без Позняка. Они вместе поехали в Америку, но Зенон не вписался в американскую диаспору, обругал всех там, я был этому свидетелем. В диаспоре всякой твари по паре. Его выкинули оттуда и он приехал в Польшу. Зенон  искренний белорус, махровый националист. Я был для его немец, даже хуже. Мы с ним даже пару дней не разговаривали.

Я проехал весь Советский союз, был на Чукотке, видел тюленей и оленей. Но здесь в Белоруссии я обрел корни и сегодня для меня важна эта республика. Это моя Родина, здесь мои дети, здесь похоронена моя жена. Я привез с папиной могилы в Новосибирске землю на могилу мамы.

# Дзейка Л.

*Гэта помніцца дакладна*

Абіраўся я ў ВС 12-га склікання ў Клецку, па 52 выбарчай акрузе, куды па колькасці выбаршчыкаў уваходзіў амаль увесь Клецкі раён. Гэта тады быў ці не самы вялікі раён сярод тых, дзе колькасць выбаршчыкаў прапыдала на адну акругу у параўнанні з тымі раёнамі, дзе выбаршчыкі былі падзелены на две выбарчыя акругі, накшталт суседніх, напрыклад, Капыльскага і Нясвіжскага раёнаў. Тады часам складвалася такая сітуацыя, што ў той акрузе, якая была бліжэй да райцэнтра, там мог праскочыць нехта з ненаменклатурных дэпутатаў, тыпу А. Лябедзькі, хаця ён, як і я, мог быць адзіным кандыдатам.

Вылучаў мяне калектыў Клецкага механічнага завода. Прычым, на ініцыятыўным пасяджэнні прысутнічаў сам старшыня раённай выбарчай камісіі, здаецца, Валерый Станіслававіч Бабяк. Калі мяне вылучылі ў кандыдаты, то я ўстрымаўся пры галасаванні. Потым гэта дало мне магчымасць нагадваць гэту акалічнасць не адзін раз. Сярод іншых 6 кандыддатаў у дэпутаты быў і першы сакратар райкама КПСС Ярашук Аляксандр Ільіч, бацька Вінцука Вячоркі, нейкі саўмінаўскі чын і яшчэ некалькі сваіх клецкіх чалавек. У першым туры больш, недзе каля 42 галасоў, набраў Ярашук. Я набраў 18 % і заняў другое месца. Усе тыя 4 кандыдаты, якія не ўвайшлі са сваімі ініцыятыўнымі групамі ў другі тур, выступілі з заявай у маю падтрымку і ў другім туры галасавання, недзе праз тыдзень (у некаторых акругах другі тур праводзіўся праз 2 тыдні) за мяне прагаласаваалі 52 % выбаршчыкаў. За Ярашука было паміж 46-48 %, бо недзе 1-2 % галасавалі супраць нас абодвух.

Так я трапіў у ВС. На той момант мяне прыцягвала дзейнасць шырока вядомага БНФ. Я быў асведамлены пра яго праз газеты,

якія яго і крытыкавалі і лаялі. Я бываў на некаторых яго мерапрыемствах, напрыклад, спецыяльна прыязджаў у Мінск і выпадкова не патрапіў на тыя "Дзяды", якія былі разагнаныя газамі ўвосень 1988 г. Прыязджаў я і на вялікі мітынг на стадыёне Дынама. Потым, калі я атрымаў у раённай выбарчай камісіі часовае пасведчанне народнага дэпутата ВС, то даведаўся, што на першым паверсе Дома Урада, недалёка ад увахода ў сам будынак у невялікім пакойчыку, збіраецца ініцыятыўная група, якая перад самым адкрыццём установачнай сесіі распачала дзейнасць па каардынацыі ці арганізацыі дэпутатаў ВС. Адным з ініцыятараў яе быў С. Шушкевіч. Ён якраз падвозіў мяне ў Палац Мастацтваў на сваім блакітным лімузіне, дзе адбыўся сход і было заяўлена пра стварэнне гэтак званай "Дэмакратычнай плыні" у ВС. Мэта аб'яднання зыходзіла з таго, што на першай сесіі ВС заканамерна ўзнікнуць пытанні выбару кіраўнікоў камісій. Гэта была спроба арганізацыйнай, узгодненай дзейнасці дэпутатаў у ВС, у якога тады яшчэ не было сталага рэгламенту. Дарэчы, увесь тэрмін сваіх паўнамоцтваў ВС 12-га склікання правёў па часовым рэгламенту, у які, праўда, даволі часта і шмат разоў уносілася розныя змяненні і ўдакладненні.

Людзей у зале Палаца Мастацтваў было шмат. Там акрамя дэпутатаў ВС знаходзіліся і дэпутаты Мінгарсавета. Затым утварыўся "Дэмклуб". Гэта была з аднаго боку ініцыятыва апазіцыі, а з другога - тых, хто не хацеў адкрыта заяўляць, што збіраецца ўваходзіць у апазіцыю. Ініцыятыва, я думаю, паходзіла з апазіцыі. Адным з актыўных яе каардынатараў і стваральнікаў быў цяпер нябошчык Яўген Глушкевіч, дэпутат з Віцебска, які меў значны арганізацыйны досвед ад працы ў свой час у камсамоле у Маскве. Дэмклуб аб'ядноўваў недзе 100-102 чал. дэмакратычных дэпутатаў, якія намагаліся сумесна працаваць над законапраектамі і праводзіць іх у жыццё. Клуб збіраўся рэгулярна, недзе 1-2 разы на тыдзень паміж пасяджэннямі ВС, у перапынках, перад важнымі галасаваннямі па тых ці іншых прынцыповых законах, ці па нейкіх тактычных пытаннях, напрыклад, у падтрымку нашых прапаноў ці з крытыкай іншых. Гэта былі, як правіла, дэпутаты, так бы мовіць, з розначынцаў, якія не ўваходзілі ў партыйна-наменклатурную частку дэпутатаў, сакратары райкамаў, і са структуры Саўміна тыпу намеснікаў старшынь яго камітэтаў, з гаспадарнікаў і кіраўнікоў розных прадпрыемстваў. Сюды заходзілі і прадстаўнікі іншых дэпутацкіх групаў па інтарэсах, каб проста ведаць, што робіцца і што збіраецца рабіць Дэмклуб у той ці іншай складанай сітуацыі.

Тагачасны ВС дзейнічаў даволі дэмакратычна. Рэгулярна працавалі ўсе яго камісіі. На іх запрашаліся ўсе жадаючыя дэпутаты і любы дэпутат мог прыйсці ў любую камісію, меў права выступіць на ёй з дарадчым голасам. На прэзідыум ВС таксама мог прыйсці любы жадаючы і выступіць там або ўзняць нейкае пытанне, бо ў Рэгламенце не было прадугледжана закрытых пасяджэнняў прэзідыума. Іншым часам праводзіліся яго нарады, дзе не вялося пратаколаў. Але ж ніхто не забараняў тады дэпутатам збірацца ў нейкія групы ці аб'яднанні па партыйна-палітычных меркаваннях. Тэарэтычна гэта не забаранялася, напрыклад, сябрам адной партыі. Думкі на прэзідыуме часам не падзяляліся, бо частка ягоных членаў належала да дэмакратаў, а іншых адносілі да моднага тады слова "стагнаты".

Акрамя Дэмклуба ў ВС былі ветэраны, была фракцыя ад Беларускай Сацыял-дэмакратычнай Грамады. Лідэрам яе быў А. Трусаў і практычна 13 членаў фракцыі былі сябрамі апазіцыі ў ВС. Вярцінскі не састаяў у апазіцыі, бо паходзіў з былых галоўных рэдактараў ЛІМА і састаяў намеснікам у камісіі па галоснасці і сродках масавай інфармацыі. Была таксама група "Камуністы за дэмакратыю" і іншыя кароткачасовыя аб'яднанні, якія дзейнічалі можа год і сябры якіх не раз мянялі свае пазіцыі і погляды.

Дэпутацкае аб'яднанне "Рэспубліка" арганізоўвалася па ініцыятыве Савета Міністраў і было падкантрольнае В. Кебічу. Гэта была самая вялікая па колькасці група дэпутатаў, хаця яна і рознілася па поглядах. У той час ВС ішоў першым на шляху да сапраўднага парламентарызму і многія пытанні патрабавалася ў той час лабіраваць. Для многіх дэпутатаў іх статус і прыналежнасць да нечага дазваляла рашаць асабістыя пытанні ў сэнсе працы, свайго рэгіёна, свайго прадпрыемства ці ўстановы у СМ, бо тады ўся улада, не гаворачы пра матэрыяльныя рэсурсы, крэдыты і сродкі, была ў руках СМ. У гэтым сэнсе сярод нас былі ўплывовыя дэпутаты, існаваў так званы фонд стабілізацыі. Было гэта тады, калі парушыліся ўсе ўнутрысаюзныя сувязі паміж рэспублікамі былога СССР. Фонд стабілізацыі трымаў матэрыяльна-тэхнічныя рэсурсы вытворчых прадпрыемстваў Беларусі, якія карысталіся павышаным попытам у іншых рэспубліках Савецкага Саюза і чаго набыць тады ў нас часта не хапала, што рабілася вялікім дэфіцітам, тыпу гадзіннікаў, халадзільнікаў, тэлевізараў. Тады ўсюды панаваў бартэр, план і натуральна, натураабмен. Людзі, якія кіравалі гэтымі рэсурасамі, займаліся і размяркоўвалі іх, вось яны і былі вельмі ўплывовымі асобамі. Там і добрыя грошы круціліся. Гэта добра ведалі і бачылі самі дэпутаты. Яны гаварылі, каму што трэ-

ба набыць ці вырашыць для свайго прадпрыемства, калектыва. Канешне, такое рабілася, каб прывязаць чалавека, зрабіць яго залежным ад урада.

У фракцыю ці апазіцыю БНФ у ВС я трапіў адразу. Дзесці ў чэрвені на трэцім паварсе нам выдзелілі ў Доме урада памяшканне, помніцца пад № 363, якое двума вокнамі выходзіла прама на плошчу Леніна, а трыма на іншы бок. Да размяшчэння апазіцыі там была зала пасяджэнняў Камітэта народнага кантролю і стаялі два тэлефоны, адзін гарадаскі і адзін урадавы, саўмінаўскі. ВС толькі што падыходзіў да прафесійнай працы і яго сесіі цягнулся не па аднаму тыдню, а бывалі па некалькі месяцаў з перапынкамі па 2-3 тыдні паміж пленарнымі пасяджэннямі. Таму мы заходзілі у памяшканне для апазіцыі заўсёды раніцой або ў перапынках, каб абмяняцца думкамі, проста параіцца з калегамі.

Апазіцыя займала у ВС вельмі актыўную нішу у законатворчасці. Бывалі выпадкі, калі яна цалкам рыхтавала і ўносіла ў ВС свае законы, к прыкладу пра зямлю, аб рэферэндуме. Яна працавала над спрэчнымі папраўкамі ў іншыя законы, якіх было шмат. У нас вельмі часта быў такі від дзейнасці пры падрыхтоўцы законаў, калі ўзнікала патрэба ва ўнясенні змен у дзеючую Канстытуцыю. Таму яна была вельмі і вельмі перапахана, пералапачана, пакуль не ўступіла у дзеянне яе новая рэдакцыя, ці Канстытуцыя 1994 г. Паступала мора прапаноў і ў іншае дзеючае заканадаўства.

Такі ўзровень заканадаўчай працы увогуле быў першы. Калі ўзнікалі няяснасці, то ў ВС працавалі спецыялісты з апарату сакратарыяту самога ВС, пры камісіях, упраўленнях і аддзелах. Дэпутаты апазіцыі ўваходзілі практычна ва ўсе камісіі ВС, г. зн. практычна ў кожнай камісіі яго было па некалькі сяброў апазіцыі, бо такое дазваляў і часовы рэгламент ВС. Я сам састаяў адначасова ў камісіі па адукацыі і захаванню гістарычнай спадчыны, якую узначальваў Н. Гілевіч, і ў камісіі па цэнах, працы, занятасці і сацыяльнай абароненасці насельніцтва, якую узначальваў Сасноў Аляксандр Віктаравіч. У камісіях працавалі вельмі вопытныя людзі, якія дасканала ведалі бягучае заканадаўства і іншыя пытанні. Часта бывала так, што на абмеркаванне пэўнага законапраекта на пасяджэнне той ці іншай камісіі прыходзілі прадстаўнікі зацікаўленых органаў, тыпу прафсаюзаў. Іх запрашалі спецыяльна, бо па працоўнаму заканадаўству на камісіях ставіліся і вырашаліся істотныя жыццёвыя пытанні. Я добра памятаю ў гэтых адносінах Крывога Віктара Іванавіча, Волкава і іншых, якія былі людзьмі вялікага досведу і кампэтэнцыі. Рэгулярна на нашыя камісіі за-

ходзілі з АН, грамадскіх установ, дзяржаўных органаў, міністэрстваў. Прыкладам, сярод іх быў тады Казулін Аляксандр, намеснік міністра па адукацыі. Ён прыходзіў у сувязі з абмеркаваннем закона "Аб працоўных спрэчках( канфліктах)", які вызначаў парадак абвяшчэння і правядзення забастовак. Тады прафсаюз работнікаў адукацыі на чале з Чобатавай Тамарай Іосіфаваўнай хацелі абвясціць забастоўку настаўнікаў. Зразумела, акцыя была звязана з зарплатай. Працэдура яе пачынала раскручвацца пры камісіі па пытаннях цэн, а ўрад якраз прадстаўляў Казулін. Тады ён быў маладзейшы, не такі мажны, але быў відны дзеяч.У спамянутай камісіі быў прыняты законапраект аб індэксацыі заробкаў у сувязі з галапіруючай інфляцыяй. Усё тады хутка мянялася, грошы абясцэньваліся. Вярхоўны Савет стаяў у цэнтры працоўных канфліктаў. Яго завальвалі спрэчкамі, скаргамі, якія, праўда, насілі асабісты характар. Скаргі ішлі праз праз аддзел пісьмаў сакратарыята ВС, які тады ўзначальваў Красуцкі. Уласна ён загадваў аддзелам па працы з пісьмамі насельніцтва.

У апазіцыі актыўна працавалі ўсе яе сябры, хаця я б не сказаў на ўзроўні яе лідэра, Зянона Пазняка. Поплеч з ім былі каардынатары, сярод якіх вылучаліся В. Голубеў, А. Трусаў, С. Навумчык і інш. Я б не сказаў, што яны былі нейкімі набліжанымі асобамі да яго, але для сябе я называў іх з жартам "палітбюро". Проста яны былі больш актыўнымі з усіх, займалі кіруючыя пасады ў БНФ і, вельмі істотна, усе былі з Мінску. Гэта быў актыў БНФ, перадавая частка апазіцыі яго ў ВС.

Спачатку многія інагароднія дэпутаты жылі ў гатэлі "Мінск". Потым тых, хто хацеў, перасялілі на Старавіленскую вуліцу у гатэль "Беларусь". Справа ў тым, што тагачасны гатэль "Мінск" знаходзіўся на рамонце- у адной яго частцы, якая выходзіла ў бок Чырвонага касцёла, заканчвалася рэканструкцыя. Таму ён не быў утульным. Усё у ім трэслася, а паколькі ў ім яшчэ была і дрэнная гукаізаляцыя, то усё было выдатна чуваць. Я, напрыклад, заўсёды чуў вухам першы ранішні цягнік метро і ягоны стук не даваў спаць уначы. Замкі ў дзвярах гатэля лязгалі нібыта буферы ў вагонах цягніка. Гэты гук стаяў ва усіх калідорах. У нумарах гатэля не было ніякіх прыхожых, г. зн. толькі адны дзверы аддзялялі цябе ад агульнага калідора. Хаця ў калідорах і былі пакладзены дарожкі, якія неяк заглушалі крокі, але галасы на калідорах былі добра чуваць. А што тычыцца гатэля "Беларусь," то ў гэтых адносінах у ім усё было наадварот значна лепей. Ва ўсякім разе там было ціха. Гатэль "Кастрычнік" з'явіўся жытлом дэпутатаў ужо потым недзе ў канцы 1991 ці напачатку 1992 г., калі мы ўжо дажы-

валі свой апошні дэпутацкі тэрмін, асабліва тыя з нас, хто ўпарта не хацеў з'язджаць з гатэля "Мінск" з-за блізкасці яго да ВС. Канешне, тыя дэпутаты, якія пражывалі ў гатэлях вымушавана, былі звычайнымі людзьмі. Яны, як і ўсе, пасля працы збіраліся на таварысцкія сустрэчы, канешне, выпівалі з калегамі. Узнікалі розныя інцындэнты, якія плямілі дэпутацкі мундзір.

Тады дэпутаты толькі што знаёміліся і кожны глядзеў на калегу - хто ён такі, каго і што ён прадстаўляе. Такі існаваў не каставы, не цэхавы падыход. Каля мікрафона бывалі выступленні неабдуманыя, што потым запаміналася на многія гады. На падобных людзей да канца кадэнцыі глядзелі іранічна і не ўспрымалі усур'ёз. Былі і такія дэпутаты, якія ў першыя дні працы ВС знаходзіліся яшчэ ў эйфарыі перадвыбарчай барацьбы, якія выбіраліся і перамаглі на паўторных выбарах, якія толькі што выйшлі з выбарчай кампаніі і якія прыносілі гэты запал на сесіі ВС. Яны нават не ўваходзілі ў апазіцыю, але па тэмпераменту выступленняў здавалася, што менавіта адтуль і ёсць.

Канешне, такія асобы адрозніваліся ад дэпутатаў кшталту Ігара Гермянчука. Ён выдзяляўся па сваёй дзейнасці рэдактара газеты "Свабода", па выступленнях у ВС пры абмеркаванні розных законапраектаў. Ён быў актыўным у спрэчках. Ён мог выступіць крытычна, мог сказаць непрыемнасці пра нейкага дэпутата. Але гэта было па сутнасці. За гэта яго пабайваліся, апрача таго, што не вельмі імкнуліся трапіць у яго газету. У жыцці Герменчук быў вясёлы, дружалюбны чалавек, камунікабельны хлопец, аптыміст па натуры. Ён разумеў, што робіць не проста выданне газеты, а важную справу. Тады падобнае рабілася невялікай, абмежаванай колькасцю людзей. У газетах вялікіх штатаў не было, таму Ігар даражыў фактам. На ім што называецца вісела ўсё-і выданне, і распаўсюджванне і гэтая бясконцая сумяціца. Таму ён заўсёды даражыў сваім часам і працаваў на знос. На падзеі, якія разгарнуліся напачатку 1995 г. вакол яго газеты, мне здаецца, ён ужо прывык глядзець як на нешта звычайнае, бо на газеты нападалі часта за тыя ці іншыя публіцкацыі. Тады газет было болей, а "Свабода" сярод іх была нешта накшталт маяка ці флагмана. Мы з Ігарам Герменчуком сябралі і я, здаралася, пастаўляў яму зусім не адкрытыя матэрыялы.

Над ВС некалькі разоў павісаў Дамоклаў меч яго роспуску. Першы раз гэта зрабіла апазіцыя ўвесну 1992 г., калі ўзнікла ініцыятыва пра датэрміновы роспуск ВС і было сабрана ці не 440 і больш тысяч подпісаў у падтрымку. Усе патрабаванні заканадаўства пры гэтым былі вытрыманыя, усё было афармлена як мае быць і дас-

таўлена ў камісію ВС па выбарах і тагачаснага сакратара гэтай камісіі Абрамовіча. Аляксандр Міхайлавіч сказаў з трыбуны ВС, што ўсе патрабаванні заканадаўства выкананы і згодна з дзеючымі нормамі права ВС застаецца адзіным абавязкам прызначыць дату рэферэндума па гэтаму пытанню. Тады меркавалі - калі праводзіць гэты рэферэндум, можа быць увосень. Гэта моцна напалохала большасць ВС, у тым ліку і спадара Шушкевіча. ВС сваю дзейнасць неяк прыгарнуў, саслаўшыся на лета і потым доўга не збіраўся. У яго працы узнік разрыў. Хаця мінула ўсяго 2.5 гадоў дзейнасці ВС, аднак было бачна, што ў гэтым ВС большасці дэпутатаў не месца, што іх могуць перавыбраць і што прапорцыі ў ім апынуцца на карысць дэмакратычна настроеных дэпутатаў. Аднак пытанне пра роспуск ВС было завалена, замарывана. Адным з актыўных праціўнікаў рэферэндума выступіў нябошчык Дз. Булахаў. У той жа пазіцыі і блізкімі да яе аказаліся і многія дэпутаты з апазіцыі. Яны пры гэтым меркавалі проста - ці змогуць яны самі пры новых выбарах патрапіць у ВС ці не. Яшчэ невядома, як бы праводзіліся тыя новыя выбары і той рэферэндум, але цяжка ўявіць сабе, што тады ў ВС былі б абраны дэпутаты, з якіх большасць была б блізкай да платформы БНФ ці поглядаў яго апазіцыі. Мне здаецца, што было зроблена ўсё, каб тая большасць, якая гуртавалася вакол урада і Кебіча, і якая кантралявала фарміраванне і дзейнасць выбарчых камісій, не дапусціла такога адназначнага выбару і перспектывы змены курса.

Затым З. Пазняк 11 красавіка 1995 г. абвінаваціў дэпутатаў ВС у бяздзейнасці і марнасці 5-гадовай працы. Ён вінаваціў большасць ВС, якая дала краіне прэзідэнта і якога мы маем ужо 12 год, бо тады ВС займаў негатыўную пазіцыю адносна нацыянальнага адраджэння, умацавання дзяржаўнасці і суверэнітэта краіны. Пазняк звяртаўся да іх са словамі "спадары наменклатурныя дэпутаты" і гэтым многа сказана. Пра галадоўку апазіцыі я не ведаў, бо тады хварэў. Рашэнне аб ёй прынімалася напярэдадні, дзесці 10-га красавіка, мабыць на кватэры С. Антончыка, дзе думалі, як не дапусціць да прэзідэнцкага рэферэндума, як гэтаму процідзейнічаць. Выбралі галадоўку, як крайні сродак. Я прыйшоў на яе не адразу, а ўжо тады, калі яна пачалася.

З улікам Сямдзянавай, галадавалі 20 чал. Гэта быў касцяк апазіцыі ў ВС, дэпутаты, якія прайшлі свой шлях да канца. Некаторыя дэпутаты і раней выходзілі з апазіцыі па розных меркаваннях. Можа, яны сябе лічылі нейкімі лідэрамі, хаця ў апазіцыі фактычна быў адзін нязменны лідэр. Некаторыя мае сябры з гэтага ядра апазіцыі ўваходзілі ў фракцыю БСДГР, але не хацелі браць удзел у

галадоўцы. Для мяне жа ўсё было зразумела з гэтым рэферэндумам і не трэба было тлумачыць яго падаплёку, каб раздумваць - удзельнічаць у галадоўцы ці не. Я уяўляў сабе, што пасля рэферэндума можа пачацца адкат. Бо ў 1994 г. было яшчэ незразумела і думалася, што раптам А. Лукашэнка будзе трымацца законападстаўных прыярытэтаў. А потым ён стаў дзейнічаць сілай і заўсёды напралом. Ён прымушаў гэта рабіць тых, хто ў ягоным акружэнні ў тыя часы яшчэ думаў пра законнасць і пра адказнасць, якіх ён потым аддаліў ад сябе, а то і проста павыганяў. Этапамі гэтага сталі галадоўка дэпутатаў у 1995 г., забастоўкі работнікаў мінскага метрапалітэна (якую Лукашэнка душыў таксама сілай) і разгон Цэнтрвыбаркама перад рэферэндумам увосень 1996 г. Было ясна, што ён не спыніцца ні перад чым. У яго акружэнні галоўным стала не гэтыя рудыменты законнасці і адказнасці, а неразважаючая адданасць і сляпое выкананне ягоных загадаў. Галадоўка таму стала справай гонару.

Галадоўка пасля гэтага прывяла дэпутацкую большасць да сумяцiцы, да разгубленасці. У выніку прапановы прэзідэнцкага рэферэндума адразу не прайшлі і толькі на наступны дзень, разагнаўшы галадаючую апазіцыю у ВС, літаральна працягнулі рашэнне пра правядзенне рэферэндума.

У ВС пасля галадоўкі мы прайшлі без асаблівых перашкод, бо ў нас заставаліся дэпутацкія пасведчанні. Перад будынскам ВС стаяла проста ўзмоцненая ахова і дадатковыя пасты са службы бяспекі прэзідэнта. Нам вярнулі рэчы, у тым ліку і мой фотаапарат. Абстаноўка ў залі ВС была напружаная, нервовая.

Лукашэнку пасля абрання на пасаду прэзідэнтам увогуле не быў патрэбны ВС. У маі 1995 г. у ВС не было абрана патрэбнай колькасці дэпутатаў для таго, каб ён быў правамоцны, і калі б на той момант не існавала ўвогуле ВС, які захоўваў свае паўнамоцтвы, тады б узнікла сітуацыя, калі прэзідэнт мог рабіць усё, што хацеў. Выбары не адбыліся поўнасцю, дэпутатаў усіх не абралі, у тым ліку і апазіцыю. Прэзідэнту можна было абвясціць сябе нечым, надзяліць сябе нейкімі нечуванымі паўнамоцтвамі. Але мы пакінулі ВС 9 студзеня 1996 г. у той дзень, калі пачалася першая сесія ВС 13-га склікання і пасля таго, як значная частка дэпутатаў-195 з 260- была даабраная восенню, у лістападзе 1995 г.

Я добра памятаю, як у запале выбараў у ВС прыходзілі дэпутаты і крычалі нам -"Уйдіце". Але такім дэпутат Сафронаў сказаў: -"Шаноўныя новаабраныя дэпутаты. Вы не разумееце, што ваш новы ВС будзе існаваць тут да той пары, пакуль тут будуць сядзець вось гэтыя дэпутаты (старога ВС), якія захоўваюць яго

легітымнасць". Пра гэта мог расказаць і М. Грыб. Ён мог правесці сесію ВС і тых дэпутатаў, якія яшчэ не склалі сваіх паўнамоцтваў. Але іх не хапала, каб правесці сесію і каб яна была правамоцнай. Пад пэўным ціскам частка дэпутатаў не прыехала і сесія так і не сабралася. ВС потым фармальна існаваў і праводзіліся пасяджэнні яго прэзідыума, але яго ўсё роўна пачалі душыць, пазбаўляць транспарта, забаранілі плаціць заробак, які, пасля спынення кадэнцый, мы спаганялі судом праз судовых выканаўцаў. Тады яшчэ былі такія суды, дзе маглі судзіцца некалькі дзесяткаў дэпутатаў ВС, якія працавалі ў ім на прафесійнай або пастаяннай аснове. Спаганялі мы праз суд Маскоўскага раёна менавіта тыя грошы, якія нам перасталі плаціць пасля мая 1995 г. А заробак дэпутата тады складаў недзе каля 180 даляраў з улікам транспарта, прадуктаў, розных паслуг. Пасля дэфолту 1998 г. усе прапорцыі змяніліся істотна, аднак усё гэта непараўнальна менш таго, што атрымліваюць сёняшнія "палатачнікі".

Я удзельнічаў у майскіх выбарах 1995 г. у той жа самай акрузе, якая мела ужо № 2. Адтуль быў ужо абраны дырэктар саўгаса Дылеўскі Мікалай. Я заняў апошняе 4 месца сярод кандыдатаў. Тады ўсе дэпутаты, якія ўваходзілі у апазіцыю ВС, так сказаць глыбока праляцелі на выбарах, таму што тады вельмі істотным фактарам контрпрапаганды ў выбарчай барацьбе быў тэзіс -"мы іх выбіралі ужо, а што яны нам далі ? Мы іх выбіралі, а стала горш." Гэта быў вынік доўгаспланаванай кампаніі, а па-другое, нельга двойчы ўвайсці ў адну і тую ж раку. У 1995 г. настроі грамадства былі зусім іншыя, чым у 1990 г. Я думаю, што калі б выбары ў 1995 г. праводзіліся не ў весну, а ў увосень, калі кандыдаты ішлі адным патокам дэмакратаў, а не толькі спісам БНФ, тады, калі ў людзей былі вялікія надзеі на змены і спадзяванні, што дэмакратыя нешта прынясе, то ўсё было б інакш. Але з восені гэтыя настроі сталі іншымі. Актыўнасць выбаршчыкаў стала іншай. Да выбараў ужо не было такой цікавасці. Гэта заўважалася і на сходах. Многія людзі казалі нам-"вас не выберуць". Асабіста я разумеў што няма на што разлічваць, асабліва калі ты выбіраешся па той самай акрузе і супраць цябе дзейнічае як аўтамат формула -"вы яго выбіралі раней, а што ён вам даў? Грошай не даў, лепшага жыцця не даў і г.д.". Тым не меней, у новы ВС 13 склікання, па маіх падліках на падставе надрукаваных спісаў, прайшло недзе калі 18-19 дэпутатаў ВС 13 склікання. Яны, так сказаць, праскочылі- і той жа М. Грыб, і В. Ганчар, і А. Лябедзька. Сярод іх былі кандыдаты, якія прадстаўлялі розныя дэмакратычныя партыі.

# Зданевіч Лявонцій

*Нягнуткасць загубіла БНФ*

Я трапіў у ВС 12 склікання шляхам перамогі на выбарах 1990 года, пры чым удзел у выбарах я прымаў толькі з другога этапа вылучэння кандыдатаў. Вылучаў мяне інстытут "Белпраект", у якім я працаваў архітэктарам. На першым этапе выбары не далі выніку і наш кандыдат - Папруга Уладзімір, якога вылучаў інстытут "Белпраект" і якога падтрымліваў я, сышоў з дыстанцыі. Маім галоўным сапернікам быў член бюро ЦК КПБ, старшыня прафсаюзаў Уладзімір Ганчарык. Гэта былі апошнія выбары у Мінску, таму што неабходная колькасць дэпутатаў ужо была абрана і на другі дзень пасля выбараў ужо была прызначана першая сесія ВС. Таму адміністрацыйны рэсурс з боку ўладаў быў выкарыстаны на ўсю моц. Але толькі дзве участковыя камісіі зрабілі яўную фальсіфікацыю, таму мне ўдалося перамагчы у другім туры.

Я быў удзельнікам пасяджэння у Доме кіно пры стварэнні фракцыі БНФ у ВС. Выбар мой быў просты і безумоўны: ён грунтаваўся на падставе палітычных перакананняў і у першую чаргу зыходзіў з незалежніцкіх пазіцый.

Пасля функцыянальнага разгортвання працы фракцыі у ВС я займаўся у ёй пытаннямі заканадаўства аб уласнасці, у першую чаргу - уласнасці на зямлю, заканадаўствам аб наступствах Чарнобыля і палітычнымі пытаннямі, у тым ліку мясцовай улады і г.д. Іншыя фракцыі, канешне, былі, але яны мяняліся з цягам часу. Самая вялікая - і фактычна фракцыя большасці - гэта было аб'яднанне камуністаў. Больш трапна яе можна б назваць фракцыяй Саўміна, якая паглынала усіх чыноўнікаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў і тых "незалежных", якія прагнулі кар'еры. Іншыя фракцыі і групы (пра Дэмклуб я скажу асобна) не паказвалі ніякай самастойнасці, падпарадкоўваліся большасці і існавалі намінальна.

"Дэмакратычны клуб", на мой погляд, утварыўся па двух падставах. Першае: не ўсе дэпутаты дэмакратычных поглядаў хацелі і маглі стаць пад сцягі радыкальнай арганізацыі, - менавіта такі імідж прапаганда стварыла вакол БНФ. Другое: некаторыя амбіцыёзныя асобы шукалі магчымасць заявіць аб сабе і не жадалі падпарадкоўвацца непасрэдна Зянону Пазняку. Дэмклуб у крытычныя моманты не паказваў сябе як нейкую мэтанакіраваную арганізацыю, дзякуючы хістанням амбіцыёзных лідэраў, накшталт В. Ганчара і інш.

Фактычна да фракцыі БНФ далучалася з праявай пэўнай свабоды паводзін яшчэ каля 25 чал. Фракцыя Фронту у ВС вылучалася арганізаванасцю, актыўнасцю, працаздольнасцю, але, на жаль, малой колькасцю. Безумоўна, яе кіраўнік - Зянон Пазняк - неардынарны чалавек, з вялікімі арганізацыйнымі здольнасцямі, але, на мой погляд, не дастаткова гнуткі і кампрамісны.

Сярод маіх калег па-сапраўднаму сяброўскія сімпатыі я адчуваў да зараз ужо зышоўшага Ігара Герменчука. Гэта быў сімпатычны, глыбока прыстойны, з пачуццём гумара, мужчынскай годнасці, з паняццем гонару чалавек. Ён мог кантактаваць з апанентамі, хаця мы, многія з апазіцыі ВС, не ўмелі гэтага рабіць, і нягледзячы на тое, што ён, як рэдактар газеты "Свабода", бічаваў гэтых людзей. Праціўнікі яго паважалі, бо ён нікога не перакрэсліваў, нават самага закасцянелага і кансерватыўнага камуніста-дэпутата. Ён паджартоўваў і падсмейваўся над артадоксамі. Гэта быў жывы, дынамічны і адкрыты чалавек. Я часта маляваў карыкатуры у яго газету і зносіўся з ім з вялікім задавальненнем. Мяне захапляла яго працаздольнасць, якую ён захаваў да апошніх сваіх дзён. Мае адносіны да Ігара абумовіла і тое, што пасля звароту яго жонкі, я разам са скульптарам К. Селіханавым зрабіў яму помнік на Маскоўскіх могілках.

Пасяджэнні фракцыі былі амаль штодзённыя пасля пленарных пасяджэнняў. Былі таксама тэрміновыя, перад пасяджэннямі, у перапынках і г.д. у залежнасці ад сітуацыі.

Сярод заканапраектаў, падрыхтаваных апазіцыяй, і якія падтрымала большасць дэпутатаў, магу узгадаць Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце, прынятую толькі дзякуючы крытычнай знешняй сітуацыі. Тым не менш, мы аказвалі безумоўны уплыў на якасць і палітычную накіраванасць амаль усіх галоўных законапраектаў, якія фактычна рыхтаваў урад. Да сваёй працы мы прыцягвалі па эканамічных пытаннях Анатоля Станкевіча, Леаніда Злотнікава, па вайсковых - Міколу Статкевіча, па зямельных і сялянскіх - сп. Ярмоленку, з юрыстаў па мясцоваму самакіраванню - Сяргея Лейшунова і інш.

Магу сказаць, што на ВС не быў прыняты наш вариант закона аб уласнасці на зямлю і аб сялянска-фермерскай гаспадарцы. У ВС многія дэпутаты мелі дыпломы аграрыяў, але не ўсе яны былі гатовы да стварэння адпаведнага закона. Я, як архітэктар, не горш за іх разумеў, што значыць рацыянальнае выкарыстанне зямлі. Бо размова пра зямлю гэта не толькі размова пра калгасы і сельгасугоддзі. Аграрнае жа лоббі ў ВС імкнулася ўсё закумуфляваць і пад шумок пра клопат аб стабільнасці вырашыць галоўную палітычную задачу улады. Яны маніпуліравалі калгасамі як прыкрыццём. Я патрабаваў павысіць налог на зямлю, каб даць рэальную сілу мясцовай уладзе, патрабаваў пакончыць з практыкай, калі права ўласнасці на зямлю переходзіла разам з набыццём любога хлеўчыка. Прайшло больш 10 год і новая ўлада практычна выкарыстоўвае мае прапановы толькі на карысць сябе, а не жыхароў правінцыі. Я распрацаваў канцэпцыю аб прыватызацыі зямлі, якая ўлічвала нашу беларускую спецыфіку. Такіх праектаў было многа. Іх не ўдалося рэалізаваць, бо нас, сяброў апазіцыі, у ВС было няшмат, па-другое, грамадства тады не ўспрымала тую ж прыватызацыю і рэформу калгасаў. Тады ваўсю хадзілі страшылкі пра "развал" па тыпу літоўцаў. Нас папракалі за запазычванні ад іх, хаця ў выніку сёння відаць, што літоўцы сталі экспартаваць сваю прадукцыю ў Еўропу. Тым не менш, аграрнае лоббі ў ВС гатова было здаць усё што загодна, але толькі пры умове, калі б з'явілася нейкая сіла, якая б загадала ім зрабіць гэта і паказала б ім іх уласнае месца ў гэтым працэсе. Калі б ім далі каманду рэфармаваць калгасы, распусціць іх, то сярод іх не аказалася б нікога, хто б сур'ёзна выступіў у абарону або супраць, бо гэтыя людзі з большасці рэдка адважваліся мець сваю думку.

Сёння я не магу і не хачу казаць пра большасць дэпутатаў ВС штосьці кепскае. Гэтыя людзі уяўлялі сабой люстэрка нашага грамадства.

Я помню атмасферу у зале ВС у момант, калі Сяргей Антончык у снежні 1994 года рабіў свой даклад аб карупцыі ў камандзе маладого прэзідента. Сам прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сядзеў за трыбуной, схапіўшыся за галаву і са слязьмі на вачах. Ён сапраўды плакаў, відаць таму, што усё успрымаў сур'ёзна і баяўся згубіць толькі што заваяваную ўладу. Тады ён рабіў стаўку на старую наменклатуру, з якой гуляў у сваю гульню, але рэальна не змагаўся з ёй. Але ж факты ў дакладзе С. Антончыка былі рэальнасцю аб наяўнасці карупцыі ў атачэнні А. Лукашенкі. Можа таму, будучы на чале антыкарупцыйнай камісіі, сам Лукашенка нічога не раскрыў. Калі яму тады давалі нейкую інфармацыю пра гэта,

то ён яе скарыстаў у далейшым як кампрамат. Аднак ён нікога не вывеў на чыстую ваду, не прыцягнуў да адказнасці, акрамя сваіх палітычных апанентаў, якія пацярпелі па зусім смешных прычынах, альбо без іх наяўнасці, накшталт таго ж Станіслава Шушкевіча.

У канцы тэрміна сваіх паўнамоцтваў большасць ВС знаходзілася ў нервовым стане і мітусне, бо не ўсе мелі прыкладную прафесію, на якой можна было б зарабляць кусок хлеба при любой уладзе. У сваёй большасці гэта былі чыноўнікі або людзі каля іх, а таму былі вельмі залежныя. Многія за час работы у ВС страцілі свае пасады і на іх месцы прыйшлі іншыя кіраўнікі. Любая спроба кіраўніка дзяржаўнага прадпрыемства,( а значная частка дэпутатаў належыла да гэтай катэгорыі), заявіць аб сваёй пазіцыі вынікала тым, што яго пазбаўлялі пасады. Гэта залежнасць пераўтварала іх у халопаў. Яны пачыналі мітусіцца. Улада з імі заігрывала з тымі ж кватэрамі ў Мінску, дзе самыя мясцовыя жыхары гадамі душыліся ў чэргах за імі. Большасць дэпутатаў у гэты момант задумалася, як быць далей. Яны былі ва ўладзе, але яны хацелі ў ёй і застацца, хаця многім з іх А. Лукашенка не быў сімпатычны. Аднак Лукашенка ўжо змяніў свой статус і гэта прымусіла іх перасесці ў яго ўладныя структуры. Рэальна ўлада была ў руках уже аднаго чалавека, які яе замацоўваў, а яны раптам адчулі, што ўжо мала самі могуць паўплываць на гэты працэс. Я не віню гэтых людзей. Гэта наша бяда, бяда маладога грамадства, не жадаўшага стварыць сістэму незалежных структур улады і дэмакратычныя традыцыі.

У 1992 годзе, з мэтай разварушыць і падштурхнуць большасць дэпутатаў, апазіцыя ў ВС прыняла рашэнне правесці рэферендум аб даверы ВС. Але рэферендуму не далі адбыцца, хаця і былі сабраны неабходныя подпісы. Верагодна, што ВС не хацеў сам сябе ўтапіць. Апазіцыя ж была ў меньшасці і распараджалася фактычна двумя дзесяткамі галасоў. Большасць ніколі не ішла ў нас на павадку. Проста нам удавалася маніпуліраваць гэтай большасцю пры спрыяльных знешніх абставінах. Прынамсі, так была прынята Дэкларацыя аб незалежнасці. Аднак гэта жа не вечны рэсурс. Валянцін Голубеў, напрыклад, аднойчы правёў эксперымент. Ён ад першага мікрафона заклікаў зал галасаваць супраць таго, што нам у апазіцыі хацелася на самой справе. Гэта не анекдот, але мы атрымалі жаданы вынік у сілу негатыўнага рашэння напалову спаўшых ветэранаў. Яны думалі: ага, раз апазіцыя гэта прапаноўвае, значыцьтрэба галасаваць наадварот. Выпадковага ў ВС нічога не здаралася, акрамя, хіба што, падобных кур'ёзных сітуацый. Па ўсіх сур'ёзных пытаннях большасць праводзіла напярэдадні прынцы-

повых галасаванняў падрыхтоўку - сходы, пасяджэнні. Ім давалі чоткія ўказанні як галасаваць. Калі прапановы паступалі з прэзідыума ці профільнай камісіі, то большасць звычайна следавала ў іх фарватары і галасавала "за".

Дастаткова ўспомніць як прынімаўся закон аб прэзідэнце. Тады Кебіч спрабаваў змяніць Канстытуцыю і патрабавалася прыцягнуць 2/3 галасоў. У ВС было праведзена каля 10 галасаванняў. Я быў сярод тых, хто спрабаваў зрываць фальсіфікацыі на гэтых галасаваннях. Проста я станавіўся за спінамі галасаваўшых і назіраў, калі адзін дэпутат націскаў некалькі кнопак. Калі я заўважаў такое, то тут жа пачынаў крычаць і хапаў вінаватага за руку, як плута. Шчыра кажучы, мне гэта не прыносіла ніякага задавальнення. Нам такім шляхам удавалася зрываць подобныя маніпуляцыі. Вось тады Кебіч і правёў галасаванне "бегунком", г. зн. шляхам збору подпісаў па розным дэпутатцкім месцам. Аднак тым самым ён жа сам сябе і "закапаў".

Антыкамунізм фракцыі БНФ не быў ні адыёзны, ні агалцелы. У нашу фракцыю уступалі быўшыя камуністы, якія былі прафесіяналамі ў сваёй канкрэтнай справе. Таму антыкамунізм не быў нашым сцягам. Іншая справа, што нашы кіраўнікі і лідэры не ўмелі весці сябе дастаткова гнутка. З дэпутатамі можна і трэба было працаваць больш гнутка і канструктыўна. З Мечыславам Грыбам і Вечаславам Кебічам можна было супрацоўнічаць, хаця з першым гэта рабілася, тады як з апошнім не выходзіла. М. Грыб зрабіў памылку і для мяне перастаў існаваць як сур'ёзны палітык, калі пад час нашага пратэсту супраць парушэння Канстытуцыі - я маю на увазе галадоўку апазіцыі ВС 11-12 красавіка - ён не павёў сябе выразна і ў рэшце рэшт спрыяў прыняццю пытанняў рэферэндуму, прапанаваным прэзідэнтам Лукашэнка. Бо чым адрозніваецца палітык ад радавога грамадзяніна ? А тым, што палітык можа ахвяраваць асабістымі і кар'ернымі інтарэсамі. Палітык, які не здольны на падобныя ахвяры, незаслужана займае месца. Бяда нашага грамадства ў тым, што лізаблюдства, залежнасць, боязь перавешваюць праявы прыстойнасці і аб'ектыўную ацэнку таго, што вакол адбываецца.

Усё, што ВС 12 склікання да гэтага моманту прыняў адносна сімволікі, мовы, было ненадзейна і трымалася на зыбкай глебе. Большасць жа дэпутатаў рэальна не мела выразных пазіцый.

Памятаю, незадоўга да прызначэння прэзідэнцкіх выбараў, В. Кебіч асабіста запрасіў мяне ў свой кабінет, дзе у прыватнай размове фактычна прапанаваў шукаць кампрамісы з апазіцыяй. Гэта выглядала шчыра. Думаю, што ён ведаў значна больш, чым я, ці

іншыя пра перспектыву. Я тэрмінова перадаў інфармацыю Пазняку, які, на мой погляд, адрэгаваў на яе не адэкватна: ён проста адмахнуўся, маўляў, адчуваюць канец і г.д.

Калі напачатку красавіка прагучалі прапановы пра часовы роспуск ВС на канікулы на час выбараў, то вакол гэтага пачаўся сапраўдны торг, хаця ў той момант закрыццё пасяджэнняў яго не было лепшым сродкам для захавання дэмакратычных працэсаў. Было адчуванне, што многія дэпутаты трымаюцца за свае крэслы, хаця гэты ВС сябе ўжо вычарпаў. Тым не менш, ён яшчэ уяўляў пагрозу для А. Лукашэнкі нават у такім выглядзе, бо сярод дэпутатаў знаходзіліся яго палітычныя праціўнікі. Ён добра ведаў псіхалогію гэтага ВС і спрабаваў з яго дэпутатамі працаваць метадам перніка і кнута.

У памяці сцёрліся дакладнасці пра абмеркаванне прэзідэнцкай ініцыятывы аб рэферэндуме 1995 г. Спачатку было два пытанні, потым іх стала чатыры. Праекты сімвалаў з'явіліся звонку, а не у камісіях ВС і не ад геральдычнай камісіі. Хутчэй за усё яны паходзілі ад нейкіх хаўруснікаў прэзідэнта. Я быў адзін з тых, хто прымаў рашэнне ад тэрмінах і сродках пратэсту. Альтэрнатывы галадоўцы практычна не было.

Наступіў момант, калі сам ВС быў дыскрэдытаваны. Ён дажываў свой апошні тэрмін. Апазіцыя пасля паражэння на прэзідэнцкіх выбарах перажывала не лепшыя часы. Мы пяклі як пірагі рознага роду заявы, публікавалі іх, але эфекта ад падобнага было мала. Ніякія іншыя заявы ужо не маглі паўплываць на сітуацыю. "Вуліца" дапамагчы ужо не магла. Дэмакратычная прэса у той час была дэзарыентавана цалкам прысутнасцю ў камандзе будучага дыктатара "прыгожых хлопчыкаў": Ганчара, Булахава, Лябедзькі. Фядута, Шарамет і шмат іншых "стратэгаў" гулялі кожны у сваю гульню. Трэба было нешта рабіць, каб ацвярозіць большасць, падкрэсліць небяспеку працэса знішчэння парасткаў дэмакратыі. Мы не апелявалі да народа, а звярталіся да саміх депутатаў.

Пытанне пра галадоўку намі абмяркоўвалася на працягу аднаго-двух тыдняў. Калі мы аб'явілі яе, то значная частка залы абуралася, але потым быццам бы задумалася. Перамовы з Грыбам у гэты перыяд вёў З. Пазняк.

Мы не маніпуліравалі галадоўкай, мы сапраўды пад яе час нічога не елі, а толькі пілі мінеральную ваду. Мы былі гатовы да любой правакацыі, але фактычна не маглі нічога процівапаставіць ёй. К прыкладу, калі кагосці з нас сфатаграфавалі з узнятай і перакуленай бутэлькай. Затым гэты здымак быў пададзены як факт таго, што, вось, маўляў, галадаючыя пьюць гарэлку. Саму акцыю гала-

доўкі 11 красавіка, здаецца, здымалі на дзве камеры. Здымкі вяліся зверху, з балкона у Авальнай зале ВС.

Угаворваць нас заходзіў Міхаіл Цесавец і яшчэ адзін, каротка падстрыжаны. Міну шукалі салдаты. Перад хапуном была нейкая інфармацыя. Мы таксама бачылі і чулі, што робіцца ў фае. Перад хапуном мы селі ў прэзідыум шчыльна, плячом у плячо. Вайскоўцы у залу урываліся адусюль з крыкам, тупатам, у чорных масках, з дубінкамі і з крыкам ускоквалі нагамі прама на сталы.

Я асабіста не аказваў фізічнага супраціву. Нас хапалі, цягнулі і білі па спіне, проста штурхалі. У фае стаяў вялізны натоўп узброеных у масках і са шчытамі ваенных. З кім я ехаў, ужо не памятаю. Выходзілі мы каля будынку ВС, потым падаліся ў гатэль у нумары нашых дэпутатаў.

Вярталіся мы на пасяджэнне раніцой і пешшу. Да будынку ВС нас ад гатэля суправаджала каля сотні чалавек. Гэта былі тыя нямногія выбаршчыкі, якія адслежвалі палітычную сітуацыю, ведалі яе і перажывалі за нас. Міліцыя, напэўна АМАП, спыніла людзей каля гарвыканкама і вельмі груба скінула іх уніз, пад калоны у бок вакзала. Жанчын скідвалі з прыступак пад іх страшны крык.

Мы, дэпутаты, прайшлі праз плошчу і трапілі у будынак Дома ўраду праз уваход у Саўмін. Там быў невялікі натоўп. Нас спынілі і не пускалі на пасяджэнне. Мы прадставілі ахове дэпутацкія пасведчанні, гаварылі ім, што парушаюцца нашыя правы. Сярод аховы адбылася нейкая замінка і яна праявіла нерашучасць. Добра памятаю, што Валянцін Голубеў першым не вытрымаў і з крыкам націснуў на міліцыянта. Я і некалькі дэпутатаў праціснуліся сілай наперад.

Далей у вестыбюле і фае нас ужо ніхто не чапаў. У залі мы селі не на свае нумарныя месцы, а ў сектар урада. Памятаю жахлівую атмасферу настрою ў асяроддзі так званай большасці. Быццам згвалтавалі не нас, а іх…

Працягваць галадоўку не было сэнсу, таму што яна фактычна была спынена сілай. Яна была адрасавана калегам і па-за межамі ВС ніякага эфекту у тых умовах мецць не магла.

Пасля гэтага я непасрэдна ніколі не балатаваўся на выбарах, хаця дапамагаў у выбарах у ВС 13 склікання Юрасю Беленькаму.

На выбарах у маі 1995 г. БНФ пацярпеў паразу. Я б назваў некалькі прычын гэтага. Па-першае, сказаўся уплыў апантанай негатыўнай прапаганды у адрас БНФ і прадстаўнікоў дэмакратычных сіл. Па-другое, яна стала вынікам негнуткасці кіраўніцтва Фронта, невыкарыстання тонкіх піараўскіх і папулісцкіх сродкаў,

без чаго немагчыма дабіцца поспеху у палітыцы. Адсутнасць гібкай стратэгіі і папулізма згубіла БНФ. Трэццяя прычына не менш важная. Калі нейкая палітычная структура не дабіваецца мэтаў, тады на пэўным этапе гэта азначае неабходнасць змены лідераў. У нас жа адныя і тыя ж лідэры, якія не дабіваліся вынікаў, па-ранейшаму заставаліся ў руля. Людзі ж, якія працавалі на агульную справу на месцах, якія асабліва на перыферыі ахвяравалі сабой, сем'ямі і працай, вось яны 15 год не бачылі вынікаў сваёй дзейнасці. Гэта ненармальна, гэтага не павінна быць.

На працягу некалькі гадоў я удзельнічаў у працы ценявога кабінета ўрада пры БНФ. Наш ценявы кабінет, напрыклад, сядзеў і распрацоўваў закон пра нетры тады, калі іншыя думалі, як захапіць уладу. Я часта выступаў з крытыкай такой стратэгіі, хаця ўжо не меў ніякіх планаў балатавацца на любых выбарах навогул.

# Крыжаноўскі Мікалай

*Мы змагаліся за парламенцкую Беларусь*

Той Вярхоўны Савет 12 склікання, канешне, быў далёка не ідэальны ВС, але тым не менш ён для таго часу быў абраны на адносна дэмакратычных выбарах. Тады у 1990 годзе я працаваў у Жодзіне начальнікам канструктарскага бюро знакамітага Беларускага аўтамабільнага завода. Я ішоў кандыдатам у дэпутаты у ліку 7 прэтэндэнтаў, сярод якіх быў і сакратар парткама завода. Я адчуваў ціск райкама КПБ непасрэдна на працы. Яны, тым не меней, не перашкодзілі трапіць у ВС шмат дэпутатам дэмакратычнай арыентацыі, якімі аказаліся перш за ўсё сябры БНФ - Зянон Пазняк, Лявон Баршчэўскі, Валянцін Голубеў, Юрась Беленькі, Аляксандр Шут, Алег Трусаў і інш.

Яшчэ да таго, як пачаліся рэгулярныя пасяджэнні ВС, мы зразумелі, што тым, хто стаіць на нацыянальна-беларускіх пазіцыях, трэба аб'ядноўвацца і рыхтавацца да першых сесій. Мы утварылі так званую "Дэмакратычную плынь". Ужо ў пачатку красавіка 1990 г. мы пачалі збірацца на першым паверсе Дома урада, здаецца разы 2 ці 3 на тыдзень. Нас было тады чалавек 15.

У складзе апазіцыі Вярхоўнага Савета 12 склікання я апынуўся сярод сваіх аднадумцаў. У нас, у фракцыі БНФ у ВС, не было іерархіі лычак, зорачак на пагонах, не было дзялення на радавых і элітных. Наша фракцыя у ВС гуртавалася з людзей, якія вельмі ясна, мэтанакіравана і дакладна уяўлялі сваю мэту, бачылі сваю адказнасць, якія прыйшлі на працу у вышэйшы заканадаўчы орган не дзеля меркантыльных інтарэсаў, а дзеля таго, каб скарыстаць магчымасці дэпутата і закласці падмурак сваёй дзяржавы. Усе сябры былі людзьмі адданымі ідэі беларускай дзяржаўнасці і нацыянальнай самаідэнтыфікацыі.

Сярод 360 дэпутатаў тагачаснага ВС, канешне, не магло быць нават двух падобных дэпутатаў. Дэпутаты апазіцыі БНФ адрозні-

валіся ад іншых калег менавіта сваёй мэтанакіраванасцю, дакладным бачаннем свайго прызначэння, абавязкаў і функцый. Акрамя таго, гэта былі высокаадукаваныя людзі і сярод іх не было выпадковых ці шэрых асоб. Вазьміце, к прыкладу, самога Зянона Пазьняка. Кандыдат навук, археолаг, гісторык. Мастацтвазнаўца,хаця і не гэта галоўнае. Галоўнае у ім ад Бога - гэта бачанне перспектывы. Я неяк напісаў быў да яго 60-годдзя артыкул, на жаль не надрукаваны Язэпам Сярэдзічам, у якім гаварыў, што ў нас на Беларусі тры пракрокі. Прарок паэт - гэта Я.Купала, прарок пісьменнік - гэта В. Быкаў, прарок палітык - гэта, несумненна, З. Пазьняк. Тое, як Пазьняк разбіраецца ў палітыцы, гэта даецца толькі ад Бога. Ён бачыў усё інтуітыўна, бо ў яго з дзяцінства закладзена любоў да Бацькаўшчыны і неабходнасць бараніць яе. Ён і сёння гэта бачыць і пакутуе менавіта з-за гэтага.

Вядома, што Пазьняк - чалавек цвёрды у сваіх перакананнях і мэтах. Ён добра ведае, чаго ён хоча. Ён хоча, каб Беларусь была, жыла, квітнела, развівалася са сваёй культурай, эканомікай і мовай. У гэтым ён паслядоўны і ніякія іспыты не могуць спакусіць яго на нешта іншае, як самога Хрыста. Разам з тым ён чулы і мяккі, здольны папрасіць прабачэння за свае памылкі.

Сярод сяброў фракцыі БНФ былі моцныя эканамісты такія, як Юрась Беленькі, які працаваў начальнікам фінансава-эканамічнага аддзела на буйным прадпрыемстве. Я памятаю, як шмат разоў пасля яго выступаў і тлумачэнняў дэпутаты-камуністы казалі у яго адрас - вось вам гатовы міністр фінансаў. У гэтай плеядзе можна назваць Уладзіміра Заблоцкага, добрага арганізатара і знаўца вытворчасці, архітэктара Лявонція Зданевіча, які ведаў будаўнічую вытворчасць, доктара Аляксандра Шута, гісторыкаў Валянціна Голубева, Алега Трусава, мовазнаўцу, літаратуразнаўцу, перакладчыка Лявона Баршчэўскага. Быў сярод нас цудоўны чалавек, цалкам адданы Беларусі, журналіст ад Бога, рэдактар газеты "Свабода" Ігар Герменчук. Працы ён аддаваў сябе цалкам. Ён рэдагаваў газету, якой зараз няма. Спалучэнне таленту і самаахвярнасці рабіла яго газету карыснай і патрэбнай людзям. Гэта была лепшая беларуская газета таго часу.

Амаль усе мы ад апазіцыі уваходзілі у канстытуцыйную камісію ВС. Мы добра усведамлялі, што такім шляхам можна паўплываць на стварэнне галоўнага падмурка нашай дзяржаўнасці. Мы уваходзілі ў адну рабочую групу, бо тады у ВС ішлі палкія спрэчкі наконт таго, хто павінен пісаць Канстытуцыю краіны так сказаць з чыстага ліста. Дзямянцей тады прапанаваў стварыць дзве рабочыя групы. Мы у апазіцыі лічылі, што Беларусь павінна быць пар-

ламенцкай рэспублікай. У прыклад мы бралі Германію, якая перажыла Гітлера, фашызм, якая была парламенцкай краінай, дзе усё вырашае парламент (бундэстаг), які большасцю галасоў назаначае канцлера па выніках парламенцкіх выбараў. На ВС тады прапанавалі адну групу узначаліць Шаладонаву, які потым стаў генеральным пракурорам і які быў чалавекам з камуністычнымі схільнасцямі. Другую групу узначаліў Віктар Ганчар, які тады прыйшоў у ВС пры падтрымцы БНФ. Напачатку ён супрацоўнічаў з намі у апазіцыі, ад нас не адмаўляўся і не цураўся, аднак хутка заявіў сябе незалежным дэпутатам, незалежным ні ад каго. Мы працавалі ў групе Ганчара. Трэба аддаць яму належнае. Ён у той час быў кандыдатам навук, меў сярод юрыстаў знаёмствы і сувязі. Ён прыцягнуў да працы у канстытуцыйнай камісіі вядомых юрыстаў накшталт Я. Юхо, доктара юрыдычных навук, Міхася Пастухова і цэлы шэраг высокакваліфікаваных юрыстаў. Я удзельнічаў у гэтай канстытуцыйнай групе у якасці эксперта па эканамічных пытаннях. Мы распрацавалі нармальную Канстытуцыю, якая стала падмуркам незалежнасці сучаснай Беларускай дзяржавы.

Апазіцыя БНФ у ВС мела самае непасрэднае дачыненне да з'яўлення Дэкларацыі незалежнасці Беларусі. Гэты канстытуцыйны акт можна назваць цалкам ініцыятывай апазіцыі і перш за ўсё яе лідэра, З. Пазняка. З яе нетраў таксама выйшлі такія законапраекты, як закон аб інвестыцыях, аб антыманапольнай дзейнасці, аб фермерстве, аб адукацыі, аб зямлі. Праўда, апошні так і не прынялі у прапанаванай рэдакцыі, хаця у ім прадугледжваліся розныя формы уласнасці. Больш за ўсіх займаўся гэтым праектам і уклаў душу у гэты закон Л. Зданевіч. Словам, многія прагрэсіўныя палажэнні, якія прымаліся ВС у якасці законаў, паходзілі ад апазіцыі БНФ.

Я ніякага заробку у ВС не атрымліваў, бо з 1992 г. працаваў загадчыкам аддзела кантрольнай палаты РБ, дзе і атрымліваў грошы. Палата назначалася Вярхоўным Саветам і таму ВС мог кантраляваць уласна прынятыя законы, бюджэт краіны і яго выкананне. Палата падпарадкоўвалася не прэзідыуму, а самому ВС, а таму у сваёй дзейнасці не магла бегчы ні за антыкарупцыйнымі дакладамі, ні за антыкарупцыйнымі камісіямі. Кантрольная палата была вачыма і вушамі ВС адносна выкарыстання дзяржаўных сродкаў і маёмасці. Яна тады уваходзіла у міжнародныя структуры тыпу Інтэрсае і Еўрасае. Я працаваў у ёй загадчыкам аддзела інвестыцый да самога моманту закрыцця палаты у 1996 г. Наступ на яе пачаўся тады, калі Ганчар і іншыя абвінавацілі упраўленне

справамі прэзідэнта у незаконным выкарыстанні дзяржаўных сродкаў і калі кантрольная палата пачала правяраць, куды і на што расходуюцца гэтыя сродкі кіраўніцтвам справамі прэзідэнта.

Было нас,сяброў апазіцыі 26 чалавек дэпутатаў ВС. Амаль кожны дзень мы выходзілі да людзей, што збіраліся на плошчы Незалежнасці. Наш зварот непасрэдна да народа на плошчы аказваў вялікі уплыў на камуністычную большасць у ВС. Яны так палохаліся, што самі ж прагаласавалі за забарону сваёй кампартыі. Пазьняк і іншыя члены апазіцыі так намалявалі ім перспектыву, што яны самі забаранілі саміх сябе. Момант быў выбраны удала і калі яны апамяталіся, то ўбачылі, што нарабілі, але было ужо позна. Па ініцыятыве Пазьняка у 1992 годзе было сабрана больш 400 тыс. подпісаў пад рэферэндумам за правядзенне датэміновых выбараў у ВС па змешанай мажырытарна-прапарцыянальнай сістэме. Калі б гэта тады адбылося, то, нельга сумнявацца, што удалося б выбраць нармальны парламент. Але на шляху сталі сілы, якія потым прывялі да ўлады Лукашэнку. Яны зразумелі, што ім лягчэй кіраваць адным чалавекам, бо калі, скажам, палова дэпутатаў прыдзе на сесію п'яная у дым або звар'яцее зусім, то астатняя палова не дазволіць прыняць нешта антыдзяржаўнае, антыбеларускае. Таму гэтыя сілы палічылі сваёй мэтай паставіць у прэзідэнты свайго чалавека, каб ён ліквідаваў парламент, каб ён разбурыў парламентарызм на Беларусі, каб ён падпарадкаваў сабе ўсю уладу.

Пасля выбараў Лукашэнка прэзідэнтам краіны усе сябры апазіцыі на чале з Зянонам Пазняком сталі заўважаць, што рукамі прэзідэнта пачынаецца наступ на усё беларускае і на галоўныя прыкметы беларускай дзяржаўнасці, перш за ўсё на мову, дзяржаўныя сімвалы і нашу будучыню. Мы спрабавалі рабіць, што маглі, каб спыніць гэта, каб уздзейнічаць перш за ўсё на камуністычную большасць у ВС. Мы выкарысталі усе магчымасці парламентарыяў, але бачылі, што нашыя намаганні марныя. Памятаю, я прапанаваў у ВС індэксіраваць крэдыты, узятыя ва умовах інфляцыі, бо прыватызацыя тады праводзілася якраз ва умовах штучна створанай інфляцыі і шмат каму прыносіла карысць. Трэба было бачыць, які вэрхал узняўся у ВС. Толькі дэпутаты ад апазіцыі падтрымалі маю прапанову, а камуністычная большасць прагаласавала супраць яе, бо яны былі задзейнічаны у нейкіх прыватных меркантыльных інтарэсах. Разам з Лукашэнка да ўлады прыйшла горстка людзей таксама з мэтай пажывіцца, нешта прысвоіць і распараджацца па уласнаму разуменню, напрыклад тымі ж будынкамі і маёмасцю ВС.

Калі на сесіі ВС у красавіку 1995 г. Лукашэнка ўнёс прапанову аб рэферэндуме па пытаннях, якія на рэферэндум не выносяцца, якія проста не дыскусійныя, а менавіта пытанні аб мове, дзяржаве, то было дзіўным тое, што ён сам толькі-толькі даў клятву - няхай і не на Біблії, а на Канстытуцыі - берагчы гэтую самую дзяржаву. А тут ён адразу уносіць гэтыя не дыскусійныя пытанні на рэферэндум. Мы у апазіцыі адразу убачылі ў гэтым рэферэндуме намаганне, накіраванае на знішчэнне нашай мовы, супраць развіцця яе першых парастакаў, на знішчэнне сімвалаў краіны. Думаю, што прэзідэнт рабіў так не здарма. Яму дапамаглі стаць прэзідэнтам расійскія спецслужбы. Яны паставілі перад ім умову, маўляў, мы дапаможам табе стаць прэзідэнтам, а ты паспрыяеш нам пераарыентаваць Беларусь ва Усходнім накірунку. Лукашэка як стаўленнік расійскіх спецслужбаў выконваў загад і дадзенае абяцанне перад тымі, хто вёў яго да перамогі. Ён выконваў паслугі гаспадароў, калі выносіў на рэферэндум тыя 4 пытанні.

І тады Зянон Пазняк выступіў на пасяджэнні ВС і красамоўна сказаў, як гэта можна выносіць на рэферэндум пытанне пра тое, павінна быць беларуская мова ці не ? Зразумела, што калі увесці двухмоў'е, тады беларускай мове будзе канец. А калі яна будзе прызнана адна у якасці дзяржаўнай, тады застанецца надзея, што усё будзе як трэба. Або пытанне пра сімвалы. Хто зараз ведае, што сённяшні сцяг у 50-я гады намаляваў экспромтам пасрэдны мастак ? Бела-чырвона-белы сцяг - гэта наш спрадвечны сцяг. Той жа праваслаўны расійскі уладыка Алексій другі на свае пропаведзі выходзіць з бела-чырвона-белай стужкай, таму што гэта хрысціянскія колеры. Тое ж пытанне пра інтэграцыю з Расіяй звязана з колішнім СССР, з кааперацыяй гаспадарчых сувязей і паставак. Мне асабіста добра гэта вядома па сваім заводзе, калі, скажам, метал на яго вязлі з Расіі і Украіны, а нам заставалася толькі 40 % стружкі. Трэба было паступова займацца структурнай перабудовай эканомікі, каб наша беларуская прадукцыя была прыстасавана да мясцовых рэсурсаў і сыравіны.

Тады Пазняк 11 красавіка з трыбуны ВС сказаў, што прэзідэнт прымусова навязвае нашаму грамадству рэферэндум па не дыскусійных пытаннях, што мы вычарпалі ўсе магчымасці і ў нас няма іншага выйсця, акрамя галадоўкі. Хто са мной гатовы пайсці на гэту крайнюю меру - пайшлі. Мы аб'яўляем галадоўку тут, у гэты час, у гэтай зале. І сеў на прыступку каля трыбуны. Мы пайшлі і селі побач з ім. Гэта узнікла спантанна. Нікога не трэба было пераконваць ці угаворваць у правільнасці такога крока. Мы былі гатовыя на усё, каб не дапусціць гэты ганебны рэферэндум, таму

што бачылі яго наступствы, якія відавочна праявіліся зараз.

Зала ВС сустрэла нашу акцыю доўгім маўчаннем, спакойна і без крыкаў. Прысутныя дэпутаты не разумелі, што адбываецца. Для іх было нечакана, як гэта іх калегі будуць галадаць прама у залі пасяджэнняў. Яны спрабавалі працягваць працу як быццам бы нічога не здарылася. Як толькі мы абвясцілі галадоўку, так невядома што паўплывала на астатніх дэпутатаў, нават на камуністаў. Бог іх ведае, можа яны нам спачувалі, а можа і шкадавалі, можа намі і захапляліся, калі убачылі нашу самахвяраванасць, вялікую апантанасць, упартасць і нашу рашучасць пайсці на крайнюю меру з пагрозай уласнаму здароў'ю. Хаця навідавоку было, што прэзідэнт настойліва прэ і прэ, аднак усе лукашэнкаўскія пытанні ў той дзень былі правалены. ВС не падтрымаў Лукашэнку, хаця пытанне пра рэферэндум неаднарозова выносілася на паўторнае галасаванне. Я не сумняваюся, што наш учынак уразіў прысутных дэпутатаў настолькі, што яны завалілі усе прапановы Лукашэнкі і не падтрымалі ніводную з іх, нягледзячы на усе намаганні прэзідэнта і яго хаурусьнікаў, такіх як А. Лябедзька, У. Булахаў. Вынесенае на галасаванне ВС пытанне пра рэферэндум нам удалося сарваць, бо у той дзень ВС адразу не удалося набраць неабходнай колькасці галасоў дэпутутаў.

Мы не звярталіся загадзя да кіраўніцтва ВС аб медыцынскай дапамозе. Можа пра гэта і была гаворка паміж кімсьці, але галадоўка была ужо абвешчана і пра наступствы яе мы не думалі у тым сэнсе, як мы будзем з яе выходзіць, хто нам дапаможа. Мы бачылі, што пачалі сваю акцыю не марна, не дарэмна, бо першы ж дзень даў свой плён. І тады Лукашэнка і яго хаўруснікі, якія усё адсочвалі, якія яго кансультавалі, зразумелі, што пакуль у сценах ВС будзе ісці галадоўка, у іх нічога не атрымаецца. Таму з Масквы была дадзена каманда любым шляхам грубай сілай выкінуць галадоўшчыкаў. Адпаведных спроб яны зрабілі шмат.

Я сядзеў на прыступках каля трыбуны побач з З. Пазьняком. Карэспандэнтаў сярод нас я не помятаю. Тады можна было патэлефанаваць сябрам, дахаты. У зале было не надта халодна. У мяне была куртачка з капюшонам, у якой я потым памясціўся у крэсла спаць. Я званіў дадому жонцы, сказаў ёй каб не хвалявалася, бо я вымушаны затрымацца. Яна мяне зразумела і падтрымала.

Пасля 18 гадзін да нас пачалі хадзіць усякія парламенцёры на перамовы. Не памятаю у якой паслядоўнасці, але прыходзілі асобы менавіта з аховы прэзідэнта. Адтуль да нас заглядваў кіраўнік аховы са стрыжанымі хлопцамі ў скураных куртках. Яны спраба-

валі нам нешта растлумачыць, казалі, што зала замініравана і яе трэба пакінуць. Мы адказвалі ім, што можаце не хваляваацца, калі будынак узляціць у паветра, то разам з намі, што мы можам даць распіску у тым, што не баімся і тут застаемся, мы здымаем з іх такую адказнасць. Словам, не хвалюйцеся.

Потым, гадзін у 12 начы, заходзілі па вайсковаму апранутыя мінёры шукаць міну. Яны хадзілі па зале можа з паўгадзіны, але нічога не знайшлі. Хутчэй за ўсё яны рабілі фармальны агляд, бо ведалі, што ніякай міны няма. Потым яны гаварылі нам, што ужо позна і залу трэба ачысціць і зачыніць. Мы ім адказалі, што мы тут не якія-небудзь пабочныя асобы, а народныя дэпутаты і галадаем на рабочым месцы. Яны гаварылі нам, што мы вас выведзем сілай і нават спрабавалі цягнуць некаторых нас за рукаў. Мы адказвалі ім - не маеце права. Не забывайце, што за гэта вы будзеце несці не проста дысцыплінарную, а крымінальную адказнасць. І так цягнулася гадзін да 2 начы. Мы добра разумелі, што гэтыя пасланцы сядзяць на беларускіх пасадах, аднак з'яўляюцца выканаўцамі чужой знешняй волі.

Сон браў сваё і каля 2 гадзін начы мы задрамалі дзе хто прымасціўся, ці то прама на падлозе, ці ў крэслах. Дзяжурства нейкага мы не устанаўлівалі. Раптоўна скрозь сон я пачуў крык Голубева - "уставайце, уставайце". Ён пачаў усіх нас будзіць. Мы хуценька усталі са сваіх месцаў. Тут раптоўна загарэлася святло і я убачыў, што па усёй авальнай зале і наверсе стаяць узброеныя ваенныя людзі. Яны стаялі шчыльна адзін каля аданаго на праходах і там, дзе заканчваюцца дэпутацкія месцы. Хтосьці з іх, здаецца гэта быў той жа Каралёў, нас яшчэ раз папярэдзіў, каб мы пакінулі залу, бо інакш яны прыменяць сілу. Мы паспелі ім адказаць: маўляў, мы адсюль добраахвотна не пойдзем. Відаць, яны хацелі пахапаць нас соннымі. Мы паселі у крэслы на месцы прэзідыума і учапіліся за рукі.

У гэты момант на нас накінуліся "гарылы" - людзі у чорных масках з проразямі для вачэй. Кінуліся яны адразу з усіх дзвярэй. На кожнага з нас наляцела прыкладна па 3-4 чал. Яны былі без зброі, але, відаць, добра натрэніраванымі хлопцамі. Як толькі яны падскочылі да мяне, так двое адразу вывернулі мае рукі назад, а адзін пачаў біць мяне па спіне ззаду. Затым мяне вырвалі з месца і павалаклі тварам уніз. Я паспеў убачыць валтузню вакол Пазьняка, якому спрабавалі выдавіць вочы. Я чуў як яны раўлі. Аднаму з іх І. Герменчук, зараз нябошчык, паспеў сарваць маску. А там жа камеры здымалі. Нападаючы закрыў твар, кінуў ахвяру і уцёк. Вось малайчына Ігар, я нават не дадумаўся да гэтага. Так

яны моцна хапанулі мяне за рукі і білі, што потым у мяне выявілася кіста на нырцы.

Здымаўшыя камеры я добра бачыў. Было іх 2 ці 3, а адна здаецца была стацыянарная наверсе. Пачалі яны здымаць гадзін з 18, як толькі закончылася пасяджэнне ВС. Яны здымалі бесперапынна увесь вечар, і я не памылюся, калі скажу, што знялі усё, што бачылі. Яны хадзілі і здымалі да той пары, пакуль мы не выключылі святло і не палеглі адпачываць.

Нападаўшыя выводзілі мяне за трыбуну у дзверы направа, у вузкі двор. Я заўважыў, што уздоўж стаялі шчыльна узброеныя міліцыянты. Я кажу ім - "хлопцы, чаму Вы моўчкі глядзіце"? Яны не рэагавалі. Затым мяне як тое бервяно ўкінулі у міліцэйскі "газік" з металічнай падлогай. Я не разбіў галаву, бо паспеў закрыць галаву рукамі. Доўга нас па Мінску не вазілі, а выкінулі недзе ў раёне вул. Казлова. Праз некалькі гадзін мы сабраліся ў гасцініцы Кастрычніцкай. Некалькі чалавек пайшлі ў пракуратуру са сведчаннем аб збіцці дэпутатаў. Мы напісалі калектыўную заяву, па якой потым Язэп Бройлішс, следчы па асобых справах, павёў следства. Ён асабіста дапрасіў кожнага з нас, размаўляў падрабязна і доўга, затым накіраваў на медыцынскую экспертызу. У мяне да таго часу апухлі абедзьве лапаткі і доктар засведчыў пухліны недзе на сантыметр. Яны балелі потым тыдні 2. У Пазняка твар быў у сіняках. У А. Шута па дыяганалі на спіне віднеўся сіняк таўшчынёй з дубінку. У А. Трусава сінякі былі на нагах, бо яго нечага па нагах білі. Усё гэта было запратакаліравана.

На наступны дзень нас не пускалі на паседжанне ВС міліцыянты. я паказваў ім дэпутацкае пасведчанне і пытаўся, чаму мяне не пускаюць. Яны не пускалі нават Васіля Шаладонава. Памятаю, што І. Герменчук, тады рэдактар "Свабоды", памясціў у газеце здымак, на якім відаць, як В. Шаладонава не пускаюць у будынак ВС услед за мной. Ён суправадзіў здымак словамі - "А гэтага за што"?. Праўда, хвілін праз 10 ахоўнікі атрымалі нейкую каманду і прапусцілі нас. Мы прыйшлі у залу са спазненнем негаленыя, стомленыя і памятыя. Дэпутат і ўрач Шут паказваў прама на пасяджэнні ВС сваю спіну з пісагом ад пабояў. А з залы гучала - "Мала далі". Што можна было чакаць ад такога ВС, калі на наступны дзень амаль усе дэпутаты пайшлі на развітальны банкет піць гарэлку разам з прэзідэнтам. Усе, хто на яго хадзіў, затым атрымалі пасады.

Жадання працягваць галадоўку ужо не было. Ясна было, што раз нас выкінулі з залы ВС, то падобнае болей не дазволяць і зноў выкінуць. Аднак мы разлічвалі на рэзананс, на тое, што будзе уз-

буджана крымінальная справа і яна будзе даведзена да канца. Лукашэнка потым выступаў і казаў - "вот я вам покажу, как они там с женщинами выпивали и чем они там занимались, голодовщики эти". А няхай бы паказаў. Я не сумняваюсмя, што засталіся адпаведныя відэазапісы. Яны ёсць у ФСБ Расіі, відаць, дзеля таго, каб упраўляць Лукашэнкам, як толькі ён пачне іх не слухаць. Гэтыя службы гатовы паказаць усім запісы на тэлеканалах і сказаць тым самым яму - глядзі як ты здзекваўся з народнымі дэпутатамі. Лукашэнка несумненна кіраваў аперацыяй асабіста, таму што хтосьці з нашых хлопцаў бачыў у тую ноч у двары стаяць прэзідэнцкі "Мерседэс" у той час, калі мы клаліся спаць у зале ВС. Усе здымкі рабілі па загаду Лукашэнкі.

Пасля гэтага было ужо не да працы. На выбарах у маі 1995 г. новы Вярхоўны савет не быў сфарміраваны. На іх Лукашэнка стаў адпрацоўваць механізм фальсіфікацый выбараў на сваю карысць. Хіба можа нармальны чалавек галасаваць за тое, каб не ён сам выбіраў, а яму прысылалі зверху кіраўнікоў раёна, вобласці ? Выходзіць, што большасць людзей была супраць саміх сябе і сваіх уласных канстытуцыйных правоў. Апазіцыя на выбарах у маі не трапіла у ВС, але мы па-ранейшаму лічылі сябе дэпутатамі ВС і спрабавалі нешта рабіць. Я таксама удзельнічаў у лістападаўскіх выбарах 1995 года сярод 7 кандыдатаў, выйшаў у другі тур па Сухараўскай выбарчай акрузе г. Мінска, які не адбыўся з-за няяўкі выбаршчыкаў. Ніхто тады з апазіцыі таксама не прайшоў у ВС. Напрыклад, Ю. Беленькі ужо ў першым туры набраў больш за 70 % галасоў, але яго потым што называецца зарубілі, словам, зрабілі усё, каб ён толькі не прайшоў. З. Пазьняк у Смаргоні таксама набраў каля 60 % галасоў, але яго не прапусцілі. Уласна па загаду Лукашэнка ніхто з дэпутатаў ад БНФ не быў абраны у 1995 г. у ВС. Механізм фальсіфікацыі выбараў пачаў дзейнічаць з гэтых выбараў і сваю "эфектыўнасць" ён даказвае і зараз.

У гэтым працэсе разбурэння парламентарызму вялікую шкоду прынеслі кіраўнікі ВС С. Шушкевіч і М. Грыб. Шушкевіч вельмі любіў слова "згода", а ў выніку ужывання гэтым выразам і сам паляцеў з пасады спікера і нічога карыснага не зрабіў. Па той жа Канстытуцыі ён мог паставіць сваіх людзей і ў пракуратуры, і у сілавых структурах, і у КДБ, і арміі, і МУС і усё гэта павярнуць на карысць умацавання дзяржаўнасці. Ён гэтага не зрабіў, бо імкнуўся служыць і "нашым і вашым". М. Грыб таксама заняў беспрынцыпную пазіцыю, калі стаў зусім відавочны курс А. Лукашэнкі на парушэнне балансу галінаў улады, на ліквідацыю парламента, калі прэзідэнт адкрыта клікаў грамадзян байкатаваць парламенцкія

выбары. Розныя сходы і нарады, арганізаваныя Грыбам вакол квот і кворума, аб зменах у выбарчым заканадаўстве ужо не маглі паўплываць на сітуацыю і на парламент. Парламенты ва усіх краінах свету існуюць дзякуючы выбарам і ніхто не мае права апрача парламента ствараць законы. У нас жа ўсё наадварот - прэзідэнт піша указы, дакрэты на узроўні закона і вядзе апрабацыю іх у такой якасці, а потым яго кішэнны парламент надае ім статус законаў.

Лукашэнка, як толькі стаў у 1994 годзе прэзідэнтам, так адразу павёў наступ на ВС для таго, каб умацаваць асабістую уладу. Ён не хацеў дзяліцца ні з кім сваімі паўнамоцтвамі. Ён разумеў, што калі парламент будзе самастойны, то ён створыць такія законы, якія абмяжуюць прэзідэнта да пэўнай ступені і ролі. Са збіцця дэпутатаў дыктатура А. Лукашэнка пачала стала замацоўвацца ў Беларусі. У гэтым сутнасць падзей апошняга года існавання ВС 12-га склікання. Сёння відавочна, што ў нашай краіне не дзейнічае прынцып падзелу улады, бо ліквідаваны парламент са сваімі галоўнымі функцыямі. Няма і незалежных суддзяў. Такі вось вынік больш як дзесяці год існавання прэзідэнцкай формы праўлення ў нашай краіне.

# Аляксандр Лукашэнка

*Я мушу дэманстраваць уладу*

(Стэнаграма пасяджэння № 96 Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XII склікання (серада, 12 красавіка 1995 года). НАРБ. Ф. 968. Воп. 1. Спр. 3432)

Паважаныя дэпутаты! З'яўленне маё ў гэтай зале зусім не прыкмета нейкай слабасці (тым больш, што прэзідэнт заявіў пра тое, што, напэўна, мне не варта прыходзіць у Вярхоўны Савет), але, паверце, мой прыход сюды абсалютна не тычыцца ні асобы прэзідэнта, альбо ні асобы Лукашэнкі, ні пазіцыі прэзідэнта. Скажу вам шчыра (і думаю, што вы мяне выслухаеце моўчкі), я дзіўлюся, што людзі, якія павінны былі мяне тут паслухаць, сышлі з гэтай залы. Я вельмі шкадую. Вы, напэўна, таксама зразумелі, чаму ўчынены гэты акт. Я хацеў бы сказаць, што мой прыход сюды дыктуецца абсалютна тым, каб гэтыя два дні, якія належыць працаваць маім былым калегам, людзям, якія значна паўплывалі на характар мой як прэзідэнта, як палітыка... Можа, кепскі характар, значыць кепска вы ўплывалі тут. Я ўвесь час быў у вас навідавоку. Вы мяне бачылі. У нейкай ступені і вы мяне фармавалі. Я хачу, каб мы тут сапраўды па-чалавечы, годна развіталіся.

Я вельмі добра азнаёмлены з вашай дыскусіяй, я азнаёміўся са стэнаграмай. Мне дакладалі пра ход спрэчак. Штосьці я чуў сам (наколькі гэта было магчыма) у кабінеце. Дазвольце вам паведаміць выключна з пазіцыі прэзідэнта наконт інцыдэнту, які тут адбыўся. Можа быць, і драбнавата сёння мне ўлазіць у гэтае пытанне, але калі яно ўзнятае на такую вышыню, то ад гэтага нікуды не падзенешся. І я яшчэ раз падкрэсліваю. Я хачу, каб мы развіталіся з вамі не ворагамі. Бо тут засталіся людзі, з якімі нам няма чаго варагаваць. У нас адна краіна, у нас адна Айчына і жыць нам

тут. У нас няма даляраў, у нас няма другіх цёплых краін, куды мы з вамі можам паехаць, мы нарадзіліся на гэтай зямлі, і мы, наверное, тут і памром - адзін раней, другі пазней6. Я з гэтага найперш зыходжу і, паверце, шчыра вам пра гэта кажу.

Ведаў ці не ведаў прэзідэнт пра тое, што адбывалася тут, у маёй рэзідэнцыі, у рэзідэнцыі ўрада? Паважаныя дэпутаты! Ну, канечне ж, ведаў. Ну, што вы тут... збіваеце, што вы тут генерал-палкоўніка Кастэнку ставіце на трыбуну і як хлопчыка... Ну, я не маю на ўвазе, што тыя, хто тут застаўся... Я найперш звяртаюся да тых галадоўнікаў. Ну, канечне, ведаў прэзідэнт. Прэзідэнт ня проста ведаў. Прэзідэнт кожныя 30 хвілін быў інфармаваны кіраўніком дзяржавы і міністрам абароны пра тое, што адбываецца тут, у Доме ўрада. Таму я проста, шчыра адказваю на вашае пытанне. Ведаў! Больш за тое, падымалася пытанне - якая роля прэзідэнта ў абароне жыцця людзей, што тут галадуюць? Праўда, вы не хвалюйцеся. Ніхто тут не галадаваў. Усё тут было: і паспаць, і закусіць... Усё было. І ірваліся сюды, падносілі пакрысе (гэта так папросту, па-мужыцку кажучы). Усё тут было. Ніхто тут з голаду б не памёр. І калі ласка. Няхай бы тут і галадавалі. Насмяшылі людзей, зганьбілі парламент, заплямілі гэты Вярхоўны Савет, якому (яшчэ раз паўтараю) засталося два дні працаваць. Але гэта была пазіцыя… Гэтым людзям трэба было… Таму непасрэдная мая роля была ў абароне жыцця гэтых людзей.

Ну, вось давайце разбярэмся так. Я знаходжуся ў рэзідэнцыі сваёй загараднай, дзесьці каля ў раёне 21-й гадзіны (не даходзячы да 21-й гадзіны) мяне запрашаюць да тэлефона. Мне дакладаюць (па-мойму, вы мне пазванілі, Леанід Георгіевіч)... і праінфармавалі мяне пра тое, што паступіла паведамленне ў міліцыю наконт мініравання гэтага будынка і магчымага выбуху. Ну, я, як заўсёды, з гумарам паставіўся да гэтага і кажу: а дэпутаты, якія там, яны ёсць на месцы? Вы паверце, я не думаў пра тое, што там жыццю пагражаюць і іншае. Я адразу падумаў пра правакацыю, што, відаць, мяне штурхаюць да таго, каб я іх адсюль пачаў выводзіць. Гэта сутыкненне, гэта абавязкова "пабілі - не пабілі", камусьці там рабрыну зламалі ці яшчэ што... Гэта не галоўнае. Усё адно ў бойцы нешта здарыцца. Я адразу пра гэта падумаў, што відавочна мяне правакуюць на гэта. Я кажу: Леанід Георгіевіч, вы на месцы, разбярыцеся, калі ласка, я выклічу зараз праз Службу бяспекі свой транспарт і паспрабую туды прыехаць. Я аддаў каманду сваёй ахове, якая ўвесь час са мной, цэлыя суткі, для таго, каб транспарт прыбыў па прэзідэнта. Праз 5 хвілін - званок кіраўніка Адміністрацыі, паведамленне пра тое (і гэта думка была Міхаі-

ла Міхайлавіча Цесаўца - кіраўніка Службы бяспекі прэзідэнта), што яны забяспечыць ахову прэзідэнта, тым больш у гэты час і што такое паведамленне паступіла... Я не верыў у тое, што нейкі там можа адбыцца выбух, я думаў пра правакацыю, і проста патаемна думаў: а раптам?.. Але не верыў, таму прыняў рашэнне сюды паехаць. Але калі Леанід Георгіевіч разам з людзьмі, якім я даручыў знаходзіцца ўвесь час тут, пазваніў мне і сказаў: "Мы катэгарычна супраць таго, каб вы тут знаходзіліся. Служба бяспекі катэгарычна адмовілася захаваць бяспеку. Гэта яе права паводле палажэння…" Дарэчы, прывяду прыклад. Да нас нядаўна прыязджалі паважаная гэтымі людзьмі і навучала Службу бяспекі (маю службу) Служба Клінтана, якая яшчэ паводле абяцання Станіславу Станіслававічу Шушкевічу мелася прыехаць. Яны паставілі самую высокую адзнаку і паведамілі, што прэзідэнт вось у такіх экстрэмальных сітуацыях... прымае рашэнне. Калі прэзідэнту ахову не могуць гарантаваць, значыць, ён не мае права настойваць.

Збольшага карыстаюся і я такімі правіламі. І я ні на якіх "мерседэсах" сюды не ехаў. Навумчык (я чуў) кажа, што там сцяжок быў у чахле. Машына стаіць у двары. Ідзіце паглядзіце, як можна зачахліць сцяжок і навошта? Сцяжок мой (на маім аўтамабілі) здымаецца. Ён здымаецца, не зачахляецца. І як Навумчык, калі ён тут сядзеў, ён не мог а першай гадзіне начы выйсці... Наколькі я ведаю, выйсці ён не мог, таму што я распарадзіўся: глядзіце дэпутатаў, каб чаго-небудзь не здарылася. Няхай знаходзяцца ў межах гэтай залы. Яны проста фізічна не маглі кудысьці прайсці, выйсці і гэтак далей. І калі ўжо шчыра казаць, - дай Бог, каб яны выйшлі. Нам не трэба было тут з імі ваяваць, неяк іх выводзіць. Але яны нікуды не выходзілі. Паводле маёй інфармацыі (якую я атрымаў) яны ўчапіліся тут адзін за аднога і сядзелі, а потым заснулі. Таму гэта хлусня, што яны бачылі тут, як на "мерседэсе" прыехаў Лукашэнка, а другі "мерседэс" суправаджаў. Мяне другі "мерседэс" не суправаджае.

Я адразу падумаў пра правакацыю, я ўжо вам казаў. Але потым, калі мне Кастэнка зрабіў справаздачу, кажа, Аляксандр Рыгоравіч, усялякае можа быць, і не трэба скідваць з рахункаў і жыццё гэтых людзей. Бо калі штосьці адбудзецца, адказваць будзем мы, выканаўчая ўлада і вы на чале з ёй. І тады я папрасіў Цесаўца, які са мной таксама звязваўся кожныя 30 хвілін разам з Сініцыным, праінфармаваць Мечыслава Іванавіча Грыба наконт дэпутатаў выключна. Я не хацеў перакладаць на яго тое бярэмя, якое я мусіў выканаць у сувязі з гэтым канфліктам, гэта не ягоная справа, але паколькі ён у МУС і КДБ звярнуўся з лістом і запатраба-

ваў ад іх аховы гэтых людзей тут, я даручыў Цесаўцу ўвесь час інфармаваць спікера нашага парламента пра тое, што тут адбываецца. І як я зразумеў, мне было дакладзена, што двойчы адбылася такая размова з Мечыславам Іванавічам. І ён сёння на Савеце бяспекі пра гэта сказаў.

Апошні раз, калі яму было паведамлена пра тое, што адбываецца, задаў пытанне Цесаўцу наконт ягонай інфармацыі:

- Ці пагражае жыццю людзей сітуацыя?

- Так, пагражае!

- Тады дзейнічайце згодна з нормамі закона, паводле інструкцыі. Трэба людзей эвакуаваць.

Нават калі б Мечыслаў Іванавіч не пагадзіўся эвакуаваць адтуль людзей, яны былі б эвакуаваныя. Так патрабуюць нарматыўныя акты. За гэта людзі мусяць адказваць.

Паважаныя дэпутаты! Я абсалютна не перашкаджаў аніякім дзеянням МУС, спецпадраздзяленням, якія эвакуавалі адсюль людзей. Гэта я вам кажу як прэзідэнт. Ані. Адзінае, я прасіў: улічыце, нас правакуюць. Ні ў якім разе, нават не драпніце гэтага чалавека, паколькі будзе гвалту на ўвесь свет. І слушна кажа міністр абароны, што чатыры групы бегалі тут, у двары, журналістаў. Два журналісты былі затрыманыя, якія спрабавалі сюды трапіць. Патрэбная была гэтая заварушка, каб паказаць усяму свету - вось глядзіце, дыктатура ў цэнтры Еўропы. Гэта трэба была заваруха. Таму я патрабаваў толькі аднаго - не трэба, лепш няхай там будзе болей людзей, праводзьце іх спакойна і гэтак далей. То, як мне далажылі паводле вынікаў аперацыі, чарговы раз Міхаіл Міхайлавіч Цесавец зайшоў у гэтую залу, папярэдзіў іх (гэта было маё патрабаванне папярэдзіць іх, мо прыйдуць да розуму, выйдуць самі), за пяць хвілін да іх эвакуацыі папярэдзіў. Калі іх прыйшлі эвакуаваць, яны ўсе былі ўжо апранутыя. Іх праводзілі па тры чалавекі ў машыну... Я казаў: больш машын прыганіце. Уазікі, легкавыя машыны, адвязіце дахаты. Захацелі да Вярхоўнага Савета. Ну, да Вярхоўнага Савета іх завезлі. Тое, што іх не пусцілі ў Вярхоўны Савет, - паверце, я сёння толькі зранку пра гэта даведаўся. Але я не ведаю, навошта ўначы ў Вярхоўны Савет ірвацца? Навошта а 3-й гадзіне ночы ехаць у Вярхоўны Савет? Гэта ж рэжымная дзяржаўная ўстанова, за бяспеку якой адказваюць, як і за гэты будынак, выканаўчыя органы ўлады, і найперш прэзідэнт, паколькі ўсе гэтыя структуры падначаленыя мне - і МУС, і КДБ, і Мінабароны.

Мяне дакараюць за тое, што тут кагосьці пабілі, забілі і гэтак далей. Я хачу ў гэтай сувязі задаць адно пытанне ў гэтай зале... Усё адбывалася на вашых вачах. А хто даў права членам найвы-

шэйшага заканадаўчага органа парушаць парадак, усталяваны ў гэтым будынку? Я яшчэ раз падкрэсліваю. Мікалай Іванавіч Дзямянцей гэта ведае, гэта рэжымнае прадпрыемства (установа), якое ахоўваецца паводле спецыяльнага плана. Таксама як і Вярхоўны Савет. Я ж зацвердзіў сваім указам рэжым гэтага прадпрыемства, гэтай установы. Хто даў права? Хто даў права сюды гэтую жанчыну зацягнуць і схаваць пад крэсла Мечыслава Іванавіча Грыба і гэтымі мяхамі прыкрыць? (Гоман у зале.) І мяне дзівіць... ну, добра, яны дарослыя людзі, яны ведалі, на што яны ішлі. Ну, не атрымалася тая правакацыя, якая атрымалася ў 1990-м альбо 1991 годзе. Часы не тыя. Людзі проста страцілі арыенціры. Ну, не атрымалася. Кагосьці, можа, даруйце мне за гэты непрэзідэнцкі выраз, цісканулі дзесьці, выводзячы з гэтай... Чаго вы плачаце? Чаго вы прыйшлі тут, расплакаліся? Жанчына тая не плача, якую адсюль эвакуавалі, а яны плачуць. Пабілі, разбілі, паламалі... Ды ніхто нікога не біў, ніхто нікога не ламаў. Цяпер з бытавой касеты, якую тут адзнялі, мы пераганяем на БТК (альбо якая там касета), і мы пакажам не толькі дэпутатам. Як толькі гэтая перагонка будзе скончаная, мы пакажам гэта не толькі дэпутатам, мы пакажам усяму народу.

Але чаму я пачаў дзейнічаць тут больш жорстка і пагаджацца з прапановамі і міністра абароны ў абследаванні гэтага будынка, і Міхаіла Міхайлавіча Цесаўца? Калі мне Цесавец са слязьмі на вачох пазваніў каля 12-й гадзіны ночы і сказаў: Аляксандр Рыгоравіч, не атрымліваецца па-добраму, павымалі нажы, дасталі лёзы. Першае, кажуць, ускрываем вены, адразаем сабе галовы і вас павыразаем, крывёй заліем тут усё. Ну, выбачайце, такія пагрозы ў рэзідэнцыі прэзідэнта - гэта ўжо занадта. Апроч усяго таго, што гэта дэпутаты, гэта грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якім не дазволена парушаць парадак у рэзідэнцыі прэзідэнта. Прыйшлі сюды, адпрацавалі, суха, чыста, цёпла, прыбрана - калі ласка, пасля працы ідзіце дахаты адпачываць.

Таму мы пакажам народу гэтую стужку і не толькі гэту. Мы пакажам стужачку наконт мітынгу ў нядзелю, наконт гэтых улётак, пра якія я казаў, незаконнага мітынгу, калі вывелі людзей, не спытаўшы дазволу, сабраўшы іх ля Вярхоўнага Савета, і вы паслухаеце, што казалі гэтыя спадары. Вы паслухаеце. Гэты такі-сякі Вярхоўны Савет… Вы кажаце, што я заўсёды вас дакараю - п'яніцы такія-сякія... Я вам яшчэ раз кажу: не трэба тут агулам дакараць, што прэзідэнт на кагосьці тут казаў. Вы лепш паглядзіце на некаторых нават сёння. Я не кажу - гэта адзінкі тут. Але вы паглядзіце на іх. Ну чаму я павінен спакойна на гэта рэагаваць?

Вы што, калі-небудзь прэзідэнта бачылі ў гэтай зале... альбо будучы дэпутатам, п'яным? Я маю права патрабаваць парадку ў сваёй рэзідэнцыі, калі хочаце, у сваім доме. Ну, чаму вы пазбаўляеце мяне права? Я ж нікому рукі не заламаў, не вывеў і гэтак далей. А тое, што я крытыкую вось асобных - дык гэта ж так. Гэта ж так! Нават пры мне з мікрафонаў выступалі... Ну, няўжо вы не бачылі, няўжо прэса, якая вось праз парэнчы глядзела на гэтых дэпутатаў, і бачылі. Некаторыя дазваляюць сабе, седзячы ў гэтых крэслах, закусваць. Але гэта ж так! Гэта адзінкі, але яны ёсць. Чаму вы іх не асудзілі? Вось яно ўвесь час да гэтага і прыводзіла. А потым прэзідэнт вінаваты, што ён дыскрэдытуе Вярхоўны Савет. Ды не я вас дыскрэдытую. Дыскрэдытуюць 5-6 дэпутатаў, плюс гэтых 20. (Гоман у зале.)

Я пераканаўча прашу генеральнага пракурора ўзбудзіць крымінальную справу па гэтым пытанні і ў рамках крымінальнай справы разгледзець усе гэтыя дзеянні. І стужкі запытайце, службовых асоб дапытаць. Зрабіце ўсё, як належыць. Хоць бы адзін раз, Васіль Іванавіч, вазьміце вы і пакажыце, што вы - генеральны пракурор. Не трэба вам хістацца паміж гэтымі плынямі. Вы - генеральны пракурор, і дзейнічайце. Вы атрымаеце падтрымку не толькі ад Вярхоўнага Савета, але і ад прэзідэнта, прытым поўную падтрымку. І няхай гэта ў рамках крымінальнай справы ўсё пройдзе, як адна крымінальная справа вядомага барацьбіта з карупцыяй з Кіраўніцтвам справамі, якога нельга было ў суд зацягнуць. Крычаў: давайце ў суд, прыйшлі ў суд - яго няма.

Я перакананы, што ў рамках гэтай справы з усімі пытаннямі разбяруцца адпачатку, але тут публічна заяўляю, што прэзідэнт ведаў пра гэтую аперацыю і ратаваў гэтых людзей, якія галадуюць, таму што адказваў за іх жыццё.

Яшчэ два моманты літаральна, перш чым адказаць на вашыя пытанні, калі яны будуць. Паважаныя дэпутаты! Я яшчэ раз вам хачу паўтарыць тое, што сказаў нядаўна. Бо рэч не ў маім характары. Рэч у той сітуацыі, якая складваецца ў Рэспубліцы Беларусь. Ну, не магу я дапусціць, каб наш лапік зямлі палаў, як усе суседзі. Ну, не магу я дапусціць, каб былі гэтыя канфлікты. Бо тут жывуць нашы людзі, я ўжо вам казаў: і нам, і дзецям нашым тут жыць. Але вы бачыце, што адбываецца. Але ж вы бачыце! Я крыху больш ведаю фактуры. Я ведаю і тое, што, на жаль, пра гэта не магу сказаць. Не паспеў гэты інцыдэнт тут адбыцца, як асобныя замежныя пасольствы тут, службы, ну гэтак актыўна дамагаюцца пэўнай інфармацыі, робяць пэўныя заявы. Ну, зразумейце! Просты ланцуг, простая звязка з тым, што тут адбываецца… Але калі

мы суверэнная дзяржава, ну чаму мы павінны кленчыць... Мы не павінны ні перад Усходам кленчыць, ні перад Захадам, калі на тое. I не будзе гэтага пакланення. Будуць інтарэсы, нашы інтарэсы, нашай дзяржавы. I зыходзячы з гэтых рэалій будзе будавацца гэтая палітыка. Ну, што тут не так? А ўлада будзе. Без улады мы нічога не зробім. Я разумею, што не падабаецца жорсткая ўлада. I думаеце, мне вось выгодна, цікава праводзіць гэтыя жорсткія захады? Ды барані божа! Я не хацеў бы яшчэ адну такую ноч перажыць. Бо я ж бачыў гэтыя наступствы, бачыў гэтыя хітраспляценні, бачыў рухі, якія адбываюцца апроч гэтай залы і апроч гэтага інцыдэнту. Ну, бачыў жа іх! I мне гэтага не трэба, і вам тым болей. Таму мной не кіруе тут нейкае жаданне, ведаеце, усталяваць нейкую дыктатуру. Але я вам мушу заявіць, калі будзе пагроза жыццю хаця б аднаго грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, і прэзідэнт здольны і мусіць, абавязаны і можа зрабіць для таго, каб абараніць не толькі ягонае жыццё, але гонар і годнасць, я буду праводзіць самыя рашучыя дзеянні. Навошта ж мы прэзідэнцкую ўладу ўводзілі? Навошта мы абіралі прэзідэнта? Вы ж памятаеце, чым мы матывавалі гэты раздзел нашай Канстытуцыі. Што час скончаць гэты вэрхал, час скончаць. Так склалася, што мне давялося гэтую ношу несці. I я буду здзяйсняць тое, пра што вы калісь казалі. Я ж не супярэчу таму, што вы казалі, на што вы спадзяваліся. Улада ў Рэспубліцы Беларусь будзе. Як бы мяне тут ні тузалі ў сродках масавай інфармацыі, ні здзекаваліся з мяне, я яшчэ раз кажу: вы ўжо тое-сёе ведаеце, калі Генадзь Дзмітрыевіч на мяне крычаў: кажы. Цяпер казаць не трэба. Сродкі масавай інфармацыі напісалі пра аднаго чалавека. Але ўлічыце, гэты клубок пачаў размотвацца. Гэты азербайджанец распавядзе шмат і ўжо кажа. Што там адбываецца - гэта жах. Але няўжо я мушу глядзець, пакуль пачнуць яшчэ на тэлебачанні альбо людзей у пад'ездах дамоў расстрэльваць? Ды не мушу я! Я не проста павінен рабіць захады, калі хочаце. Я мушу дэманстраваць уладу. Я абавязаны, на тое гэта і ўлада. I як кіраўнік дзяржавы я гэта буду рабіць, як бы камусьці гэтага не хацелася.

Паважаныя калегі! Паважаныя дэпутаты! Ну, не гаманіце, калі ласка, можа быць, і не падабаецца. Вы потым абурыцеся. Я проста шчыра вам кажу пра гэта, паколькі я мушу вам пра гэта распавесці ў апошнія гэтыя дні.

Паважаныя калегі! Сёння нагнятаецца сітуацыя дзеля чаго? Яны ж цудоўна сышлі і разумеюць, што я ім больш не дазволю тут галадаваць. Такая галадоўка смеху вартая, нікому не патрэбная. I яна больш не будзе. Таму яны сышлі шукаць новае месца ў

Мінску. Калі ласка! Але ў дзяржаўных установах, ці то ва ўрадзе, ці то Вярхоўны Савет альбо іншыя галадовак і парушэння парадку не будзе. Для мяне будынак Вярхоўнага Савета - тое самае, што будынак гэтага ўрадавага будынку. Служба бяспекі, падначаленая прэзідэнту, яго ахоўвае, і не думаю, што вам прыемна будзе хадзіць па гэтым памяшканні, бачачы гэтыя твары, якія будуць там паказваць свае сінякі і распавядаць, як ім было цяжка. Я таксама вам абсалютна шчыра гэта заяўляю і пра гэта кажу. І перакананы, што большасць падтрымае гэта.

Сёння вас штурхалі на прыняцце рашэння: давайце тут вось гэтую залу, крывавую залу, пойдзем у іншую. Куды вы пойдзеце? Гэта працяг канфрантацыі, гэта вас уцягваюць, каб увесь Вярхоўны Савет уцягнуўся ў гэтую акцыю. Я вас не трымаю. Калі ласка! Куды вырашыце, туды ідзіце. Гэта вашае права. Я ж не буду перашкаджаць перасоўванню дэпутатаў па Мінску. Хочаце - ідзіце ў Вярхоўны Савет, але падумайце, перш чым пайсці. А тое вас тут асобныя праваслаўныя завядуць у такую дрыгву, што мы не хутка выйдзем, і дзеці нашы, можа быць, адтуль не выйдуць.

А інфармацыю наконт нядзелі, наконт гэтага… стужку, якая прыводзіцца ў адпаведнасць з тым, што мы павінны вам паказаць яе на тэлебачанні, мы вам яе пакажам. І генеральны пракурор, калі ён рызыкне ўзбудзіць крымінальную справу, наколькі я ведаю, вы гатовы ўзбудзіць. Узбудзілі? Дзякуй, Васіль Іванавіч. Мы перадамо ў пракуратуру, і там будуць разбірацца. А сёння, заўтра пастараемся паказаць вам яе па тэлебачанні.

І апошняе. Чыста чалавечы аспект. Я яшчэ раз кажу вам, шчыра ўжо кажу, каб не было інсінуацый гэтых і спекуляцый. Засталося два дні вам працаваць у гэтым калектыве. У мяне зусім іншае было... план заканчэння гэтай працы, зусім... Мы пазаўчора з Леанідам Георгіевічам абмеркавалі яго. Як нам дзейнічаць, як нам быць з дэпутатамі. Хоць тут і было неразуменне, непаразуменне, але большасць дэпутатаў - нармальныя, разважлівыя людзі. Таму мы з гэтага разліку ўсё ж прадумвалі ўсе варыянты ў сувязі з просьбамі Івана Міхайлавіча Бамбізы, па-людску развітацца для таго, каб вызначыць сапраўды, што Вярхоўны Савет, ён жа ўсё адно мусіць быць, нават калі вы паўгода не будзеце абірацца. А раптам якая бяда? А раптам надзвычайнае становішча? Бо без Вярхоўнага Савета мы канстытуцыйныя пытанні шмат якія не вырашым. Дык што вы думаеце, што прэзідэнт бы гэтак, ведаеце, вас кудысьці выкінуў і ніколі сюды не запрасіў? Ды я першым бы вас сюды запрасіў і сабраў. Такі быў план. Не разганяць, не выганяць. Ну, зразумейце вы, нарэшце! Ну што, праблема сёння прэзі-

дэнта, маючы сілу, закрыць гэтыя дзверы і не ўпусціць дэпутатаў? Вы думаеце, што там ужо моцна, ужо хтосьці кагосьці шкадаваў. Ды не гэта нам трэба. Вы - першы цывілізаваны парламент, які абраны. Я - першы прэзідэнт. Хіба гэтым мы павінны скончыць?

Прэса гэта падбухторвае, ідуць... Расіі перадалі сёння: Беларусь як ніколі блізкая да грамадзянскай вайны. Расійскае радыё перадае. Я даручыў цяпер Упраўленню інфармацыі і Камітэту дзяржбяспекі знайсці гэтага журналіста, які перадаваў гэтую інфармацыю. Я пра гэта вам кажу проста. Якая грамадзянская вайна? Чаму нагнятаецца сітуацыя? Я толькі што прыехаў з жывога эфіру. Па першым расійскім канале ішла размова з расійцамі, жывы эфір. Закідалі людзі пытаннямі. Што ў вас, кажуць, Аляксандр Рыгоравіч, адбываецца? Мы ж на вас глядзім, сапраўды, як на Беларусь, як на цэнтр гэтага яднання і прыцягнення гэтага славянскага свету. Што за грамадзянская вайна? Я кажу: пабойцеся Бога, браткі. Якая грамадзянская вайна? Удакладняю - сапраўды, перадаюць інфармацыю. Хто перадае? Тыя журналісты, якія тут знаходзяцца. (Гоман у зале.) Журналісты расійскага радыё. Я хачу вам заявіць: збірайцеся і з'язджайце неадкладна ў Маскву, неадкладна, пакуль мы не знайшлі вас, і смяяцца потым будзе позна. Вам ніхто не даў права распальваць тут жарсці. Так, так, Аляксандр... Ніхто не даў вам права. І не трэба нам тут нагнятаць гэту абстаноўку і сітуацыю. Хочаце працаваць - давайце разам працаваць на карысць гэтага народу, на карысць гэтай зямлі, на якой вы жывяце.

Таму, паважаныя дэпутаты, я пераканаўча вас прашу. Прашу толькі аднаго. Не трэба ўжо ніякіх законаў, нейкіх актаў нарматворчых. Я прашу вас ратыфікаваць дамову з Расійскай Федэрацыяй. Я прашу проста вас. Вы разумееце? Гэта не ПДВ. Мне сорамна сёння, я дакараю расійскі ўрад за нізкія тэмпы тых працэсаў, якія тычацца адзінай мытнай сістэмы, пра якую вы заўсёды тут казалі. Патрабавалі яе і ад Станіслава Станіслававіча, і Мечыслава Іванавіча. Мы заключылі гэтую дамову. Я ўвесь час - ужо не расійцы падштурхоўваюць да гэтага, а я - ураду кажу: ну чаму вы сёння сыходзіце ад вырашэння канкрэтных пытанняў, калі яны ўзнікаюць? Яны мне кажуць: дык вы ж не ратыфікавалі нават асноўную дамову. Я вас прашу: вярніцеся сёння, паколькі ў вас кворум сёння найкаласальнейшы, прагаласуйце гэтую дамову, яна патрэбна не толькі мне, яна рамкавая дамова. Усё астатняе, калі хопіць у вас сілаў, вярніцеся да канкрэтных дамоваў, я іх накіраваў вам у Вярхоўны Савет. Ну, не возьмецеся вы за гэтае - страху ніякага няма. Яны ўсё адно ўжо ўведзеныя ў дзеянне, астатнія

канкрэтныя дамовы, пратаколы ў развіццё вялікай дамовы. Калі вы дасцё мне гэты прававы калідор, я вам буду выключна ўдзячны. Вярніцеся вы сёння да гэтага пытання і ратыфікуйце яго, і, паверце, гэта будзе яшчэ адзін, ну, не хачу сказаць яшчэ - гэта будзе канкрэтны крок у інтарэсах тых людзей, якія нас сюды накіравалі ў Вярхоўны Савет. Гэта мая адзіная просьба. Я ж гатовы выканаць... Так, і з Еўрапейскай супольнасцю я ўношу ў адзіным пакеце. Пагадненне з Еўрапейскай супольнасцю і з Расіяй. Тут дакораў не будзе. Тут дакладна: Захад - Усход. Ён нам выгодны, ён адмяняе квоты, ён дае нам ільготы, ён пашырае наш гандаль з Захадам, нам ён выгодны і з Расіяй. Ніхто не будзе спекуляваць, што тут ухіл нейкі на Усход. Вось гэтыя дзве дамовы, калі ласка, яны ў вас шмат часу не зоймуць, паколькі яны носяць агульны характар. Калі ў вас ёсць да мяне пытанні, паважаныя дэпутаты, я гатовы на іх адказаць.

## Малашка Віталь

*Маленький человек против Консенсуса*

Я попал в политику благодаря недюжинной гениальности и стечению обстоятельств. Будучи молодым специалистом и обладая безграничным полетом инженерной мысли я изобрел, работая в НИИ Средств Автоматизации (НИИ СА), прибор, который пошел в серийное производство в Венгрии. Как это было заведено в таких случаях, разработчики сидели тогда на выпускающем заводе за границей месяцами, делая последние доводки. Это означало сытое благоденствие для советского человека, т. е. что мне тут будет идти зарплата, а там суточные 20 долларов в день и другие командировочные расходы плюс чеки Внешторга и т. д. Наши командированные обычно тянули с собой туда кипятильники и консервы (экономить валюту), а возвращались с огромными баулами видиков, шуб для жен, и другого борохла, называвшегося в советские времена "подъемом". Куча анкет для КГБ были заполнены, в архивах Москвы и Минска проверялось - не были ли мои родственники в плену. После прохождения всех горнил проверки на гражданскую благонадежность меня ждал неожиданный удар. Партком НИИСА счел меня недостойным выезда за границу за прогулы комсомольской учебы. Богатство, так явно поманившее меня к себе, неожиданно растаяло в тумане, за границу вместо меня поехало начальство, а я остался исправлять их прорехи здесь, высылая исправления по факсу. В таких обстоятельствах мне не оставалось ничего кроме, как заняться политикой. Придет время, и я с внутренним злорадством проголосую за запрет Компартии и конфискацию у нее всей собственности. Так пренебрежительное отношение нескольких отставников к молодому изобретателю, возможно, привело к крушению самой мощной коммунистической системы в Мире.

Будучи личностью пассионарной, я, естественно, примкнул к Народному фронту на этапе его образования. Исправно ходил на районные тусовки и даже создал ячейку на работе. Если добавить к этому вечернюю расклейку листовок антиправительственного содержания, то в 1990 год я вошел настоящим революционером. Поскольку все окружающие чувствовали мою революционную настроенность, пахнущую еретической серой и эсэровскими бомбами, огромному пятитысячному предприятию ничего не оставалось, как выдвинуть наперекор парткому меня кандидатом Верховного Совета. И тут меня ждал второй удар. Я пришел на собрание, где определялось, каких кандидатов поддержит БНФ.

На сцене актового зала, за столом с умным видом сидели три человека. Как выяснилось в процессе прений, это были профессор Юрий Ходыко, некто Винцук Вечерка и сам Зенон Позняк, кажется, где-то еще рядом крутился Олег Трусов. Они, как экзаменаторы, вызывали по одному кандидатов, задавали каверзные вопросики и ставили какие-то крючочки в лежащие перед ними бумажки.

Видеть профессора в качестве экзаменатора было делом привычным, но Позняк и особенно Вечерка просто раздражали меня. Позняк был очень похож на очень гордую, но бесконечно тупую птицу грифа, смотрел поверх голов и говорил какие-то глупости о коммунистах-вурдалаках. Вечерка же был похож на выходца из тех прилизанных мальчиков, которых постоянно обижают в подворотнях за умничанье и некомпанеистость. Я прибор изобрел! - захотелось порвать на себе рубашку, но я был в свитере, и пришлось промолчать. Экзаменаторы поблагодарили всех и кулуарно приняли решение.

Каково же было мое удивление, когда руководство БНФ поддержало по моему округу совсем другого человека и напечатало это в своем бюллетене. Больше года я ходил на сборища, клеил в ночной тьме очень смелые листовки, стоял в переходах с агитационными плакатами и вот она благодарность. За риск и жертвы личного времени "адзіная палітычная сіла" сочла меня бесперспективным и поставила на совершенно случайного человека со стороны.

Отец - коммунист-профессор подтрунивал над сыном-оппозиционером, - Что? Получил по пысе от свядомых белорусов? И чем же они отличаются от коммунистов?

Аналогии с "невыездным" парткомом напрашивались сами собой.

- Эх, должна же быть какая-то справедливость! - огорчался я. - Это, какое-то недоразумение. БНФ борется против блата и привилегий, разве он может быть нечистоплотен?

- В политике не может быть чистоплотности. Сволочи они, еще большие, чем бюро горкома, - науськивал отец-идеолог. - Блат у них еще от фашистских полицейских тянется (ассоциацию с полицаями навевала тогда старым коммунистам белорусская символика). Не грусти и без этих говнюков пробьемся.

Ничего другого не оставалось, как пробиваться без говнюков, и я стал депутатом Верховного Совета. Первые относительно свободные выборы в Беларуси ввергнули в политику вчерашних слесарей и терапевтов, попов и журналистов районных газет. Большинство из тех, кто оказался на профессиональной основе в Парламенте, так и не смогли вернуться к старой профессиональной деятельности. В отличие от меня, к Лукашенко в правительство идти отказался, а вернулся на работу радиоинженера. Большая политика сродни наркотической зависимости. Потихоньку, понемножку она ломает жизнь человека, делает ее бессмысленной без себя. Это особенно актуально на изломах истории. Когда сельский механизатор, попавший в водоворот бурных событий, меняет судьбы стран и континентов. Когда крашеные блондинки особенно горячи и могут в порыве страсти высосать у партнера глаз. Когда рушатся устоявшиеся веками каноны и любимая бабушка, образец семейной традиции, неожиданно бросает порученных ей внуков и бежит с артистом Пистолетовым в город Кандалакшу. Значит, излом истории наступил.

В Белорусском Верховного Совета XII-го созыва появилась оппозиция. Слово для консенсунсной традиционной культуры ругательное. Говорят, что аборигены Новой Гвинеи могут сидеть возле костра много суток, пока достигнут консенсуса, и никакого "большинства" и "меньшинства". Слово "Оппозиция" нагло выпячивало, что среди единого белорусского народа есть отщепенцы, не согласные с большинством. Следует отметить, что я стеснялся тогда называть себя оппозиционером и нежно смущался, когда приходилось объявлять себя депутатом от оппозиции.

Верховный Совет XII-го созыва, наверное, был самым народным Парламентом, ибо представлял собой срез того белорусского общества. Номенклатура, частично растерявшаяся без указки из Москвы, частично настроенная сделаться богатыми людьми, карьеристы, попавшие во власть и ищущие себе там стабильное место, мошенники, желающие ловить золотую рыбку в мутной воде, романтики, верящие, что перестроить страну можно быстрее, чем высморкаться, честолюбцы, просто мелкие спекулянты, проститутки и пр., и пр. В общем всё то, что окружает нас в обыденной жизни.

Итак, была объявлена "Оппозиция", стержнем её стал БНФ. Будучи в меньшинстве, большинство оппозиционеров наивно верило, что именно их поддерживает большинство народа. Невесть откуда взявшиеся свядомыя беларусы стали дербанить традиционное белорусское общество. Большинство из оппозиционеров могли в то время легко войти в правительство и перестать быть оппозиционерами, но этому мешали два обстоятельства. Одним из них хотелось полной власти, а не её части, а другим казалось, что в составе старой госмашины они не смогут построить Рай на земле для своего народа. Революционный задор бил через край: " Весь старый мир мы разрушим до основания, а затем мы новый светлый мир построим…".

Наиболее яркими депутатами в демократическом крыле были: Сергей Антончик, Леонид Борщевский, Юра Беленький, Дмитрий Булахов, Виктор Гончар, Иван Герасюк, Валентин Голубев, Борис Гюнтер, Владимир Грибанов, Леонид Зданевич, Виктор Каковка, Александр Лукашенко, Николай Маркевич, Владимир Новик, Игорь Пырх, Владимир Сапронов, Владимир Станкевич, Галина Семдянова, в общем было довольно много нестандартных личностей.

Оппозиция в Верховном Совете образовывалась вокруг нескольких человек из БНФ. Это в основном были историки В. Голубев, З. Позняк, О. Трусов. Самих членов БНФ не хватало для образования целой большой фракции, поэтому упражнялись в вариациях типа: оппозиция на платформе БНФ, Демократическая плынь, Демократический Клуб. В Демократический клуб входило около ста депутатов. Романтика являлась основным заболеванием "оппозиции" Верховного Совета 12 созыва. Демократическому крылу казалось, еще рывок и дорога в "Светлое будущее" будет проложена. Болел ею и я. Впрочем, от людей, воспитанных на исторических приммерах энтузиастов первых пятилеток, героев целины и Заполярья, нельзя было ожидать рассудительности. Позняк, Заблоцкий, Беленький, Голубев твердо взяли за ориентир эстонскую модель развития страны. При этом культурно-национальному вектору во фракции придавалось приоритетное значение.

Я никогда не отрицал важность национал-культурного фактора, но всегда отводил ему вспомогательную роль. Я формулировал ее так: "Все дети рождаются одинаковыми, только по цвету отличаются: одни белые, другие черные, третие желтые. Но потом им начинают говорить: Ганс, ты же немец, ты не можешь делать брак. Твой дедушка Пауль тоже был немцем, и он никогда не делал брак. Немцы не делают брак." Т. е. появляется миф, который может принести пользу в производственных отношениях. С одной сторо-

ны, я поддерживал идею создания "мифа", с другой - видел явный перебор в этом направлении. Тем более, когда СССР развалился и экономику били страшные судороги.

Я вначале пытался спорить с Позняком, потом понял, что это бессмысленно. Зенон Позняк был человеком, не терпящим возражений по вопросам, которые у него в голове уже сложились. Определенный раскол наметился уже в 1991 году, в Беларуси стали образовываться партии. В виде реакции на правый уклон БНФ в экономике, который олицетворяли собой Заблотский, Беленький, Новик, образовалась Социал-демократическая Грамада, одним из основателей которой стал я. В Крестьянскую партию вступил депутат Зданевич. На заседания оппозиции стало приходить все меньше людей. Одной из причин этого кризиса я считаю личные качества Зенона Позняка, как человека, не желающего не умеющего найти компромисс.

Наиболее интересным моментом в работе Верховного Совета и для меня лично было принятие Закона "О собственности". Наша страна пережила два Великих Перелома, когда собственность отбирали и эшелоны ссыльных "кулаков" и нэпманов нескончаемыми потоками тянулись за туманом и за запахом тайги. И когда частную собственность опять признали и разрешили богатеть.

О первом переломе я слышал от дедов и отца, второй я сам устраивал. Самое главное, что сегодняшние богачи относятся ко мне без всякой благодарности, никто и не думает купить мне маленький домик на берегу теплого моря, где бы я мог писать в перерывах между ловлей рыбки мемуары. Хотя своими миллионами они во многом обязаны именно мне. Но вернемся в 1991 год.

Страна, наколенная до кипения металла, ждала перемен. Мировые цены на нефть упали, и нефтедоллары не могли удовлетворить аппетиты державы и ее народа. Цены на товары внутреннего спроса еще не были отпущены, и их остро не хватало, чтобы покрыть товарный дефицит. Московское правительство печатало деньги, потому что республики одна за одной отказывались платить налоги в Федеральный Центр. Повсеместно вводилась талонная система. Социалистическая экономика, как и вся государственная машина, тряслась в конвульсиях.

Панацея была объявлена номенклатурой: "Частная собственность спасет народ и страну!". Первые кооперативы уже доказали, что если брать государственные ресурсы по государственным ценам, а свой товар продавать по ценам коммерческим, то можно хорошо заработать.

Закон, предложенный правительством не прошел, не прошел и закон, предложенный и разработанный Заблотским по эстонской модели и внесенный оппозицией. Верховный Совет отправил проекты на доработку в Коммиссию по экономической реформе. Закон был ключевым для начала рыночных отношений и не терпел затяжки. Написать закон за выходные предложил я. Кавалерийские атаки всегда увлекали меня своей стремительностью и свистом ветра в ушах. Члены комиссии Алампиев, Малашко, Шкапич, Коковка взяли ящик пива и, оставшись на выходные в комиссии, слепили из двух законов один. Некоторые накладки потом исправляли еще полтора года, но в основном закон получился весьма симпатичным с легкой кислинкой. Аламиев, я, Каковка были членами социал-демократической фракции, и закон получился довольно левым. Одним из ключевых пунктов этого закона считаю то, что Верховный совет утверждал перечень предприятий не подлежащих приватизации. Это спасло наши транзитные трубопроводы от приватизации Российскими алигархами, на которую уже готовы были идти и правительство Кебича и некоторые наши либералы. Единственной прорехой, допущенной возможно из-за паров пива Крыница "Бархотное", является то, что небольшой продуктопровод (по нему идет дизель и бензин из Новополоцка в Латвию) мы просрали в пользу России.

Ключевым моментом в деятельности оппозиции ВС 12 созыва является послепутчевая обстановка 1991 года. Конец августа, теплая погода, нескончаемый митинг перед Домом правительства. Страна могла пойти совсем другим путем. Фактически тогда Кебичем было предложено создать правительство национального единства. Я лично пришел к Позняку и предложил собрать оппозицию и обсудить, какие посты в правительстве мы можем занять. Позняк не хотел ни в какую идти на компромисс с номенклатурой. Фактически тогда, в конце августа 1991 года, номенклатура пошла на строительство национального государства по программе Народного Фронта, а лидеры БНФ отказали старой номенклатуре в праве работать для новой Беларуси, хотя к 1993 году Программа БНФ практически была выполнена. Беларусь имела свою армию, гражданство, суверенитет, правоохранительные органы. Оставалось только навести хотя бы какой- нибудь порядок в хаосе переходного периода.

Белорусы - традиционная консенсусная нация. Кебич понимал, что большинство народа не приемлет такого института, как политическая оппозиция и хочет, чтобы в верхах "договорились". Он часто мог пригласить тех или иных депутатов оппозиции в свой

кабинет и, достав из сейфа бутылку с "Зубровкой", пожаловаться на то, как ему не легко. В противоположность этой консенсусности номенклатуры, оппозиция демонстрировала свою непримиримость и грозила люстрациями после прихода к власти.

Да, Верховный Совет XII созыва действительно был народным, поскольку в нем присутствовали и сталинские ветераны, и рабочие, и передовые председатели колхозов, и мятущаяся интеллигенция. Но общей политической культуры не хватало всем, многие умели говорить: Гончар, Грибанов, Заблотский, Гилевич и многие другие были неплохими ораторами, но не умели слушать.

Своим звездным часом считаю внесение мной от социал-демократической фракции альтернативного бюджета 1995 года. Расчитанный практически одним мной, с небольшой помощью зам. председателя экономической коммисси Алампиева за восемь дней, бюджет был очень смелым, поскольку требовал максимального использования транзитного положения Беларуси, полноценную плату Россией за свои военные базы на нашей территории. Бюджет был на столько смел, что после обеда Лукашенко, приказал прекратить трансляцию заседания по радио. Конечно, Верховный Совет не мог полностью поддержать такой революционный подход, но и бюджет первого правительства Лукашенко не прошел. Нас с Трусовым и Алампиевым пригласили к премьеру Чигирю найти компромис. Фактически, это была вторая возможность части оппозиции войти в правительство. Войти без БНФ. Но революционный романтизм в головах тогда не позволил этого сделать. Страна входила в 1995 год без политического консенсуса.

А в это время экономика страны трещала по всем швам. Свеженародившееся предпринимательство считало для себя позором платить налоги, сбережения граждан сгорели из-за Гайдаровсой реформы цен, зарплату бюджетникам платили за счет печатания пустых денег, валюта обесценивалась каждый день, заводы стали останавливаться, отпуская людей в неоплачиваемый отпуск. Все это усугублялось политической нестабильностью, совсем недавно оппозиция собирла подписи за референдум по роспуску Верховного Совета. Референдум не был назначен, но его организация дискредитировала институты власти.

Этот референдум инициированный оппозицией в конце концов и выпустил джина из бутылки. Оказалось, что в несложившихся обществах власть всегда выигрывает референдумы. Выигрывает всегда, если не за счет голосования, то за счет подсчета голосов. Оппозиция, возглавляемая историками, не смогла сделать этот исторический вывод на примерах Наполеона 3-го или Гитлера.

Референдум 1995 года явился катострафическим поражением романитизма в белорусской политике.

Объявленная голодовка в ответ на инициативу референдума была последней попыткой сыграть на консенсусности общества. После объвления голодовки решение о назначение референдума не добрало необходимого колличества голосов. Оппозиция на несколько часов одержала тактическую победу.

Голодовка для меня началась неожиданно. Дело в том, что я голодал по понедельникам в лечебных целях: сидячая работа и сосиски в буфете Верховного Совета давали о себе знать лишним весом, поэтому для меня голодовка продлилась на сутки больше. Придя на заседание, я неожиданно узнал от Голубева и Трусова, что моя голодовка продлится, но уже в политических целях. После того, как из-за голодовки решение о проведении референдума не набрало достаточно голосов, А.Лукашенко не оставалось ничего, как прервать ее силой. Я сидел справа возле передней парты, на которой обычно сидит правительство, и сочинял стихи.

*Нас кто-то победит едва ли!*
*У нас победу и стакан отнять нельзя.*
*А вы б отняли*
*У пса его Эфферолган?*

*Болота! Вас, как вечное творенье,*
*Природа подарила в счастья миг!*
*Я благодарен вам за то волненье,*
*Что доставляет нам предсмертный крик.*

Все прохождение голодовки снималось на видеокамеры с балконов зала двумя работниками спецслужб. После разгона Лукашенко обещал показать кадры, но ничего смонтировать так и не смогли. Трудно смонтировать что - либо, когда вооруженные люди в масках выносят сцепившихся депутатов, ломая кресла и ребра. Нас выбросили в городе, после чего часть депутатов собрались ночью под дождем и даже сходили в лечкамиссию сняли побои. Верховный Совет на следующий день после разгона голодовки утвердил референдум. Стало ясно, что страна пойдет по латинскоамериканскому сценарию наведения порядка. Разгон силой забостовки в метро, произошедший через пару месяцев, это подтвердил.

Лукашенко хотел прекратить существование ВС 12 созыва, перекрыл его финансирование, отобрал его собственность. Но ВС

просуществовал еще до Нового 1996 года. Зарплаты выплатили через суды, тогда это было еще возможно. Более того, ВС 12 созыва за лето и осень 1995 года принял конституционным большинством пять или шесть законов, преодолев вето президента. При этом старые номенклатурщики делали это с особым азартом, как будто забивали решающий гол. Законы эти все равно не выполнялись по указам президента, но юридический претендент был создан: исполнительная власть намеренно шла на нарушение законодательства.

В выборах 1995 года я учавствовал уже по инерции. Для широкой компании у меня не было денег. А элементарная компания в тех неизбалованных ценах стоила 10000 баксов. В моем округе прошел в ВС предприниматель и банкир Андрей Климов. Я его знал и еще до голосования ему говорил, что страна разворачивается к диктатуре, а это значит, тебя есть за что посадить, не лезь в политику. Но он мне не поверил, его и посадили в последствии за хозяйственные преступления. ВС 13 созыва не просуществовал и года.

Когда А.Лукашенко объявил референдум осенью 1996 года, был момент, который мог поставить этот референдум под угрозу срыва. Это снятие министра обороны указом Лукашенко, якобы за пьяный вид. Лукашенко не имел права тогда снимать министра своим указом, а должен был получить согласие на это в Верховном Совете. Еестественно, что парламент, стоящий перед угрозой разгона, это решение бы не поддержал. Но у министра обороны не хватило самоуважения остаться в своем кабинете, чтобы защитить свою честь и Конституцию, и он сдал полномочия.

Фактически у парламента даже после вынесения импичмента, после того, как главный вояка сдрейфил, не имелось ни одного силового рычага защитить себя от разгона.

Результаты референдума, объявляемые по телевизору, шокировали даже толстокожих людей. В Минске, например, где никогда на голосования не приходило более 50%, проголосовало 80% и почти половина из них в последние три часа. И это в темный ноябрьский вечер с сильным ветром и мокрым снегом. После этого референдума в Беларуси уже не было вторых туров для голосования. Как бы не голосовало общество, подсчет давал власти почти 100-процентную победу. Белорусский народ вернулся к консенсусности.

# З. Пазняк

*Пачатак цемры*

Прамаскоўская і антыбеларуская палітыка новага рэжыму пачалася зь першых жа дзён. Хамства і крымінальшчына (поўная непавага да закону) запоўніла афіцыйныя дачыненьні, зьявіліся новыя людзі зь нябачанымі раней тварамі, паводзінамі і лексікай,- зьявілася новая карупцыя. Калі дэпутат Апазыцыі БНФ Сяргей Антончык вынес небывалую прадажнасьць рэжыму на парляманцкую трыбуну, газэты зь яго дакладам вышлі з друку зь белымі палосамі (плямамі цэнзуры на цэлыя газэтныя старонкі).Такой тупой цэнзуры (з пустымі палосамі) не было на Беларусі з1915 года, з часоў 1-й Сусьветнай вайны. (Пазьней крымінальны рэжым расправіўся з С. Антончыкам: па рашэньні суда вынесьлі з дому нават ложак і канапу, пакінулі сям'ю на голай падлозе, а на працу не даюць уладкавацца па сёньняшні дзень.)

Першае маштабнае нішчэньне вольнай Беларусі, з чаго пачаў антыбеларускі рэжым, і якое датычыла лёсу нацыі і дзяржавы - гэта была акцыя па ліквідацыі Беларускага дзяржаўнага Бел-Чырвона-Белага сьцяга і гэрбу Пагоня праз рэфэрэндум. Тут было парушана ўсё: Канстытуцыя, законы, здаровы сэнс,этыка і мараль. Савецкая бальшыня Вярхоўнага Савета цалкам падтрымлівала ў гэтым крымінальную палітыку новага рэжыму. Усе нашыя довады, аргумэнты, спасылкі на заканадаўства з гіканьнем не прымаліся пад увагу. Вярхоўны Савет выходзіў на крымінал і злачынства, гатоў быў падтрымаць лукашэнкаўскія пытаньні і фармулёўкі незаконнага рэфэрэндуму аб мове і нацыянальных сымвалах дзяржавы (закон забараняў выносіць такія пытаньні на рэфэрэндум).

Вечарам 10 красавіка 1995 г., у апошні дзень перад галасаваньнем мы, дэпутаты Апазыцыі, сабраліся на нараду. Памятаю,я сказаў, што заўтра будзе лёсавызначальны для Беларусі дзень:"?Сы-

туацыя такая, што ён можа стаць чорным днём нашай рэчаіснасьці. Закон не прымаецца пад увагу, ідуць напралом.Мы мусім нешта зрабіць, каб не дапусьціць "?пралому". Выказвайце любыя прапановы, любыя думкі, самыя неверагодныя - усё абмяркоўваем. Сядзім тут і не выходзім, пакуль ня знойдзем рашэньне і выхад са становішча".

І думкі пасыпаліся. Усе ўсё разумелі, выказваліся адкрыта-.Абмеркаваньне закончылі на вуліцы (каб пазьбегнуць падслуху). Была прынятая прапанова Міколы Маркевіча: аб'явіць дэпутацкую галадоўку пратэсту ў зале супраць цынічнага ламаньня Канстытуцыі і законаў Вярхоўным Саветам, супраць праекта незаконнага рэфэрэндуму. Рознымі арганізацыйнымі пытаньнямі мне прышлося яшчэ займацца, фактычна, цэлую ноч. Канчатковае рашэньне было ўзгоднена кіраўніцтвам Апазыцыі і прынята за паўгадзіны да пачатку паседжаньня сэсіі. Удзельнічаць у галадоўцы не змаглі некалькі асобаў, што па розных прычынах адсутнічалі на сэсіі. Ігар Пырх - па стану здароўя (хварэў), Галіна Сямдзянава - па нашай прапанове заставалася звонку, як сувязная асоба паміж галадуючымі, усім Вярхоўным Саветам і Народным Фронтам (гэта яна даведалася, што рыхтуецца правакацыя і папярэдзіла нас).

Усё ж такі маральная аснова ёсьць галоўнае ў чалавеку,важнейшая за шмат якія іншыя якасьці. Наш учынак, калі мы вышлі на галадоўку 11-га красавіка 1995 года і селі на прыступкі перад Прэзыдыюмам Вярхоўнага Савета вочы ў вочы перад Вярхоўным Саветам, наша рашучасьць і наша рацыя паўплывалі, дайшлі да сумленьня, сэрца і да розуму шмат каго з дэпутатаў. Тры пытаньні з чатырох, вынесеных на рэфэрэндум рэжымам, праваліліся. Лукашэнка, як ашпараны, выскачыў з паседжаньня. Гэта перамога так на ўсіх нас падзейнічала, што мы, застаўшыся ноччу адны ў Авальнай залі, не маглі стрымаць радасьці. Але наступныя начныя падзеі разьвіваліся, як у Афрыцы. Ніхто з нас ня змог прадбачыць, што спэцвойска ўвядуць у парлямант. Мы яшчэ жылі ў Беларусі.

Войска ўвялі ноччу, батальён (600 салдатаў) - "?спэцназ" і група КГБ "?Альфа". Пасьля зьбіцьця нас разьвезьлі ў розныя канцы Менска і выкінулі з "?хапуноў". Адна наша група тут жа падняла на ногі Генэральнага Пракурора В. Шаладонава. Адразу была ўзбуджана крымінальная справа па факту нападу і зьбіцьця дэпутатаў. Раніцай а 9-й мы былі ўжо на паседжаньні Прэзыдыюма ВС.

Усё гэта ўжо апісана ў літаратуры, якая адзначана мной у гэтай прадмове. Я толькі нагадваю, што ніхто з нас не разгубіўся ні на секунду, адразу пачалі дзейнічаць абдумана і мэтанакіравана.

Было зразумела, што йдзе далейшы захоп улады грубай антыбеларускай сілай, што (калі яе не спыніць) наперадзе - вынішчэньне культуры, усяго сьветлага і беларускага.

На жаль, тады, у 1995-м, гэта разумелі толькі мы.

Назаўтра, 13 красавіка, павінна была слухацца справа ў Канстытуцыйным судзе аб манапалізацыі СМІ Лукашэнкам, справа, якую ініцыявала Апазыцыя БНФ. Рыхтаваў і прадстаўляў гэтае пытаньне ў Судзе каардынатар Апазыцыі БНФ Сяргей Навумчык.

Увесь 1995 год доўжылася барацьба з рэжымам у абарону працы Вярхоўнага Савета. Ужо тады рэжым пачаў справы выкраданьня людзей. Гэтак зьнік адзін час Сяргей Антончык. Яго схапілі, завезьлі недзе ў каталажку "?спэцназу", страшылі і г. д.Праўда, мы зрэагавалі хутка і апэратыўна. Дэпутацкія лісты пра факт незаконнага захопу дэпутата былі намі накіраваныя нават у міжнародныя структуры. С. Антончыка выпусьцілі.

На выбарах у парлямант увосень 1995 года мы ўбачылі і адчулі, што рэжым ня проста крымінальны, антыбеларускі - ён тыпова акупацыйны і дзейнічае акупацыйнымі мэтадамі. Супраць франтаўскіх дэпутатаў быў наладжаны "?спэцзаслон",куды кінута была ўся энэргія і выдумка рэжыму. І, тым ня менш, у некалькіх месцах не спрацавала сістэма фальсіфікацыі. Прайшлі Г. Грушавы, Ю. Беленькі (набраў 58% галасоў), В. 20. 14-га красавіка 1995 г. у Канстытуцыйным судзе. Зь лева на права А. Трусаў, С. Навумчык, М. Крыжаноўскі, П. Садоўскі.Голубеў. Адчайным высілкам мне не далічылі невялікую колькасьць бюлетэняў. Спэцыяльная камісія ЦВК (па майму настаяньню) выехала на месца і выявіла фальсіфікат у 500 галасоў.Выходзіць, што мая кандыдатура была выбраная. Тады старшыня ЦВК А. Абрамовіч наадрэз адмовіўся ставіць пытаньне перад пракуратурай (не даючы мне тлумачэньняў). Мае лісты ў органы пракуратуры засталіся без адказу. Гэта было ўжо тое новае, што ўпаўзло ў нашае жыцьцё разам з цёмным рэжымам. Кандыдатуры Голубева і Беленькага проста выкінулі са сьпісу дэпутатаў, а інстанцыі ня сталі прымаць ад іх ніякіх лістоў. Усё гэта пацьвердзіла тое, што мы ўбачылі ад самага пачатку - уладу ў Беларусі захапіла група нягоднікаў, вакол якой сабраліся ўсе антыбеларускія сілы. (Дарэчы, Абрамовіча Лукашэнка аддзячыў - прызначыў яго распрацоўшчыкам сваёй канстытуцыі дыктатуры, і Абрамовіч заказ выканаў.)

*(Сяргей Навумчык, Зянон Пазьняк. ДЭПУТАТЫ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ.Нью-Ёрк, Вільня, Варшава,*

*"Беларускія Ведамасьці",Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве, 2010 г.с. 47-54. )*

# Садоўскі Пётр

*Пуцявіны беларускага парламентарызму*

У Вярхоўны савет 12-га склікання я выбіраўся на платформе БНФ. Напачатку я быў абраны кандыдатам у дэпутаты ў Серабранцы, па месцы жыхарства. Прычым вельмі лёгка. Пра гэта можна меркаваць па тым, што, калі на сход сабралася больш за 350 чалавек, то за мяне прагаласавалі 248, а за майго галоўнага суперніка - Некрашэвіча, старшыню Ленінскага райвыканкама г. Мінска, пазней намесніка міністра фінансаў - усяго 20. Вось які быў тады ўздым і падтрымка кандыдатаў ад БНФ. Усё трымалася на энтузіязме, ніхто нікому не плаціў ні капейкі. Забягаючы наперад, скажу, што толькі пасля абрання дэпутатам я за свае асабістыя грошаы купіў пляшак 10 гарэлкі ды закускі для радаснай бяседы з хлопцамі, што агітавалі за мяне. Мы тады багата спявалі мажорных беларускіх народных песень…

Сёння часам гавораць, што тады выбары былі вольныя. Уявіце сабе, што тады ў Серабранцы я не змог своечасова здаць пратакол выбарчага сходу, бо па загаду райвыканкама выбарчы участак зачынілі, і некуды уцякла старшыня выбарчай камісіі. Вось такая была свабода.

Паколькі я быў членам праўлення Таварыства беларускай мовы, якое было рэспубліканскай арганізацыяй, то паводле тагачаснага закону аб выбарах я мог вылучацца ад гэтага таварыства ў Вярхоўны Савет. Тут дарэчы сказаць дзякуй Нілу Сымонавічу Гілевічу, тагачаснаму старшыні Таварыства, які прыклаў шмат намаганняў для рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты ад Таварыства беларускай мовы.

Мяне вылучылі паўторна на прадпрыемстве "Гранат" у Фрунзенскім раёне Мінска (было такое закрытае прадпрыемства, так званая паштовая скрынка, што выраблялa робаты ды рознае іншае

складанае электроннае начынне). У канцы 80-х гадоў аўтарытэт прафсаюзаў на буйных прадпрыемствах быў даволі высокі. Уявіце сабе: прафсаюз "Граната", сярод якога было нямала членаў БНФ (тут перш за ўсё я б назваў Алега Шагуліна і Барыса Стука) яшчэ да таго майго паўторнага вылучэння арганізаваў на прадпрыемстве цыкл маіх лекцый па культуры і гісторыі Беларусі для інжынераў цэха робатаў. І гэта ў той час, калі парторг гэтага ж прадпрыемства Канойка быў вылучаны як стаўленнік наменклатуры ў гэтую ж акругу.

Супернікі мае былі даволі моцныя: Аляксандр Мядведзь - алімпійскі чэмпіён, шматразовы чэмпіён Еўропы; вядомы русафіл і беларусафоб, загадчык аддзела ЦК ВКПБ пісьменнік Эдуард Скобелеў; маёр міліцыі - герой Афганістана (прозвішча забыўся); высокі прафсаюзны наменклатуршчык - старшыня Мінскага абкама прафаюзаў Новікаў ды ўжо ўзгаданы парторг "Граната" Канойка. Усяго 6 чалавек на месца. Хапала чорнага піяру. Скобелеўцы малявалі на маіх плакатах зорку Давыда і пісалі па дыяганалі - "сіяніст", узгадвалі прозвішча маёй маці - Фрыдрых, распаўсюджвалі мае фота разам з Лявонам Луцкевічам, Уладзімірам Конанам ды Алегам Бембелем на багдановічаўскім свяце паэзіі ў Ракуцёўшчыне з подпісам "нацыяналістычная беларуска-сіяніцкая хеўра". Пасля паразы ў першым туры ўсе мае супернікі ў пісьмовых зваротах да выбаршчыкаў заклікалі аддаць свае галасы за Аляксандра Мядзведзя. Вельмі добрае ўражанне засталося ад майго галоўнага суперніка. На сустрэчы Мядзведзь прыходзіў рэдка, ніколі не сказаў дрэннага слова у мой адрас і нават пасля маёй перамогі ў другім туры, дзе ён з усіх застаўся маім адзіным канкурэнтам, у інтэрв'ю беларускім газетам знайшоў прыстойныя словы на мой адрас. Такім чынам, у ВС я аказаўся у складзе апазіцыі БНФ зусім натуральна.

Дарэчы на сходзе ў "Гранаце", калі вылучаліся кандыдаты ад працоўнага калектыву, мне вельмі дапамог Зянон Пазняк. Ён прыйшоў на сход, фармальна вылучыўся ў спіс для галасавання, палымяна выступіў, а потым зняў сваю кандыдатуру на маю карысць. Ад завода вылучаўся галоўны эканаміст, кандыдат навук, сімпатычны чалавек. Мне дапамагла папярэдняя праца і сустрэчы ў калектыве, ды і падрыхтоўка кандыдатаў ад БНФ была тады салідная.

Сяброў у фракцыі БНФ набіралася каля 30 чалавек. Часам у пакой 365 на трэцім паверсе ВС далучалася і больш людзей. Таму за нашы законапраекты галасавала вялікая колькасць дэпутатаў. Былі у нас і закрытыя пасяджэнні.

Зянон Пазняк быў чалавек справядлівы, аналітычны, да ўпартасці паслядоўны. Як мне тады здавалася, праз Зенонаву цвёрдакаменнасць мы часам прайгравалі тактычна: пры галасаванні на пленарных пасяджэннях ён імкнуўся вельмі часта сам выказаць пункт погляду БНФ. Камуністычная большасць проста не слухала змест ягоных аргументаў і галасавала заўсёды супраць. Калі ж з такой прапановай выходзіў нейкі з іх погляду прыстойны чалавек, кшталту дырэктара Полацкага завода будаўнічых матэрыялаў Уладзіміра Цялежнікава, то рэакцыя зала ВС была іншай, і галасаванне ўдавалася. Калі здаралася прадэманстраваць важнасць пэўнай канцэпцыі, то Пазняк лічыў вартым і палітычна вельмі важным, каб гэта прагучала менавіта ад фракцыі БНФ. Тут у яго быў свой стратэгічны прагматызм, які мог пазней прынесці свае палітычныя дывідэнды, нават калі часова мы цярпелі паразу. Зараз я схільны прызнаць мэтазгоднасць пазнякоўскіх паводзінаў з пункту гледжання тактыкі. Без адзінай волі мы б не зрабілі тое, што нам удалося пры адноснай меншасці прыхільнікаў.

Фракцыя БНФ мела у ВС, можа, 9-10% месцаў. Яе арганізацыя трымалася найперш на адчуванні сваёй праўды і падтрымцы людзей. Сіла фракцыі была таксама у яе інтэлекце, бо сярод нас было ці не з дзесятак кандыдатаў навук, людзей, якія маглі лагічна фармуляваць думкі і пісаць законы. Асабіста я не люблю аўтарытарных асобаў, якія падаўляюць волю. Мне, к прыкладу, не падабалася, калі той жа Пазняк пры абмеркаванні мог некага абрэзаць ці крыва усміхнуцца. Але ён сам ніколі не прапаноўваў лухту. Ён быў выдатны тактык і заўсёды ўсё ўзважваў, быў назвычай талковы аналітык. Сярод сяброў апазіцыі я б выдзеліў найперш Уладзіміра Заблоцкага, які добра разбіраўся у эканамічных пытаннях, умеў слухаць аргументы іншых. Таксама б выдзеліў Уладзіміра Новіка, хаця той і адышоў ад апазіцыі, бо збіраўся працаваць у банкаўскай сістэме як спецыяліст па інфармацыйных тэхналогіях. Практычным розумам і аналітычнасцю выдзяляліся Лявон Баршчэўскі, Ігар Гермянчук, Ваялянцін Голубеў, Алег Трусаў, Лявон Зданевіч, Юрась Беленькі, Сяргей Антончык, Галя Сямдзянава. У апазіцыі проста дурняў не было, усе былі талковыя хлопцы. З астатніх дэпутатаў мне імпанавалі Анатоль Вярцінскі, Ніл Гілевіч, Уладзімір Цялежнікаў, Аляксандр Сасноў, Уладзімір Сафронаў, Вольга Галубовіч, Уладзімір Сапронаў. Было шмат нармальных людзей.

Больш за два гады я быў адначасова і дэпутатам парламента у якасці старшыні камісіі па замежных справах і, адпаведна, як старшыня камісіі, членам прэзідыума. Але таксама быў з 1992

года і амбасадарам у Нямеччыне. Такое сумяшчэнне было пэўным непаразуменнем пераходнага перыяду, бо паводле логікі я павінен быў скласці дэпутацкія паўнамоцтвы і пайсці працаваць выключна у МЗС на дзяржаўную службу.

Амбасадарам я стаў дзякуючы дэпутатству. Да гэтага я быў даволі паспяховы старэйшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук, потым дацэнт педінстытуту. З дэпутатаў ад БНФ у кіраўнічыя органы ВС папаў я адзін: праз пэўныя кампрамісы быў абраны старшынёю Камісіі па замежных справах і знешнеэканамічных сувязях. Кампраміс заключаўся ў тым, што ў мяне аказалася аж два намеснікі з ліку сярэдняй намэнклятуры. Пэўна, такім чынам плянавалася пры неабходнасці мая нэўтралізацыя. Аднак стаўшы аўтаматычна членам Прэзідыума, я пастараўся напачатку прафэсійна і па-людзку знайсці кантакт са спецыялістамі Савету Міністраў і разабрацца перш за ўсё са знешнеэканамічнымі пытаннямі. Спачатку на мяне глядзелі як на дэмакрата-парвэню, але вельмі хутка адчулі, што ў ягняці пачынаюць праразацца зубы. Тут аказаліся вельмі дарэчы мае элементарныя базавыя веды , якія я набыў у Яраслаўскай ваенна-фінансавай вучэльні.

Праўдзівую інфармацыю пра знешні гандаль у 91-м годзе было цяжка атрымаць: фактычна адсутнічала дзяржаўная мяжа і не было нарматыўных актаў. Усё цякло паводле часовых пастановаў СМ.

Сваю інфармацыю я здабываў праз мытню, дзе працаваў мой колішні студэнт-завочнік з Інстытута замежных моваў, які меў доступ да камп'ютэрных дадзеных і праз старшыню КДБ Эдуарда Ширкоўскага. Ён паводзіў сябе надзвычай лаяльна, я б сказаў нават - больш чым прыхільна да маіх спробаў дакапацца да першакрыніцаў. Мяне перш за ўсё цікавілі канцэрны ды іншыя аб'яднанні, створаныя на базе міністэрстваў, якія ведалі рэсурсамі. У такое аб'яднанне, створанае, напрыклад, у абласным цэнтры, маглі ўваходзіць: першы намеснік старшыні Савета міністраў, сакратар абкама партыі, загадчык валютнага аддзелу СМ, дырэктар буйнога банку і некалькі маленькіх мясцовых дзялкоў. Так акумуляваўся першы прыватны капітал. У адпаведнай пастанове Саўміна дакладна вызначалася, якія памяшканні, аўтамабілі, узнагароджанні (ў валюце!) і г.д. за кошт рэспубліканскага бюджэту могуць выдзяляцца такому аб'яднанню. Кантролю не было ніякага, - ні маскоўскага, ні мясцовага партыйнага.

Пазней пачалі з'яўляцца сумесныя прадпрыемствы з удзелам так званых замежных інвестараў. Гэта былі звычайна дробныя

бізнесмэны, не вельмі пасьпяховыя ў сябе на радзіме, што спрабавалі шукаць прыбытак у мутнай вадзе постсавецкіх дзяржаваў. З нашага боку зноў жа выступалі дзеячы з Саўміна і міністэрстваў. Асабліва буялі здзелкі з бартэрам. Яшчэ паводле савецкіх нормаў у бартэрнай дакументацыі неабходна было дакладна адлюстроўваць тэрміны (звычайна 45 дзён), краіну, дакладныя дадзеныя пра абодва бакі, сустрэчны тавар, банкаўскія рэквізіты і гарантыі. З нашага боку права на дазвол бартэру мелі пяць асобаў ў рангу міністра ці намесніка прэм'ера. Бартэрным экспартным таварам з нашага боку звычайна былі: калійныя ўгнаенні, авіяцыйны керасін, нафта, бензін, лес, азотныя угнаенні, карбамід (мачавіна), - тавары, на якія цэны былі з большага вядомыя паводле дадзеных еўрапейскіх біржаў. Гэта - тавары для так званых ф'ючэрсных здзелак. Кожныя тры дні дадзеныя пра сярэднеаптовыя цэны я атрымліваў прыватна ад аднаго знаймага немца па факсу: што дзеецца ў Амстэрдаме, Лондане, Франкфурце, Ротэрдаме, Гамбургу. Тады ў нас не было аператыўных камп'ютэрных праграм. У ВС у нас быў толькі адзін факсавы аппарат, які нашай камісіі прэзэнтаваў Сяргей Касцючэнка, дырэктар "Прыёрбанку". Пра электронную пошту яшчэ не марылі. Яна з'явілася пазней.

Нават з такім мінімумам інфармацыі ўдавалася сёе-тое зразумець. Не так гэта цяжка. Уявіце сабе: глядзіш на форму №24 (разавая ліцэнзія на бартэрную аперацыю), падпісаную намеснікам прэм'ера, а там - толькі назва нашай юрыдычнай асобы, краіны прызначэння і колькасць тавару. Няма ні назвы партнёрскай фірмы, ні сустрэчнага тавару, ні тэрмінаў, ні спосабаў пастаўкі, ні цаны за адзінку уліку тавару, ні пункту паступлення сустрэчнага тавару і г.д. Як той казаў - круці што хочаш.

Была яшчэ адна хітрасць: рэзкая змена курсу рубля на працягу тэрміна, неабходнага для ацэнкі экспартнага тавару ў цвёрдай валюце і ў рублях.

Не было ніякай каардынацыі экспарту. Шмат хто помніць, як у Індыі сутыкнуліся на адным калійным тэндэры дзве нашы дзяржаўныя экспартныя структуры - з Міністэрства сельскай гаспадаркі (узначальваў Дзядук) і Саўміна (Андрушын). У выніку дзяржава страціла на кожнай тоне каля 10 даляраў. У англамоўным часопісе "Поташ" на пачатку 90-х гадоў з'явіўся матэрыял пра парушэнне антыкартэльнага заканадаўства ў галіне экспарту калійных угнаенняў, з якога, паміж іншым, вынікала, што хтосьці з беларускага боку падрабязна інфармуе канкурэнтаў пра стан вытворчасці і планы "Беларуськалію". У часопісе былі нават змешчаныя графікі магчымага закрыцця адпаведных салігорскіх рудні-

каў. Ясна, што рабілася гэта не задарма. Былі нават меркаванні, што страйкі салігорскіх шахцёраў пад выглядам міжнароднай прафсаюзнай салідарнасці правакуюць прафсаюзы нашых замежных канкурэнтаў.

Як вядома, калійныя угнаенні купляюць краіны, дзе шмат супясчанай, сугліністай ды падзолістай глебы. Але напачатку 90-х гадоў беларускія ўгнаенні па дэмпінгавых коштах не купляў толькі лянівы. Рээкспарт буяў. Ужо будучы амбасадарам у Германіі, я прачытаў у эканамічным дадатку да FAZ, што за 91-шы год Беларусь экспартавала ў Польшчу ў 300 разоў больш калійных угнаенняў, чым тая мела ўласную патрэбу з улікам структуры глебы, на якой вырошчваліся каліялюбныя культуры. Зразумела, што потым польскі рээкспарт - ужо па вышэйшай цане - канкураваў з беларускім экспартам на традыцыйных рынках.

Бадай самым кур'ёзным выпадкам з саўмінаўскіх "аперацый" з замежнымі інвестарамі быў факт прызначэння кіраўніка маленькай пасярэдніцкай італьянскай фірмы грамадзяніна Італіі Джузэпэ Курцы ні больш ні менш як "прэзідэнтам Італьянска-беларускай гандлёвай палаты і …Ганаровым паслом ва ўсе краіны свету". Паводле дапрэзідэнцкага заканадаўства амбасадараў прызначаў Вярхоўны Савет, а пра Ганаровых амбасадараў нават не было распрацавана адпаведнага палажэння. І вось на табе - адразу ва ўсе краіны свету! Як старшыня Камісіі па замежных справах я звярнуўся да Кебіча з пісьмовым запытам. Потым пытанне разглядалася на Прэзідыуме ВС. Высветлілася, што гэты Курцы - звычайны аферыст, які здолеў пераканаць сп. Кебіча, што ён - асоба з блізкага атачэння італьянскага прэм'ера Андрэоці і эмісар Ватыкана, што яму належыць буйны банк і што ён можа ад імя групы эўрапейскіх банкаў забяспечыць Беларусі крэдыт у памеры да 3 млрд. даляраў на 15-70 гадоў пад 3,9%. Курцы атабарыўся ў Менску, атрымаў з фондаў СМ катэдж, два аўтамабілі, ксіву з візіткамі і пачаў наносіць візіты.

Наведаў і нашу Камісію у ВС. Пасля гутаркі ў СМ прыйшоў да нас не зусім цвярозы, з перакладчыцай сумніўнай знешнасці, запрашаў да сябе ў офіс, абяцаў "турбулентную" гасцявую праграму. Прыйшлося з ім ветліва расстацца, спаслаўшыся на абставіны. Хутка вялікі камбінатар знік, наеўшы і напіўшы за кошт Саўміна на ладную суму.

Можна было б расказваць безліч падобных неверагодных гісторый, што трапілі ў поле ўвагі камісіі Вярхоўнага Савету па замежных справах і знешнеэканамічных сувязях, якую я ўзначальваў. Яе назойлівасць мала каму падабалася. Відавочна, СМ вырашыў

паправіць сітуацыю палюбоўна. Мне было зроблена некалькі неафіцыйных прапановаў з урадавага боку. Сярод іх было рэктарства ў Ін'язе, адказнае сакратарства ў СНД і пасада амбасадара ў Боне.

Бачачы бясплённасць сваіх намаганняў і адсутнасць падтрымкі з боку Прэзідыуму яшчэ пад кіраўніцтвам Мікалая Дземянцея, які генетычна не мог канфліктаваць з СМ, я спакусіўся на Нямеччыну. Як дыплямаванаму германісту і чалавеку, які ўжо адчуў смак у знешнепалітычнай і знешнеэканамічнай дзейнасці, мне было надзвычай цікава заглыбіцца ў сапраўдную практыку. Тады яшчэ былі спадзяванні, што мы вось-вось уліёмся ў сям'ю эўрапейскіх народаў. Забягаючы наперад, скажу, што ў Нямеччыне ўдалося запачаткаваць шмат чаго карыснага. Той час добрым словам ўзгадваюць і сёння нямецкія партнёры, якія дагэтуль маюць дачыненні з Беларуссю.

Пра нашыя першыя дачынені з Брусэлем - у прыватнасці супрацоўніцтва паводле праграмы TASIS - можна напісаць цэлы шэльмаўскі раман. Ужо будучы амбасадарам, дзякуючы сяброўскай (так!) дапамозе Магдалены Гоф, кіраўніка пастаяннай дэлегацыі Эўрапарляманту па сувязях з Беларуссю, Малдовай і Украінай, я неаднаразоава прысутнічаў ў Брусэлі на пасяджэнні фінансавай камісіі, што размяркоўвала сродкі па краінах і прызначала кіраўнікоў праектаў. Закулісная схема выглядала так: камісія знаходзіла лабіраваную кім-небудзь кандыдатуру (юрыдычную асобу) з ліку краінаў ЕС, што павінна была весці і кантраляваць праект такім чынам, каб большая частка сродкаў пераразмеркавалася па ЕСаўскіх адрасах. Перавага аддавалася навучальным праектам: мы павінны навучыць лавіць рыбу, а не даваць вуду!

Большасць праектаў, на жаль, выглядала так: паездка групы начальства з Беларусі "на рынкавыя курсы" на Захад - лекцыі, банкеты, экскурсіі, выданне выніковых брашураў, планаванне працягу вучобы. Працягу звычайна не было, бо канчаліся грошы на менавіта гэты праект. Ад такой працы нагульвалі тлушч асобныя чыноўнікі з Брусэлю, бо атрымлівалі "адкат" ад непасрэдных еўрапейскіх фірмаў - арганізатараў курсаў, ды мелі свой кайф беларускія калясаўмінаўскія чыноўнікі, што пападалі ў спіс курсантаў, вяртаючыся з-за мяжы з падарункамі для жонак і начальства, купленыя за "сутачныя" ад Саўміна і ад фірмы-арганізатара.

Практыкавалася яшчэ запрашэнне фірмамі на прадстаўнічыя грошы з пэўнага праекту TASIS беларускіх урадоўцаў у госці (пэўна, каб далі Брусэлю хвалебную атэстацыю фірме-арганізатару!). Мне самому давялося ўбачыць у офісе аднаго нямецкага фірма-

ча-арганізатара здымкі беларускага прэм'ера з жонкаю ў вельмі цёплай кампаніі з сваякамі шэфа фірмы, зробленыя у Нямеччыне і ў Беларусі.

Аднак, вернемся да Вярхоўнага Савета. Я ўжо гаварыў пра даволі эфектыўную працу апазіцыі. Прывяду адзін вельмі яскравы прыклад.

Калі прымалася Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце, то Пазняк, каб прынялі яе, даў ціхую каманду ўсім сябрам апазіцыі сысці з залы ў знак таго, што мы не згодны з нейкім пунктам. Такая была інтрыга моманту. Калі б мы засталіся, то за Дэкларацыю маглі не прагаласаваць. І тая наменклатура, якая засталася, будучы псіхалагічна чорна-белай і тупаватай, зыходзячы з меркавання, што вось апазіцыя выйшла, а мы усё-такі прагаласуем, - яна прагаласавала. З нашых прыхільнікаў застаўся Анатоль Вярцінскі. Ён не выйшаў і потым папікаў нас, вось, маўляў, вы цяпер гаворыце, што вы прынялі Дэкларацыю, аднак жа вы за яе не галасавалі. Але вось так спрацавала тактыка З. Пазняка.

К часу, калі адбылася галадоўка дэпутатаў, я ўжо вярнуўся з Нямеччыны. Ідэя галадоўкі у ВС была для мяне нечаканай навіной. Мне пра гэта не паведамілі. Магчыма, кіраўнікі фракцыі БНФ збіраліся, раіліся пра тое, як і што зрабіць, каб перашкодзіць уключэнню у рэферэндум сярод чатырох яго пытанняў такіх істотных, як статус расійскай мовы. У той дзень, 11 красавіка 1995 года, я трошкі спазніўся на пасяджэнне. Пра само рашэнне аб'явіць галадоўку я пачуў ужо седзячы у зале пасяджэнняў ВС. Было неяк непрыемна, што мне ніхто нічога не сказаў. Але, магчыма, мяне шукалі ды не знайшлі. Усёроўна, нават, калі нехта мне не давяраў, сумненняў у мяне не было ніякіх: трэба быць разам! Тады не было думак, як гэта адгукнецца на працаўладкаванні ці нешта такога кшталту… Пачуўшы заклік Пазняка, я пайшоў і сеў сярод галадаючых. Уладзімір Новік, які зараз працуе намеснікам дырэктара Нацыянальнага банка, не далучыўся да нас, бо ужо ведаў, што ён будзе там працаваць. Мяне вёў голас сумлення, а не нейкая там партыйная дысцыпліна, бо я дазваляў сабе спрачацца з тым жа Пазняком і не належыў да яго давераных асобаў. Гэта быў момант ісціны.

Як толькі мы селі, то галасаванне у ВС не прайшло, бо тая паслухмяная наменклатурная большасць была шакаваная, і наша галадоўка дала першы плён. Ні тады, ні зараз я не помню, каб нехта раіў рабіць нешта больш эфектыўнае або нешта іншае тады, калі пачаў чыніцца гвалт.

Калі мы засталіся ў зале, то да нас прыходзіў доктар з амбулаторыі ВС. Нам прынеслі мінеральную ваду, пра што распарадзіўся Мечыслаў Грыб, які быў тады старшынёй ВС, бо з ім звязваліся па тэлефоне. З дому некаторым з нас прынеслі цёплыя рэчы. Уладкаваліся на ноч у крэслах. Некаторыя спрабавалі месціцца на падлозе, падсцілаючы курткі ці паліто. Прыходзілі міліцыянты з аховы разам з нашым дэпутатам Цесаўцом, падпалкоўнікам міліцыі, калі быў нібыта званок, што зала замінаваная. Нас папярэджвалі, што выведуць сілай, калі мы не парпарадкуемся і не пакінем залу. Але мы ім адказалі, што мы дэпутаты, недатыкальныя асобы, - няхай вядуць сапёраў, каб праверылі ўсё. Сапёры хутка прыйшлі і ў нашай прысутнасці, з сабакамі, праверылі ўсё. Нічога не знайшлі. Запомнілася, што вельмі актыўным быў Алег Трусаў, даваў талковыя парады. Напрыклад, каб сапёры далі пісьмовую даведку, што ў зале выбуховых рэчываў не знайдзена.

Прыблізна ў 12 гадзін начы пачаўся штурм, калі мы палеглі спаць. Рэзка загарэлася святло у залі, і адчыніліся дзверы, адкуль пасыпаліся людзі у нейкай дзіўнай вопратцы. Заклацалі затворы, пачуліся як бы гукі, калі прымыкаюць штыхі. Людзі ў масках нагадвалі вадалазаў у цемнаватых трыко. Было ўражанне, што яны ўбеглі з трох дзвярэй, а можа спачатку з трох, а потым з астатніх.. Яны ўляцелі з крыкам, рабілі сальта у паветры. З гіканнем, піруэтамі яны рассыпаліся перад трыбунай. Было ўражанне нейкай фантасмагорыі, нерэальнасці. Але не было маральна страшна, бо мы былі разам. Толькі як пры звычайнай небяспецы і магчымай бойцы я падумаў пра свае акуляры і некалі зламаную ў маладосці ключыцу…

Мы паспелі сесці разам і ўчапіцца адзін у аднаго за рукі. З аднаго боку ад мяне быў Лявон Баршчэўскі, а з другога - Уладзімір Заблоцкі. Нас пачалі разрываць, выцягваць па адным. Многія заявілі голасна, што парушаецца канстытуцыя, законы. Я гаварыў гэтым маскаваным людзям акцэнтавана, што я - Надзвычайны і паўнамоцны пасол, што мы - дэпутаты, маем статус недатыкальнасці. Я зняў акуляры, бо баяўся за вочы. Але нас адрывалі і разрывалі, або цягнулі волакам, або вялі тварам уніз, прыгнуўшы галаву долу, як Пазняка, якога вялі перада мной. Пакуль яго сагнулі, адзін з нападнікаў пачаў давіць яму пальцамі вачніцы. Мяне не білі, проста вельмі балюча падкруцілі рукі, што я аж узняўся ў паветра. Памятаю, Заблоцкаму вырвалі кавалак скуры з курткі, - так моцна цягнулі. Вялі проста праз правыя дзверы ВС у вузкі дворык. Па баках стаялі міліцыянеры з адкрытымі тварамі, без масак, але з аўтаматамі. У іх былі зусім нармальныя твары, у нека-

торых - спачувальна-здзіўленыя. У двары нас запіхвалі у міліцэйскія варанкі з кратамі. Я аказаўся у адной кампаніі з Трусавым, Баршчэўскім, і Герменчуком. Мы ляжалі адзін на адным. Варанок быў брудны. Пасярод ляжала вялікае бруднае кола. З двух бакоў - маленькія лавачкі. Ці то Баршчэўскага, ці то Герменчука з размаху кінулі на нас наверх. У Баршчэўскага на твары была кроў. Пазней у тэлевізары Лукашэнка скажа, што ён, клапоцячыся пра нашу бяспеку, загадаў акуратненька вынесці нас на руках у мяккія аўтобусы, якія нібыта былі падагананыя да Дому урада.

Варанок некуды рушыў. Па дарозе Трусаў (зноў Трусаў!) патрабаваў адвесці нас у пракуратуру, што і было зроблена. Гэта была, здаецца, гарадская пракуратура, што каля кінатэатра "Пермога". Там мы патрабавалі зрабіць медэкспертызу, каб засведчыць пабоі. Вылез заспаны дзяжурны пракурор, выклікалі медыкаў. Засведчылі цялесныя пашкоджанні.

Потым тую машыну, якая нас прывезла, мы адпусцілі, а самі пайшлі у Кастрычніцкую гасцініцу, дзе жылі некаторыя нашы дэпутаты. Туды прыйшлі карэспандэнты з польскага радыё, са Свабоды, з якімі мы правялі першую прэс-канферэнцыю і далі ім інтэрв'ю. Ужо пачыналася раніца, хадзілі тралейбусы. Я прыехаў дадому. Было не да сну. Толькі цяпер прыйшло разуменне, што адбылося нешта страшнае. Мне, як германісту, узгадаліся гістарычныя здымкі: у Браўншвейгу уніфармаваныя хлопцы з СС выцягваюць дэпутатаў з гарадской ратушы. Гэта было ўпершыню ў Германіі на пачатку 30-х гадоў. Але не верылася, што гэта можа быць у нас, - сур'ёзна і надоўга.

На другі дзень, 12 красавіка, гадзін у 10 мы рабілі прэс-канферэнцыю у будынку, дзе цяпер сядзіць прэзідэнт, на першым паверсе у вялікай актавай зале. Мы селі у прэзідыум. Пытанні задавалі розныя карэспандэнты, было іх чалавек 7-8. Памятаю была нейкая рыжая дзяўчына з "Ройтэр", са "Свабоды" быў, здаецца, Карманаў, ад расійскай прэсы - манументальная Пола. Зноў быў польскі журналіст. Добра гаварыў па-беларуску.

Пасля гэтага мы пайшлі у ВС. Звычайны ўваход быў зачынены. Пайшлі праз Саўмін. Там ужо стаяла антытэрарыстычная рамка. Моцны кардон спецназа не даваў нам зайсці. Памятую, затрымалі нават паслухмянага Шаладонава, намесніка спікера. Мы ўсё ж туды прарваліся, не памятаю, як. Была цісканіна, валтузня. ВС праводзіў пасяджэнне без нас. Калі мы прыйшлі, зрабіўся перапынак. Мы паставілі пытанне пра ўключэнне ў парадак дня гэтага начнога інцындэнту. Герменчук прама у залі ВС задраў кашулю і паказаў пабоі. Пасля гэты здымак быў апублікаваны ў

газеце "Свабода". Рэакцыя залы была зубаскальская, што вось, маўляў, так вам і трэба, што мала вам увалілі. Мне здаецца, што і наменклатура таксама не ўяўляла, што ў Беларусі пачалася новая эра - эра дыктатуры. Лукашэнка выступаў па тэлебачанні, ілгаў, казаў, што ніхто дэпутатаў не біў, што мы ім падагналі мяккія аўтобусы, акуратна вывелі і зусім не кідалі у брудныя варанкі, маўляў, усё гэта прапаганда ворагаў народа. Ён гаварыў і тое, што, маўляў, гэтыя дэпутаты прывялі дзевак начаваць з сабой і выпівалі з імі.

На другі ці на трэці дзень пасля нашага збіцця Лукашэнка сабраў дэпутатаў для падвядзення вынікаў працы, для развітання. Тады яго заўхозам быў Ціцянкоў. Ён частаваў нашых калегаў дармавой гарэлкай з закускай. З апазіцыі там нікога не было. Мячаслаў Грыб, спікер, быў сярод паслухмянай большасці. У газетах быў змешчаны здымак гэтай вясёлай кампаніі. Выглядала, як у зладзейскай шайцы: усе прычыніліся да злачынства, выпіўшы чарку. Усе павязаныя. Агідна было глядзець на гэтых людзей. Некаторыя з іх цяпер у апазіцыі Лукашэнку. Але гэта не забываецца.

У сувязі з тым збіццём дэпутатаў увесь час узгадваю Ігара Герменчука, зараз ужо нябожчыка, як мы з ім выпадкова пазнаёміліся на рускай Поўначы, задоўга да дэпутацтва.

Здаецца, у тым годзе, як памёр Уладзімір Караткевіч, мы з жонкай Валянцінай разам з нашымі сябрамі у складзе турыстычнай групы аглядалі Салавецкія астравы ды так званую рускую Поўнач - Архангельск, Кіжы, Каргапаль, Ашавенск, Холмагары. Той год на Русі было голадна, і нас не дакармлівалі, таму прыходзілася дакармлівацца на свае грошы. Аднойчы заходзім гуртам у архангелагароцкую пракіслую сталоўку з паэтычнай назвай "Лебёдушка", даволі гучна размаўляем на гастранамічныя тэмы, смакуем кіславатае "Жыгулёўскае", узгадваем сваё смачнае "Лідзкае". Размаўляем па-беларуску.

І тут да нашага стала падыходзіць салдацік, худзенькі, шыйка, як у жураўля, выглядае, як кветка з гарлачыка, аздобленага зверху вайсковым "падваратнічком". Ды гаворыць неяк так з фасонам, не раўнуючы Лёсік ці Станкевіч: "Смачна есьці ды быць дабру, - як Вам расейскія прысмакі?" Называе сябе: Ігар Гермянчук, студэнт журфака БДУ, шараговец тэрміновай службы". Так і сказаў - шараговец. Я тады гэта слова не ўжываў. Вось, думаю, як трапна лягло. І тут адбываецца маленькае дзіва - усе, хто сядзеў за сталом, звычайна расейскамоўныя, спрабуюць гаварыць па-беларуску. Нарадзілася нейкая пяціхвілінная архангелагародзкая беларуская дыяспара…

Пра тую далёкую сустрэчу Ігар ўзгадаў і ў тым закратаваным смярдзючым міліцэйскім варанку, калі мы ляжалі прыціснутыя адзін да аднаго: "Ну, Вінцэнтавіч, мы з Вамі і сустракаемся, як пры хапуну, - то на Салаўках, то ў міліцэйскім варанку"…

Добрыя успаміны засталіся ад следчага з балцкім провішчам Бролішс, які вёў тую крымінальную справу і, падобна, стараўся дазнацца праўды, што гэта за падраздзяленне біла дэпутатаў і паводле чыйго загаду. На жаль, усё засталося нявысветленым, як і з пазней зніклымі Захаранкам, Ганчаром, Красоўскім ды Завадзкім. Спадзяюся, даведаемся мы і пра гэта. Такое не забываецца.

Успамінаю гэта ўсё, і душу ахоплівае настальгія па часе, калі мы яшчэ былі маладыя, калі ўсё было павернута ў будучыню, калі былі падставы сказаць: "Усё яшчэ будзе!".

## Сасноў А. В.

*Час яшчэ прыдзе!..*

Ідэя вылучацца ў ВС мае даволі "барадатую" гісторыю. Пачалася яна з таго, што мяне, на той час загадчыка адной з буйнейшых кафедраў Гомельскага палітэхнічнага інстытута, кіраўніцтва вельмі доўга "запрашала" уступіць у КПСС. Запрашэнні паступова пераўтварыліся ў прымус, але я адмаўляўся да таго часу, пакуль мае калегі - загадчыкі іншых кафедраў, з часткай якіх я шчытна кантактаваў і нават сябраваў - сталі казаць мне, што з партыяй гэтай хутка адбудуцца добрыя пераўтварэнні, і што такім людзям як я трэба прымаць удзел у гэтых рэфармацыях. І я ўступіў... Гэта адбылося напрыканцы 1995 года. Далейшыя падзеі паказалі, што мае сябры памыляліся - ні ва што добрае гэтая партыя пераўтварыцца не магла. Таму ў партыйнай арганізацыі ГПІ стварылася групоўка членаў, якая змагла прадаўліваць такія рашэнні, што хутка выклікалі нэгатыўную рэакцыю з боку абкаму КПСС. Нас абвінавачвалі ў неразуменні партыйнай лініі, апартунізме ды нават рэнегацтве.

І вось пачаўся 1989 год. Галоўная падзея гэтага года - выбары ў ВС СССР. Спачатку мае адносіны да гэтага былі вельмі стрыманымі, паколькі ўся мінулая практыка такога кшталту ў нашай краіне паказвала, што аніякіх выбароў на самой справе быць не можа. Так, галасаванне і толькі... Але тут памыляўся я! Так атрымалася, што ў Гомлі ў адной выбарчай акрузе аказаліся двое рабочых, а ў другой - двое вельмі маладых, па маему разуменню, адукаваных і, галоўнае, антыкамуністычна настроеных хлопцаў. І калі па тэлебачанні, у прадастаўлены, смешна сказаць, уладамі час, рабочыя "пыкалі ды мыкалі", гэтыя хлопцы перавярнулі жыццёвыя разуменні значнай часткі насельніцтва Гомеля. І, галоўнае, усялякія парткамы анічога супраць гэтага зрабіць не змаглі. Гэта ўразіла больш за ўсё.

Зразумела, перамагчы адно аднаго гэтыя хлопцы не змаглі, як і рабочыя, і былі прызначаны паўторныя выбары. Хлопцы хуценька перайшлі ў розныя акругі, тыя рабочія зніклі абы куды, а ў кожнай акрузе аказалася яшчэ амаль з дзесятак прэтэндэнтаў. У тым ліку і я. На гэтае мяне спадвіглі сябрукі-аднадумцы з інстытуту.

Зразумела, перамогу атрымалі менавіта тыя маладыя хлопцы, якія ўжо былі добра вядомымі выбаршчыкам. Выбары адбыліся, паколькі сацыяльна актыўныя людзі асэнсавалі, што наступіў той адзіны міг у беларускай гісторыі, калі ад іх дзеяннеў залежыць іх будучыня. І гэтыя дзеянні - галасаванне!

Наступны год - год выбараў у ВС БССР. Мой досвед удзелу ў выбрах для маіх сяброў быў што "латарэйны выйгрыш" - усе знаёмыя патрабавалі майго ўдзелу. І я пагадзіўся. Каманда мая - тры асобы, мае калегі па працы. Але падтрымка была і ад іншых. Высунулі мяне кандыдатам на заводе станочных вузлоў, дзе на агульным сходзе бальшыня падтрымала мяне супраць маладога "аўганца" і трэцяга сакратара Гомельскага абкама КПБ І. Смоляра.

Потым адбыліся самі выбары ў Гомельскай завадской акрузе, якая ўключала раён Гомеля паміж "Гомсельмашам", заводам станочных вузлоў і чыгуначнымі шляхамі, дзе я і пражываў. Перамогу я меў у другім туры над галоўным санітарным урачом вобласці.

Першае, што я зрабіў, калі прыехаў у Мінск на пачатак паседжанняў у траўні 1990 года, гэта тое, што я прыйшоў да Станіслава Шушкевіча ў БДУ. Яго я ведаў з той інфармацыі з паседжанняў ВС СССР, якія былі даступныя. Менавіта ён быў для мяне нейкім "ліхтарыкам", які прываблівоў і накіроўвал. Жыў я ў гатэлі "Беларусь", дзе таксама пазнаёміўся з шэрагам дэпутатаў, думкі якіх супадалі з маімі. Амаль суткамі мы размаўлялі, шукалі аднадумцаў і разуменне тых працэсаў, што адбываліся як у краіне, так і за яе межамі.

А на паседжаннях ВС хутка высветлілася, хто ёсць хто - маўклівая бальшыня, якую складалі патрыйныя лідары рознага калібру, кіраўнікі выканкамаў, калгасаў, саўгасаў, заводаў, лячэбніц ды іншых прадпрыемстваў, а таксама "простыя" рабочыя, якія заўсёды сядзелі ў прэзідыюмах розных мерапрыемстваў (менавіта да гэтай большасці належалі амаль усе тыя 100 дэпутатаў-дэлегатаў ад ветэранскай і інвалідскай арганізацый - самыя заўзятыя барацьбіты за старое, цемрашальскае); шумлівая меньшыня, у якую ўваходзілі члены БНФ ды прымкнуўшыя да іх асобы, якія не былі кіраўнікамі, але пераважно былі інтэлігентамі; і, напрыканцы, тыя, хто яшчэ не атрымаў аніякай палітычнай арыентацыі ці не

вызначыўся, каго падтрымліваць, за кім ісці. Большасць гэтых праз незначны час поўнасцю разышлася па першых двух камандах. Але сярод іх былі і прайдзісветы, якія смыкаліся ўвесь час работы ВС дванаццатага склікання, пераходзячы з аднаго боку на другі. Вось такім як раз і быў сённяшні "ўсенароднаабраны", які шукаў любое месца, дзе можна была чімсці пакіраваць або пакрасавацца перад публікай.

Я таксама прыняў актыўны ўдзел у дзейнасці фракцыі БНФ, але членам гэтай партыі не стаў. Гэта іншая размова, магу толькі сказаць, што я не падзяляў значную частку эканамічных палажэнняў праграмы Фронту, што і была для мяне кіруючым фактарам.

Кіраўніцтва БНФ разумела, што маленькая фракція Фронту не магла мець перамогу ў ВС. З другога боку, яны ведалі настроі значнай часткі дэпутатаў, што не падтрымлівалі існуючую ўладу, але адкрыта выказвацца не маглі. Чаму? А таму, што іх знаходжанне на сваіх пасадах наўпрост залежала ад выканаўчай улады, якой паўсюдна кіравалі партыйныя функцыянеры і прыхільнікі старой улады. Трэба была неяк уплываць на іх думкі, трэба была апярэдзіць праўладныя сілы, каб схіліць іх на свой бок, трэба была нешта рабіць, каб скарыстаць іх адмоўныя адносіны да таго, што была раней.

Каб кансалідаваць сваіх прыхільнікаў, БНФ наладзіў пасяджэнне, на якім была заяўлена аб стварэнні так званай "Дэмакратычнай плыні", у якую мог увайсці кожны, хто падзяляў шэраг ключавых палажэнняў, якія тычыліся незалежнасці Беларусі, адмовы ад партыйнага (КПСС) кіраўніцтва краінай, рынкавых рэформаў. Але пазней вызначылася, што у "Плынь" увайшлі толькі амаль адны прыхільнікі БНФ, сярод якіх дэпутатаў ВС была няшмат. А паколькі на той момант менавіта ад дэпутатаў залежала магчымасць зрабіць неабходныя перамены ў грамадстве, трэба была знайсці нейкую іншую форму працы з імі.

Такой формай, на думку лідараў БНФ, мог стаць так званы "Дэмакратычны клуб", у які вайшлі дэпутаты-бэнээфаўцы, іх паплечнікі-непартыйцы, а таксама мог увайсці кожны, хто дамагаўся нейкіх перамен. Сяброўства ў клубе не была фармальным, хто хацеў, мог прысці, хто не хацеў, мог сысці. Работа клуба складалася з пасяджэнняў, дзе абмяркоўвалі розныя актуальныя праблемы, дамаўляліся, як сабе паводзіць на сесіях і ў камісіях ВС. Я не цікавіўся дакладнымі лічбамі, але, калі мне даруе памяць, найбольшая колькасць членаў дэмклубу дасягала прыкладна 120-140 чалавек.

Апазіцыя БНФ адрознівалася ад іншых дэпутатскіх груповак тым, што ў яе ўваходзілі людзі па сваіх ідэалагічных перакананнях, зусім не таму, што яны мелі ці не партыйны (БНФ) квіток або неяк падпарадкоўваліcь лідару. У адрозненне ад дэпутатаў з большасці, яны на той час не мелі аніякіх матэрыяльных інтарэсаў з дэпутацкай дзейнасці менавіта дзеля сябе. Іх думкамі кіравала спатрэба нешта зрабіць добрае для сваёй краіны, становішча якой з кожнай хвілінай пагаршалась пад "мудрым" кіраўніцтвам КПБ ды яе хаўруснікаў тыпу В. Кебіча, М. Мясніковіча, Н. Дземянцея ды інш.

Апазіцыя БНФ упарта цягнула краіну да незалежнасці, да шматпартыйнасці, да рынкавых адносін, да змены наскрозь карумпаванай вярхушкі ўлады. Яна заўсёды шукала магчымасць перацягнуць на свой бок вагаюшчыхся дэпутатаў, перацягнуць перакананнямі, асабістымі размовамі, яскравымі выступамі на сесіі, а зусім не пасадамі ды страхам іх страціць, чым кіравалась партыйна-савецкая большасць. Гэта былі самаадданыя людзі, з якімі я хутка стаў аднадумцам, бо большасць нашых поглядаў, асабліва, стратэгічных, поўнасцю супадала.

Даволі моцнае ўражанне я меў ад сустрэч з Зянонам Пазняком. Падавалася, што ён ведаў адказы амаль на ўсе пытанні. Потым, канешне, калі я набраўся досведу, я пачаў разумець, што і ён не заўсёды ведаў, што рабіць. Але яго рашучасць, турботы пра народ і краіну, адмова ад якіхсці асабістых патрэб заўсёды прываблівала і натхняла. Гэта быў сапраўдны лідар, якого непрыхавана ненавідзелі ворагі, але вельмі паважалі сябры і паплечнікі. Таму была не дзіўна, што я падрымаў яго на першых прэзідэнтскіх выбарах. У складзе яго каманды мне давялося аб'ехаць амаль поўкраіны, дзе меў магчымасць выступаць пры поўных залях народу. Звычайна я выступаў першым з крытыкай эканамічных дзеяннеў кіраўніцтва краіны. Потым выступаў Пазьняк, які казаў аб сваёй праграме адбудовы незалежнай Беларусі. Цікава, што я заўсёды выступаў на рускай мове, а Пазьняк - на беларускай. Гэта добра ўспрымалася грамадой, бо парушала праўрадавую прапаганду пра жорсткі антырускі нацыяналізм Пазьняка.

Да старшыні М. Грыба ў ВС дванаццатага склікання адносіны былі не вельмі простыя. З аднаго боку, ён быў стаўленікам праўластнай большасці, міліцэйскім генералам, да якога заўсёды існавала насцярожаннасць. З другога боку, ён быў шчыры беларус, які сваю радзіму любіў больш за сябе. Таму ён даволі хутка стаў "незалежнікам", які негледзячы на патрэбы большасці стаў цягнуць краіну да ўзмацнення незалежнасці. Гэта каштавала вельмі

шмат, таму ён часта меў падтрымку не столькі з боку той самай большасці. Што тычыцца маіх прафесійных кантактаў з ім, то аніякіх праблемаў у мяне з ім у час сумеснай працы не была, засталіся толькі пазытыўныя ўражанні.

Да забастоўкі ў метро ў жніўні 1995 г. я, як міністр працы, павінны быў мець самыя непасрэдныя дачыненні. Але так здарылася, што я ў той час быў у штогадовым адпачынку. І А. Лукашэнка даручыў "вырашаць" пытанне В. Даўгалёву, намесніку прэм'ера ў той час. Даўгалёў выканаў загад самым жорскім чынам - звольніў с працы машыністаў, прывёз маскоўскіх штрэйкбрэхераў, разагнаў прафсаюз. Негледзячы на тое, што Канстытуцыйны Суд прыняў гэтую справу да разгляду, так усё і засталося - грамадства праглынула гэты чарговы гвалт з боку ўладаў. Меня потым асабіста бэсцілі за гэта міністры працы еўрапейскіх краін на сесіі МАП у Жэневе, дзе я быў у чэрвені 1996 года. Гэта стала адной з тых падстаў, якія вымусілі мяне звольніцца з пасады міністра.

Пра цяневы кабінет засталося мала ўражанняў. Як ён фармаваўся - мне дакладна не вядома. Думаю, што гэта рабіла кіраўніцтва БНФ на чале з Пазьняком. Прэмьерам быў прызначаны Ўл. Заблоцкі, вельмі эканамічна адукаваны і ўвогуле кемлівы дэпутат. У складзе былі вядомыя палітычныя дзеячы, у асноўным, дэпутаты з фракцыі БНФ, а таксама некалькі непартыйных. Мне прапанавалі пасаду міністра працы гэтага кабінету, я пагадзіўся. Праца, вядома, была на грамадзскіх пачатках, і гэта хлусня, што нам нешта плацілі, як я калісці чуў ад палітычных ворагаў. Кабінет працаваў у форме пасяджэнняў, на якіх абмяркоўвалісь актуальныя пытанні палітычнай барацьбы з большасцю, якая кіравала краінай. Значная частка таго, што абмяркоўвалась у ценявым кабінеце, выкарыстоўвалась для вызначэння напрамкаў барацьбы па эканамічных пытаннях з большасцю ў ВС.

Вядома, сувязі сябраў ценявога кабінету з афіцыйнымі структурамі і дзеячамі былі. Нефармальныя. Перш за ўсё, канешне, па пытаннях інфармацыі. У кожнага з нас ва ўластных структурах былі добрыя знаёмыя, таму мы валодалі амаль усёй урадавай "кухней" і мелі праекты распрацаваных рашэнняў.

Але рэальнага ўздеяння на эканамічныя працэсы ў краіне гэты ўрад не меў і не мог мець, паколькі выканаўчая ўлада жорстка кантралявалась хеўрай Кебіча.

З сённяшняга позірку магу сказаць, што менавіта ВС дванаццатага склікання быў тым апірышчам незалежнасці, рынкавых адносін ды шматпартыйнасці, думкі аб якіх на той час толькі выйшлі з "падполля". Менавіта гэты ВС, негледзячы на жорсткую

палітычную барацьбу, змог зрабіць такія рашэнні, якія можна паставіць у адзін шэраг з рашэннямі аб стварэнні БНР. Ён аднавіў беларускую дзяржаву! Толькі гэтым ён зрабіў сабе такі помнік, які назаўсёды будзе ў гісторыі і памяці беларусаў.

Але ён шмат чаго не змог. Не змог прыняць такую Канстытуцыю краіны, якая б не дазваляла розным прайдзісветам захапіць уладу, якая б стварала магчымасці для паступовага развіцця дэмакратыі і рынкавых адносін, якая зрабіла бы Беларусь сапраўднай еўрапейскай краінай. Не хапіла досведу, не хапіла мэтанакіраванасці, настойлівасці, разумення патрэб грамадства, упартасці ды можа не хапіла... часу. А можа не надыйшоў яшчэ той час, калі ўсё гэта спатрэбіцца беларусам больш за самое жыццё.

# Семдянова Галина

*Среди "молчания ягнят"*

Выдвигалась я в ВС райкомом профсоюзов работников госучреждений и коллективом автобусного парка № 5 г. Новогрудка. Первоначально в ВС существовала одна фракция - членов КПСС, затем из людей, считавших себя демократически настроенными и не скрывавших этого, был создан Демклуб, насчитывавший в разное время около 100 человек. Через 2-3 недели работы ВС, выяснилось, что есть группа депутатов, которые кардинально не согласны с мнением большинства в ВС. Месяца через 2 была создана оппозиция БНФ в ВС. Значительно позднее, из числа этих депутатов, была создана фракция социал-демократов, а перед выборами 1995 года фракция ОДП.

Демклуб на первоначальном этапе активно обсуждал предстоящие заседания ВС, не принимая никаких решений. Иногда принимали заявления, причем, депутат, собственноручно подписавший заявление, предварительно прочитав его, мог с трибуны выступить с диаметрально противоположным мнением.

Поскольку я была в числе тех, кого не устраивала позиция нашего большинства, несмотря на то, что я была членом КПСС и смертельно боялась БНФ, через месяц я понимала, что БНФ - это не то, что о нем говорят, а наши позиции по всем вопросам совпадают.

В оппозицию пришли энергичные, трудолюбивые, образованные люди, которые имели определенный жизненный опыт, собственную точку зрения и, что самое главное, могли внятно и членораздельно ее выразить. Нами разрабатывались проекты законов, работали мы и во время парламентских каникул, наш рабочий день был по 10-16 часов. Мы активно встречались с избирателями, не только со своими, но и избирателями других регионов Беларуси.

Мы отстаивали свои позиции в зале заседаний, на митингах, даже в суде.

Каждый депутат оппозиции - личность, со своими интересами, достоинствами и недостатками. Так получилось, что по 2-5 человек всегда добровольно занимались разработкой того или иного законопроекта, затем это обсуждалось во фракции, вносились коррективы, и затем мы все отстаивали свою позицию в ВС.

Лидер оппозиции -З. Позняк- был более опытным в политической борьбе, чем мы. Я лично очень ему благодарна, многому у него научилась. Правда, в отличие от нас, он работал по 20 часов в сутки. Решения в оппозиции принимались коллегиально, мы потому и были в оппозиции, что умели отстаивать свою точку зрения. По некоторым вопросам в оппозиции шли жаркие споры, но в результате принимались решения, которые устраивали всех нас и мы потом дружно отстаивали свою коллективную точку зрения.

ВС всегда был неоднороден. В нем радовались, что не напечатали антикоррупционный доклад С. Антончика и робко недоумевали, почему не вышли газеты.

Разговоры о прямом президентском правлении шли до самого окончания наших полномочий. Даже наш ВС мешал.

Я была представителем ВС, когда Конституционный Суд признал не конституционными ряд указов президента. Его председатель Тихиня профессионал, грамотный юрист но, к сожалению, он - человек системы, он жестко вел заседания ВС (до избрания Дементея). При избрании его в состав Конституционного суда депутаты учли его позицию в существовавшей ситуации. У каждого человека есть слабости, а система умело ими пользуется.

Я отсутствовала на заседании фракции БНФ, где обсуждалась инициатива голодовки в ВС. Когда наутро я появилась в зале, ко мне подошел лидер и сказал, что принято решение о голодовке, и я могу самостоятельно принять решение об участии или неучастии в ней. Когда я хотела что-то возразить, мне было сказано, что все обсуждено, решение принято. Я решила оставаться в зале.

Я очень активно выступала от всех микрофонов и мне давали слово мгновенно, оглашала их предложения, выполняла их просьбы, созванивалась с представителями руководства партии БНФ, договаривалась об обеспечении спальниками, водой, информировала о возможном развитии событий, кстати, они именно так и развивались. После окончания заседания ВС голодавшие остались в зале, а я забрала из их кабинетов в ВС кое-какие документы. Когда я была в гостинице, мы регулярно перезванивались с Голубевым и Позняком. Я была в курсе маневров, которые проводились

в Доме правительства. Среди ночи позвонил Позняк и сообщил, что в зал ворвались люди в масках и "вел репортаж", пока к нему не подскочили эти "покемоны". Я сразу позвонила дежурному по ВС, в посольства, в прессу. Когда депутаты среди ночи собрались возле здания ВС, они пошли в гостиничный номер Л. Дейко. Я была с ними.

С утра 13 апреля было заседание Президиума ВС. Президиум был в шоке. Все были возмущены действиями властей. Потом была прессконференция в горсовете, после которой мы пошли в Дом правительства. Как обычно мы вошли в правое крыло Дома правительства. Милиция нам заявила, что мы должны идти через левое, где Совмин. Оказывается, все наши депутаты направились туда, а мы с Позняком решили идти обычным путем. После долгих препирательств меня все же пустили. Когда я попала в зал заседаний, наших в нем не было, хотя прошло уже минут 30 заседания. В зале сидели притихшие, напуганные депутаты и "совсем другие" (не такие как на заседании Президиума) члены Президиума. Вдруг двери открылись и в зал буквально ворвались наши депутаты. Как оказалось, они взяли штурмом вход в Дом правительства. Оппозиция стала описывать ситуацию, но наше "большинство" было деморализовано. Наши депутаты, многие из которых были избиты, продолжали голодать, но они встречали враждебные взляды, слышали уничижительные выпады в свой адрес. И самое главное, наш народ остался глух и нем. Продолжение голодовки не имело смысла. Оппозиция сказала свое слово. Кто хотел его услышать - услышали.

Затем было приказано всем депутатам за три дня покинуть бывшее здание ЦК. Кабинет оппозиции находился в Доме правительства, а кабинеты членов комиссий освобождали как в 1917 году. В результате много документов и вещей было утеряно.

14 мая я в выборах не участвовала. Баллотировалась я осенью 1995 года при довыборах в ВС в Первомайском районе г. Минска. И майские и осенние выборы были не демократичными. Это было начало большого пути фальсификаций.

На сессии ВС я отсутствовала. На банкете не присутствовала, т.к. эта была благодарность за "молчание ягнят" в зале заседания ВС после голодовки и избиения. Меня благодарить было не за что.

# Міхаіл Цесавец

*Пагражалі… праліць кроу*

(Стэнаграма пасяджэння № 95 Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XII склікання (серада, 12 красавіка 1995 года). НАРБ. Ф. 968. Воп. 1. Спр. 3431)

Цесавец М. М. (Пушкінская выбарчая акруга № 40, г. Мінск). Начальнік Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай аховы Міністэрства ўнутраных справаў Рэспублікі Беларусь. Паважаны старшыня! Паважаныя дэпутаты! Учора а 20-й гадзіне, то бок 11 красавіка гэтага года мяне праінфармаваў начальнік упраўлення па ахове аб'ектаў пра тое, што ў камендацкае памяшканне (я сказаў, 20-я гадзіна 11.04) Дома ўрада паступіла інфармацыя ад дзяжурнага па ўпраўленні ўнутраных справаў Мінскага гарвыканкама пра тое, што а 20-й гадзіне 9-й хвіліне дзяжурнаму па УУС паступіла паведамленне ад ананімнага абанента наконт мініравання Дома ўрада і чакання выбуху. Мной быў прадубляваны сігнал, які паступіў, у дзяжурную частку МУС, і выкліканыя сапёры. А 20.35 я дазваніўся да старшыні Вярхоўнага Савета і зрабіў справаздачу Мечыславу Іванавічу сітуацыі, што склалася, які раіў і даў мне ўказанні ў выпадку далейшай пагрозы эвакуаваць увесь персанал службовых асоб, у тым ліку і дэпутатаў Вярхоўнага Савета, што там знаходзяцца. Пра гэтую размову я паведаміў даслоўна групе дэпутатаў, якая знаходзілася ў гэтай зале, і мы доўга з імі вялі дыскусію, і прыступіў да эвакуацыі наяўнага тут тэхнічнага персаналу і службовых асоб тымі сіламі, што былі тут, у Доме ўрада. Потым дадаткова зняў сілы для таго, каб ачапіць будынак. Адпаведнымі інструкцыямі, з адпаведнымі аператыўнымі планамі, прадугледжанымі ў такіх сітуацыях. А 22-й гадзіне 17-й хвіліне прыбылі сапёры на чале з намеснікам камандзіра вайсковай часткі 3310 палкоўнікам Хасіевым Валерыем… і намеснікам начальніка ўпраў-

лення грамадзянскай абароны і ўнутраных войскаў палкоўнікам Міцкевічам Уладзімірам Сяргеевічам і групай сапёраў, якія прыступілі да агляду паверхаў, вестыбюля, буфета, другога паверха Дома ўрада. Агледзеўшы гэтыя памяшканні і частку з іх апячатаўшы, заявілі, што агляд залы пасяджэнняў магчымы толькі пасля эвакуацыі наяўных там людзей, у тым ліку і неаднакроць у гэтай зале8. Толькі тады яны змогуць даць сваё заключэнне. Многія9 паўторна каля 23-й гадзіны без некалькіх хвілін было дакладзена Мечыславу Іванавічу пра сітуацыю, якая складвалася, і быў атрыманы адказ, што калі гэтая пагроза сапраўды рэальная, то людзей неабходна эвакуаваць. Пра гэтую размову і ацэнку сітуацыі мной асабіста быў праінфармаваны прэзідэнт з меркаваннем Мечыслава Іванавіча пра тое, што дэпутатаў неабходна эвакуаваць, бо рэальная пагроза існуе, і сапёры не маюць магчымасці праводзіць работы па абследаванні памяшканняў, каб не падвяргаць небяспецы жыццё людзей. Прэзідэнт з гэтым пагадзіўся, пра што я і даў справаздачу пазней дэпутатам. Сапёры, абследаваўшы часткова залу пасяджэнняў, мне ніякай гарантыі бяспекі наяўных там людзей не далі, заявіўшы, што залу трэба вызваліць, агледзець і апячатаць. Вы, Алег Анатольевіч, заявілі, што мне падпісалі і далі акты. Я іх не тое што ў вочы не бачыў, а і ў рукі не браў. І пра гэта я кажу ўсяму Вярхоўнаму Савету. (Гоман у зале.) Не трэба. Тое, што ёсць, тое ёсць.

Старшыня. Прашу супакоіцца, не трэба выкрыкваць, не трэба. (Гоман у зале.)

Цесавец М. М. Я гэтых актаў (яшчэ раз паўтараю для ўсіх дэпутатаў) не бачыў у вочы і ў руках не трымаў. (Гоман у зале.) Можа, яму дакладалі, але я іх не бачыў... і ў руках не трымаў. Падчас агляду залы дэпутаты працягвалі хадзіць. На ўсе прапановы мае, просьбы, угаворванні ў гэтай зале неаднаразовыя пакінуць залу не рэагавалі. У тым ліку пагражалі праліццём крыві ў гэтай зале, і што яна заліецца крывёю. Што было? Што было, дарагія дэпутаты, давайце глядзець адзін аднаму ў вочы і аб'ектыўна. (Гоман у зале.)

Старшыня. Прашу супакоіцца і не зневажаць, таму што я вымушаны буду папрасіць з залы пасяджэння. Калі ласка.

Цесавец М. М....Пагражалі (яшчэ раз паўтараю) праліццём крыві, раскладвалі спальныя мяхі і іншыя спальныя рэчы. Сваімі дзеяннямі яны заміналі далейшаму агляду памяшкання і з улікам патрабаванняў, якія выстаўляе сапёр, што ні ў якім выпадку і ніякай адказнасці за… наяўных у зале людзей будынка не нясуць. А таксама гэта сапёры заяўлялі, а таксама з улікам, што будынак

неабходна карпатліва абследаваць, таму што зранку пачнецца пленарнае пасяджэнне. На падставе раней атрыманага ўказання і прапаноў старшыні Вярхоўнага Савета, прэзідэнта мной яшчэ раз было прапанавана дэпутатам пакінуць залу і даць магчымасць сапёрам працягнуць працу па абследаванні памяшкання. Але і на гэты раз наяўныя ў зале дэпутаты не рэагавалі на нашы прапановы. Пасля гэтага сіламі спецпадраздзяленняў Міністэрства ўнутраных справаў, якія прыбылі дзеля аказання дапамогі і навядзення парадку, а 2-й гадзіне 40-й хвіліне дэпутаты былі адведзеныя ў машыны і дастаўленыя ва ўказаныя імі месцы, у цэнтр горада, а ў будынку працягнуліся работы. Карпатліва даследаваліся ўсе памяшканні Дома ўрада і Адміністрацыі прэзідэнта сапёрамі, падраздзяленнямі паводле патрабаванняў інструкцыі і аператыўных планаў, што меліся на гэты конт. Усе работы былі скончаныя да 12-й гадзіны 12 красавіка гэтага года. Пра што існуе падпісаны акт і палкоўнікам.

Дадаткова паведамляю дэпутатам дзеля інфармацыі, што меў [месца] факт парушэння грамадскага парадку. Так, у 23 гадзіны 30 хвілін група грамадзянаў колькасцю да 15 чалавек на чале з дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Какоўкам Віктарам Фёдаравічам і ягоным братам Какоўкам Васілём Фёдаравічам, які працуе намеснікам дырэктара акцыянернага таварыства... у горадзе Наваполацку. Абодва знаходзіліся ў п'яным выглядзе, пашкодзілі запоры ўваходных дзвярэй, уварваліся ўнутр будынка, праз правае крыло Дома ўрада. Апошні, брат дэпутата, выказваўся нецэнзурнай лаянкай, пагражаў фізічнай расправай супрацоўнікам міліцыі. Абодва былі затрыманыя і абследаваныя на прадмет алкагольнага ап'янення, пра што ёсць адпаведнае заключэнне. Какоўка Віктар Фёдаравіч дастаўлены па месцы жыхарства ў гатэль "Кастрычніцкая", а ягоны брат Васіль Фёдаравіч, які выказаў непадпарадкаванне, дастаўлены ў Маскоўскі райаддзел для далейшага разбіральніцтва. Тут прагучала пытанне міністра абароны, на якім ён сказаў: так, сапраўды ў зале пасяджэння адбылося тое, што аказаўся пабочны чалавек і знаходзіўся да 23-й гадзіны. Папярэдне [а] 18[-й] гадзін[е] была гутарка, калі ўставалі тут дэпутаты і чыста аб'ектыўна ў нас з імі адбылася размова пра тое, што ёсць заява іх, на імя старшыні Вярхоўнага Савета, і ўсе дэпутаты... тут, улічваючы дэпутацкімі... за выключэннем журналістаў, якія мусяць пакінуць залу. На гэта ўсе пагадзіліся. У нас, юрыстаў, ніякіх не было падстаў для таго, каб не давяраць дэпутатам альбо атрымліваць на гэты конт нейкія іншыя ўказанні. Нягледзячы на гэта дэпутат [? - Рэд.] Радкевіч Алена

Яўгенаўна, прадстаўніца радыё "Свабода" Рэспублікі Беларусь з 18-й гадзіны хавалася ў гэтай зале і ў прэзідыуме вось тут і пад мяхамі. (Гоман у зале.) І апошняя была выведзеная ў вельмі культурнай форме, без усялякага фізічнага гвалту і прымусу. Ад яе быў рапарт пра тое, што яна была тут. Так што рапарт ёсць, ёсць адпаведныя запісы (я маю на ўвазе стужкі, матэрыялы, якімі валодае, і якімі... камісіі), яны афіцыйна з усім гэтым пазнаёмяцца. У мяне ўсё.

Старшыня. Вы згодны адказаць на некаторыя пытанні ці не? Гэта ваша права. Міхаіл Міхайлавіч, ваша права, згодны ці не? Калі не, тады я...

Цесавец М. М....Я думаю, што не варта.

*Навуковае выданне*

Бібліятэка Грамадскага трыбунала

# ЭВАКУАЦЫЯ АПАЗІЦЫІ

*Апошні год дзейнасці Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання ў друку і ўспамінах дэпутатаў*

Рэдактар і укладальнік Яўген Анішчанка

*Без карэктарскай праўкі*

Падпісана ў друк 27.12.2013
Папера афсетная. Друк на рызографе.
Замова 34. Наклад 100.

Выдавецтва "Воля".
Мінск